**Г.М. МЕЗЕНКА, Г.М. ДЗЕРАВЯГА, В.М. ЛЯШКЕВІЧ, Г.К.СЕМЯНЬКОВА**

# БЕЛАРУСКАЯ АНТРАПАНІМІЯ

ВУЧЭБНЫ ДАПАМОЖНІК

па дысцыпліне спецыялізацыі, спецкурсах і спецсемінарах:
“Актуальныя праблемы анамастыкі”, “Антрапанімікон беларусаў: мінулае і сучаснасць”, “Асновы антрапанімікі”, “Асновы тэорыі ўласнага імені”,
“Беларуская анамастыка”, “Праблемы беларускай антрапанімікі і тапанімікі”,
“Праблемы надання імені”, “Пытанні агульнабеларускай і рэгіянальнай антрапанімікі”, “Уласнае імя ў мастацкім тэксце”

2009

УДК 811.161.3'373.21
ББК 81.411.3 – 314
М 44

Навуковы рэдактар – доктар філалагічных навук, прафесар, загадчык кафедры агульнага і рускага мовазнаўства УА "Віцебскі дзяржаўны універсітэт імя П.М. Машэрава" Г.М. Мезенка.

Рэцэнзенты:

кафедра беларускага мовазнаўства УА "Мазырскі дзяржаўны педагагічны універсітэт"(загадчык доктар філалагічных навук, прафесар **В.В. Шур)**

кандыдат філалагічных навук, дацэнт кафедры беларускага мовазнаўства УА "Брэсцкі дзяржаўны універсітэт" **З.М. Заіка**

У вучэбным дапаможніку прыводзяцца тэарэтычныя звесткі пра сучасны стан і гістарычнае фарміраванне розных формул іменавання жыхароў Беларусі XVI-XXI стст. Даюцца трэніровачныя матэрыялы для самастойнай работы – практыкаванні, пытанні і заданні для самакантролю і кантрольны тэст, накіраваныя на авалоданне і замацаванне тэарэтычнага матэрыялу курса, на ўдасканаленне ўменняў скарыстоўваць атрыманыя веды пры аналізе анамастычных фактаў; спісы асноўнай і дадатковай літаратуры.

Адрасуецца выкладчыкам, студэнтам, магістрантам і аспірантам дзённай і завочнай форм навучання ВНУ. Можа быць выкарыстаны настаўнікамі агульнаадукацыйных і спецыяльных школ, гімназій, ліцэяў, усімі, хто цікавіцца антрапаніміяй.

**ЗМЕСТ**

# ПРАДМОВА

Неад’емнай часткай рэформы сістэмы адукацыі было і застаецца значнае паляпшэнне падрыхтоўкі кадраў. Студэнтам трэба даць самыя сучасныя веды і добрую практычную падрыхтоўку. Менавіта такая задача стаіць сёння перад выкладчыкамі ВНУ. Яе рашэнне ў значнай ступені залежыць ад пастаноўкі самастойнай работы студэнтаў. Адным з галоўных шляхоў выпрацоўкі ў студэнтаў уменняў і навыкаў самастойна набываць веды – вывучаць спецыяльную літаратуру, канспектаваць, збіраць і аналізаваць моўны матэрыял, рабіць навуковыя назіранні, вывады і абагульненні, пісаць тэзісы, анатацыі, рэфератыўныя даклады – з’яўляюцца дысцыпліны спецыялізацыі, спецкурсы і спецсемінары.

У наш час, калі анамастыка вылучылася ў самастойную навуку, узрасла неабходнасць больш трывалага вывучэння асобных яе галін і раздзелаў. Моўная і функцыянальная своеасаблівасць асабовых імён, імён па бацьку, прозвішчаў, мянушак і псеўданімаў патрабуе вывучаць іх у асобнай галіне анамастыкі – антрапаніміцы (ад грэч.anthropos – ‘чалавек’ і onyma ‘імя, назва’).  Студэнты гуманітарных спецыяльнасцей павінны знаёміцца з гісторыяй іменавання беларусаў, асноўнымі паняццямі і катэгорыямі навукі пра ўласныя імёны.

Дысцыпліны спецыялізацыі, спецкурсы і спецсемінары, на якія найперш скіраваны гэты вучэбны дапаможнік, вельмі цесна звязаны з такімі лінгвістычнымі дысцыплінамі, як “Сучасная беларуская мова”, “Сучасная руская мова”, “Уводзіны ў мовазнаўства”, “Беларуская дыялекталогія”, “Руская дыялекталогія”, і пашыраюць рамкі тэмы “Уласныя імёны ў лексіка-семантычнай сістэме мовы”, вывучэнне якой у апошнія гады выклікае вялікую цікавасць у даследчыкаў. З кожным годам павялічваецца колькасць курсавых, дыпломных, магістэрскіх, кандыдацкіх прац, прысвечаных аналізу ўласных імён. Таму работа па вывучэнні антрапанімнай лексікі вельмі актуальная на сучасным этапе і патрабуе паглыбленых ведаў не толькі ў антрапанімічным, а і ў іншых лінгвістычных кірунках.

Прызначэнне гэтага вучэбнага дапаможніка заключаецца ў тым, каб дапамагчы студэнту арганізаваць самастойнае засваенне дысцыпліны спецыялізацыі ці спецыяльнага курса і разам з тым садзейнічаць павышэнню агульнай культуры прафесійнай самаадукацыі.

Мэта вучэбнага дапаможніка – закласці тэарэтычную базу і на яе аснове навучыць студэнтаў і магістрантаў аналізаваць антрапанімныя з’явы.

У дапаможніку прынята агульная для ўсіх раздзелаў схема падачы матэрыялу:

1. Назва раздзела. Ключавыя словы.
2. Кароткая тэарэтычная даведка.
3. Спіс асноўнай і дадатковай літаратуры па тэме.

4. Трэніровачныя практыкаванні.

5. Пытанні і заданні для самакантролю.

У канцы дапаможніка прыводзіцца кантрольны тэст і прыкладная тэматыка рэфератаў.

Кожны з раздзелаў дапаможніка мае сваё прызначэнне і, як вынік, сваю спецыфіку.

Лепшаму засваенню курса садзейнічае яго прапрацоўка – прычым не толькі **назваў раздзелаў** вучэбнага дапаможніка, але і лекцый, адным з прыёмаў якой з’яўляецца прывядзенне ключавых слоў, тых, што вызначаюць прадмет размовы, тое, аб чым гаворыцца ў асобных частках тэксту. **Ключавыя словы** дапамагаюць нават пры беглым праглядзе тэксту зразумець яго сэнсавую структуру, уявіць сабе яго план, пры паўторным звароце да тэксту дазваляюць больш хутка ўзнавіць у памяці змест, знайсці патрэбную частку.

**Кароткая тэарэтычная даведка** павінна дапамагчы студэнтам у самастойным набыцці ведаў. У ёй высвятляюцца пытанні, найбольш значныя, складаныя, недастаткова распрацаваныя ў практыцы навучання; раскрываюцца розныя пункты погляду на праблему; стымулюецца вызначэнне студэнтам уласнай пазіцыі.

Па кожным з раздзелаў даецца спасылка на тыя **асноўныя і дадатковыя літаратурныя крыніцы**, у якіх матэрыял пададзены найбольш поўна. У тых жа выпадках, калі літаратура цяжкадаступная, звесткі падаюцца ў самім дапаможніку больш шырока.

Асобныя функцыі выконвае раздзел “**Трэніровачныя практыкаванні**”, прызначэнне якога – садзейнічаць удасканаленню ўменняў студэнта, назапашванню вопыту творчай дзейнасці. Ступень складанасці практыкаванняў розная: для выканання адных дастаткова прагледзець матэрыял, другія патрабуюць больш руплівай работы над зместам тэмы, трэція – назіранняў даследчага характару, абагульненняў і вывадаў.

**Пытанні і заданні для самакантролю** павінны забяспечыць студэнтам не толькі кантроль засваення тэорыі, але і лепшае засваенне асноўных паняццяў і зместу курса. У дапаможніку прадстаўлены пытанні, якія носяць не толькі рэпрадуктыўны, узнаўляльны характар, а і заданні, што ўтрымліваюць элементы праблемнасці.

Дапаможнік уключае абагульняльны **кантрольны тэст**, які можа выкарыстоўвацца як на аўдыторных занятках, так і ў міжсесійны перыяд. Выкананне ўсіх яго заданняў і напісанне **рэферата** на адну з прапанавых тэм могуць стаць галоўнымі састаўляючымі заліку.

У вучэбным дапаможніку часткова выкарыстаны матэрыялы і вынікі, атрыманыя аўтарамі ў ходзе даследавання гісторыі і сучаснага стану мовы і культуры Беларускага Паазер’я, якое праводзіцца кафедрай агульнага і рускага мовазнаўства УА “Віцебскі дзяржаўны універсітэт імя П.М. Машэрава”.

Аўтарскі калектыў: Г.М. Мезенка – “Прадмова”, “З гісторыі вывучэння антрапаніміі”, “Сучасныя імёны беларусаў”, “Матывы выбару

імені”, “Псеўданімы”, “Прыкладная тэматыка рэфератаў” “Літаратура па беларускай антрапаніміцы”; Дзеравяга Г.М. – “Уводзіны”, “Сучасныя імёны беларусаў”, “Антрапонімы ў мастацкім тэксце”; Ляшкевіч В.М. -- “Формулы іменавання беларусаў у гісторыі”, “Імёны па бацьку”; Семянькова Г.К. – “З гісторыі вывучэння антрапаніміі”, “Мянушкі”, “Прозвішчы”.

Аўтары выказваюць глыбокую падзяку аспіранту кафедры агульнага і рускага мовазнаўства Віцебскага дзяржаўнага універсітэта імя П.М. Машэрава Ляхоўскай А.А. за матэрыялы па тэме “Нікі”, кафедры беларускага мовазнаўства УА “Мазырскі дзяржаўны педагагічны універсітэт” і яе загадчыку доктару філалагічных навук, прафесару В.В. Шуру; кандыдату філалагічных навук, дацэнту кафедры беларускага мовазнаўства УА “Брэсцкі дзяржаўны універсітэт імя А.С. Пушкіна” З.М. Заіцы за каштоўныя канструктыўныя заўвагі, якія садзейнічалі паляпшэнню рукапісу.

## УВОДЗІНЫ

Анамастычная прастора займае даволі значнае месца і ў агульнай сістэме моўнай карціны свету, і ў асабістых уяўленнях пра склад і функцыянаванне навакольнага асяроддзя, якія ўвасабляюцца ў лексічных адзінках і месцяцца ва ўнутраных структурах чалавечага мыслення. Анамастычная сістэма на самой справе – дастаткова складаны механізм, які ўключае семантычна і функцыянальна розныя адзінкі, бо ўласныя імёны называюць шырокае кола разнастайных суб'ектаў, аб'ектаў, паняццяў. Бясспрэчным жа з'яўляецца той факт, што асноўнае месца ў складзе любога анамастычнага інструментарыя па праву належыць антрапонімам. І гэта зразумела, бо любы прадмет ці з'яву ўласным іменем надзяляе менавіта чалавек. Ён адзначае прыкметы, якія вылучаюць адзін прадмет з ліку падобных, складае нейкае агульнае ўяўленне пра яго і надае імя. Менавіта ён садзейнічае таму, каб імя ўвайшло ў агульную анамастычную сістэму і стала выконваць уласцівую яму ролю.

Антрапаніміка ўключае разнастайныя тыпы адзінак, сярод якіх – і асабовыя імёны, і імёны па бацьку, і прозвішчы, і мянушкі, і сакральныя (тайныя) імёны, і псеўданімы, і патронімы. І гэта яшчэ не ўсе антрапанімныя тыпы і варыянты, якія выкарыстоўваюцца з мэтай наймення чалавека. Чалавек абавязкова існуе ў грамадстве; і яго сацыяльны статус, двухнакіраваны характар адносін паміж членамі соцыума (ад чалавека да грамадства і наадварот) дыктуюць і розныя семантыка-структурныя тыпы імён, якімі чалавек валодае.

Разнастайнасцю антрапанімнага інструментарыя, ужывальнага пры называнні асоб згодна з рознымі характарыстыкамі – узроставымі, сацыяльнымі, нацыянальнымі, – абумоўлена неабходнасць асаблівага анамастычнага аналізу, які ўлічвае ўсе магчымыя аспекты моўнага функцыянавання ўласных імён. З усіх антрапонімаў найбольш матываваную ўнутраную форму маюць мянушкі. Часцей за ўсё яны даюць эмацыянальную ацэнку асобе, характарызуюць яе псіхічныя, фізічныя, маўленчыя асаблівасці і г.д. Такая інфармацыя захоўваецца на розных узроўнях семантыкі антрапоніма, і з цягам часу можа якасна мяняцца. Назіранне за пералічанымі працэсамі здольна скласці даволі цікавую карціну семантычнай варыятыўнасці антрапанімных адзінак, але ў прастору навуковых інтарэсаў такія імёны трапляюць нячаста. Расшыфроўка ж такой асаблівай антрапанімнай інфармацыі пра носьбіта імені дае магчымасць фарміравання дакамунікатыўнага ўяўлення пра будучага ўдзельніка моўных зносін.

Беларуская антрапанімія з'яўляецца нацыянальным іменнікам беларусаў і неад'емнай часткай лексічнай сістэмы беларускай мовы. Імяннік гэты складаецца з уласных імёнаў розных тыпаў, але асноўнай функцыянальнай якасцю, якая аб'ядноўвае ўсе беларускія антрапанімныя адзінкі, трэба назваць актыўнае ўжыванне пералічаных онімаў на тэрыторыі Беларусі яе грамадзянамі. Улічваючы гэта, беларуская антрапаніміка складаецца са шматлікага анамастычнага інструментарыя, які адрозніваецца розным паходжаннем і актыўнасцю ўжывання. Не выклікае сумнення тое, што антрапонімы нярэдка ўтрымліваюць "зашыфраваную" інфармацыю пра

шляхі гістарычнага развіцця, асаблівасці рассялення народа, яго сувязі з іншымі этнасамі, адметнасці яго традыцый, звычаяў. У нацыянальнай антрапанімнай сістэме беларусаў вылучаецца ядро, якое складаюць традыцыйныя імёны, што знаходзяцца ў актыўным анамастычным ужытку. У якасці перыферыйных адзінак у склад сістэмы ўваходзяць малаўжывальныя ці абмежавана ўжывальныя ў агульнай практыцы ўласныя імёны прадстаўнікоў нацыянальных меншасцей, якія пражываюць на тэрыторыі Беларусі. Сістэматызацыя і аналіз колькаснага і якаснага складу нацыянальнага антрапанімікону беларусаў прадстаўляецца нам дастаткова важнай і актуальнай навуковай задачай, якая патрабуе своечасовага і дасканалага рашэння.

Для сістэмы антрапанімікону ў сінхраніі актуальным з'яўляецца пытанне матывацыі выбару бацькамі імені для нованароджанага дзіцяці. Гэта выклікана тым, што працэс іменавання традыцыйна займаў і да нашага часу займае даволі адметную частку сацыялізацыі. Улічваючы сацыяльны характар чалавечай асобы і немагчымасць існавання яе па-за межамі грамадства, можам адзначыць, што інфармацыя, якая захоўваецца ва ўнутранай форме імён, для многіх становіцца  вызначальнай у фарміраванні стратэгіі сваіх паводзін з іншымі людзьмі.

Антрапанімікон  – гэта з'ява моўнай сістэмы, якая адчувае на сабе featureзнабаковы ўплыў не толькі сучасных моўных працэсаў, але і дэманструе адбіткі розных гістарычных змен, што адзначаліся ў лексічнай сістэме ўвогуле і ў антрапанімнай падсістэме ў прыватнасці. Вызначэнне гістарычнага шляху змен (напрыклад, формул іменавання) дае магчымасць акрэсліць і спрагназаваць кірункі будучых якасных пераўтварэнняў. Такім чынам, навуковыя даследаванні, якія прысвечаны  пытанням гістарычнага фарміравання і развіцця моўных падсістэм, ніколі не страцяць актуальнасці.

Кожны антрапанімікон абавязкова ўключае і падструктуру, якую складаюць штучныя імёны, што выкарыстоўваюцца людзьмі для іменавання сябе паралельна з асноўным рэальным нацыянальным іменем. Мы перш за ўсё маем на ўвазе псеўданімы. У некаторых сферах чалавечага існавання яны з'яўляюцца неад'емнай часткай носьбіта імені, паказчыкам яго сацыяльнага статусу, але падсістэма псеўданімаў беларускай антрапанімнай прасторы незаслужана так і застаецца па-за межамі сферы інтарэсаў беларускіх лінгвістаў.

Многа ўвагі ў апошнія гады надаецца антрапонімам як часцы сэнсавай прасторы мастацкіх тэкстаў. І гэта невыпадкова, бо бадай што няма ніводнай лексічнай адзінкі больш семантычна раскаванай і гнуткай, здольнай да неабмежаваных і незлічоных пераўтварэнняў, як імя ўласнае мастацкага тэксту,  вядомае як *паэтонім*. Магчымасць назірання за зменамі ўнутранай формы імён, вызначэння механізму якасных змен у семантыцы і функцыянаванні онімаў у абмежаваных і шырокіх кантэкстах і прыцягвае ўвагу айчынных і замежных даследчыкаў да пералічаных з'яў і працэсаў. Але поўнага і паслядоўнага апісання антрапонімаў менавіта  беларускай паэзіі, іх семантызацыі ў канкрэтным кантэксце пакуль што не зроблена. Ды і

ўнутраныя формы онімаў, што ўжываюцца ў паэтычным і ў празаічным тэксце, суадносныя, але не тоесныя. Асабліва актуальным нам бачыцца ўключэнне ў межы накіраванага даследавання антрапонімаў, што ўжываюцца беларускімі аўтарамі канца XX і пачатку XXI стагоддзя, бо на іх найбольш паслядоўна адбіліся "рэлікты" ўсіх асноўных тэндэнцый ужывання ўласных імён у мастацкім тэксце, выпрабаваныя іх папярэднікамі.

Усе названыя актуальныя накірункі сучаснай анамастыкі і антрапанімікі ў тым ліку складаюць праблемнае поле, кожны сектар якога заслугоўвае пільнай увагі з боку як даследчыкаў, так і студэнцтва, скіраванага на ўдасканаленне сваіх ведаў у галіне навукова-даследчага пошуку.

## З ГІСТОРЫІ ВЫВУЧЭННЯ БЕЛАРУСКАЙ АНТРАПАНІМІІ

**Ключавыя словы:** *антрапаніміка, антрапонім, анамастыка, імя ўласнае, прозвішча, мянушка, анамастыкон, антрапанімікон, асабовае імя, антрапанімная адзінка, апелятыў, патронім.*

## Кароткая тэарэтычная даведка

Агульны агляд развіцця антрапанімікі зроблены Г.М. Мезенка ў навучальным дапаможніку “Беларуская анамастыка” [75], а таксама ў артыкуле “Сучасная беларуская анамастыка” [82], дзе аўтар адзначае наступнае: у апошнія дзесяцігоддзі даследаванні ў антрапаніміцы і тапаніміцы ішлі ў накірунку далейшай распрацоўкі іх падраздзелаў, а таксама паглыблення лексікалагічнага, семасіялагічнага, анамасіялагічнага, словаўтваральнага і іншых відаў лінгвістычнага аналізу матэрыялу. Спецыфіка развіцця беларускай анамастыкі за адзначаны перыяд знайшла сваё адлюстраванне як у змяненні колькасці публікацый па розных яе аспектах, так і ў з’яўленні новых аб’ектаў даследавання.

У вывучэнні антрапаніміі на сённяшні дзень зроблена нямала. З усіх антрапанімічных адзінак найбольшую цікавасць для даследчыкаў па-ранейшаму ўяўляюць асабовыя імёны.

У трох кнігах М.В. Бірылы “Беларуская антрапанімія” [10-12] прасочана гісторыя кананічных імён на ўсходнеславянскай і беларускай глебе: паказаны вынікі іх адаптацыі, дэталёва апісаны словаўтваральная структура не толькі поўных афіцыйных мужчынскіх і жаночых імён XV–XVIII стст., але і імён, рэканструяваных па сучасных беларускіх прозвішчах, а таксама сучасных мужчынскіх імён. Структура беларускіх уласных мужчынскіх імён, усходнеславянскія антрапонімы з адмоўем *не-* тыпу Невер, Непосед, Недвіга, Недомолва, Неждан, Недбай, Небаба, Некрас, Неваш, Нетреба апісаны ў працах М.В. Бірылы 80-х гадоў [14-15].

Аналіз антрапаніміі Брэстчыны ажыццявіла І.А. Шумская [207; 209-211], Дзісеншчыны – М.Н. Крыўко [54]. Асобныя артыкулы А.А. Лукашанца прысвечаны аналізу найменняў, што ўжываюцца ў адной з вёсак Міншчыны. Так, у артыкуле “Лакальная сістэма ўласных асабовых імён” [64] разглядаюцца традыцыйныя беларускія ўласныя асабовыя імёны, якія функцыянавалі ў пачатку дваццатага стагоддзя (першыя два дзесяцігоддзі) у вёсцы Жураўцы Валожынскага раёна Мінскай вобласці. Цікавасць гэтага фрагмента беларускага мясцовага анамастыкону тлумачыцца тым, што названы населены пункт знаходзіцца ў арэале маладзечанска-мінскіх гаворак, якія ляглі ў аснову беларускай літаратурнай мовы. У артыкуле “Родавыя (спадчынныя) найменні ў сістэме мясцовага анамастыкону” [65] гэтага ж аўтара на матэрыяле мясцовых назваў жыхароў названай вышэй вёскі разглядаюцца месца, склад, структура і спецыфіка функцыянавання “родавых” (спадчынных) найменняў, ці групавых антрапонімаў, гэта значыць традыцыйных мясцовых назваў жыхароў вёскі, якія з’яўляюцца агульнымі

для прадстаўнікоў аднаго роду, нават калі роднасныя сувязі паміж імі ўжо страчаны.

Вывучэнне асаблівасцей антрапанімікону прадстаўнікоў стараверскага насельніцтва астраўных рускіх гаворак на тэрыторыі Беларусі, выяўленне прымет, што ілюструюць устойлівасць спрадвечных моўных рыс, а таксама ўплыў дыялектнага і канфесійнага акружэння, праводзіць І.Я. Кураш [56-61]. Склад і структура імён стараверскага насельніцтва знайшлі адлюстраванне таксама ў шэрагу артыкулаў А.Ю. Муратавай [100-106].

Беларускія антрапонімы балтыйскага паходжання сталі аб'ектам даследавання ў артыкулах В.П. Рымшы [140-141]. Пытаннямі словаўтваральнага вар'іравання асабовых імён ва ўсходнеславянскіх мовах, дэрывацыйнай суаднесенасці аднакаранёвых асабовых намінацый і тапонімаў, формаўтварэннем і стылістычным функцыянаваннем асабовых імён з ацэначным значэннем займаліся У.А. Капытка [52-53], Т.М. Шчур [258], А.К. Малюк [74].

Падыходы да рашэння праблемы перадачы беларускіх імён па-руску, чэшскіх, славацкіх – па-беларуску выкладзены ў артыкулах Г.Н. Клюсава [50] і І.І. Лучыца-Федарца [66]. Асаблівасцям перадачы на беларускую мову польскіх уласных імён прысвечаны публікацыі Г.Я. Парамонавай [109-120].

Апісанню традыцый называння дзіцяці, фактараў, якія ўплываюць на чалавека ў сітуацыі выбару імені, прысвечаны працы У.А. Івашкі [46-48], Г.М. Мезенкі [91].

На пытанне, адкуль пайшлі нашы імёны і прозвішчы, і на некаторыя іншыя пытанні ў навукова-папулярнай форме на падставе ўласных назіранняў і літаратурных звестак адказвае В.В. Шур у сваіх кнігах “Беларускія ўласныя імёны: Беларуская антрапаніміка і тапаніміка”, “З гісторыі ўласных імёнаў”, “Уласныя імёны ў часе і прасторы” [226; 232].

Сярод публікацый па антрапаніміцы пэўнае месца належыць працам, прысвечаным гістарычнай тэматыцы. Гэта ў першую чаргу даследаванні антрапаніміі XIV–XVIII стст. Гродзеншчыны і Брэстчыны Г.К. Усціновіч [189; 191; 194-195; 198]. Выяўленне асаблівасцей мужчынскіх асабовых імён, семантычнай і стуктурнай арганізацыі формул называння асоб мужчынскага полу, апісанне прозвішчаў у кантэксце славянскіх антрапанімных традыцый, характарыстыку антрапанімікону як зоны сутыкнення розных культурна-рэлігійных традыцый ажыццяўляе Г.М. Мезенка на матэрыяле найменняў жыхароў Віцебска XVII–XIX стст. [76-79; 83; 85-87; 96]. Вывучэнне антрапанімных адзінак XVI–XVIII стст. ажыццяўляе таксама В.М. Ляшкевіч (В.М. Пішчулёнак), аналізуючы мясцовыя дзелавыя помнікі Віцебшчыны і Магілёўшчыны [67-70; 124-129]. Антрапонімы літоўска-славянскага памежжа XVIII ст. апісваюцца ў работах Т.М. Суднік [186], імёны яўрэйскага насельніцтва Беларусі XVI–XVIII стст. – у працах А.М. Фіранчук [199].

Пэўная ўвага ўдзяляецца вывучэнню іншых антрапанімічных адзінак і формул іменавання беларусаў. У 60-х гадах апублікаваў свае працы, прысвечаныя аналізу прозвішчаў, імён па бацьку і мянушак, М.В. Бірыла [10-12]. Адным з першых даследаванняў па антрапаніміцы ўвогуле з’яўляецца

яго кніга “Беларускія антрапанімічныя назвы ў іх адносінах да антрапанімічных назваў іншых славянскіх моў (рускай, украінскай, польскай)” [9], у якой паказаны лексічныя асновы і словаўтваральныя тыпы сучасных беларускіх прозвішчаў і шляхам супастаўлення з адпаведнымі дадзенымі іншых славянскіх моў (рускай, украінскай, польскай) вызначаны агульныя заканамернасці ўтварэння прозвішчаў у гэтых блізкароднасных мовах і тое, што характэрна менавіта для беларускіх прозвішчаў. У якасці фактычнага матэрыялу ў названай працы выкарыстаны беларускія прозвішчы, сабраныя ў розных рэгіёнах Беларусі ў перыяд з 1949 па 1962 г. Як дапаможны матэрыял прыводзяцца дадзеныя помнікаў беларускай пісьменнасці XV–XVIII стст.

У кнігах “Беларуская антрапанімія” [10-12] М.В. Бірыла падрабязна разглядае этымалогію прозвішчаўтваральных асноў і структуру беларускіх прозвішчаў, якія ўзніклі на базе апелятыўнай лексікі і ад уласных імён цюркскага і літоўскага паходжання.

Вывучэннем сучасных прозвішчаў і мянушак, што бытуюць на тэрыторыі Віцебшчыны, займаецца Г.К. Семянькова [145-170]. Шэраг прац гэтага аўтара прысвечана выяўленню асаблівасцей структуры, семантыкі, распаўсюджання названых антрапанімных адзінак, вызначэнню паралеляў паміж антрапонімамі і дыялектнай мовай, сацыяльным укладам, традыцыямі жыхароў паўночнай часткі Беларусі.

Пытанні дынамікі сучаснага іменніка Віцебска, сувязь іменніка з сацыялінгвістычнымі фактарамі асвятляюцца ў працах Т.У. Скрабнёвай [172-179]. У прыватнасці, закранаюцца праблемы рэнамінацыі, называння блізнят, антрапанімнай варыятыўнасці, развіцця і ўзаемадзеяння гарадскога і сельскага іменнікоў, а таксама ўплыў сацыяльна-палітычнага стану і рэлігійнага фактару на склад імён.

Варта таксама прыгадаць асобныя артыкулы, звязаныя з аналізам прозвішчаў балтыйскага паходжання, В.П. Рымшы [137; 140-141], скланення прозвішчаў Г.К. Усціновіч [193; 196], паходжання “цьмяных” прозвішчаў А.А. Свашэнкі [143-144], а таксама публікацыі па вывучэнні імён па бацьку І.Э. Ратнікавай [131-136], дысертацыю і артыкулы, прысвечаныя выяўленню прынцыпаў намінацыі, што дзейнічаюць пры індывідуалізацыі рэферэнта, высвятленню сістэмна-структурных фактараў, якія абумоўліваюць фарміраванне мянушак, У.А. Капыткі [49; 52-53]. Аналіз прыроды мянушак, ужывання іх у беларускай мове, апісанне структурных частак, матывацыйнай базы гэтых найменняў праведзены таксама ў артыкулах і матэрыялах канферэнцый В.В. Шура [213; 236-237], І.А. Шумскай [208; 210], С.Ф. Бут-Гусаім [18-19], Н.І. Гілевіч [22], Г.К. Семяньковай [153; 159-160; 167], Н.П. Лобань [62-63], Н.І.Новік [107], В.М. Ляшкевіч [68; 70], В.В. Струкава [185], М.В. Петрыкевіч і В.М. Патап [123].

Антрапанімія літаратурных твораў беларускіх пісьменнікаў знайшла адлюстраванне найперш у публікацыях В.В. Шура [215; 218-223; 225-229; 233-149; 252-257], які даследуе асаблівасці антрапанімікону твораў беларускіх пісьменнікаў, найменні як сродак перадачы і стварэння

экспрэсіўнасці і каламбураў, знешніх і ўнутраных характарыстык перасанажаў. Выяўленню ролі і месца ўласных імён у кантэксце мастацкага твора прысвечана грунтоўная работа В.В. Шура “Уласныя імёны ў часе і прасторы” [256] і яго манаграфія “Онім у мастацкім тэксце” [239].

Публікацыі Г.М. Дзеравягі ахопліваюць праблемы выкарыстання імён уласных у паэтычным тэксце [39-45]. Пры гэтым функцыянальна-семантычны падыход прадугледжвае выяўленне семантычнай напоўненасці, тэкставых функцый антрапонімаў у мастацкім асяроддзі, характарыстыку онімаў, што маюць пэўны, зададзены аўтарам сэнсавы і функцыянальны патэнцыял.

Адзначым таксама манаграфію В.А. Ляшчынскай “Слова ў паэзіі Янкі Купалы” [72] і яе артыкулы пра ўласныя імёны рэальных гістарычных асоб у паэзіі Янкі Купалы [71], нататкі Г.А. Цыхуна [200], прысвечаныя уласным імёнам у паэме Якуба Коласа "Новая зямля", артыкулы І.М. Петрачковай [121-122] пра онімы ў творах Кірылы Тураўскага і У. Караткевіча, асобныя працы, звязаныя з пытаннямі ўжывання онімаў у літаратурных творах, аўтары якіх А.А. Гіруцкі [23-24], Л.П. Кузьміч [55].

Уласныя імёны ў мастацкіх творах належаць да ключавых слоў, таму вывучэнне іх спалучальнасці з рознымі лексемамі ўяўляе сабой не толькі лінгвістычную цікавасць, але мае першаступеннае значэнне для характарыстыкі персанажаў. Такі падыход да апісання значэння ўласных імён з боку іх сінтаксічнай і лексічнай спалучальнасці знаходзім у даследаваннях Т.П. Бугай [17]. Галоўнымі мэтамі, дасягненню якіх прысвечана дысертацыя Ю.А. Гурскай [35], выкананая ў рэчышчы кагнітыўнай лінгвістыкі, былі выяўленне ключавых імён, значных для нацыянальнай культуры ў цэлым; выяўленне імён, значных для кожнага аўтара паасобку, а таксама вызначэнне ступені іх супадзення з агульнанацыянальнай культурай; выяўленне культурагенных магчымасцей уласнага імені як складанага моўнага знака; абгрунтаванне тэарэтычнага палажэння аб тым, што асабовае імя можа выступаць як згорнуты нацыянальна-культурны тэкст.

Экспрэсіўныя магчымасці і прадуктыўныя тыпы рэалізацыі двухкампанентных квазіантрапонімаў, месца імені па бацьку як актуальнага эксплiцытнага патроніма ў шэрагу базавых антрапанімічных адзінак, мадэлі моўнай гульні, найбольш пашыраныя ў сферы анамастыкі, на матэрыяле рускамоўных выданняў Беларусі і Расіі разгледжаны ў працах І.Э. Ратнікавай [131-136].

У зручнай для навуковага ўжывання форме фактычны матэрыял сабраны ў слоўніках. “Таму без перабольшання можна сказаць, што лексікаграфічная інвентарызацыя ўласных імён розных разрадаў з’яўляецца асновай далейшага развіцця анамастыкі ў цэлым” (В.Э. Сталтмане).

Варта адзначыць, што ў вобласці практычнага ўкладання антрапанімных слоўнікаў у Беларусі зроблена пакуль што няшмат.

У 1983 г. выйшаў у свет “Слоўнік беларускіх псеўданімаў і крыптанімаў (XVI–XX стст.)” Я. Саламевіча [142].

У 1990 г. быў выдадзены “Анамастычны слоўнік твораў Якуба Коласа” [2], у якім прадстаўлены ўсе ўласныя імёны, выкарыстаныя ў творах пісьменніка. У слоўніку даецца характарыстыка персанажаў, прыводзяцца звесткі пра населеныя пункты, рэальныя асобы, назвы арганізацый і ўстаноў, якія сустракаюцца ў творах і перапісцы Якуба Коласа.

У 1994 г. Ю.А. Гурская выдае “Словарь имён собственных в поэзии М. Богдановича” [38]. У гэтым жа годзе выйшаў “Слоўнік мовы Скарыны” [182], складальнікам якога з’яўляецца У.В. Анічэнка, а ў 2003 г. пад рэдакцыяй В.А. Ляшчынскай – “Слоўнік мовы Янкі Купалы” [183].

Развіццё антрапанімікі дае ўсё больш багаты ў пазнавальных адносінах і дакладны матэрыял, які можна і неабходна выкарыстоўваць у выкладанні розных дысцыплін як у вышэйшых навучальных установах, так і ў школе. Дапамагчы выкладчыкам і студэнтам ВНУ, настаўнікам школ разлічаны нешматлікія пакуль у рэспубліцы выданні вучэбна-метадычнага характару – навучальныя дапаможнікі і метадычныя рэкамендацыі па выкарыстанні антрапанімнага матэрыялу ў практыцы выкладання беларускай і рускай моў, у арганізацыі тапанімічных і антрапанімічных гурткоў. Гэта шэраг вучэбна-метадычных і навучальных распрацовак Г.М. Мезенка: навучальны дапаможнік для студэнтаў-філолагаў “Сучасная беларуская анамастыка” [82], праграмна-метадычны комплекс па спецсемінары для студэнтаў дзённай і завочнай форм навучання “Проблемы имянаречения” [91], вучэбна-метадычны дапаможнік “Языкознание” [90], які ўключае камбінаваны варыянт спецкурса-спецсемінара “Праблемы антрапанімікі”, В.В. Шура: дапаможнік для настаўнікаў “Беларускія ўласныя імёны” [226], праграма факультатыва для вучняў 9-10-х класаў “Беларуская антрапаніміка і тапаніміка” [250], а таксама іншых даследчыкаў антрапанімікі: метадычны дапаможнік па вывучэнні антрапаніміі “Сучасны іменнік Віцебшчыны” Г.К. Семяньковай [166], метадычныя рэкамендацыі настаўнікам беларускай мовы і літаратуры па выкарыстанні анамастычнага матэрыялу ў пазакласнай рабоце з вучнямі і па арганізацыі тапанімічнага гуртка ў школе, складзеныя В.М. Емельяновіч, метадычныя рэкамендацыі па правядзенні заняткаў антрапанімічнага гуртка “Тваё імя”, распрацаваныя Г.К. Усціновіч [192].

У цэлым развіццё беларускай антрапанімікі ў апошнія дзесяцігоддзі характарызуецца пошукам новых даследчых аспектаў, паглыбленым вывучэннем класічных яе абласцей, далейшай распрацоўкай агульнай тэорыі ўласнага імені.

## Трэніровачныя практыкаванні

***Практыкаванне 1.*** Пазнаёмцеся са “Слоўнікам беларускіх псеўданімаў і крыптанімаў (XVI–XX стст.)” Я. Саламевіча. Раскажыце пра яго структуру, змест, будову слоўнікавага артыкула.

***Практыкаванне 2.*** Знайдзіце ў “Слоўніку беларускіх псеўданімаў і крыптанімаў (XVI–XX стст.)” Янкі Саламевіча і выпішыце ў сшытак псеўданімы Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Алаізы Пашкевіч, Кандрата Крапівы.

***Практыкаванне 3.*** Прачытайце ў артыкулах М.В. Бірылы пра ўсходнеславянскія антрапонімы з адмоўем не- тыпу Невер, Неждан, Некрас (гл. агульны спіс літаратуры). Раскажыце пра функцыі і асаблівасці ўтварэння такіх адзінак.

***Практыкаванне 4.*** Растлумачце, карыстаючыся трыма часткамі “Беларускай антрапаніміі” М.В. Бірылы, паходжанне дзесяці прозвішчаў сваіх знаёмых (аднавяскоўцаў, аднагрупнікаў, аднакласнікаў).

## Пытанні і заданні для самакантролю

1. Якія антрапанімічныя адзінкі на сёння найбольш даследаваны навукоўцамі?
2. Хто з беларускіх антрапаністаў першым пачаў даследаваць уласныя асабовыя імёны? Раскажыце пра яго працы ў гэтым рэчышчы.
3. Наколькі распрацавана гістарычная антрапаніміка? Назавіце вучоных, чые працы прысвечаны гэтаму накірунку.
4. У якіх аспектах вядзецца даследаванне беларускіх прозвішчаў і хто гэтым займаецца?
5. У якіх публікацыях знайшла адлюстраванне антрапанімія літаратурных твораў беларускіх пісьменнікаў?
6. Раскажыце пра ступень вывучанасці антрапонімаў, што бытуюць у розных рэгіёнах Беларусі.
7. Якія публікацыі вучэбна-метадычнага характару, прысвечаныя пытанням антрапанімікі, існуюць сёння ў беларускім мовазнаўстве?
8. Назавіце беларускія антрапанімныя слоўнікі і іх аўтараў.

## ФОРМУЛЫ ІМЕНАВАННЯ БЕЛАРУСАЎ У ГІСТОРЫІ

**Ключавыя словы:** *антрапанімная формула іменавання, шматкампанентныя найменні, мадэль іменавання, формулы намінацыі, група найменняў, апелятыўнае паходжанне, лексіка-семантычныя разрады, інверсійны парадак кампанентаў.*

### Аднаслоўныя найменні асоб мужчынскага і жаночага полу

Нягледзячы на багацце і разнастайнасць прац па гістарычнай антрапаніміі, да нашага часу бытуе меркаванне, быццам людзі называліся спачатку адным іменем, потым з'явілася двухслоўнае называнне, далей трохслоўнае і г.д. Дзякуючы таму, што на тэрыторыі сучаснай Беларусі справаводства ўзнікла рана, мы можам з ўпэўненасцю сцвярджаць, што ў XIV – XVIII стст. у склад называння свабоднага мужчынскага насельніцтва ўваходзіла да пяці кампанентаў: 1) указанне на прыналежнасць да якой-небудзь мясцовасці ці народу (далей скарочана **НМ** – назва мясцовасці); 2) указанне на занятак ці рамяство; 3) уласнае імя (далей скарочана **МІ**); 4) указанне на імя, імя-мянушку ці прафесію бацькі, маці ці дзеда (далей аб'ядноўваем у патронім, скарочана **П)**; 5) уласнае імя-мянушка (апелятыўнае імя-мянушка, далей скарочана **Ап**). Зразумела, што не ўсе гэтыя кампаненты выкарыстоўваліся адначасова: *Андрей Петровичъ Полочанинъ, Гидеон Бролницкий, Жавняровичъ Иван Карпавичъ, Михайло Якимовичъ, Волк Матюша Зенковичъ, Кандрат Пугавица.* Утварэнне патроніма ці прозвішча ад мірскога імені бацькі, а не ад хрысцільнага, можна патлумачыць імкненнем пазбегнуць з'явы аманіміі, бо запас мірскіх імён, у адрозненне ад кананічных хрысцільных, быў бязмежны.

Даследаваныя дакументы сведчаць, што нават у XVIII ст. на Беларусі адзінай антрапанімнай формулы афіцыйнага называння не было, падобная мадэль толькі пачынала замацоўвацца: найбольш тыповыя часткі называння станавіліся абавязковымі, а менш частотныя паступова адсякаліся. Зразумела, што патронім, адзін з самых распаўсюджаных кампанентаў разгорнутай сістэмы называння, нельга атаясамліваць з сучасным прозвішчам і нават з іменем па бацьку. Гэта была своеасаблівая катэгорыя, якая характарызавала чалавека па прыналежнасці да роду, сям'і (крыніцай патроніма станавілася імя або мянушка бацькі або больш далёкага продка).

Для вызначэння асоб жаночага полу выкарыстоўваліся аднаслоўныя найменні: уласнае імя або імя па бацьку, або імя, утворанае ад назвы мясцовасці. На долю такіх называнняў прыпадае да чвэрці антрапанімных адзінак. Звычайна яны ўжываліся тады, калі размова ішла пра вядомую асобу, што была раней названа поўным найменнем. Напрыклад, спачатку падаецца *“Пришедши перед врад войтовства Могилевского мещанка государьская Могилевская Парасія Хотяновна...”* , а далей *“...з тыхъ прычынъ бачечы врадъ пилность верху менованое Параси водлугъ того право*

*ее...”;* калі пасля імені мужа падаецца імя жонкі: *“Артемъ Дупло з жоною своею Федею”*; пасля імені бацькі пералічваліся імёны дзяцей: *“Мокус Хома и дети Ивашко, Іевко, дочь Маря...”.*

У сувязі з неабходнасцю больш поўнай ідэнтыфікацыі асобы ў юрыдычных мэтах выкарыстоўваюцца і мнагаслоўныя назвы асоб жаночага полу, у прыватнасці двухслоўныя, трохслоўныя, чатырохслоўныя і пяціслоўныя мадэлі*: пісано да кнегини Катерины, Марына Малиновская, Ева Борысовна Казакевичовна, Галишка Богданова Шванская Мокрицкая, ωрыны Евфимовна Пантелова Романова Ребровичова.*

Поўная характарыстыка асобы жанчыны дасягаецца шляхам акрэслення яе становішча па паходжанні або па шлюбе (ці аднaчасова па тым і іншым), у найменнях можа ўжывацца, акрамя імені жанчыны (далей скарочана **ІЖ**), імя бацькі – патронім, імя мужа, прыметнік на **-ский**. Гэта значыць, што дадатковая характарыстыка асобам жаночага полу даецца шляхам указання на імя мужа (кампанент утвораны пры дапамозе фармантаў **-овая, -ова, -ина**), на імя бацькі (фарманты **-овна, -евна, -ична, -инна, -анка**), указаннем на мясцовасць, якой валодае асоба ці яе сям'я, або на месца пражывання (прыметнік на **-ский** у форме жаночага роду), пры дапамозе апелятыўнага імені-мянушкі. Разам з імі ў разгорнутае найменне жанчыны могуць уваходзіць таксама элементы разгорнутага наймення бацькі ці мужа – група імён бацькі, група імён мужа (далей скарочана **ГІБ, ГІМ**).

### Двухслоўныя найменні асоб мужчынскага і жаночага полу

У двухслоўных найменнях XVI – XVIII стст. на першым месцы звычайна стаіць мужчынскае ўласнае імя, а на другім месцы знаходзіцца кампанент, які дае дадатковыя звесткі пра асобу, указваючы на яе паходжанне, месца пражывання ці ўладанне ці на другое імя асобы.

У якасці першага кампанента маглі выступаць: 1) уласнае асабовае імя ў поўнай афіцыйнай ці размоўна-бытавой форме і эмацыянальна-ацэначных формах; 2) імя-мянушка, якое выконвала функцыю ўласнага асабовага імені. Трэба адзначыць, што нас у большай ступені цікавіць другі кампанент двухслоўнага наймення, бо менавіта гэтая частка ўласнага называння адыграла важную ролю ва ўтварэнні сучаснай сістэмы беларускіх прозвішчаў. Зафіксаваны 4 групы двухслоўных найменняў:

1. Намінацыі, у якіх другі кампанент характарызуе асобу па патранімічным найменні (**МІ + П**).

2. Намінацыі, у якіх другім кампанентам выступае апелятыўнае імя-мянушка (**МІ + Ап**).

3. Намінацыі, у якіх другі кампанент характарызуе асобу па назве мясцовасці (**МІ + НМ**).

4. Намінацыі, у якіх другім кампанентам з'яўляецца ўласнае імя хрысціянскага календара **(МІ + УІ)**.

**Група найменняў МІ + П.** Дадзеная мадэль, у якой у якасці другога кампанента выступаюць патранімічныя формы на **-овичъ (-евич), -ич (-ыч), -ов (-ев), -ин (-ын)**, з'яўляецца найбольш шматлікай.

Сярод называнняў гэтай групы пануючае месца займаюць тыя, у якіх другі кампанент з'яўляецца патранімічнай формай на **-овичъ (-евич), -ич (-ыч)**.

Тыповая для беларускіх патронімаў фіналь **-овичъ (-евич)** (у польскім напісанні **-owicz (-ewicz)**, спрадвечна польская форма **-owic (-ewic)**), на думку Б.О. Унбегауна, спачатку лічылася дваранскай, бо пасля Люблінскай уніі 1569 г. прывілеі польскага дваранства распаўсюдзіліся таксама і на беларускіх феадалаў. Фіналь **-owicz (-ewicz)**, разам са **-ski (-cki)**, стала ўказваць на высакароднае паходжанне і хутка выціснула польскую фіналь **-owic (-ewic)**. Апошняя сацыяльна дыскрэдытавала сябе яшчэ тым, што ў многіх польскіх дыялектах вымаўлялася **[овіц]** замест прынятай ў літаратурнай мове **[овіч]**, і, у параўнанні з **-owicz (-ewicz)**, фіналь **-owic (-ewic)** стала ацэньвацца як дыялектная, "прастамоўная", сацыяльна нізкая, і таму зафіксавана апошні раз у дакументах 1574 г. [3, с. 246].

У беларусаў у XVI – XVIII стст. патронімы на **-овичъ (-евич)** ужываліся пры называнні асоб усіх сацыяльных груп [2, с. 14 – 15], [1, с. 291], бо найменні з сацыяльна прэстыжнымі ў Польшчы і Расіі фіналямі распаўсюдзіліся сярод усіх слаёў беларускага насельніцтва.

Найменні групы **МІ+П**, у якіх у якасці другога кампанента ўжываюцца патранімічныя формы на **-ов (-ев)**, на той час былі даволі распаўсюджаны: *Миколай Околов, Стефан Сухонов, Конон Демидов, Богданец Бобеньков, Кондрат Киселев, Роман Василев, Андрей Милеев.*

Суфіксы **-ов (-ев)** і **-ин** можна лічыць эквівалентнымі, паколькі яны ўтвараюць аднатыпныя словы ад аналагічных асноў, а выбар таго ці іншага элемента вызначаецца толькі характарам канцавога элемента асновы, да якой далучаецца адзін з названых суфіксаў.

Як бачым, пры дапамозе **-ов (-ев)** утвараліся антрапонімы ад вытворных назоўнікаў, якія заканчваліся на зычны або на **-о**; ад назоўнікаў жа мужчынскага і жаночага роду з канчаткамі на **-а/-я** і ад назоўнікаў жаночага роду на мяккі зычны ўтвараліся патронімы (ці матронімы) з фармантам **-ин (-ын)**: *Иосиф Пушкин, Михаил Мякинин, Мина Нашчокин, Станислав Кашин, Ярома Бабин, Иван Волжин, Микита Микитин, Павел Микулин, Любашанин Санька, Салохин Никифар.* Тое, што ў колькасных адносінах патронімаў на **-ов(-ев)** прыкладна ў 3 разы больш за патронімы на **-ин**, можна патлумачыць тым, што другі кампанент двухслоўнага наймення ў большасці паходзіў ад уласнага імені ці ад імені-мянушкі бацькі, г.зн. ад слоў мужчынскага роду, якія заканчваліся на зычны. Уласныя асабовыя мужчынскія імёны з фіналлю **-а** ў беларускай мове нешматлікія. Утварэнне ж матронімаў не было для беларускай антрапаніміі традыцыйным.

Па дадзеных Г.К. Семяньковай, у сучасным антрапаніміконе жыхароў Віцебшчыны прозвішчны тып на **-оў/-еў/-аў, -ін/-ын** займае дамінуючае месца [18, с. 6]. На некаторых іншых славянскіх землях канцэнтрацыя

прозвішчаў гэтай групы больш высокая: у Балгарыі – 80, 43%, у Расіі – 75, 85% ад агульнай колькасці прозвішчаў [6, с. 40]. Б.О. Унбегаун адзначае, што 90 са 100 самых распаўсюджаных прозвішчаў, зарэгістраваных у адраснай кнізе “Весь Петербург” (1910 г.), заканчваюцца на **-ов(-ев)** і толькі 6 на **-ин** [15, с. 18].

Назіраецца значная група найменняў **МІ+П**, у якіх у якасці другога кампанента ўжываюцца патранімічныя формы на **-онак (-онек),** напрыклад: *Ганушонак Кузьма, Феодарит Панхиленок, Нарбуценак Яська, Маскаленак Иван, Медведенок Марка.*

Заўважым, што базай для патронімаў на **-онак (-онек)** служылі толькі найбольш распаўсюджаныя ў той час імёны. Пры ўтварэнні патронімаў на **-онак(-онек)** ад імён і мянушак апелятыўнага паходжання часцей выкарыстоўваліся назоўнікі, што ўказвалі на род заняткаў ці на этнічную прыналежнасць асобы: *Кухаренак, Гончаренак, Маскаленак, Казачонак, Ткачонак, Пиваварёнак, Tiwunionek, Panutarionak, Mazyrionok, Krawczonek.*

Трэба адзначыць, што зараз фармант **-онак (-ёнак)** у беларускіх прозвішчах сустракаецца на той жа тэрыторыі, на якой з ім утвараюцца назвы маладых жывёл: *жарабёнак, парасёнак* (на іншых тэрыторыях *жарабя, парася*). На Беларусі прозвішчы на **-онак (-ёнак)** складаюць некалькі больш за 1% і бытуюць у Мінскай вобласці (на поўнач ад Мінска) і ў паўночна-заходняй частцы Віцебскай вобласці [8, с. 64]. На Віцебшчыне частотнасць дадзеных антрапонімаў амаль у 4 разы перавышае паказчык па Беларусі і складае 4,5% [18, с. 6].

**Найменні групы МІ + Ап.** У якасці другога кампанента ўжываецца апелятыўнае імя-мянушка, якое было другім, бытавым іменем: *Стефан Ходыка, Иван Пивовар, Нестер Бурый, Павел Кухта, Максим Ворон, Антон Лепеха, Франц Жаба, Станислав Кошка, Hrysko Jarki, Iwan Hanchar, Jakow Piechonka, Pankrat Ruban.*

Імёны-мянушкі адлюстроўвалі ўзаемаадносіны людзей у розныя часы, духоўныя і матэрыяльныя бакі жыцця, віды чалавечай дзейнасці, сувязь з навакольным асяроддзем. Іх асновы на працягу свайго існавання ўвабралі ў сябе розныя моўныя катэгорыі. Можна з упэўненасцю сцвярджаць, што імёны-мянушкі могуць служыць гістарычнаму даследаванню жыцця народа. У значнай колькасці зафіксаваныя і лінгвістычна вывучаныя, яны адлюстроўваюць гістарычныя, сацыяльныя і моўныя асаблівасці жыцця нашых продкаў.

**Найменні групы МІ + НМ.** Дадзеная мадэль займае трэцяе месца сярод двухслоўных называнняў. У якасці другога кампанента, які характарызуе асобу па назве мясцовасці, пераважна выступае прыметнік на **-скиий (-цкий)**. Носьбітамі падобных найменняў былі прадстаўнікі дваранства і баярства, якія атрымлівалі свае імёны па назвах княстваў і зямельных надзелаў. Так, вялікую колькасць падобных найменняў на тэрыторыі сучаснай Польшчы можна растлумачыць тым, што там дваране здаўна валодалі маёнткамі, якія перадаваліся нашчадкам. На беларускія ж землі такія найменні прыйшлі ўжо сацыяльна значнымі і прэстыжнымі, таму і

распаўсюдзіліся паміж усімі слаямі насельніцтва. Менавіта гэтыя найменні перш за ўсё могуць разглядацца як прадвеснікі прозвішчаў на Беларусі, бо яны перадаваліся ад бацькі да сына як сімвал тэрытарыяльнай улады так сама, як і ў Заходняй і Цэнтральнай Еўропе. Напрыклад, з 93 княжацкіх імён, пералічаных у тысячнай кнізе (1550 г.), 40 з фіналлю **-ский** [15, с. 265].

Падобнае найменне можа ўказваць і на канкрэтны населены пункт, з якога паходзіць чалавек *(Иван Белицкий –* Беліца*, Якуб Гребницкий –* Грэбніца*, Иван Невельский –* Невель), і на агульную характарыстыку носьбіта роду (*Масей Боровский, Митрох Зарэцкий, Конон Запольский, Янка Подворский, Шимон Подберезский*).

У некаторых выпадках нельга з упэўненасцю вызначыць, што паслужыла словаўтваральнай базай для антрапанімных адзінак названага тыпу. Так, невядома, ад уласнага імені ці ад тапоніма пайшлі антрапонімы *Ян Андронавский, Вацлав Богушевский, Сава Ивановский, Васко Петровский.* Большая частка называнняў можа быць матывавана як тапаграфічнымі назвамі, так і тапонімамі:

*Загорский* (´які жыве за гарой або ў в. *Загор'е*`);

*Задарожсский* (´які жыве за дарогай або ў в. *Задарожжа*`).

На думку М.В. Бірылы, “узнікненне прозвішчаў на **-скі (-цкі)** з'яўляецца натуральным з пункту погляду словаўтваральнай сістэмы беларускай мовы” [9, с. 36]. Цяпер на Віцебшчыне, па дадзеных Г.К. Семяньковай, прозвішчы з названым фармантам складаюць каля 10% і займаюць другое месца [5, с. 6] (як і на Беларусі ў цэлым) [5, с. 29]. Існуе меркаванне, што ў славянскіх мовах прозвішчы на **-скі (-цкі)** аб'яднаны ў адзіны арэал, асобныя зоны якога адрозніваюцца частотнасцю ўжывання. Ядром гэтага арэала з'яўляецца балгарская мова, у якой налічваецца 17,54% прозвішчаў з гэтым фармантам [7, с. 25].

Найменні групы **МІ + НМ**, другі кампанент якіх мае форму на **-ец, -ынец, -авец, -ивец,** зафіксаваны спарадычна. Магчыма, што большая частка антрапонімаў утворана ад асноў тапонімаў*: Ардынец < ад Арда, Вильнавец < ад Вильна, Мысливец < ад Мысля, Ильменец < ад Ильмень, Казинец < ад Казяны.*

**Найменні групы МІ + МІ.** Дадзеная мадэль зафіксавана спарадычна і толькі ў польскамоўных помніках мясцовай дзелавой пісьменнасці XVI ст. Патлумачыць гэта можна ўплывам каталіцкай традыцыі надаваць асобе пры хрышчэнні некалькі імён: *Karpieka Iwaska, Mikita Karol, Radzka Karol, Simon Kurylo, Waska Jurko.*

У залежнасці ад спосабу выражэння кампанентаў двухслоўныя найменні асоб жаночага полу можна прадставіць наступным чынам:

**ІЖ + ІБ (+ -овна(-евна), + -инна, + -енна, + -анка (-янка***): Марина Федоровна, Зофия Ивановна, Марина Биневна* і інш. Фіналь **-овна (-евна)** характэрна для ўсходнеславянскіх моў, у якіх пры яе дапамозе ўтвараюцца апелятывы, што абазначаюць асоб паводле іх сацыяльнага паходжання. Фармант **-овна (-евна)** аб'ядноўвае ў сабе прыналежны суфікс **-ов (-ев)** і фіналь жаночага роду **-на**, якія суадносяцца па значэнні з патранімічным

суфіксам **-ич**. У цэлым фіналь **-овна (-евна)** па значэнні адпавядае фіналі **-ович (-евич)**. Найменні з **-овна (-евна)** утвараліся як ад уласнага асабовага імені бацькі, так і ад імені-мянушкі, якое было другім кампанентам наймення. Звычайна гэта назіраецца ў трох-, чатырох- і пяцiслоўных найменнях. Фіналь **-инна**, як і **-овна**, з'яўляецца фармантам жаночага роду, што ўказвае на бацьку гэтай асобы. Ён уключае прыналежны суфікс **-ин** і фармант **-на**. Функцыя фарманта **-инна** аналагічная функцыі фарманта **-овна**.

Фіналь **-анка (-янка)** ва ўсходнеславянскіх мовах у апелятыўнай лексіцы выкарыстоўваецца для ўтварэння назваў асоб жаночага полу па іх прыналежнасці да названай краіны. Спачатку ад запазычаных слоў на **-ан** з суфіксам **-к** утварыліся словы жаночага роду, а потым па аналогіі з імі ўтвараліся і ад сваіх слоў на **-анін**. Потым фіналь **-анка** стала ўжывацца для ўтварэння найменняў дачок па бацьку ад назвы яго пасады або ад радавога прозвішча). Але патранімічныя намінацыі дачок з фармантам **-анка** сталі замяняцца больш новымі ўтварэннямі на **-овна**. У апелятывах фіналь **-анка** мае памяншальнае адценне. Але ўласных назваў гэта не датычыцца. У даследаваных намі матэрыялах XVI ст. сустракаюцца толькі два выпадкі выкарыстання фарманта **-анка**: *Барбара Палачанка, Катаржына Лужанка.*

Нягледзячы на адсутнасць адзінай формулы называння жанчыны, у гэты перыяд можна гаварыць пра найбольш актыўную (дамінуючую) мадэль, якая адносіцца да замужніх жанчын і якая складаецца з асабовага імені жанчыны і прыналежнага прыметніка, што ўтварыўся ад уласнага імені мужа з дапамогай суфіксаў **-оў (-еў), -ін (-ын)**. Формула называння незамужніх жанчын утваралася ад імені бацькі.

**ІЖ + ІМ** (**-ова, -овая (-евая), -иная, -ина**): *Анна Дедеркова, Ганна Болковая, Катеріна Тумасова, Орсула Бутлерова* і інш. Значнае распаўсюджанне такой формулы жаночых найменняў можна патлумачыць залежным ад мужа становішчам жанчыны.

Значную частку найменняў асоб жаночага полу складаюць утварэнні з прыналежнымі фармантамі **-ова, -овая (-евая), -иная, -ина**. Найменні з дадзенымі фармантамі ўжываліся на ўсёй даследаванай намі тэрыторыі. Без радавога канчатка **-ая, -я** гэтыя фіналі выкарыстоўваліся і пры ўтварэнні найменняў асоб мужчынскага полу, што ўказвалі на бацьку асобы. У некаторых выпадках найменні з фармантамі прыналежных прыметнікаў **-овая (-евая), -иная, -ина, -ская (-цкая)** набываюць функцыю назоўнікаў і выкарыстоўваюцца асобна, замяняючы ўсё найменне: *Олтушкова, Іванова, Зарендова*.

Найменні з фармантам **-иха (-ыха)** указваюць на імя мужа (*Андреиха вдова, вдова Паломиха*) і сустракаюцца ў дакументах XVII ст. У апелятыўнай лексіцы суфікс **-их-/-ых-** утварае назвы асоб жаночага полу па іх занятках ці прафесіі або назвы асоб, якія з'яўляюцца жонкамі тых, хто названы ва ўтваральнай аснове. Ужыванне найменняў з гэтымі фармантамі вельмі абмежаванае. Называнне жонкі па імені мужа з фармантам **-иха (-ыха)** – гэта

не проста “абазначэнне жонак”: яно звязана з традыцыйнымі і спецыфічнымі формамі найменняў такога тыпу.

**ІЖ + НМ** (**-ская (-цкая)**): *Виктория Мерецкая, Екатерина Журавская, Сабина Левицкая і інш.*

Ужыванне найменняў з фармантамі **-ская (-цкая)** у нашых крыніцах не абмежавана ні часам, ні тэрыторыяй: гэта група даволі распаўсюджана на Віцебскіх землях на працягу XVI – XVIII стст. і складае 7% ад агульнай колькасці жаночых называнняў. У той жа адрэзак часу на землях Гродзеншчыны і Брэстчыны група **ІЖ+НМ**, па матэрыялах Г.К.Усціновіч, складае 4% [4, с. 162].

Вызначыць, адкуль у жаночае называнне прыйшоў кампанент з фармантам **-ская (-цкая)**, вельмі цяжка і магчыма толькі пры параўнанні жаночага наймення з найменнямі родных. Часцей прыметнікавая форма на **-ская** пераходзіла ад мужа, а калі жанчына не была замужам, то прыметнікавая форма на **-ская** ў найменні з'яўлялася кампанентам складанага наймення бацькі, Так, у дакументах гродскіх судоў знаходзім: *“... малжонка небощика Богдана Ивановича Шванского Ядвига Прушинская з другим малжонком своим Станиславом Пруским вечне даровала дочце своей Галщце Шванской Яновой Мокрицкой…”; “…Опраня Глинъская и зъ сыномъ Дмитреемъ ... Богданъ Глинский зъ сыномъ Дмитреем Богдановичемъ ...”; “...Жилинское Василевое Ганны ... небожчыкъ князь Василей Жилинский, мужъ ее ...”* .

**ІЖ + Ап:** *Axinia Harbatka, Matrona Letwin, Елена Мордасъ, Тереза Война і інш.*

Двухслоўныя найменні з інверсійным парадкам кампанентаў мелі ўсе раней пералічаныя структуры і былі даволі распаўсюджанымі, што можна патлумачыць асаблівасцямі выкарыстаных намі дзелавых помнікаў (жаночыя найменні часцей сустракаюцца ў рэвізскіх казках, вопісах і інвентарах, дзе спачатку даецца сямейнае празванне, а толькі потым – уласнае імя): *Гридкович Дарья, Ходкевичъ Христина, Ахрамеева Аннуша, Ивановая Марья, Буяновская Акулина, Залеская Катерина, Солтанъ Елена, Ярига Марина.*

## Трохслоўныя найменні асоб мужчынскага і жаночага полу

На першым месцы ў трохслоўных найменнях знаходзіцца мужчынскае ўласнае імя (**МІ**), на другім і трэцім месцах – патронім (**П**), назва мясцовасці (**НМ**), апелятыўнае імя-мянушка (**Ап**) і другое імя мужчыны (**МІ**).

У залежнасці ад значэння другога і трэцяга кампанентаў вылучаецца 7 груп трохслоўных найменняў.

**Найменні групы МІ+ГІБ.** У дадзенай мадэлі ў якасці другога і трэцяга элементаў выступалі патронімы (найменне, утворанае ад імені ці мянушкі бацькі або продкаў па бацькоўскай лініі). Ва ўсіх астатніх выпадках

элементы найменняў на **-ович (-евич)** могуць з'яўляцца і кампанентамі імені па бацьку. Напрыклад: *Стахор Митковичъ Фурмановичъ – Митко Фурман.*

**ГІБ** фарміруецца на аснове чатырох зафіксаваных намі патранімічных форм на **-ович (-евич, -ич, -инич), -ов (-ев), -ин (-ын), -онок (-енок)**, у выніку чаго вылучаем 5 варыянтаў найменняў **МІ+ГІБ**: 1. **МІ+-ович+-ович(а)**; 2. **МІ+-ович+ -ов**; 3. **МІ+-ович+-ин**; 4. **МІ+ -ович+-онак;** 5. **МІ+-ович+ -енка.**

**1.** Група найменняў з патранімічнымі фіналямі **-ович (-евич, -ич, -инич)**: *Леонъ Гавриилович Азаровичъ, Аникей Артимовичъ Сухоруковичъ, Василей Михайловичъ Зеноевичъ, Богдан Гарасимовичъ Ромейковичъ, Ианъ Юрьевичъ Глебовичъ, Иацъко Богдановичъ Василевичъ.* Трэці кампанент можа мець форму роднага склону адзіночнага ліку: *Андрей Иванавич Гарбиковича, Илля Карпавич Жавняровича.*

Асобна стаяць спалучэнні групы **МІ+ГІБ**, у якіх пасля другога кампанента зафіксавана слова **сын**: *Павел Тимофеевичъ сын Тишковичъ, Быкъ Ивашковъ сын Петровичъ, Никонъ Пашковъ сын Глушкиничъ.* Існуе меркаванне, што калі ў трохэлементным найменні тыпу *Семен Иванавич сын Валковича* або чатырохэлементным тыпу *Семен Иванавич сын Валковича Ходкевича* трэці або чацвёрты элемент выступалі ў форме роднага склону, іх можна разглядаць як патронімы, бо падобныя называнні пераходзілі толькі ад бацькі да сына. Калі ж родны склон замяняўся назоўным, трэці і чацвёрты элементы можна разглядаць як прозвішчы *(Семен Иванавич сын* ***Валковича Ходкевича****),* бо менавіта яны часцей за ўсё станавіліся наследнымі найменнямі сям'і, але гэты працэс быў толькі ў пачатку свайго станаўлення.

**2.** Мадэль **МІ + П** на **-ович + П** на **-ин (-ын)**: *Василей Ивановичъ Дудчын, Ивашка Ивановичъ Мерчин, Захаръ Грыдзковичъ Трубин.*

**3.** Намінацыі **МІ + П** на **-ович (-евич, -ич, -инич) + П** на **-ов (-ев)** зафіксаваны спарадычна: *Яцко Багдановичъ Иртищевъ, Александеръ Григорьевичъ Косовъ, Сапрон Фомичъ Обуховъ, Сава Левоновъ Топорниничъ.*

**4.** Непрадуктыўнай была мадэль **МІ + П** на **-ович + П** на **-онак (-енак)**: *Ярмак Иванавич Балушонак, Сенька Астапавичъ Жагляенак, Карп Кузьминич Нарычонак, Мишка Васькавичъ Турутенак.*

**5.** Зусім рэдка сустракаецца найменне **МІ + П** на **-ович + П** на **-енка**: *Авхим Илинич Вашченка.*

**Найменні групы МІ+ІБ+НМ.** Найменне характарызуе асобу па імені бацькі і па назве мясцовасці, з якой паходзіла ці якой валодала асоба. У залежнасці ад складу кампанентаў выдзяляем некалькі мадэляў найменняў:

**1.** Намінацыі **МІ + П** на **-ович (-евич, -ич) + НМ** на **-ский (-цкий)** з'яўляюцца самымі шматколькаснымі: *Андрей Семеновичъ Соколенский, Андрей Андреевичъ Мелешковский, Павелъ Станиславовичъ Байковский, Василей Андреевичъ Полубенский, Крыштоф Балцерович Городенский.*

**2**. Непрадуктыўныя мадэлі **МІ + П** на **-ов + НМ** на **-ский**: *Илья Бобоедовъ Глазомицкий, Юда Петраковъ Будогосский.*

**3. МІ + П** на **-ович + НМ** на **-ец**: *Федар Степанавич Магилевец, Сасин Белькович Магилевец, Машей Ашуркавич Мстиславец, Андрей Ильинич Воротынец.*

На думку М.В. Бірылы, "у XVI ст. большасць антрапонімаў на **-ский** тапанімічнага паходжання, таму пры асцярожным выкарыстанні асабовых назваў на **-ский** у значнай меры можна пашырыць слоўнік тапонімаў XVI – XVII стст. Але ў XVI – XVII стст. і асабліва ў XVIII ст. антрапонімы на **-ский** маглі ўтварацца і ад саміх асабовых назваў, г.зн. суфікс **-ский** пастрова набываў антрапанімічную функцыю" [1, с. 301].

**Намінацыі групы МІ+П+Ап.** Найменні характарызуюць асобу па імені бацькі і апелятыўным іменем-мянушкай.

**1.** Найменні **МІ+ П** на **-ович (-евич, -ич, -инич) +Ап**: *Иван Петровичъ Мистр, Мишка Лукьянович Арол, Богдан Астапович Боровик, Устин Грыгоравич Бадейка, Никита Авдеевич Белоножка, Матюша Зенковичъ Волк, Клишка Федорович Выголка, Глебъ Васильевичъ Шапка, Артем Карпавич Дуплей, Пилип Еськович Козел, Симон Карповичъ Клыга, Криштоф Карловичъ Комар.*

Зразумела, што большасць апелятываў наглядная і не патрабуе тлумачэнняў, але выклікаюць цікавасць лексіка-семантычныя разрады імён-мянушак, бо менавіта яны раскрываюць старонкі матэрыяльнага і духоўнага жыцця нашых продкаў.

**2. МІ+ П** на **-ов +Ап**: *Мартинъ Збигнев Корсак, Михаил Крыштофов Корсак.*

**Найменні мадэлі МІ+П+МІ.** Малаколькасная група характарызуе асобу па імені бацькі і другім іменем хрысціянскага календара. Зараз невядома, які шлях прайшоў трэці кампанент, магчыма, гэта ўласнае імя дзеда, якое стала сямейным празваннем: *Андрей Тимофеевичъ Гурко, Грышка Мишковичъ Фалько, Иванъ Тимковичъ Тишко.*

**Найменні мадэлі МІ+НМ+Ап.** Адзінкавымі з'яўляюцца зафіксаваныя намінацыі дадзенай групы. Яны характарызуюць асобу па назве мясцовасці і апелятыўным іменем-мянушкай: *Jan Michalowsky Boyar, Ольбрехт Непокойчицкий Рабс, Стефан Окминский Бокар.*

**Найменні групы МІ+МІ+Ап.** Намінацыі гэтай групы характарызуюць асобу другім хрэсным іменем і іменем-мянушкай. У падобных канструкцыях, як і двухслоўных найменнях групы **МІ+МІ**, другое ўласнае імя належыць каталіцкаму календару, а менавіта ў каталіцкім асяроддзі распаўсюджана пры хрышчэнні даваць дзіцяці некалькі імён: *Констанций Казимиръ Корсак, Гервасий Людвиг Оскерка, Константинъ Михал Петух, Константин Людовик Плятеръ, Гедеонъ Михаил Тризна, Самуил Михаил Бака.*

**Найменні групы МІ+МІ+НМ.** Спарадычна зафіксаваныя намінацыі характарызуюць асобу другім хрэсным іменем і па назве мясцовасці, магчыма, таксама належаць прадстаўнікам каталіцкага веравызнання: *Янъ*

*Каспоръ Кучинский, Янъ Казимир Режиский, Станиславъ Ян Свентицкий, Адам Казимир Гормовский, Мартинъ Станислав Хлевинский.*

Пад уплывам мужчынскай трохкампанентнай мадэлі наймення жаночая формула называння ў пісьмовай мове таксама становіцца трохчленнай, але толькі на тых тэрыторыях або ў тых сацыяльных групах, дзе прозвішча функцыянавала ў якасці абавязковага члена антрапанімнай мадэлі.

Калі разглядаць эвалюцыю дамінуючай мадэлі называння жанчыны, то асноўныя змены ў ёй звязаны з актывізацыяй дадзенай намінацыі. Толькі ў XI – XIV стст. найменне жанчыны насіла апасродкаваны характар (праз імя мужа ці бацькі), пазней, у XVI – XVII стст., дамінуючая формула па сваім складзе пачынае набліжацца да мужчынскай мадэлі, бо акрамя ўласнага імені жанчыны ў складзе яе, як і ў мужчынскай мадэлі, з'яўляецца патронім, але формула працягвае захоўваць і апасродкаванае значэнне.

Трохслоўныя найменні асоб жаночага полу сустракаюцца спарадычна:

**ІЖ + ГІБ (+ -овна + -овна, + -овна/ -евна + -овичъ (а))**: *Галена Дмитровна Ивановна, Марина Хроловичовна Ивановна.*

**ІЖ + ІБ +НМ ( + -овна/ -евна + -ская/ -цкая):** *Ганна Андреевна Шидуцкая, Федя Михайловна Ротницкая* (сустракаецца толькі ў помніках XVI ст.).

**ІЖ + ГІМ (+ - ова(я) + - ова(я), + - ова(я) + -ова; + - ова(я) + -овичъ (а)):** *Опраня Федьковая Швокгировая, Zinowija Iwanowaja Charcowiczowaja, Настасья Ивановая Зеноевича;*

**ІЖ + ІМ + НМ (+ -ова(я) + -ска(я)/-цка(я)):** *Галшка Богданова Шванская, Daniela Stanislawowa Hlewinska;*

**ІЖ + НМ + ІМ ( + -ска + - ина, + -ска/-цкая + -ова):** *Barbara Raminska Bazylina, Ewtranzyna Pykalska Bohdanowa, Маря Кольсицкая Кулешова;*

**ІЖ + ГНМ (+ -ска(я)/-цка(я)):** *Ядвига Шванская Прушинская, Anna Fridrikowska Barsikowska.*

## Чатырохслоўныя найменні асоб мужчынскага і жаночага полу

Чатырохслоўныя найменні асоб мужчынскага полу сустракаюцца вельмі рэдка. Зафіксаваны наступныя найменні:

**МІ+МІ+П+НМ:** *Викентий Самуйла Станиславовъ Друцкий;*

**МІ+П+НМ+НМ**: *Юрий Павловичъ Друцкий Соколинский;*

**МІ+ІБ+Ап+НМ:** *Филон Семенович Кмита Чорнобольский.*

У жаночых чатырохслоўных найменнях з прамым парадкам кампанентаў адзначаны наступныя мадэлі:

**ІЖ + ГІМ (+ -анка + -ина + -ова):** *Luba Tyrcianka Mikicina Milkowiczowa;*

**ІЖ + ІБ + НМ + ІМ (-евна + -ска + -овая):** *Марина Биневна Гарадоцкая Макаравичовая;*

**ІЖ + ГІМ + НМ (+ -ова + -ова + -ска):** *Zophia Pakoczowa Aleksandrowa Gedrowska;*

**ІЖ + НМ + ІМ + НМ (-ская + -овая + -цкая):** *Галица Шванская Яновая Мокрицкая.*

Аналізуючы помнікі дзелавой пісьменнасці Гродзеншчыны і Брэстчыны XVI ст., Г.К.Усціновіч адзначае два выпадкі, калі жаночыя імёны ў чатырохслоўных найменнях знаходзіліся на другім месцы (**ІМ + ІЖ + ГІМ, ІМ + ІЖ + ГІБ**) [4, с. 166].

У чатырохслоўных найменнях з іменем жанчыны на трэцім месцы вызначаюцца 4 мадэлі:

**ІБ + ІМ + ІЖ + ІБ ( -евна + -ина + ІЖ + -авна):** *Калабаевна Кузьмина Паладзя Апанасавна;*

**ІМ + ІБ + ІЖ + ІМ (-овая + -овича + ІЖ + -ова):** *Михайловая Васковича Алжбета Станкова;*

**ГІМ + ІЖ + ІБ (-авая (-евая) + -авая (-овая) + ІЖ + -овна (-евна), -иная + -ина + ІЖ + -авна):** *Бибикавая Максимовая Масюта Иванавна, Зылевая Тишковая Марыя Алексеевна, Рэвутавая Автушковая Домна Игнатовна, Сакулиная Кузьмина Адаръя Ивашкавна;*

**ІМ + НМ + ІЖ + ІБ (-евая + -ская + ІЖ + -овна):** *Васильевая Жилинская Ганна Борисовна.*

Аднак сустракаюцца і чатырохслоўныя найменні, у якіх жаночае імя знаходзіцца на апошнім, чацвёртым, месцы:

**ГІМ + ІЖ (-иная + -иная + -авая + ІЖ, -евая + -овича + -цкое + ІЖ):** *Костиная Пячонкиная Степановая Багдана, Юрьевая Олелковича Слуцкое Катерина.*

## Пяціслоўныя найменні асоб мужчынскага і жаночага полу

Вельмі рэдка, але сустракаюцца пяціслоўныя найменні асоб жаночага полу, у склад якіх уваходзяць :

**ІЖ+ІБ+ГІМ** (ІЖ + **-овна** + **-ова** + **-ова** + **-овичова**) – *Орына Евфимовна Пантелова Романова Ребровичова;*

**ГІМ+ІЖ+ІБ** ( **-евая** + **-овича** + **ский** + ІЖ + **-овна**) − *Васильевая Семёновича Жилинъский Ганна Борысовна.*

## Асноўная літаратура:


1. Бірыла, М.В. Беларуская антрапанімія: Прозвішчы, утвораныя ад апелятыўнай лексікі / М.В. Бірыла. – Мінск: Навука і тэхніка, 1968. – 508 с.

2. Бірыла, М.В. Беларуская антрапанімія: Уласныя імёны, імёны-мянушкі, імёны па бацьку, прозвішчы / М.В. Бірыла. – Мінск: Навука і тэхніка, 1966. – 328 с.

3. Унбегаун, Б.О. Русские фамилии (Перевод с англ.) / Б.О. Унбегаун. – М.: Прогресс, 1989. – 433 с.

4. Усціновіч, Г.К. Антрапанімія Гродзеншчыны і Брэстчыны (XIV – XVIII стст.) / Г.К. Усціновіч / Рэд. М.В. Бірыла. – Мінск: Навука і тэхніка, 1975. – 176 с.

**Дадатковая літаратура:**

5. Бірыла, М.В. Беларускія антрапанімічныя назвы ў іх адносінах да антрапанімічных назваў іншых славянскіх моў (рускай, украінскай, польскай) / М.В. Бірыла. – Мінск: Выд-ва Акадэміі навук БССР, 1963. – 58 с.

6. Бірыла, М.В. Літоўскія элементы ў беларускай анамастыцы: Даклады VI Міжнароднага з'езда славістаў / М.В. Бірыла, А.П. Ванагас. – Мінск: Навука і тэхніка, 1968. – 100 с.

7. Бірыла, М.В. Тыпалогія і геаграфія славянскіх прозвішчаў. Даклады X Міжнароднага з'езда славістаў / М.В. Бірыла. – Мінск: Навука і тэхніка, 1988. – 63 с.

8. Бондалетов, В.Д. Русская ономастика / В.Д. Бондалетов. – М.: Просвещение, 1983. – 224 с.

9. Ванагас, А. Принципы и структура современных фамилий / А. Ванагас // Ономастика и норма. – М.: Наука, 1976. – С. 71 – 79.

10. Веселовский, С.Б. Ономастикон: Древнерусские имена, прозвища и фамилии / С.Б. Веселовский. – М.: Наука, 1974. – 382 с.

11. Гапоненка, І. Беларускі іменаслоў перыяду першага беларускага адраджэння: Каталіцкія і праваслаўныя імёны / І.Гапоненка // Роднае слова. – 2001. – № 10. – С.42-44.

12. Королева, И.А. Из истории некоторых русских фамилий / И.А. Королева // Русская речь. – 1998. – № 3. – С. 84 – 90.

13. Королева, И.А. Становление русской антропонимической системы: Автореф. дис. д-ра филолог. наук / И.А. Королева: 10.02.01 / Московский педаг. гос. ун-т. – М., 2000. – 36 с.

14. Мезенко, А.М. Антропонимикон Витебска середины XVII века как зона столкновения разных культурно-религиозных традиций / А.М. Мезенко // Studia sławistyczne, I: Nazewnictwo na pograniczach etniczno-językowych/ – Białystok, 1999. – S. 205 – 210.

15. Мезенка, Г.М. Беларуская анамастыка: Навуч. дапаможнік для студэнтаў універсітэтаў / Г.М. Мезенка. – Мінск: Выш. школа, 1997. – 119 с.

16. Мезенко, А. Витебские фамилии XVII – XIX вв. в контексте славянских антропонимных традиций / А. Мезенко // Беларуска-руска-польскае супастаўляльнае мовазнаўства, літаратуразнаўства, культуралогія. Мат-лы V Міжнар. навук. канф. / Пад агульн. рэд. Л.М. Вардамацкага, А.М. Мезенкі. – Віцебск: Выдавецтва ВДУ імя П.М. Машэрава, 2000. – С. 75 – 76.

17. Мезенка, Г. Віцебскія прозвішчныя тыпы XVII – XIX стст. у славянскім кантэксце / Г.М. Мезенка // Беларуская мова: шляхі развіцця, кантакты, перспектывы: Матэрыялы III Міжнар. кангрэса беларусістаў “Беларуская культура ў дыялогу цывілізацый” (Мінск, 21 – 25 мая, 4 –7 снеж.

2001 г.) / Рэдкал.: Г. Цыхун (гал. рэд.) і інш. – Мінск: Беларускі кнігазбор, 2001. – С. 73 – 84.

18. Мезенка, Г.М. Віцебшчына ва ўласных імёнах: мінулае і сучаснасць: Манаграфія / Г.М. Мезенка, В.М. Ляшкевіч, Г.К. Семянькова. – Віцебск: Выд-ва УА "ВДУ імя П.М. Машэрава", 2006. – 238 с.

19. Семянькова, Г.К. Прозвішчы жыхароў Віцебшчыны: структура, семантыка, геаграфія: аўтарэф. дыс. канд. філалаг. Навук / Г.К. Семянькова: 10.02.01 / Беларускі дзяржаўны педагагічны універсітэт імя Максіма Танка. – Мінск, 2002. – 21 с.

20. Скрябина, Н.П. Становление локальной антропонимической системы: (На материале русских деловых документов из Якутии): Автореф. дис. канд. филолог. наук / Н.П. Скрябина: 10.02.01 / Томский ордена Трудового Красного Знамени гос. ун-т им. В.В. Куйбышева. – Томск, 1983. – 17 с.

21. Смольников, С.Н. Антропонимическая система Верхнего Подвинья в XII в.: (На мат. памятников деловой местной письменности): Автореф. дис. канд. филолог. наук / С.Н. Смольников: 10.02.01 / Вологод. гос. пед. ун-т. – Вологда, 1996. – 22 с.

22. Суперанская, А.В. Современные русские фамилии / А.В. Суперанская, А.В. Суслова / Отв. ред. Ф.П. Филин. – М.: Наука, 1984. – 176 с.

23. Усціновіч, Г. Нашы прозвішчы: паходжанне. Спосаб утварэння. Тэрытарыяльная прыналежнасць / Г. Усціновіч // Роднае слова. – 2005. – № 8. – С. 73-77.

24. Шур, В. Беларускія ўласныя імёны: Беларуская антрапаніміка і тапаніміка: дапаможнік для настаўнікаў / В. Шур. -- Мінск: Маст. літ., 1998. – 239 с.

## Трэніровачныя практыкаванні

***Практыкаванне 1.*** Утварыце па 5 шматслоўных найменняў, якія адпавядаюць наступным мадэлям:

*МІ+П; МІ + НМ; ІЖ + ІМ; ІЖ + НМ; ІЖ + Ап.*

***Практыкаванне 2.*** Утварыце шматслоўныя мужчынскія найменні па наступных мадэлях:

*МІ+-ович+-ович(а); МІ+-ович+-ов; МІ+-ович+-ин; МІ+ -ович+-онак;*
*МІ+-ович+ -енка; МІ + П на -овић (-евич, -ич) + НМ на -ский (-цкий);*
*МІ + П на -ов + НМ на -ский; МІ + П на -овић + НМ на -ец;*
*МІ+ П на -овић (-евич, -ич, -инич) +Ап; МІ+ П на -ов +Ап;*
*МІ+П+МІ; МІ+НМ+Ап; МІ+МІ+Ап; МІ+МІ+НМ; МІ+МІ+П+НМ.*

***Практыкаванне 3.*** Утварыце шматслоўныя жаночыя найменні па наступных мадэлях:

*ІЖ + ГІБ ( + -овна + -овна, + -овна/ -евна + -ович (а));*

*ІЖ + ІБ +НМ ( + -овна/ -евна + -ская/ -цкая);*

*ІЖ + ГІМ (+ - ова(я) + - ова(я), + - ова(я) + -ова; + - ова(я) + -ович (а));*

*ІЖ + ІМ + НМ (+ -ова(я) + -ска(я)/-цка(я));*

*ІЖ + НМ + ІМ ( + -ска + - ина, + -ска/-цкая + -ова);*

*ІЖ + ГНМ (+ -ска(я)/-цка(я)).*

***Практыкаванне 4.*** Утварыце па 5 шматслоўных найменняў, якія адпавядаюць наступным мадэлям:

*МІ+П+НМ+НМ;*

*МІ+ІБ+Ап+НМ;*

*ІЖ + ГІМ (+ -анка + -ина + -ова);*

*ІЖ + ІБ + НМ + ІМ (-евна + -ска + -овая);*

*ІЖ + ГІМ + НМ (+ -ова + -ова + -ска);*

*ІЖ + НМ + ІМ + НМ (-ская + -овая + -цкая).*

***Практыкаванне 5.*** Вызначце, па якіх мадэлях утвораны наступныя найменні.

*Иван Аляксандравич Хадкевич и пляменник яго Ивашка Дашкович, Иван Юравич Жаслаўски и браты Иван и Алехна Дашковичи, Астафей Василевич, Станислав Глебович, Ёска, Иван и Андрей Гастмирския, Якав Переавалка. Фёдар Кастрыца, Сенька Богомольцав, Тимофей Соколенски, Михайла Иванович Сапега, Мар'я Романовна, Куприян Харошкович, Иан Юръевич Глебович, Иван Богданович Сапега, Зелепужинавая Фекла, Ананъя Лужосенский; Андрей Ревутович, Богуш Ромейкавич, Андреевая Богдана, Макей Альферьевич Гурко, Бобоедов Глазомицкий Илья, Василий Андреевич Жаба, Лев Васильевич Полубенский, Иван Воробей. (Беларускі архіў. Т. ІІ. – Мн.: Інбелкульт, 1928. – 343 с.)*

***Практыкаванне 6.*** Вызначце, па якіх мадэлях утвораны найменні ў тэксце.

*А при томъ были: архиепископ Нафанаил, владыка Полоцкий, Витебскій и Мстиславский, а городничий господарский Вытебъский панъ Романъ Гарасимовичъ, а Григорий Ольферьевич ключникъ господарский Вытебский, а Иван Зелепуга, а конюший господарский Вытебский Василей Коптевичъ, а Глебъ Шапка ловчий земъский Вытебъский, Александръ Олехновичъ и Федко Митькевичъ, и мещане Вытебъские: Ивашко Крупенинъ и Гридко Щуровъ, и Тишко Селезневъ.*

*А при томъ были: князь петръ Лукомъский, а городничий Вытебъский панъ Романъ Гарасимовичъ, а Михайло Курейшовъ, Иванъ Андреевичъ Селява бояринъ Полоцкий, Анъдрей Семеновичъ Соколенский. (Беларускі архіў. Т. ІІ. – Мн.: Інбелкульт, 1928. – 343 с.)*

***Практыкаванне 7.*** Запішыце, па якіх мадэлях утвораны найменні студэнтаў вашай групы.

***Практыкаванне 8.*** Складзіце магчымыя шматслоўныя найменні з наступных кампанентаў.

*Михна, Богдан, Кмита, Янко, Марина, Федя, Ульяна, Евсеевичъ, Сенковичъ, Миколаевъ, Яновичъ, Петровичъ, Требинский. Зарецкий, Залецкий, Вагановский, Кочанъ, Боговитинъ, Воробей, Рыба, Войт, Клышаногъ.*

## Пытанні і заданні для самакантролю

1. Ці можам мы гаварыць пра існаванне ўстойлівай формулы называння ў XVI – XVIII стст.? Пацвердзіце сваю думку прыкладамі.
2. Што мы маем на ўвазе, калі гаворым пра разгорнутую сістэму называння?
3. Чым мы можам патлумачыць існаванне вялікай колькасці мадэляў разгорнутых найменняў?
4. Якія, на ваш погляд, прычыны ў большай ступені паўплывалі на адначасовае суіснаванне вялікай колькасці мадэляў называння?
5. Якія кампаненты маглі ўваходзіць у склад называння мужчын і жанчын у XVI – XVIII стст.?
6. Чым адрозніваўся склад разгорнутага наймення жанчыны ад мужчыны?
7. Якія мадэлі найменняў мужчыны і жанчыны былі найбольш актыўнымі ў XVI – XVIII стст.?
8. Чаму жаночыя імёны рэдка заносіліся ў афіцыйныя дакументы XVI – XVIII стст.? Ці існавала на той час адзіная формула называння жанчыны?
9. Якімі, на ваш погляд, прычынамі абумоўлена ўключэнне ў разгорнутае найменне жанчыны элементаў разгорнутага наймення бацькі ці мужа?
10. Якія, на вашу думку, найменні могуць разглядацца як прадвеснікі прозвішчаў на Беларусі? Чаму?
11. Як вы лічыце, ці існавала саслоўная абумоўленасць пры пісьмовым замацаванні наймення?
12. Ці правамерна на Беларусі гаварыць пра асоб з прозвішчамі на **-скі (-цкі)** як нашчадкаў вышэйшых слаёў насельніцтва?
13. Пры дапамозе якіх суфіксаў маглі ўтварацца антрапонімы ад тапонімаў?
14. Як вы лічыце, якую ролю мог выконваць трэці кампанент у мадэлі **МІ+П+МІ?**
15. Ці супадала, на вашу думку, афіцыйнае і неафіцыйнае найменне асобы?

# СУЧАСНЫЯ ІМЁНЫ БЕЛАРУСАЎ

**Ключавыя словы:** *антрапанімія, антрапанімікон, нацыянальны імяннік, носьбіт імені, імяннік беларусаў, гістарычныя змены іменніка, традыцыі іменавання, “анамастычны бум”, асабовыя імёны, нацыянальна спецыфічныя імёны, штучныя імёны, старыя царкоўныя імёны, сярэдні каэфіцыент аднайменнасці, частыя (папулярныя) імёны, устойлівыя імёны, рэдкія імёны, традыцыйныя і новыя імёны, імёны перарывістага выкарыстання, імёны разавага выкарыстання, матывацыя іменавання.*

## Кароткая тэарэтычная даведка

Усе рэальна існуючыя імёны, а таксама лексічныя адзінкі, што могуць вылучацца ў якасці ўласных найменняў і быць выкарыстаны як такія, складаюць антрапанімікон. У адносінах да шырокага рэпертуару ўласных імён (асабліва асабовых) прынята ўжываць тэрмін *імяннік.* Імяннік як з’ява ўвасабляе ўсе магчымыя варыянты называння асоб, прынятыя ў той ці іншай моўнай прасторы. Яна часцей за ўсё акрэсліваецца сродкамі якойсьці даволі канкрэтнай нацыянальнай моўнай сістэмы, а таму імяннік непарыўна звязаны з патрабаваннем нацыянальнай суаднесенасці.

Нацыянальны імяннік уяўляе сабой даволі складаную і па большасці параметраў дакладную сістэму. Калі разглядаць імяннік паводле палевай будовы, то ядзерную вобласць складаюць найбольш распаўсюджаныя, частотныя, так званыя папулярныя імёны. На кожным сінхронным зрэзе ў гэтай якасці ўжываюцца па большасці розныя антрапанімныя адзінкі, але ёсць і такія онімы, якія ўстойліва трымаюцца ў складзе ядра і неаднойчы пацвярджаюць свой выключны статус.

Імяннік ёсць адна з найбольш сацыяльна суаднесеных моўных з'яў. Ён складаецца і існуе выключна як прадукт дзейнасці чалавека па сацыялізацыі яго ў суполцы іншых людзей. Імя і яго выбар часцей за ўсё залежаць ад шматлікіх умоў, адна з якіх – асабістыя патрабаванні чалавека да ўласнага імені. І патрабаванні могуць быць розныя, пачынаючы з мілагучнасці і завяршаючы асаблівасцямі дапасавання да імені па бацьку і прозвішча. Матывы выбару імені, напрыклад, старажытнымі славянамі звязваліся з уяўленнем, што ў імені чалавека зашыфраваны яго будучы лёс, што імя мае асаблівую энергію, якая будзе ўсё жыццё дапамагаць носьбіту і абараняць яго ад варожасці наваколля. І ў наш час мы можам назіраць некаторыя рэлікты такога міфалагічнага стаўлення да ўласнага імені. Як вынік – складанасць

выбару імені для наймення таго ці іншага чалавека і пэўны рэпертуар найменняў, які выкарыстоўваецца ў такім выпадку.

Як і іншыя сацыяльна арыентаваныя моўныя з’явы, імяннік схільны да рознааспектных змен – ад змен у агульным інструментарыі ўласных найменняў да розных сацыяльна абумоўленых навацый у сферы называння асоб тымі ці іншымі імёнамі. Так, значныя змены ў складзе іменніка беларусаў адзначаюцца на пачатку XX ст.

З 20-х гг. праз мастацкую літаратуру, друк, кіно да нас трапіла шмат запазычаных імён: *Альберт, Арнольд, Артур, Рудольф, Эдуард, Аіда, Жана, Эльвіра* і інш. Але не гэты працэс стаў галоўным у 20-я гг. Як сведчаць навуковыя крыніцы, у 1920-1930-я гг. адбыўся сапраўдны “анамастычны бум”, які характарызаваўся імкненнем ігнараваць усё старое, масавай заменай былых імён, выкарыстаннем новых, штучных імён, створаных шляхам поўнага або частковага скарачэння некалькіх слоў з наступным аб’яднаннем іх частак у адно цэлае: *Уладлен* (ад складовага скарачэння *Уладзімір Ленін*), *Кэм* (*камунізм, электрыфікацыя, механізацыя*), *Кім* (ад ініцыяльнага скарачэння *Камуністычны інтэрнацыянал моладзі*), *Ленмарэн* (*Ленін, Маркс, Энгельс*), *Вілен* (ад рус. *Владимир Ильич Ленин*), *Вілор* (ад рускага ініцыяльнага скарачэння *Владимир Ильич Ленин – организатор революции*) і інш. У адным імені маглі аб’яднацца часткі імён бацькоў. Напрыклад, сын вядомага беларускага скульптара *Заіра Азгура* быў названы *Заірытам* – імем, у якім аб’яднаны імя бацькі *Заір* і імя маці *Рыта*.

Прыкметна ўзрасла ў гэты час папулярнасць штучных імён, утвораных спосабам анімізацыі апелятываў: *Авангард, Барыкада, Гераіна* (ад мужчынскага *Герой*)*, Гіпатэнуза, Ідэя, Індустрыя, Ліра, Навела, Прагрэс, Трактар, Турбіна, Факел, Энергія* і інш.

Аднак ужо пасля Вялікай Айчыннай вайны беларускі імяннік аказаўся пазбаўленым штучных імён, радзей пачалі сустракацца ў ім анімічныя адзінкі, запазычаныя ў неславянскіх народаў.

Другая палавіна XX ст. характарызуецца ўзрастаннем папулярнасці старых царкоўных імён, такіх, як *Іван, Дзяніс, Арцём, Ірына, Таццяна, Параскева* і інш. Усё часцей пачынаюць выкарыстоўвацца старажытнаславянскія імёны *Лада, Рагнеда, Руслан, Святаслаў* і інш.

Для таго, каб уявіць антрапанімію розных сінхронных зрэзаў і асабліва яе дынаміку, неабходны скразныя даследаванні за працяглы адрэзак часу ў межах адной тэрыторыі. У якасці прасторы для такіхназіранняў мы выкарысталі Віцебшчыну. Пэўнае ўяўленне пра пасляваенны імяннік названай тэрыторыі, яго састаў, статыстычную структуру, а таксама дынаміку імён і іх функцыянаванне можа даць характарыстыка антрапаніміі

Віцебска і Полацка – самых старажытных гарадоў усходніх славян, заснаваных крывічамі ў IX-X стст. (Полацк упамінаецца з 862 г., Віцебск – з 974 г.).

## Падсістэмы мужчынскіх і жаночых імён Віцебска

Падсістэма мужчынскіх імён традыцыйна з’яўляецца эталоннай часткай антрапанімікону. Шматлікія змены гэтай падсістэмы ў большасці выпадкаў вызначаюць і накірунак дынамічнага мадыфікавання суадноснай падсістэмы жаночых імён. І гэта невыпадкова: антрапацэнтрычны падыход да аналізу моўных з’яў дазваляе адзначыць яскравую маскулінную скіраванасць моўнай карціны свету. Падсістэма мужчынскіх імён Віцебска — анімічнае збудаванне, якое складаецца вялікай колькасцю адзінак і адзначаецца шырокім прадстаўніцтвам уласных найменняў асоб мужчынскага полу, якія традыцыйна ўваходзяць у склад антрапанімнага інструментарыя нацыянальнага іменніка.

У якасці матэрыялу даследавання намі абраны суцэльныя выбаркі асабовых імён з 1945 да 1950 гг., з 1968 да 1975 гг. Аналіз менавіта гэтага тыпу імён тлумачыцца некалькімі даследчымі мэтамі: па-першае, асабовае імя, адзінае з ўсіх магчымых формул іменавання асобы, суадносіцца непасрэдна з носьбітам імені, з’яўляецца яго неад’емнай часткай, бо і імя па бацьку, і прозвішча перш за ўсё матывуюцца прыналежнасцю чалавека да азначанага роду, а не яго каштоўнасцю ў якасці асобнага элемента сацыяльнай прасторы; па-другое, традыцыйна асабовае імя — кампанент ядзернай структуры агульнай анамастычнай сістэмы; па-трэцяе, у апошні час пад уздзеяннем заходняй культуры менавіта гэты тып іменаванняў пераўтвараецца ў адзін з асноўных афіцыйных варыянтаў намінацыі асобы, які ўсё больш актыўна выціскае з дамінантнай пазіцыі іншыя магчымыя мадэлі.

На працягу шасці гадоў, з 1945-га да 1950-га, у Віцебску дзяцей мужчынскага полу запісана 5076, розных імён у іх 131. Прывядзём іх з указаннем колькасці носьбітаў: *Аўдзей – 1, Агур'ян – 1, Адольф – 1, Аляксандр – 436, Аляксей – 49, Алік – 2, Альберт – 13, Альфрэд – 1, Анатолій – 365, Андрэй – 25, Антон – 1, Арыфей – 1, Аркадзій – 38, Арсеній – 2, Арцём – 1, Архіп– 1, Апанас – 3, Барыс – 77, Браніслаў – 4, Вадзім – 6, Валянцін – 66, Валерый – 381, Валер'ян – 2, Васілій – 128, Веніямін – 4, Вікенцій – 2, Віктар – 361, Віталій – 36, Варутан – 1, Ватала – 1, Вульф – 1, Вячаслаў – 62, Гаўрыл – 2, Галік – 2, Ганхель – 1, Генадзь – 215, Генрых – 2, Георгій – 53, Рыгор – 55, Герасім – 1, Давід – 4, Даніл – 1, Даніцэл – 1, Дзмітрый – 40,*

*Дарафей – 1, Еўлампій – 1, Яўсей – 2, Ярміл – 1, Залман – 4, Зіновій – 2, Зольтман – 1, Зяма – 2, Іван – 63, Ізот – 1, Ігнацій – 3, Ігар – 53, Ілля – 7, Іосіф – 9, Ісаак – 6, Ісай – 1, Карп – 1, Казімір – 1, Кандрат – 1, Конан – 1, Канстанцін – 26, Леанард – 1, Леанід – 243, Кліменцій – 1, Кузьма – 1, Купрыян – 1, Лаўрэн – 2, Леў– 12, Леонцій – 4, Максім – 2, Марк – 5, Марік – 1, Макарый – 1, Мазіт – 1, Мендэль – 1, Міхаіл – 185, Майсей – 6, Назарый – 1, Наум – 4, Мікіта – 1, Нікіфар – 1, Мікалай – 285, Алег – 83, Альгерд – 1, Восіп – 1, Парфен – 1, Павел – 33, Перх – 1, Пётр – 97, Парфірый – 1, Радзівон – 1, Раман – 14, Расціслаў – 1, Рувім – 1, Рудольф – 1, Руслан – 6, Самуіл – 5, Святаслаў – 5, Селівей – 1, Сямён – 40, Сяргей – 132, Сігізмунд – 2, Сымон – 1, Саламон – 1, Станіслаў – 34, Сцяпан – 7, Тарас – 1, Уладзімір – 793, Уладзіслаў – 13, Цeрэнцій – 1, Цімафей – 9, Фадзей – 1, Фёдар – 34, Фядот – 1, Фелікс – 10, Ягор – 12, Якім – 2, Якаў – 17, Яраслаў – 1, Яўген – 121, Яфім – 8, Яфрэм – 1.*

Дзяленнем колькасці нованароджаных на колькасць імён можна атрымаць сярэдні каэфіцыент аднайменнасці. У нашым выпадку гэта прыблізна 38.

Імёны з колькасцю носьбітаў 38 і болей будуць лічыцца частымі імёнамі. Іх у 1945–1950 гг. было 27: *Аляксандр, Аляксей, Анатолій, Аркадзій, Барыс, Валянцін, Валерый, Васіль, Віктар, Уладзімір, Вечаслаў, Генадзь, Георгій, Рыгор, Дзмітрый, Яўген, Іван, Ігар, Леанід, Міхаіл, Мікалай, Алег, Сямён, Сяргей, Эдуард, Юрый.* Сярод іх найбольш папулярныя імёны: *Уладзімір* (793 носьбіты), *Аляксандр* (436), *Валерый* (381), *Анатолій* (365), *Віктар* (361), *Мікалай* (285), якія насілі 2621 хлопчык, што складае амаль 52% нованароджаных мужчынскага полу.

Праз 23 гады, у 1968–1975 гг., у Віцебску (даследаваўся Кастрычніцкі раён горада) знаходзім імяннік, які значна адрозніваецца ад прыведзенага. Так, у 1968–1975 гг. сустракаюцца імёны, якія раней не выкарыстоўваліся: *Артур, Герман, Марат, Цімур, Усевалад, Гардзей, Ікар, Роберт, Спартак, Ціхан, Філіп* і інш. У большасці яны адзначаюцца яскравай іншамоўнай афарбаванасцю. Іх узнікненне тлумачыцца перш за ўсё міжмоўнымі сувязямі на розных узроўнях моўнай сістэмы, і на ўзроўні анамастычнай прасторы ў тым ліку. Узнікненне ў традыцыйным антрапанімным рэпертуары новых адзінак ніколі не застаецца па-за межамі ўвагі людзей, аб’яднаных адзінствам мовы, прасторы пражывання і традыцый іменавання. Такія імёны часцей за ўсё ўваходзяць у нацыянальны імяннік на правах яго кампанентаў, але, улічваючы іх рэдкасць і малаўжывальнасць, заўсёды ўспрымаюцца як штучныя і складаюць перыферыйныя структуры нацыянальнага беларускага іменніка. Імёны тыпу *Артур*, *Марат*, *Герман*, *Ікар*, *Спартак* могуць

адзначацца прыналежнасцю беларусам ці рускім, але ўказваюць на тое, што запазычаны з іншай анамастычнай сістэмы і ўспрымаюцца выключна як знакі іншай культуры, а могуць належаць неславянам, указваць на прыналежнасць носьбіта імені іншай нацыі і культуры, і ўспрымаюца яны як запазычаныя і іншамоўныя, інародныя элементы нацыянальный антрапанімнай прасторы. Імёны тыпу *Усевалад, Гардзей, Ціхан, Пілiп* наадварот суадносяцца са славянскім іменнікам і суадноснай культурнай традыцыяй іменавання асоб мужчынскага полу. Але ў акрэслены намі храналагічны перыяд яны ўспрымаюцца як устарэлыя.

За гэтыя восем гадоў у Кастрычніцкім раёне Віцебска 2633 хлопчыкам было дадзена 76 імён. Частых мужчынскіх імён было 18: *Сяргей, Аляксандр, Андрэй, Ігар, Дзмітрый, Уладзімір; Юрый, Алег, Аляксей, Вечаслаў, Віталій, Віктар, Міхаіл, Валерый, Канстанцін, Руслан, Мікалай, Вадзім;* імі названа 85% нованароджаных. Цікава, што пяцёркі самых папулярных мужчынскіх і жаночых імён значна адрозніваюцца. Калі ў 1945–1950 гг. імі былі: *Уладзімір, Аляксандр, Валерый, Анатолій, Віктар, Валянціна, Галіна, Тамара, Святлана,* то ў 1968-1975 гг. – *Сяргей, Аляксандр, Андрэй, Ігар, Дзмітрый, Алена, Таццяна, Святлана, Наталля, Ірына*. Як бачым, за 23 гады папулярнасць захавалі толькі па адным з мужчынскіх і жаночых імён – *Аляксандр* і *Святлана*. У астатніх жа імёнах з пералічаных пяцёрак ужывальнасць прыкметна знізілася: імя *Уладзімір* з першага перамясцілася на 6-е месца, *Валерый* – з 3-га – на 14-е, *Анатолій* – з 4-га на 24-е, *Віктор* – з 5-га на 12-е. Падобныя перамяшчэнні адбыліся і сярод жаночых імён: *Валенціна* – з 2-й на 17-ю, *Галіна* – з 3-й на 11-ю, *Тамара* – з 4-й на 29-ю, *Святлана* – з 5-й на 4-ю.

Намі былі зафіксаваны і некаторыя асаблівасці іменніка Полацка ў супастаўленні з аналагічным анімічным "збудаваннем" Віцебска.

Усяго за пяць даследаваных гадоў зарэгістравана 70 мужчынскіх імён. Так, у 1976 г. у Полацку 574 хлопчыкам было дадзена 41 імя; у 1977 г. 606 хлопчыкам – 43 імені; у 1978 г. 541 хлопчыку – 42 імені; у 1979 г. 573 хлопчыкам – 47 імён; у 1980 г. 604 хлопчыкам – 46 імён.

Сярод мужчынскіх імён 13,1% складае імя *Аляксандр, Сяргей* – 12,5%, *Дзмітрый* – 9,4%, *Андрэй* – 8,8%, *Аляксей* – 8,0%, *Уладзімір* – 4,6%, *Віталій* – 3,4%, *Дзяніс* – 2,1%, *Максім* – 1,4%, *Валерый* – 1,3%. Кожнае з астатніх імён складае менш за адзін працэнт. Пры гэтым папулярнасць імён па гадах не застаецца аднолькавай. Самымі папулярнымі мужчынскімі імёнамі на працягу пяці гадоў былі *Аляксандр* і *Сяргей* (імі названа 740 хлопчыкаў з 2896).

Устойлівых мужчынскіх імён было 30 (43% усяго пяцігадовага інструментарыя). Сярод іх – *Аляксандр, Андрэй, Аляксей, Віталій, Вечаслаў, Вадзім, Валерый, Віктар, Валянцін, Генадзь, Дзмітрый, Дзяніс, Пётр, Руслан, Раман, Сяргей, Юрый і інш.*

Разавых мужчынскіх імён – *23 (33%): Герасім, Мікіта, Сцяпан, Тарас, Святаслаў, Фелікс, Станіслаў, Анджэй, Вілій, Вальдэмар, Альберт, Вікенцій, Забар, Ісай, Машэл, Марк, Нузгар, Януш, Армен, Рымантас, Радж, Зураб, Юльюш-Цэзар.* Колькасць імён гэтага тыпу з гадамі павялічваецца: так, у параўнанні з падсістэмай жаночых імён, дзе ў 1976 г. разавых імён, якія ў наступныя гады не паўтараліся, было 4, вылучаліся 3 мужчынскія імені; у 1980 г. жаночых разавых імён зарэгістравана 9, мужчынскіх – 7.

Пры называнні 4954 дзяўчынак бацькамі ў Віцебску выкарыстана 160 імён: *Агадзія – 4, Агнэса – 1, Агрыпіна – 2, Ада – 2, Адэлаіда – 3, Акуліна – 4, Акцябрына – 1, Алімпіяда – 3, Алена – 68, Аляўціна – 19, Аляксандра – 21, Аліна – 10, Аліса – 5, Ала – 122, Альбіна – 5, Альвіна – 6, Альфрэда – 1, Анастасія – 6, Ангеліна – 5, Анасія – 3, Антаніна – 29, Арыядна – 1, Аталія – 1, Бэла – 12, Бірута – 1, Браніслава – 5, Валянціна – 496, Валіта – 1, Ванда – 2, Васа – 1, Вера – 114, Вікторыя – 8, Вілора – 1, Віалета – 4, Вольга – 99, Галіна – 441, Ганна – 97, Гераіна – 1, Геся – 1, Давіна – 1, Данэла – 1, Дар'я – 2, Дыяна – 3, Даната -- 1, Дора – 2, Ева – 1, Еўдакія – 12, Екацярына – 30, Елізавета – 16, Еўфрасіння – 10, Жэльміна – 1, Зальміна – 1, Зэльда – 1, Зельвіра – 1, Зінаіда – 93, Зоя – 55, Іда – 3, Изабэла – 1, Інаіда* (ад двух жаночых імён *Іна* іьл *Іда*) *– 3, Іраіда – 2, Ірэна – 1, Ірына – 55, Ірыння– 1, Іта – 1, Клаўдзія – 12, Клара – 1, Ксенія – 7, Ламарыко – 1, Ларыса – 253, Лейба – 1, Леніна* (вытворнае ад псеўданіма *Ленін*) *– 3, Леакадзія – 1, Лідзія – 78, Лілія – 105, Лонка – 1, Луіза – 3, Лукер'я – 3, Любоў – 168, Ляля – 2, Магарыя – 1, Мая – 15, Макраіда – 1, Малка* (магчыма, ад *Маланья*, царк. *Мелания*) *– 2, Мальвіна – 1, Мара* (скарач. ад *Маргарита*) *– 1, Маргарыта – 28, Марына – 3, Марыя – 83, Марфа – 1, Матрона – 2, Міладзія – 1, Міра – 5, Муза – 3, Надзея – 127, Наіля – 1, Наталля – 117, Нэлі – 27, Ніна – 162, Нінэль – 1, Пелагея – 4, Паліна – 7, Раіса – 133, Рахіль – 4, Рэвека – 3, Рэгіна – 9, Рыма – 10, Рытлана – 1, Роза – 1, Разалія – 4, Руслана – 1, Сара – 1, Святлана – 257, Серафіма – 5, Соф'я – 20, Сталіна* (вытворнае ад *Сталін*) *– 1, Станіслава – 2, Стася – 1, Сцепаніда – 1, Стэфанія – 1, Таіса – 26, Тамара – 296, Таццяна – 153, Ул'яна – 2, Фаіна – 15, Феўронія – 1, Фёкла – 1, Феадосія – 6, Фецiння – 1, Фіяла – 1, Фларыда – 1, Хая – 2, Цыля – 1, Шанета – 1, Эвеліна – 1, Элеанора – 1, Эсфір – 3, Юлія – 8, Ядзвіга – 9, Яніна – 1, Яўгенія– 39, Яўфімія – 2.*

Да ліку частых (з каэфіцыентам 31 і вышэй) можна аднесці 23 наступных імён: *Ала, Ганна, Валянціна, Вера, Галіна, Яўгенія, Алена, Зінаіда, Зоя, Ірына, Ларыса, Лілія, Лідзія, Любоў, Марыя, Надзея, Наталля, Ніна, Вольга, Раіса, Святлана, Тамара, Таццяна*.

Самымі моднымі ў той час былі 5 імён: *Валянціна* (496), *Галіна* (441), *Тамара* (296), *Святлана* (257), *Ларыса* (253), – якія мелі 2341 дзяўчынка, што складае 47% ад агульнай колькасці нованароджаных жаночага полу.

На працягу 1945–1950 гг. колькасць найменняў некаторымі імёнамі павялічылася (*Наталля, Таццяна*), а некаторымі – трымалася прыблізна на адным узроўні (*Агаф'я, Аляксандра, Еўдакія, Клаўдзія*).

Паказальна, што ў першыя пасляваенныя гады яшчэ жывая традыцыя іменавання дзяўчынак (у адрозненне ад іменавання хлопчыкаў) штучнымі імёнамі, утворанымі як ад назваў гістарычных падзей (*Акцябрына*), так і ад імён правадыроў (*Леніна, Сталіна*).

Нельга не адзначыць, што жаночы імяннік значна пераўзыходзіць мужчынскі па колькасці імён (160 і 131). Гэта важна адзначыць таму, што на працягу XVIII-XIX стст. (аж да 1917 г.) жаночы імяннік увесь час саступаў мужчынскаму па колькасці антрапанімных адзінак. Паскарэнне антрапанімных працэсаў у жаночай падсістэме іменніка пачалося менавіта пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі.

Як і ў падсістэме мужчынскіх імён, праз 20 гадоў змянілася становішча і з жаночымі найменнямі. Так, адзначаліся новыя імёны, якія раней не выкарыстоўваліся – *Аглая, Алеся, Альміра, Анжэла, Анжэліка, Анфіса, Вераніка, Вілена, Жанета, Земфіра, Злата, Марыяна, Ілона, Інга, Ірма, Караліна, Крысціна, Лада, Лайма, Ліяна, Ліліяна, Лія, Марыёла, Мілена, Нона, Рада, Сняжана, Эльміна, Эмена* і інш.

У перыяд з 1968–1975 гг. 2682 дзяўчынкам было дадзена 91 імя. Частых жаночых імён 15: *Алена, Таццяна, Наталля, Святлана, Ірына, Іна, Марына, Жана, Людміла, Вольга, Галіна, Аксана, Анжэліка, Ала, Ларыса*; імі названа 93% нованароджаных, што сведчыць пра павелічэнне нагрузкі на параўнальна невялікую групу (18 і 15) папулярных імён.

Як і ў 1945–1950 гг., працягваецца прысваенне дзяўчынкам складанаскарочаных штучных імён, утвораных ад імён правадыроў марксізму-ленінізму: у 1970 г., відаць, у гонар 100-годдзя з дня нараджэння У.І.Леніна ў сям'і інтэлігентаў (бацька – метадыст РАНА, маці – настаўніца) дзяўчынку назвалі *Віленай* (скарачэнне ад рус. *Владимир Ильич Ленин*), а ў другой сям'і – *Міленай* (скарачэнне ад *Маркс* і *Ленін*).

Пошукамі прыгажосці і арыгінальнасці можна патлумачыць выкарыстанне такіх жаночых імён, як *Лада, Лія, Жанета, Анжэліка* і інш.

Увядзенню ў антрапанімію новых імён нярэдка садзейнічаў і садзейнічае кінематограф. Так, імя *Анжэліка* з’явілася ў даволі вялікай колькасці пасля дэманстрацыі французскіх фільмаў “Анжэліка і кароль”, “Анжэліка – маркіза анёлаў” (1967–1968 гг.), імя *Руслан* у значнай ступені абавязана сваёй папулярнасцю фільму “Руслан і Людміла”, які дэманстраваўся ў 1972 г.

Нязначныя адрозненні ад іменніка Віцебска 1968–1975 гг. знаходзім і ў іменніку Полацка 1976-1980 гг. Усяго за пяць даследаваных гадоў зарэгістравана 86 жаночых імён (з варыянтамі ўключна). Пры гэтым колькасць і набор імён па гадах не застаюцца пастаяннымі. Так, у 1976 г. у Полацку 553 дзяўчынкам было дадзена 45 імён; у 1977г. 589 дзяўчынкам – 44 імені; у 1978 г. 555 дзяўчынкам – 50 імён; у 1979г. 502 дзяўчынкам – 50 імён; у 1980 г. 568 дзяўчынкам – 57 імён.

Калі супастаўляць з падсістэмай мужчынскіх імён, то максімум жаночых імён знаходзім у 1980 г., максімум мужчынскіх імён прыходзіцца на 1979 г.; мінімум жаночых (44) – у 1977 г., мінімум мужчынскіх (41) – на 1976 г. Як бачым, самая высокая канцэнтрацыя як жаночых, так і мужчынскіх імён назіралася ў 1977г.

Па частотнасці ўжывання сярод жаночых імён за пяць гадоў вылучаюцца *Наталля* (14,5%), *Таццяна* (10,8%), *Алена* (10,2%), *Вольга* (9,4%), *Святлана* (8,9%), *Ірына* (6,1%), *Аксана* (3,7%), *Марына* (3,7%), *Анна* (2,9). Самым папулярным жаночым іменем у 1976-1980 гг. было *Наталля* (ім назвалі за тры гады 279 дзяўчынак), у 1979 г. яно саступіла першыя пазіцыі імені *Алена* (ім назвалі 56 дзяўчынак з 502), а ў 1980 г. – імені *Таццяна* (ім назвалі 68 дзяўчынак з 605).

Усе 86 жаночых і 70 мужчынскіх імён з 1976 па 1980 гг. выкарыстоўваліся нераўнамерна: адны даваліся ва ўсе гады пяцігодкі (устойлівыя імёны), другія – з перапынкамі (перарывістыя), трэція з'яўляліся разавымі.

Устойлівых жаночых імён у даследуемыя гады было 29 (каля 34% усяго пяцігадовага асартыменту): *Наталля, Таццяна, Святлана, Алена, Вольга, Аксана, Ірына, Юлія, Людміла, Марына, Іна, Галіна, Алёна, Жана, Валянціна, Ганна, Анжэла, Екацярына, Алеся, Вераніка, Маргарыта, Вікторыя, Ала, Лідзія, Вера, Ларыса, Ніна.*

Разавых жаночых імён – 31 (36 %): *Дар'я, Зінаіда, Ія, Соф'я, Раіса, Аўдоцця, Крысціна, Данута, Рада, Агнэса, Люцыя, Галія, Эліна, Татрына, Анета, Мар'яна, Ліна, Фаіна, Эльвіра, Мальвіна, Стэла, Веста, Зуфія, Элеанора, Бярута, Яна, Карына, Мілана, Ліяна.*

Колькасць перарывістых жаночых імён – 26 (30%), мужчынскіх – 17 (24%), пры гэтым адны з іх аказаліся бліжэй да ўстойлівых (напрыклад *Настасся, Марына, Валерыя, Елізавета, Аляксандра, Антаніна, Крысціна, Аліна, Анжэліка; Анатолій, Барыс, Арцём, Ягор, Ілля, Максім, Эдуард*), а другія бліжэй да разавых: *Аліса, Марыяна, Яніна, Рыта, Таіса, Ілона, Зоя, Інеса, Інга; Артур, Глеб, Марат, Яраслаў, Антон*.

Такім чынам, у жаночым іменніку 1976-1980 гг. пераважна ўжываліся імёны перарывістага і разавага выкарыстання (66%), у наборы мужчынскіх імён колькасць перарывістых і разавых (57%) нязначна перавышае колькасць устойлівых імён (43%).

Асаблівую цікавасць выклікаюць імёны шырокага ўжывання, або частыя (напомнім, што склад частых імён вызначаецца дзяленнем колькасці нованароджаных на колькасць імён). Пра іх можна гаварыць у адносінах да ўсяго пяцігоддзя і ў прымяненні да аднаго года.

Так, частымі на працягу пяці гадоў аказаліся 6 жаночых імён: *Наталля* − 400 чал. – 14%, *Таццяна* – 299 чал. – 10%, *Алена* – 282 чал. – 10%, *Вольга* – 259 чал. – 9%, *Святлана* – 246 чал. – 9%, *Ірына* – 170 чал. – 6% і 5 мужчынскіх: *Аляксандр* – 379 чал. – 13%, *Сяргей* – 361 чал. – 12,6%, *Дзмітрый* – 272 чал. – 9%, *Андрэй* – 254 чал. – 9%, *Аляксей* – 234 чал. – 8%.

Спасылаючыся на дадзеныя даследчыка антрапанімікону Віцебска сярэдзіны − канца ХХ ст. Т.У. Скрабнёвай [6, 7, 8, 9], адзначым наступнае. Па-першае, ядро антрапанімнай сістэмы, што ўжывалася для іменавання нованароджаных у Віцебску, складаюць імёны пераважна каляндарныя праваслаўныя. У перыяд з 1941–1944 па 1994 гг. найбольш пашырана ўжываліся наступныя асабовыя імёны − *Аляксандр, Дзмітрый / Дзімітрый, Андрэй, Сяргей, Аляксей, Ігар, Юрый, Уладзімір, Алег, Віктар; Таццяна, Алена, Наталля/ Наталія, Святлана, Вольга, Ірына, Галіна, Валянціна, Юлія* [6]. Па-другое, крыніцай пашырэння перыферыйнай часткі сістэмы асабовай намінацыі з’яўляюцца адзінкі, запазычаныя з амерыканскага ці еўрапейскага анамастыконаў. У выніку беларуская антрапанімія папаўняецца адзінкамі тыпу *Кевін*, *Мэцью*, *Джулія, Лаурыта, Віялета, Эмілія, Фрыда, Дзіана, Дзіна*, *Лінда, Эльвіра, Джэсіка, Аліса, Эстэла, Крысціяна*), а таксама рэдкімі каляндарнымі іменаваннямі: *Арцём, Мікіта, Глеб, Сцяпан, Ігнат, Цімафей, Даніл, Арсен, Фадзей, Елісей, Ермалай, Мацвей, Апалінарыя, Вераніка, Елізавета, Аляксандра, Дар’я / Дарыя* і інш. [7]. Па-трэцяе, значна ўзрастае (асабліва ў 90-я гг. ХХ ст.) колькасць выпадкаў змены асабовага імені, што давалася бацькамі пры нараджэнні, на іншае. Матывацыі змены імені розныя:

1) жаданне прадстаўнікоў іншых нацыянальнасцей, што пражываюць на тэрыторыі Беларусі, іменавацца згодна з беларускімі антрапанімнымі традыцыямі. Так, *Набіула* (бацькі – татарын і беларуска), ва ўзросце 18 гадоў юрыдычна ператвараецца ў Мікалая;

2) успрыманне імені як "устарэлага", "простанароднага": *Марфа* (1954 г.н.) ва ўзросце 50 гадоў робіцца Марыяй, а *Фёкла* (1954 г.р.) у 22 гады – Фаінай;

3) імкненне да арыгінальнасці імені: *Марыя*, народжаная 27 сакавіка 1964 г., у 1985 г. пачынае іменавацца *Мартай* па назве месяца свайго з'яўлення на свет;

4) і наадварот, імкненне мець папулярнае, шырока распаўсюджанае імя замест ярка вылучальнага. Так, у 80-я гг. віцебскі антрапанімікон пазбавіўся імён *Злата* і *Іраіда* (абедзве жанчыны 1964 г.н.), у выніку чаго атрымалася больш на адну *Наталлю* (у 1984 г. імя займае 4-е месца па папулярнасці) і *Ірыну* (6-е месца). [8].

Але дамінуючым фактарам рэнамінацыі асоб у Віцебску, пачынаючы з 80-х гг., з'яўляецца актыўнасць працэсу ўсынаўлення дзяцей грамадзянамі ЗША, у выніку чаго імяннік пашыраецца за кошт імёнаў тыпу Молі, Эмі і да т.п. Прадстаўнікі славянскіх ці еўрапейскіх краін выбіраюць пры ўсынаўленні часцей за ўсё папулярныя імёны беларускага іменніка.

## Падсістэмы мужчынскіх і жаночых імён Полацка

Змены ў складзе антрапанімікону Полацка, што адбыліся з цягам часу, відавочныя. Найбольш паказальная характарыстыка, якая адлюстроўвае частотнасць ужывання імён, бо па ёй можна вызначыць тыя адзінкі, якія вылучаюцца пераважным ужываннем і распаўсюджаннем. Прыкмета пераважнасці характарызуе сацыяльна найбольш значныя імёны сферы называння.

Аналіз паказаў, што ўсяго ў лік частых з 1976 г. да 1980 г. трапіла 15 жаночых і 17 мужчынскіх імён. З іх 9 жаночых (*Наталля, Таццяна, Святлана, Алена, Вольга, Аксана, Ірына, Юлія, Марына*) і 6 мужчынскіх (*Аляксандр, Сяргей, Андрэй, Аляксей, Дзмітрый, Уладзімір*) былі частымі ва ўсе гады. Імёны *Людміла, Іна, Ігар, Юрый, Віктар* не былі частымі па адным годзе. Жаночае імя *Алёна* і мужчынскае імя *Яўген* былі частымі на працягу двух гадоў, а імёны *Максім, Мікалай* аказаліся частымі толькі ў 1980 г.

Колькасць іменаванняў аднымі імёнамі з гадамі змяншаецца (*Алена, Людміла, Юрый*), другімі – трымаецца прыкладна на адным узроўні (*Вольга, Руслан*), трэцімі – паступова павялічваецца (*Анна, Алеся, Уладзімір, Дзяніс*). У пераважнай большасці працэнт носьбітаў частых імён рэзка хістаецца па гадах. Напрыклад, у імені *Наталля* ад 17% у 1977 г. да 11% у 1979 г., у імені

*Аксана* ад 5% у 1976 г. да 3% у 1977 г., у імені *Аляксей* ад 7% у 1979 г. да 8% у 1980 г., *Аляксандр* ад 11% у 1979 г. да 15% у 1980 г. і г.д.

Супастаўленне жаночага і мужчынскага іменнікоў сведчыць аб тым, што з 1976 да 1980 г. агульны асартымент мужчынскіх імён саступаў жаночаму. Так, у 1976 г. зарэгістравана мужчынскіх імён 41, жаночых– 45, у 1977 г. адпаведна 43 – 44, у 1978 г. 42 – 51, у 1979 г. 47 – 50, у 1980 г. 46 – 57. Рэпертуар жаночых і мужчынскіх імён пашырыўся за пяцігоддзе, аднак пашырэнне жаночага іменніка ішло хутчэй, чым мужчынскага, павялічылася колькасць разавых імён, узрасла зменлівасць.

“Накладанне” іменніка 1976 г. і 1980 г. дало магчымасць вылучыць наступныя групы імён:

– імёны, якія сустракаліся ў 1976 г. і выйшлі з іменніка ў 1980 г., – 7 жаночых (*Дзіана, Мальвіна, Эльвіра, Зоя, Веста, Стэла, Інэса*) і 8 мужчынскіх (*Вальдэмар, Альберт, Марат, Нузгар, Сцяпан, Фёдар, Цімур, Эдуард*);

– імёны, якія сустракаліся і ў 1976, і ў 1980 гг., – 47 жаночых (*Галіна, Жана, Валянціна, Надзея, Вераніка, Ала* і інш.) і 33 мужчынскія (*Вадзім, Валерый, Уладзіслаў, Генадзь, Іван, Кірыл, Леанід* і інш.);

– імёны, якія адсутнічалі ў іменніку 1976 г., – 18 жаночых (*Аліса, Аліна, Марыя, Марыяна, Злата, Сняжана, Элеанора, Крысціна, Нэлі, Яўгенія, Аўдоцця, Яна, Карына, Зуфія, Берута, Мілана*) і 13 мужчынскіх (*Артур, Арцём, Вілій, Ілля, Георгій, Армен, Яраслаў, Рымантас, Станіслаў, Радж, Зураб, Фелікс*).

Усяго ў супастаўляльныя гады не супадаюць 25 жаночых і 21 мужчынскае імя, што складае 24 % ад усяго рэпертуару імён двух гадоў.

Аналіз выкарыстання імён у розных па нацыянальнасці сем’ях сведчыць аб тым, што ў большасці выпадкаў іменаванне дзяцей не залежыць ад нацыянальнасці бацькоў. Прадстаўнікі небеларускай нацыянальнасці давалі сваім дзецям распаўсюджаныя ў беларусаў імёны, якія запазычаны з іншых моў і прыжыліся па розных прычынах у беларускім іменніку. Так, іменем *Вольга* назвалі сваіх дачок беларусы і рускія, украінцы і палякі, малдаване і татары, грузіны і марыйцы. Імя *Наталля* далі нованароджаным дзяўчынкам беларусы, рускія, украінцы, чувашы, палякі, яўрэі, асеціны, цыганы, азербайджанцы, літоўцы; *Юліяй* назвалі сваіх дачок беларусы, рускія, украінцы, грузіны, яўрэі, палякі, малдаване, немцы; у імені *Марына* да гэтага пераліку далучаюцца ўзбекі, башкіры, казахі; у імені *Алена* – асеціны, татары, армяне. Імёны *Дзяніс, Руслан, Віталь, Алег, Іван, Сяргей, Мікалай* далі сваім сынам беларусы, рускія, украінцы, яўрэі, удмурты, армяне, літоўцы, карэлы, казахі, палякі. Аб тым, што частыя імёны сталі

інтэрнацыянальнымі, сведчыць выкарыстанне ў цыганскіх сем'ях імён *Алеся, Аксана, Галіна, Вікторыя, Алёна, Алена, Аляксандр, Уладзімір, Дзмітрый* і інш.

І толькі ў асобных выпадках на іменаванні дзяцей адчуваецца ўздзеянне нацыянальнасці бацькоў. Так, імя *Зураб* далі ў сям'і, дзе бацька – грузін, маці – цыганка, *Забар* – бацька і маці – цыганы, *Нугзар* – бацька і маці – грузіны, *Рымантас* – бацька – літовец, маці – украінка, *Радж* – бацька – грэк, маці – цыганка, *Зуфія* – бацька і маці – татары, *Галія* – бацька і маці – казахі, *Татрына* – бацька і маці – цыганы, *Люцыя* – бацька – паляк, маці – беларуска, *Стэла* – бацька – яўрэй, маці – руская, *Элеанора* – бацька – беларус, маці – яўрэйка, *Анджэй* – бацька – паляк, маці – беларуска, *Машэл* – бацька і маці – цыганы, *Юльюш-Цэзар* – бацька і маці – палякі.

Пашырэнне, пераўтварэнне статыстычнай структуры жаночага і мужчынскага іменнікоў Полацка, апераджальная зменлівасць частых і разавых жаночых імён у параўнанні з мужчынскімі, аслабленне ўздзеяння нацыянальнасці бацькоў на іменаванне дзяцей апасродкавана адлюстоўваюць важныя сацыяльныя і культурныя працэсы ў жыцці сучаснага грамадства.

Зместам і характэрнымі рысамі сучаснага перыяду развіцця беларускай антрапаніміі ў цэлым з'яўляюцца: 1) сціранне адрозненняў паміж іменнікамі рабочых, сялян, інтэлігенцыі; 2) адраджэнне старажытнаславянскіх імён; 3) узрастанне папулярнасці старых царкоўных імён; 4) паступовая хрысціянізацыя іменніка па матывах выбару імён; 5) аднаўленне ў маўленні і публіцыстычным стылі дзвюх кананічных іменаслоўных сістэм – праваслаўнай і каталіцкай.

# МАТЫВЫ ВЫБАРУ ІМЕНІ

**Ключавыя словы**: *матыў выбару імені, імядаўца, стэрэатыпы называння*.

## Кароткая тэарэтычная даведка

Адной з недастаткова распрацаваных праблем сучаснай антрапанімікі застаецца праблема сувязі імені з чалавекам. Спробы асэнсавання яе рабіліся яшчэ ў глыбокай старажытнасці. Усплёск цікавасці да яе назіраўся на пачатку мінулага стагоддзя, калі сувязі імені з характарам і асабовымі асаблівасцявасцямі яго носьбіта прысвячалі свае даследаванні прадстаўнікі розных навуковых напрамкаў – С.Р. Мінцылаў, філосаф айцец П.Фларэнскі, псіхолаг А. Бадалёў і інш. Напрыканцы ХХ ст. сфарміравалася чатыры тэорыі, што тлумачаць, якім чынам імя чалавека можа ўплываць на яго характар: сацыяльная, у адпаведнасці з якой імя чалавека ўяўляе сабой згустак сацыяльнай інфармацыі пра яго носьбіта; эмацыянальная, згодна з якой імя разглядаецца ў якасці эмацыянальнага раздражняльніка; гукавая, па якой імёны ўяўляюць сабой наборы гукаў рознай вышыні і тэмбру – неаднолькавыя для мозгу гукавыя раздражняльнікі, – і псіхалагічная, якая мае сваёй передумовай сувязь паміж іменем чалавека і яго псіхічнымі асаблівасцямі. Праблема сувязі імені і грамадства доўгія гады займала вядомага расійскага анамаста У.А. Ніканава. Актуальная гэта праблематыка ў нашы дні, калі прабіваюць сабе дарогу паранавука ў анамастыцы, засмучальныя факты дэвальвацыі сацыяльнай значнасці асабовых імён у амерыканскім грамадстве, што сталі магчымымі ў выніку ўварвання бізнесу ў сферу надання імені. Вядома, што амерыканскія карпарацыі, стараючыся атрымлівать як мага больш прыбытку, ужо стварылі камерцыйны партал іменаванняў і перайменаванняў. Заплаціўшы 12 тысяч долараў амерыканцы, якая чакае нараджэння тройні, за права даць імёны яе нованароджаным, лас-вегаўскае інтэрнет-казіно «Golden Palace» дало аднаму з хлопчыкаў імя GoldenPalace.com (гл. http://www.choosemyname.com).

Важнай састаўляючай дадзенай праблематыкі з’яўляецца пытанне аб матывах выбару імені і ў прыватнасці ўстанаўленне залежнасці матыву выбару ад нацыянальнасці бацькоў і іх сацыяльнага статусу, а таксама наяўнасці / адсутнасці ўплыву практыкі выбару імені бацькамі на матывацыйную дзейнасць іх дзяцей.

Найбольш пашыраныя матывы, якімі кіруюцца бацькі пры выбары імені дзіцяці, у рускай анамастыцы дастаткова добра вывучаны [2; 6; 9; 14]. Даследчыкі, зыходзячы з антрапанімнага матэрыялу розных рэгіёнаў, называюць розную колькасць матываў. Так, па дадзеных М.В. Галамідавай, екацерынбургскія інфарманты ва ўзросце ад 20 да 30 гадоў, адказваючы на пытанне аб прычынах, па якіх яны ўжо выбралі (або выбіралі б) імя свайму дзіцяці, пацвердзілі актуальнасць пяці ўстойлівых стэрэатыпаў: 1) у гонар

старэйшых сваякоў па бацькавай або матчынай лініі; 2) у гонар чалавека, які адыграў значную ролю ў лёсе каго-небудзь з членаў сям'і; 3) у гонар вядомага ці папулярнага чалавека; 4) з прычыны асабістых густавых пераваг або асабістай станоўчай ацэнкі гукавой абалонкі імені; 5) з прычыны арыгінальнасці імені [14, 13]. Л.Н. Падзвігіна, якая аналізавала матывы выбару імені жыхарамі г. Пракоп'еўск Кемераўскай вобласці, выявіла іх дзевяць: 1) па спалучэнні з іншымі кампанантамі іменавання; 2) у гонар таго ці іншага сваяка або па яго жаданні; 3) у адпаведнасці з паводзінамі дзіцяці; 4) па той ці іншай сітуацыі, звязанай з нараджэннем дзіцяці; 5) у выніку прытрымлівання той ці іншай сямейнай традыцыі; 6) у адпаведнасці з модай; 7) прэцэдэнтнае імя (тапонім, літаратурны антрапонім і г.д.); 8) па фанетыка-псіхалагічным матыве; 9) па фармальнай прыкмеце, – найбольш папулярнымі сярод якіх назвала ўлік сваяцкіх сувязей і пажаданняў, прытрымліванне розных тардыцый і моду на імёны [6, 320-321].

Што ж да беларускай анамастыкі, то, за выключэннем работы У.А. Івашкі "Як выбіраюць імёны" [3], у якой у папулярнай форме расказваецца пра шматлікія факты, што ўплываюць на чалавека ў сітуацыі выбару імені, вывучэннем матываў надання імені ніхто спецыяльна не займаўся.

Таму ў гэтым даследаванні зроблена першая спроба класіфікацыі матываў выбару імені бацькамі студэнтаў 1-3 курсаў універсітэта (прыблізна 1957-1967 гадоў нараджэння) і матываў выбару імён, якімі збіраюцца карыстацца самі студэнты ў будучым пры называнні сваіх дзяцей. Матэрыялам паслужылі вынікі анкетавання студэнтаў філалагічнага і гістарычнага факультэтаў Віцебскага дзяржаўнага універсітэта імя П.М. Машэрава 1986-1990 гг. нараджэння (усяго 212 рэспандэнтаў).

Аналіз анкетных дадзеных дазволіў выявіць 16 матываў выбару імён, якімі карысталіся бацькі анкетаваных студэнтаў у перыяд з 1986 па 1990 гг.:

1) па асабістай ацэнцы гукавой абалонкі імені або асабістых густавых перавагах: *"Маім бацькам проста падабалася спалучэнне гукаў у маім імені, таму мяне і назвалі Аннай"; "Падабалася гэтае імя па гучанню (Анастасія)"; "Імя выбрала мама, таму што лічыла яго меладычным і тыпова беларускім (Алеся)"*;

2) у гонар таго ці іншага сваяка або знаёмага. Часцей называюць у гонар прабабак і прадзедаў: *"Маму роднага бацькі звалі Тамара, і мяне назвалі ў яе гонар; у іх гэта сямейнае: майго роднага бацьку звалі так, як бацьку маці"; "Мама вырашыла назваць Аленай у гонар сваёй сяброўкі"; "Мяне назвалі Вольгай у гонар стрыечнай цёткі маёй бабулі"*;

3) у гонар вядомага / папулярнага чалавека або па знешнім падабенстве дзіцяці з асобай, што носіць прэцэдэнтнае імя: *"Усе нашы імёны звязаны з А.С. Пушкіным. У мяне дзве сястры – Таццяна і Вольга, а я Наталля – так звалі жонку паэта"; "Мяне назвалі ў гонар караля Стаха (Станіслаў)"; "Мае бацькі пераехалі жыць у Віцебск з г.п. Добруш. Згодна з вядомай легендай заснавальніцай Віцебска была княгіня Вольга, таму мае*

*бацькі вырашылі, што іх дачку будуць зваць Вольгай”; “Назвалі мяне Віталем, таму што я падобны да артыста Віталя Саломіна”*;

4) з улікам значэння матывавальнага апелятыва імені: *“Назвалі Ірынай, таму што ў перакладзе азначае “мірная””; “Мама вырашыла назваць мяне Настай, таму што Анастасія ў перакладзе з грэчаскай мовы “ўваскросшая да жыцця”; “Віталь у перакладзе з латыні азначае “жыццёвы”. Пры выбары гэтага імені бацькі кіраваліся надзеяй на доўгае жыццё сына”*;

5) па парадзе сваякоў або іншых людзей: *“Маю сястру завуць Маша, і яна вельмі хацела сястру Дашу(Дар’я)”; “Мяне завуць Святланай. Так захацеў мой старэйшы брат”; “Пры выбары майго імені (Анна) бацькі прыслухаліся да парады маёй бабулі”*;

6) у адпаведнасці з імкненнем да рэдкага, малараспаўсюджанага імені, якога няма сярод сваякоў: *“У той час гэта імя (Варвара) было рэдкім, таму так і назвалі”; “Дзяцей з такім іменем (Юлія) было мала на сяле”; “Пры выбары майго імені (Людміла) кіраваліся тым, што ў нашай радні такога імені больш ні ў кога не было. Мае бацькі не хацелі паўтарацца. І таму назвалі мяне Людмілай”*;

7) па сугуччы імені і імені па бацьку або імені і прозвішча: *“Маё імя (Дзіна) сугучнае з маім іменем па бацьку (Уладзіміраўна)”; “Імя Юлія кароткае, лёгка вымаўляецца і спалучаецца з доўгім іменем па бацьку (Вячаславаўна)”; “Прозвішча ў мяне рускае (Іванова), таму і імя павінна быць рускім (Наталля). Імя вельмі сугучнае з прозвішчам (Наталля Іванова)”*;

8) у адпаведнасці з царкоўным календаром: *“Мяне назвалі Ксеняй у адпаведнасці з царкоўным календаром (6 лютага –- Ксеня)”; “Вікторыя – імя, якое ўказана ў святцах”*;

9) у адпаведнасці з модай: *“Назвалі Аленай. Гэта імя ў 1986 г. было вельмі пашыраным”; “Гэта імя (Юля) тады (у 1987 г.) было модным”*;

10) па назве месяца нараджэння дзіцяці: *“Імя Сняжана ад назвы месяца нараджэння (снежань). Выбралі яго бацькі, таму што я нарадзілася ў снежні”; “Я нарадзілася ў ліпені (па-руску июле), і таму бацькі назвалі мяне Юляй”*;

11) у выніку прытрымлівання сямейных традыцый: *“Мяне назвалі па жэрабю. Кожны напісаў імя на лістку (тата, мама, брат і сястра), і сястра выцягнула імя Таццяна”; “Тата хацеў назваць мяне Алесяй, а мама – Ілонай, і яны цягнулі запалкі і выцягнулі імя Ілона”; “Мае бацькі рабілі караблікі з імёнамі, і да абодвух прыплыў караблік з іменем Ірына. Так я і стала Іванова Ірына Андрэеўна”*;

12) па сугуччы з іменем іншага дзіцяці або аднаго з бацькоў: *“Мяне назвалі Ленай, таму што імя Лена сугучнае з іменем майго старэйшага брата -- Лёша”; “Майго брата завуць Алег, і бацькі вырашылі назваць мяне Вольгай, таму што гэтае імя роднаснае, сугучнае Алегу”*;

13) па сітуацыі, звязанай з нараджэннем дзіцяці: *“У 1988 г. у ліпені, калі я нарадзілася, у Віцебску адбывалася якаясь важная канферэнцыя.*

*Бацька вырашыў назваць мяне Кацяй у гонар канферэнцыі, таму што яму здавалася, што імя Кацярына і слова канферэнцыя маюць падабенства”*;

14) па знешніх прыметах дзіцяці: *“Мае бацькі вельмі доўна выбіралі імя. Але ўбачыўшы, што я нарадзілася з блакітнымі вачыма, яны прыйшлі да высновы, што найлепш падыходзячым для мяне будзе імя Марына”*;

15) па ўнутраных якасцях знаёмых людзей, што носяць гэтае імя: *“Мама сказала, што ўсе Алены, якіх яна ведае, адрозніваюцца сілай волі і моцным характарам. Таму мяне і назвалі Аленай”*;

16) па фармальнай прымеце: *“Бацька выбраў імя Аляксандра, кіруючыся імёнамі дзядулі і прадзеда, якія пачыналіся з літары А”.*

Паказальна, што найбольш папулярныя для іменавання нованароджаных матывы ў змешаных па нацыянальным складзе і аднанацыянальных сем’ях не цалкам супадаюць. Так, калі ў аднанацыянальных лідзіруюць 1-ы, 2-і і 4-ы матывы, то ў змешаных – 1-ы, 2-і і 3-і. Адрозніваюцца матывацыйнымі прыярытэтамі нават розныя групы аднанацыянальных сем’яў. Так, беларусы і азербайджанцы пры называнні дзіцяці аддаюць перавагу фанетыка-псіхалагічнаму матыву, рускія – прэцэдэнтнаму імені, а яўрэі – у гонар сваяка.

Сярод змешаных па нацыянальным складзе сямей найбольшай разнастайнасцю матываў называння дзіцяці (12) характарызуецца група, у якой маці – беларуска, а бацька рускі. Яна, дарэчы, і самая шматлікая. Не выкарыстанымі ў гэтай групе аказаліся 12-ы, 14-ы, 15-ы і 16-ы матывы. Што ж да груп “руская і беларус”, “беларуска і ўкраінец”, “украінка і беларус”, “руская і украінец”, “беларуска і туркмен”, “беларуска і казах”, “татарка і рускі”, “яўрэйка і рускі”, якія з’яўляюцца менш шматлікімі ў параўнанні з першай са змешаных, то ў іх задзейнічанымі аказаліся толькі пяць матываў – 1-ы, 2-і, 3-і, 5-ы, 16-ы.

Нельга не звярнуць ўвагі і на тое, што ва ўсіх тыпах нацыянальна змешаных сем’яў, дзе маці з’яўляецца беларускай, як і ў аднанацыянальных беларускіх сем’ях, часцей выкарыстоўваюцца ў якасці матыву пры выбары імені асабістыя густавыя перавагі.

Набор жа матываў выбару імені студэнтамі ўключыў 12 адзінак (адбілася адсутнасць у большасці выпадкаў рэальнага вопыту надання імені). Аналіз яго паказаў, што а) светапоглядныя каштоўнасці імядаўцаў 1986-1990 гадоў нараджэння значна адрозніваюцца ад каштоўнасцей іх бацькоў – імядаўцаў 1957-1967 гадоў нараджэння. На працягу трох дзесяткаў гадоў, якія раздзяляюць гэтыя пакаленні, адбылася змена намінацыйных прыярытэтаў. Па-першае, усё меней і меней у гэты перыяд наданне імені абапіралася на семантыка-ідэалагічныя рэкамендацыі пры стварэнні новых імён. У разрад адзінкавых перайшлі імёны тыпу *Вілен*, *Сталіна* і падобныя. Па-другое, з’яўляючыся змешаным – кананічна-традыцыйна-ідэалагічным, гэты перыяд характарызуецца ўзмацненнем першай сваёй састаўляючай – большым кананічным уплывам на выбар імені нованароджаным. Не выпадкова таму, а цалкам заканамерна матыў надання імені “па царкоўным календары”, які пры імятворчасці бацькоў займаў восьмую пазіцыю, ва

ўмовах выбару імён дзецьмі перамяшчаецца на другую (52 адказы). Сімвалічна і тое, што першае месца як у пакалення бацькоў, так і ў іх дзяцей належыць эмацыянальна-псіхалагічнай ацэнцы гукавой абалонкі імені або густавым перавагам, што садзейнічае вылучэнню на першы план кагнітыўнай задачы – выявіць, у якой ступені імёны адлюстроўваюць нашы пачуцці, наколькі выразны патэнцыял асабовых імён наогул здольны адлюстраваць наш эмацыянальны стан. Прычыны ўзнікнення пэўных эмацыянальных асацыяцый, выкліканых рознымі гукамі і іх спалучэннямі, пакуль яшчэ вельмі слаба вывучаны, хаця першыя артыкулы, што з'явіліся ў зборніку «Развитие фонетики современного русского языка» яшчэ ў 1966 г., сведчылі пра цікавыя з'явы ва ўспрыманні гукаў; б) адсутнічае прамое ўздзеянне "імядаўцаў" практыкі старэйшага пакалення на малодшае. Толькі ў 22 % выпадкаў прадстаўнікі малодшага пакалення пры іменаванні свайго дзіцяці збіраюцца кіравацца прыкладам бацькоў.

Такім чынам, вынікі анкетавання сведчаць, што набор матываў выбару імені ў екацерынабуржцаў і жыхароў г. Пракоп'еўск Кемераўскай вобласці, з аднаго боку, і беларусаў – з другога, на 75% аднолькавыя; нацыянальнае, а магчыма толькі рэгіянальнае, праяўляецца ў выкарыстанні беларусамі такіх матываў, не зарэгістраваных у расіян, як улік значэння матывавальнага апелятыва, арыентацыя на царкоўны каляндар, назва месяца нараджэння дзіцяці, унутраныя якасці знаёмых людзей, якія носяць пэўнае імя.

У адрозненне ад жыхароў г. Пракоп'еўск, сярод якіх найбольш папулярнымі для іменавання нованароджаных былі ўлік сваяцкіх сувязей, прытрымліванне розных традыцый, мода на імёны, кожны трэці беларус (66 рэспандэнтаў) пры выбары імені дзіцяці кіраваўся сваімі смакавымі перавагамі, кожны сёмы выкарыстоўваў асабовае імя сваяка або знаёмага (31), кожны дзесяты (21) – прэцэдэнтнае імя. Прытрымліваліся ж розных традыцый толькі 1,4%, моды – 2,4% жыхароў беларускага горада.

Нягледзячы на тое, што прысваенне імені дзіцяці ў супастаўляльных гарадах ажыццяўляецца праз падобны набор матываў, у кожным канкрэтным рэгіёне існуе свой, звычны іх камплект.

Найбольш значныя адрозненні паміж расіянамі і беларусамі назіраюцца ў рэалізацыі двух матываў іменавання – па царкоўным календары і ў адпаведнасці з модай. Так, першы з іх расіянамі не задзейнічаны. Па словах М.В. Галамідавай, "выпадкова ці заканамерна, але ні адзін са 100 апытаных інфармантаў (екацерынбуржцаў – Г.М.) не ўспомніў аб правілах выбару імені з царкоўных святцаў" [14, 14]. Сярод жа 134 рэспандэнтаў-беларусаў 38 плануюць у будучым кіравацца пры выбары імені свайму дзіцяці царкоўнымі святцамі. Наадварот, кіравацца павевамі моды пры выбары імені збіраюцца толькі 5 з 134 апытаных, у той час як сярод жыхароў расійскага Пракоп'еўска такіх аказалася 14 са 100.

Спецыфічная арыентацыя пры іменаванні людзей вызначаецца мадэллю свету, якая існуе ва ўяўленні пэўнага народа ў пэўны час.

Галоўнае адрозненне набораў матываў называння немаўлят бацькамі і іх дзецьмі заключаецца не ў колькасці, а ў тым, што а) чатыры з іх, якія

ўяўляліся важнымі для бацькоў (па назве месяца, у якім з'явілася дзіця; па сямейнай традыцыі; па сугуччы імені з іменем другога дзіцяці ў сям'і; па фармальнай прымеце), страцілі прывабнасць у першым дзесяцігоддзі XXI ст. Сучасны імядавец пачынае арыентавацца на гараскоп, на нацыянальную прыналежнасць мужа; б) у наш час на першы план выступае сэнсавы крытэрый імені.

Практычная значнасць падобных даследаванняў заключаецца ў тым, што сукупнасць матываў выбару імені нованароджаным дазваляе праецыраваць асаблівасці ментальнасці імядаўцаў як сукупнай моўнай асобы, іх светапоглядныя каштоўнасці, фонавыя веды.

Станоўчыя вынікі навуковага даследавання асаблівасцей сучаснага надання імені нованароджанаму могуць быць атрыманы толькі пры масавым ахопе матэрыялу і выкарыстанні розных метадаў і падыходаў.

## Асноўная літаратура


1. Бірыла, М.В. Беларуская антрапанімія: у 3 ч. / М.В. Бірыла. – Мінск: Навука, 1966-1982.

2. Данилина, З.А. К вопросу о мотивах выбора личных имен / З.А. Данилина // Ономастика Поволжья. – Горький, 1971. – С. 17-21.

3. Ивашко, В.А. Как выбирают имена / В.А. Ивашко / под ред. А.Е. Супруна. – 2-е изд., доп. – Минск, 1988. – 239 с.

4. Мезенка, Г.М. Беларуская анамастыка / Г.М. Мезенка. – Мінск: Выш. школа, 1997. – 118 с.

5. Никонов, В.А. Имя и общество / В.А. Никонов. – Москва, 1974.— 278 с.

6. Подвигина, Л.Н. Некоторые наблюдения над мотивами выбора имени жителями г. Прокопьевска Кемеровской области / Л.Н. Подвигина // Ономастика в кругу гуманитарных наук: материалы междунар.науч.конф., Екатеринбург, 20-23 сентября 2005 г. – Екатеринбург, 2005. – С. 319-321.

7. Рогалев, А. Белая Русь и белорусы (в поисках истоков) / А. Рогалев. – Гомель, 1994. – 267 с.

8. Рогалеў, А.Ф. Сцежкі ў даўніну: Геаграфічныя назвы беларускага Палесся / А.Ф. Рогалеў. – Мінск; Полымя, 1992. – 159 с.

9. Ройзензон, Л.И. О мотивах выбора имени / Л.И. Ройзензон, Э.Б. Магазаник // Вопросы ономастики. – Самарканд, 1971. – С. 27-31

10. Скребнёва, Т.В. Влияние религиозного фактора на развитие городского антропонимикона периода «перестройки» / Т.В. Скребнёва // Славянские языки: системно-описательный и социокультурный аспекты исследования: материалы III междунар. науч.-метод. конф., Брест, 22 – 23 ноября 2007 г. / БрГУ им. А.С. Пушкина; редкол.: Е.И. Абрамова [и др.]. – Брест, 2008. – С. 228 – 231.

11. Скребнёва, Т.В. Городской антропонимикон в условиях глобализации / Т.В. Скребнёва // Взаимодействие и взаимопроникновение языков и культур: состояние и перспективы: материалы Междунар. науч. конф., Минск, 20 – 21 марта 2008 г.: в 2 ч. / Бел. гос. пед. ун-т им. М. Танка; редкол.: Т.В. Балуш (отв. ред.) [и др.]. – Минск, 2008. – Ч. 1. – С. 82 – 83.

12. Скребнёва, Т.В. Ономастический текст как хранитель культурно-исторической информации / Т.В. Скребнёва // Имя и слово (проблемы семантико-прагматического взаимодействия в славянских языках): материалы междунар. науч. конф., Брест, 19-20 апреля 2007 г.: в 2 ч. / Брест. гос. ун-т им. А.С. Пушкина; Akademia Podlaska w Siedlcach; редкол.: В.И. Сенкевич [и др.]. – Брест, 2007. – Ч. 2. – С. 308 – 311.

13. Скребнёва, Т.В. Городской антропонимикон на современном этапе // Т.В. Скребнёва, А.М. Мезенко // «НИРС-2006»: сб. науч. работ студ. высш. учеб. заведений Республики Беларусь. – Минск: РУМЦ ФВН, 2007. – С. 310.

## Дадатковая літаратура

14. Голомидова, М.В. Русская антропонимическая система на рубеже веков / М.В. Голомидова // Вопросы ономастики. – Екатеринбург, 2005. -- № 2. – С. 11-22.

15. Суперанская, А.В. О русских именах / А.В. Суперанская, А.В. Суслова. — Ленинград: Лениздат, 1985. — 107 с.

16. Суперанская, А.В. Общая теория имени собственного / А.В. Суперанская. — Москва: Наука, 1973. — 283с.

17. Суперанская, А.В. Словарь русских личных имен / А.В. Суперанская. – Москва: Эксмо, 2003. – 545 с.

18. Теория и методика ономастических исследований / В.Э.Сталтмане [и др.]; под общ. ред. А.В. Суперанской. — Москва: Наука, 1986. — 254 с.

## Трэніровачныя практыкаванні

***Практыкаванне 1.*** Узнавіце значэнне наступных тэрмінаў:

| *Тэрмін* | *Значэнне+ прыклад(-ы)* |
|---|---|
| *1) нацыянальнае імя;*<br>*2) штучнае імя;*<br>*3) частотнае імя;*<br>*4) устойлівае імя;*<br>*5) разавае імя* | |

***Практыкаванне 2.*** Вылучыце з прыведзеных імён усе штучныя адзінкі. З чым, на вашу думку, звязана ўжыванне менавіта такіх імён у нас час.

*Віталіна, Мая, Аляксандр, Александрына, Радасць, Сяргей, Вірлетта, Уладзімір, Уладлен, Максім, Рыгор, Рагнеда, Вілора, Марыя, Ядвіга, Kaцілена, Мілана.*

***Практыкаванне 3.*** Класіфікуйце імёны згодна з прыкметай “нацыянальна ўласцівае” – “прыўнесенае, ненацыянальнае”.

| *Нацыянальна ўласцівае імя* | *Прыўнесенае, ненацыянальнае імя* |
|---|---|
| | |

*Адольф, Аляксей Альберт, Анатоль, Антон, Апанас, Барыс, Бранiслаў, Вадзім, Валер'ян, Васіль, Веніямін, Вікенцій, Віктар, Віталь, Вячаслаў, Генадзь, Генрых , Кастусь, Яўхім, Аліса, Алла, Альбіна, Ганна, Антаніна, Арыядна, Бэлла, Валянціна, Ванда,, Викторыя.*

***Практыкаванне 4.*** Зрабіце класіфікацыю імён паводле прыкметы “шырокаўжывальнае” – “разавае”.

| *Шырокаўжывальнае імя* | *Разавае імя* |
|---|---|
| | |

*Мікіта, Сцяпан, Тарас, Мацей, Герасім, Геранім, Аўдоцця, Юльюш-Цэзар, Мікаліна, Дыяна, Дар'я, Леакадзія, Еўдакія, Раіса, Ірэна, Ірына, Яўфімія, Марына, Усяслаў, Гедымін, Чэслаў, Вольга, Юлія.*

***Практыкаванне 5.*** Вызначце, якія імёны маглі б атрымаць дзеці, якія нарадзіліся:

*– з карым колерам вачэй;*

*– у сям'і, дзе асобай пашанай азначаецца дзед, імя якога – Васіль;*

*– з вагой, больш за сярэднюю;*

*– ў пэўны месяц года (напрыклад, май ці снежань).*

***Практыкаванне 6.*** Чым, на вашу думку, кіраваліся бацькі, калі далі нованароджанаму імя:

| | |
|---|---|
| *1) Марцін – ?;*<br>*2) Архіп – ?;*<br>*3) Мікалай – ?;*<br>*4) Уладзімір – ?;*<br>*5) Руслан – ?;* | *6) Анатоль – ?;*<br>*7) Ядвіга – ?;*<br>*8) Мілана – ?;*<br>*9) Раіса – ?;*<br>*10) Сафія – ?* |

***Практыкаванне 7.*** Паспрабуйце установіць, да якой нацыянальнасці могуць адносіцца бацькі дзяцей з імёнамі:

| *Імя* | *Нацыянальнасць бацькоў* |
|---|---|
| *1) Анджэй*<br>*2) Зураб*<br>*3) Уладзімір*<br>*4) Аксана*<br>*5) Юльюш-Цэзар*<br>*6) Стэлла*<br>*7) Алеся*<br>*8) Рымантас*<br>*9) Радж*<br>*10) Нугзар* | *палякі*<br>*яўрэі*<br>*літоўцы*<br>*грэкі*<br>*грузіны*<br>*беларусы*<br>*рускія*<br>*украінцы* |

Абгрунтуйце свой выбар.

***Практыкаванне 8.*** Супастаўце інфармацыю 3 сталбцоў і ўстанавіце паходжанне і этымалогію прыведзеных імён:

| *Імя* | *Паходжанне* | *Этымалогія* |
|---|---|---|
| *Вячаслаў* | *грэч.* | *?* |
| *Багуслаў* | *лац.* | *прыхільнасць, спрыяльнасць, зычлівасць.* |
| *Віталій* | *ст.-руск.* | *згода, дабрабыт* |
| *Еўдакія* | *ст.-царк.* | *“вяще” – больш, лепей + “слава”* |

| | | |
|---|---|---|
| *Лада* | *слав.* | *“vitalis” – жыццёвы* |

***Практыкаванне 9.*** Выпраўце памылкі ў характарыстыцы імён па частотнасці і спосабу ўзнікнення:

| *Імя* | *Частотнае* | *Запазычанае з ліку старых царкоўных імён* |
|---|---|---|
| *Параскева* | + | + |
| *Арцемій* | - | + |
| *Дзяніс* | + | + |
| *Таццяна* | + | - |
| *Ірына* | - | + |
| *Ігар* | + | + |
| *Галіна* | - | - |
| *Алена* | + | + |
| *Муза* | + | - |
| *Неллі* | - | + |

***Практыкаванне 10.*** Складзіце мадэль полевай арганізацыі падсістэмы ўласных імён.

*Авдей – 1, Агурян – 1, Адольф – 1, Александр – 436, Алексей – 49, Алик – 2, Альберт – 13, Альфред – 1, Анатолий – 365, Андрей – 25, Антон – 1, Арифей – 1, Аркадий – 38, Арсений – 2, Артем – 1, Архип – 1, Афанас – 3, Борис – 77, Бронислав – 4, Вадим – 6, Валентин – 66, Валерий – 381, Валерьян – 2, Василий – 128, Вениамин – 4, Викентий – 2, Виктор – 361, Виталий – 36, Владимир – 793, Владислав – 13, Ворутан – 1, Ваталла – 1, Вульф – 1, Вячеслав – 62, Гаврил – 2, Галик – 2, Ганхель – 1, Геннадий – 215, Генрих – 2, Георгий – 53, Григорий – 55, Герасим – 1, Давид – 4, Данил – 1, Даницел – 1, Дмитрий – 40, Дорофей – 1, Евгений – 121, Евлампий – 1, Евсей – 2, Егор – 12, Ермил – 1, Ефим – 8, Ефрем – 1, Залман – 4, Зиновий – 2, Зольтман – 1, Зяма – 2, Иван – 63, Изот – 1, Игнатий – 3, Игорь – 53, Илья – 7, Иосиф – 9,*

*Исаак – 6, Исай – 1, Карп – 1, Казимир – 1, Кондратий – 1, Конон – 1, Константин – 26, Леонард – 1, Леонид – 243, Клименттий – 1, Кузьма – 1, Куприян – 1, Лаврентий – 2, Лев – 12, Леонтий – 4, Максим – 2, Марк – 5, Марик – 1, Макарий – 1, Мазит – 1, Мендель – 1, Михаил – 185, Моисей – 6, Назарий – 1, Наум – 4, Никита – 1, Никифор – 1, Николай – 285, Олег – 83, Ольгерд – 1, Осип – 1, Парфен – 1, Павел – 33, Перх – 1, Петр – 97, Порфирий – 1, Родион – 1, Роман – 14, Ростислав – 1, Рувим – 1, Рудольф – 1, Руслан – 6, Самуил – 5, Святослав – 5, Селивей – 1, Семен – 40, Сергей – 132, Сигизмунд – 2, Симон – 1, Соломон – 1, Станислав – 34, Степан – 7, Тарас – 1, Терентий – 1, Тимофей – 9, Фадей – 1, Федор – 34, Федотий – 1, Феликс – 10, Яким – 2, Яков – 17, Ярослав – 1.*

***Практыкаванне 11.*** Карыстаючыся кнігай А.П. Жураўлёва “Фонетическое значение” (Л., 1974), вызначце фонасемантычныя значэнні імён галоўных герояў твора В.Быкава “Альпійская балада”.

***Практыкаванне 12.*** Ацаніце імёны ўсіх членаў вашай сям’і па шкале Чарлза Осгуда і выстаўце ацэнку (гл.: Ивашко, В.А. Как выбирают имена / В.А. Ивашко / Под ред. А.Е. Супруна. – 2-е изд., доп. – Минск: Выш.школа, 1988. – С. 135-150).

***Практыкаванне 13.*** Вядома, што галоўнымі фактарамі, якія ўплываюць або ўплывалі на выбар імені дзіцяці, з’яўляюцца наступныя: царкоўны, традыцыя, фонасемантычны, саслоўна-класавы, палітыка-ідэалагічны, культурна-эстэтычны. Вызначце сутнасць кожнага з іх, прывядзіце прыклады.

***Практыкаванне 14.*** У кнізе У.А. Івашкі (гл.: Ивашко, В.А. Как выбирают имена / В.А. Ивашко / Под ред. А.Е. Супруна. – 2-е изд., доп. – Минск: Выш.школа, 1988. – С. 135-150) прыведзена наступная інфармацыя: *“у XIX стагоддзі імкненне амерыканцаў да арыгінальнасці праявілася ў тым, што, напрыклад, у сям’і Стыкнеяў у Дэтройце сыноў звалі: Адзін, Два, Тры, а дачок: Першая, Другая, Трэцяя. У іншай сям’і трох сыноў звалі: Іосіф, Таксама і Яшчэ раз. Бацька гэтай сям’і гаварыў, што калі ў іх народзяцца яшчэ сыны, то ён назаве іх так: Усё ж такі, Аднак жа і Нягледзячы на тое. Калі ў аднаго амерыканца ў Філадэльфіі нарадзіўся чацвёрты сын, то бацька, думаючы, што гэта апошні, назваў яго Канец. Пазней, калі ў яго нарадзілася яшчэ тры, ён іх назваў: Прыбаўленне, Дапаўненне і Дадатак”.*

Прывядзіце прыклады знаёмых вам незвычайных імён.

***Практыкаванне 15.*** 1. Высветліце, што абазначае ваша імя, з якой мовы яно прыйшло (гл.: Суперанская, А.В. Словарь русских личных имен / А.В. Суперанская. – М.: ООО «Фирма «Издательство АСТ», 1998;

Справочник личных имен народов РСФСР / Под ред. А.В. Суперанской (отв.ред.), Ю.М. Гусева. – 3-е изд., испр. – М.: Рус.яз., 1987). 2. Спытайце ў бацькоў, чаму яны выбралі для вас такое імя, чым яны кіраваліся (фанетыка-псіхалагічным матывам, па святцах у гонар святога; па сугуччу з іменем па бацьку і прозвішчам, у гонар родзіча або знаёмага, па іншых прычынах).

***Практыкаванне 16.*** Збярыце звесткі пра людзей, якія носяць або насілі такое ж імя, як у вас, і падумайце, якія рысы іх характару ўласцівы і вам.

***Практыкаванне 17.*** Запішыце радкі з песень, вершаў, у якіх сустракаецца такое ж імя, як у вас. Якія з скарочаных і памяншальна-ласкальных форм вашага імя вам найбольш падабаюцца?

## Пытанні і заданні для самакантролю

1. Што мы маем на ўвазе, калі гаворым пра "анамастычны бум" пачатку ХХ ст.? Чым, на вашу думку, ён тлумачыцца?

2. Як вы лічыце, чаму другая палова ХХ ст. характарызуецца ўзрастаннем папулярнасці старых царкоўных і старажытнаславянскіх імён?

3. Што з'яўляецца доказам паскарэння антрапанімных працэсаў у жаночай падсістэме іменніка?

4. Ці захоўвалася аднолькавая папулярнасць мужчынскіх і жаночых імён на працягу ХХ ст.?

5. Што, на вашу думку, садзейнічае ўвядзенню ў антрапанімікон новых імён? Пацвердзіце сваю думку прыкладамі.

6. Ці можна гаварыць пра пастаянства колькасці і набору імён на працягу другой паловы ХХ ст.?

7. Якія мужчынскія і жаночыя імёны Віцебска і Полацка ў даследаваныя гады былі найбольш устойлівымі і частотнымі?

8. Ці ўплывае нацыянальнасць бацькоў на выбар імені для дзяцей?

9. Адзначце характэрныя рысы сучаснага перыяду развіцця беларускай антрапаніміі.

10. Як вядома, на пряцягу пэўнага часу для наймення дзяцей выкарыстоўваліся штучныя імёны, утвораныя шляхам скарачэння некалькіх антрапонімаў. Згодна з гэтай практыкай, утварыце шэраг імён на сучасным анамастычным матэрыяле. Якія тыпы онімаў вы пры гэтым выкарыстаеце?

11. Складзіце сістэму рэдкіх імён антрапанімікону г.Віцебска. Чым, на ваш погляд, тлумачыцца рэдкасць іх выкарыстання?

12. Складзіце мадэль палявай арганізацыі падсістэмы ўласных імён.

*Агадия – 4, Агнесса – 1, Агриппина – 2, Ада – 2, Аделаида – 3, Акулина – 4, Алевтина – 19, Александра – 21, Алина – 10, Алиса – 5, Алла – 122, Альбина – 5, Альвина – 6, Альфреда – 1, Анастасия – 6, Ангелина – 5, Анасия – 3, Анна – 97, Антонина – 29, Ариадна – 1, Аталия – 1, Белла – 12, Бирута – 1, Бронислава – 5, Валентина – 496, Валита – 1, Ванда – 2, Васса – 1, Вера – 114, Виктория – 8, Вилора – 1, Вирлетта – 4, Владислава – 1, Галина – 441, Героина – 1, Геся – 1, Давина – 1, Данелла – 1, Дарья – 2, Диана – 3, Дина – 14, Доната -- 1, Дора – 2, Ева – 1, Евгения – 39, Евдокия – 12, Екатерина – 30, Елена – 68, Елизавета – 16, Ефросинья – 10, Ефимия – 2, Жанна – 70, Жельмина – 1, Зальмина – 1, Зельда – 1, Зельвира – 1, Зинаида – 93, Зоя – 55, Ида – 3, Изабелла – 1, Инаида (ад двух жаночых імён Инна и Ида) – 3, Инесса – 19, Инна – 31, Ираида – 2, Ирена – 1, Ирина – 55, Иринья – 1, Итта – 1, Клавдия – 12, Клара – 1, Ксения – 7, Ламарико – 1, Лариса – 253, Лейба – 1, Ленина (вытворнае ад псеўданіма Ленин) – 3, Леокадия – 1, Лидия – 78, Лилия – 105, Лонка – 1, Луиза – 3, Лукерья – 3, Любовь – 168, Людмила – 588, Ляля – 2, Магария – 1, Майя – 15, Макраида – 1, Малка (магчыма, ад Маланья, царк. Мелания) – 2, Мальвина – 1, Мара (скарач. ад Маргарита) – 1, Маргарита – 28, Марина – 3, Мария – 83, Марфа – 1, Матрена – 2, Миладия – 1, Мира – 5, Муза – 3, Надежда – 127, Наиля – 1, Наталья – 117, Нелли – 27, Нина – 162, Нинель – 1, Оксана – 2, Октябрина – 1, Олимпиада – 3, Ольга – 99, Пелагея – 4, Полина – 7, Прасковья – 3, Раиса – 133, Рахиль – 4, Ревекка – 3, Регина – 9, Рената – 4, Римма – 10, Ритлана – 1, Роза – 1, Розалия – 4, Руслана – 1, Сарра – 1, Светлана – 257, Серафима – 5, Софья – 20, Сталина (вытворнае ад Сталин) – 1, Станислава – 2, Стеся – 1, Степанида – 1, Стефания – 1, Таиса – 26, Тамара – 296, Татьяна – 153, Ульяна – 2, Фаина – 15, Феврония – 1, Фёкла – 1, Феодосия – 6, Феонья – 2, Фетинья – 1, Фиала – 1, Флорида – 1, Фрида – 2, Фриза – 1, Хая – 2, Циля – 1, Шанета – 1, Эвелина – 1, Эдит – 1, Элеонора – 1, Эсфирь – 3, Юлия – 8, Ядвига – 9, Янина – 1.*

13. Выкарыстаўшы дадзеныя, змешчаныя ў тэарэтычнай даведцы, пабудуйце крывую часавых змен у наступных падструктурах сучаснага іменніка:

1) падструктуры папулярных імён;
2) падструктуры рэдкіх імён;
3) падструктуры разавых імён.

14. Вызначце храналагічныя рамкі перадапошняга ўсплёску цікавасці да праблемы сувязі імені з характарам яго носьбіта.

15. Колькі існуе тэорый, што тлумачаць, якім чынам імя чалавека можа ўплываць на яго характар?

16. Раскрыйце змест гукавой тэорыі сувязі імені з характарам чалавека.

17. Назавіце найбольш пашыраныя матывы, якімі кіруюцца расіяне пры выбары імені дзіцяці.

18. Хто з беларускіх і рускіх вучоных займаўся праблемай матываў імянарачэння?

19. Пералічыце матывы, якімі кіруюцца жыхары Беларусі пры выбары імені дзіцяці.

20. Ці супадаюць найбольш папулярныя для іменавання нованароджаных матывы ў змешаных па нацыянальнаму складу і аднанацыянальных сем'ях?

21. Якім матывам называння дзіцяці аддаюць перавагу ў аднанацыянальных сем'ях Беларусі?

22. Якая са змешаных па нацыянальнаму складу сямей характарызуецца найбольшай разнастайнасцю матываў называння дзіцяці?

23. Пры рэалізацыі якіх матываў іменавання існуюць найбольш значныя адрозненні паміж беларусамі і расіянамі?

24. Чым вызначаецца спецыфічная арыентацыя людзей пры іменаванні дзяцей?

25. У чым вы бачыце практычную значнасць даследаванняў матываў намінацыі нованароджаных?

## ІМЁНЫ ПА БАЦЬКУ

**Ключавыя словы:** *патронім, ідэнтыфікацыя, формула іменавання, антрапанімная адзінка, імя па бацьку, факультатыўнасць, фармант.*

Для максімальна поўнай ідэнтыфікацыі асобы недастаткова назваць яе ўласнае імя, бо набор іх не такі шырокі, каб кожны чалавек мог насіць індывідуальнае імя. Юрыдычна-гаспадарчыя адносіны паміж членамі ўсякага калектыву патрабуюць пры афармленні розных дакументаў строгай ідэнтыфікацыі зацікаўленых у кожнай канкрэтнай справе асоб.

Сучасная трохчленная формула іменавання стала агульнай і абавязковай толькі ў ХХ ст. Лічыцца, што яна складвалася паступовa:

**імя → мянушка → імя па бацьку → прозвішча**,

але аналіз рэальных гістарычных падзей не пацвярджае гэтага лагічнага меркавання. Магчыма, трохчленнай мадэлі папярэднічала пяцічленная, у якой адпалі нерэгулярныя элементы і захаваліся найбольш частыя.

## З гісторыі фарміравання імён па бацьку

У адрозненне ад уласнага імені, якое надаецца бацькамі параўнальна адвольна, імёны па бацьку і прозвішчы абумоўлены сувяззю з роднымі. Сярод даследчыкаў шырока распаўсюджана меркаванне аб першапачатковай сацыяльнай дыферэнцыяцыі прозвішчаў у сувязі з класавым расслаеннем грамадства. Лічыцца, што прозвішчы ўзніклі спачатку толькі сярод знаці і не раней за XIV ст., большая ж частка прозвішчаў утварылася ў XVI – XVII стст., а ў простых сялян іх не было і ў XIX ст.

Можна пагадзіцца з думкай І.А. Каралёвай аб першапачатковым існаванні антрапонімаў, якія выконвалі функцыю прозвішчаў [3, с. 20]. Прозвішчы – гэта называнні па імені галавы сям’і, сямейныя называнні, наяўнасць ці адсутнасць якіх у пісьмовых помніках у першую чаргу залежала ад жанру дакументаў, а сацыяльны фактар іграў дадатковую ролю. Актавыя запісы часцей фіксуюць найменні асоб вышэйшага саслоўя, бо менавіта яны валодалі маёмаснымі правамі. Існавалі неафіцыйныя намінацыі, якія неабавязкова перадаваліся ў спадчыну, не заўсёды строга афармляліся граматычна, але выконвалі функцыю прозвішчаў.

Імя па бацьку ўказвала на актуальнага галаву сям’і, а прозвішча – на гістарычнага, таму некаторыя даследчыкі вызначаюць другаснасць імён па бацьку ў адносінах да прозвішчаў, адсутнасць імён па бацьку ў складзе разгорнутай формулы называння. Лічаць, што наяўнасць імені па бацьку з'яўляецца факультатыўнай: чым дакладней патрабавалася апісаць асобу, улічваючы яе родн асныя сувязі, тым часцей фіксавалася імя актуальнага бацькі, якое дадавалася да ўласнага імені і імені гістарычнай галавы сям’і. Першапачатковa функцыі імён па бацьку і прозвішчаў супадалі, бо бацька і быў галавой сям’і, да якой належала асоба. З-за агульнасці функцый цяжка размяжоўваць гэтыя віды антрапонімаў у гісторыі мовы.

Агляд сукупнасці называнняў у помніках XVI – пач. XVII ст. дазваляе сцвярджаць, што ў той час імя па бацьку пачынае ператварацца ў неад'емную частку афіцыйнага называння.

Утварэнне большасці найменняў па бацьку ад хрысцільных імён не азначае, што ў названы перыяд выйшлі з выкарыстання язычніцкія, мянушкавыя імёны. Яны дастаткова часта сустракаюцца ў пісьмовых помніках у якасці асабовых побач з хрысцільнымі. Гэтыя бытавыя імёны таксама маглі пранікаць у формулу афіцыйнага іменавання асобы ў якасці імені па бацьку: *Юрей Волчъковичъ сын, Павелъ Толстика сын.*

Пры гэтым неабходна адзначыць, што некаляндарнае імя захоўвалася ў складзе імені па бацьку звычайна ў тым выпадку, калі яно з'яўлялася папулярным у той час. Напрыклад, звярнуўшыся да спрадвечных славянскіх імён, можна вылучыць групу найбольш ужывальных на тэрыторыі Віцебшчыны: *Гончар, Коваль, Кравец, Крыло, Насок, Печонка, Волк, Віслоух, Зуб, Борода, Войтъ, Жаба, Корсакъ, Кулакъ, Полякъ, Сорока, Чижъ, Шапка.*

Такія імёны захоўваліся і ў XVII ст. у складзе формулы называння ў якасці імён па бацьку. Гэта яшчэ адно сведчанне таго, што найбольш распаўсюджаныя язычніцкія імёны ўспрымаліся ў той час нараўне з хрысцільнымі.

Трэба адзначыць, што амаль усе патронімы ўтвораны ад поўнай формы імені. Нават у такіх выпадках, калі бацька называецца памяншальнай формай імені, да яго дзяцей яно пераходзіць у поўнай форме: *...да Васка Ондреевича Полубенского ...а нынче сына его Льва Васильева сына Полубенского...* Гэта сведчыць аб фарміраванні ў XVI – XVII стст. патронімаў як афіцыйнай антрапанімічнай катэгорыі. Аднак гэты працэс яшчэ не быў завершаны: сустракаюцца імёны па бацьку, якія ўтвараюцца ад разнастайных народных і дэмінутыўных форм імён: *Васка Олехновичъ Шышакъ, Тишко Васкович Цветинский, Неронъ Ромейковичъ Засекльский, Иванъ Тимковичъ Гурко.*

Марфалагічная структура імён па бацьку з указаннем на прыналежнасць фарміравалася па законах мовы, якія спрыялі з'яўленню прозвішчаў. Гэта прыводзіла да таго, што адны і тыя ж марфемы прыналежнасці маглі ўтвараць імёны па бацьку і прозвішчныя празванні. Таму ў большасці выпадкаў назіралася аманімічнасць гэтых форм.

У свой час В.К.Чычагаў пісаў, што пытанне аб размежаванні імён па бацьку і прозвішчаў правамерна толькі для трохчленных іменаванняў асобы, у двухчленных жа найменнях асобы пытанне аб імёнах па бацьку ў XVI – XVII стст. не можа ўзнікаць, бо другі элемент павінен разглядацца як прозвішча [4, с. 44]. У пачатковы перыяд узнікнення імён па бацьку яны выкарыстоўваліся са словамі “сын”, “дочь”, “дети”, але паступова гэтыя словы маглі знікаць. У крыніцах XVII ст. сустракаем ужо выкарыстанне імён па бацьку як з гэтымі словамі, так і без іх: *Атрошка Сидоров – Атрошка Сидоров сын.*

У XVI – XVII стст. на тэрыторыі сучаснай Беларусі актыўна фарміравалася імя па бацьку як афіцыйная антрапанімная адзінка ў складзе наймення асобы, выпрацоўваліся формы як слоў асаблівага тыпу. У гэты перыяд прасочваецца выразная тэндэнцыя да ўтварэння імён па бацьку ад хрысцільных імён у іх поўнай каляндарнай форме, што з'яўляецца сведчаннем фарміравання афіцыйнай формы імені. Аднак паралельныя ўтварэнні імён па бацьку ад бытавых, поўных і дэмінутыўных форм хрысцільных імён, а таксама наяўнасць фанетыка-арфаграфічных варыянтаў, аманімічных форм імён па бацьку і прозвішчаў, наяўнасць пераходных выпадкаў ужывання антрапонімаў, рэдкае выкарыстанне імён па бацьку ў складзе жаночых найменняў – усе гэтыя факты дакладна сведчаць аб тым, што ва ўказаны перыяд устойлівай антрапанімічнай катэгорыяй, абавязковым членам афіцыйнага называння асобы імёны па бацьку яшчэ не былі.

У разгорнутых найменнях адной і той жа асобы ў XVI – XVIII стст. назіраецца выкарыстанне ў функцыі другога ці трэцяга кампанента словаўтваральных дублетаў. У якасці такіх дублетаў выступаюць:

1. Патранімічныя формы з рознымі суфіксамі: **-ов||-ович, -ов||-ович||-ин, -ев||-евич, -евич||-онок, -ович||-ин, -ина||-ов, -ин||-онок, -ич||-ин, - ич||-ович, -ин||-инич, -евич||-инин:** *Иванов Степан – Иванович Степан, Исаков Иван – Исакович Иван – Исакин Иван, Седмев Алексей – Седмевич Алексей, Дземенчевич Иван – Дземенчонок Иван, Федзькович Андрос – Федзин Андрос, Грибачина Иван – Грибанов Иван, Пратасин Сидор – Протасонок, Романич Иван – Романин Иван, Лукинич Андрэй – Луканович Андрэй, Юдзин Мойша – Юдзинич Мойша, Лукевич Степан – Лукинин Степанъ.*

2. Патранімічная форма на **-ович, -ов, -инич** і форма на **-ский//-цкий, -анин**: *Романович Иван – Романовски Иван, Смолянов Никипор – Смолянин Никипор, Кузьминич Богдан – Кузьминский Богдан, Новиков Антон – Новицкий Антон*.

3. Апелятыўнае імя-мянушка і патранімічная форма на **-ов, -онек, -ин, -ев:** *Гончар Иван – Гончаров Иван, Пастарнак Захария – Пастарнаков Захар, Белка Семен – Белков Семен, Копыт Иван – Копытов Иван, Жук Станислав – Жуков Станислав, Влажа Апанас – Влажонак Апанас, Мурашка Федор – Мурашкин Федор, Слепстей Иосифъ – Слепстеев Есип.*

4. Патранімічныя формы, утвораныя ад розных форм імені бацькі названай асобы: *Хомичин Юрка - Хомкин Юрка, Федарович Амяльян – Федкав Амяльян, Федарович Багдан – Фядзькович Багдан, Грыгарович Иван – Грышкович Иван, Василевич Иван – Васькович Иван, Павлович Марцин – Пашкович Марцин, Пашыновски Яраш – Пашковский Яраш.*

Усе вышэй пералічаныя словаўтваральныя дублеты сустракаюцца ў помніках мясцовай дзелавой пісьменнасці XVI - XVII стст., а ў дакументах XVIII ст. такія выпадкі не зарэгістраваны, з чаго можна зрабіць вывад, што ў XVIII ст. паступова пачынае складвацца ўстойлівая мадэль найменняў з кампанентам тыпу сучасных прозвішчаў.

У Рускай дзяржаве імя па бацьку выкарыстоўвалася як знак сацыяльнага размежавання. У першую чаргу гэта замацавалася ў супрацьпастаўленні выкарыстання поўных імён па бацьку з фіналямі **-ович (-евич), -ич, -вич** у адносінах да так званых паўімён па бацьку з фіналямі **-ов (-ев), -ин**. Доўгі час у афіцыйных дакументах мелі права называцца поўным іменем па бацьку толькі прадстаўнікі княжацкай знаці і асобы духоўнага саслоўя, якім гэта права надавалася толькі як вышэйшая царская міласць, якая не перадавалася ў спадчыну.

У XVIII ст. усталявалася строгая кадыфікаванасць выкарыстання імён па бацьку для асоб розных класаў і саслоўяў. Так, толькі прадстаўнікі першых пяці класаў мелі права называцца поўнымі імёнамі па бацьку, асобы ад шостага да восьмага класаў іменаваліся паўімёнамі па бацьку на **-ов (-ев), -ин**, а ўсе астатнія – толькі імёнамі, без імені па бацьку. Гэтыя правілы ўжываліся ў Расіі нават у XIX ст. пры афармленні розных юрыдычных і натарыяльных дакументаў.

У наш час, нягледзячы на заканадаўчую замацаванасць трохчленнай формулы, беларусы, у адрозненне ад рускіх, больш імкнуцца адысці ад ужывання імені па бацьку. У размове імя па бацьку дадаюць да імені тады, калі неабходна падкрэсліць павагу да асобы, звычайна чалавека дарослага.

## Сучасныя спосабы ўтварэння імён па бацьку

У сучаснай беларускай мове ад імён розных тыпаў імёны па бацьку ўтвараюцца па-рознаму, пры гэтым усе спосабы раўнапраўныя. У асноўным яны ўтвараюцца шляхам далучэння да імені бацькі фармантаў **-овіч/-авіч/-евіч, -оўна/-аўна/-еўна**, выбар якіх вызначаецца канцавымі зычнымі бацькоўскага імені:

1. Ад імён на цвёрдыя (у тым ліку зацвярдзелыя) зычныя імёны па бацьку ўтвараюцца далучэннем суфіксаў **-авіч, -аўна** (без націску), **-овіч, -оўна** (пад націскам):

*Леанід* + -авіч, -аўна: *Леанідавіч, Леанідаўна;*

*Пётр* + -овіч, -оўна: *Пятровіч, Пятроўна.*

2. Ад імён на **-й** імёны па бацьку ўтвараюцца далучэннем суфіксаў **-евіч, -еўна**:

*Дзмітрый* + -евіч, -еўна: *Дзмітрыевіч, Дзмітрыеўна;*

*Сяргей* + -евіч, -еўна: *Сяргеевіч, Сяргееўна*.

3. Ад імён на мяккі зычны (з мяккім знакам на канцы) імёны па бацьку ўтвараюцца далучэннем суфіксаў **-евіч, -еўна**, мяккі знак перад якімі захоўваецца:

*Васіль* + -евіч, -еўна: *Васільевіч, Васільеўна.*

4. Ад імён на ненаціскны галосны імёны па бацьку ўтвараюцца далучэннем суфіксаў **-авіч, -аўна:**

*Гаўрыла* + -авіч, -аўна: *Гаўрылавіч, Гаўрылаўна;*

*Даніла* + -авіч, -аўна: *Данілавіч, Данілаўна.*

## Асноўная літаратура

1. Бірыла, М.В. Беларускія антрапанімічныя назвы ў іх адносінах да антрапанімічных назваў іншых славянскіх моў (рускай, украінскай, польскай) / М.В. Бірыла. – Мінск: Выд-ва Акадэміі навук БССР, 1963. – 58 с.

2. Бірыла, М.В. Беларуская антрапанімія: Уласныя імёны, імёны-мянушкі, імёны па бацьку, прозвішчы / М.В. Бірыла. – Мінск: Навука і тэхніка, 1966. – 328 с.

3. Королева, И.А. Становление русской антропонимической системы: Автореф. дис. д-ра филолог. наук / И.А. Королева: 10.02.01 / Московский педаг. гос. ун-т. – М., 2000. – 36 с.

4. Чичагов, В.К. Из истории русских имен, отчеств и фамилий (Вопросы русской исторической ономастики XV – XVII вв.) / В.К. Чичагов – М.: Просвещение, 1959. – 128 с.

## Дадатковая літаратура

5. Веселовский, С.Б. Ономастикон: Древнерусские имена, прозвища и фамилии / С.Б. Веселовский. – М.: Наука, 1974. – 382 с.

6. Мезенка, Г.М. Беларуская анамастыка: Навуч. дапаможнік для студэнтаў універсітэтаў / Г.М. Мезенка. – Мінск: Выш. школа, 1997. – 119 с.

7. Пеньковский, А.Б. Русские личные именования, построенные по двухкомпонентной модели «имя + отчество» / А.Б. Пеньковский // Ономастика и норма. М., 1976. – С. 80.

8. Ратнікава, І.Э. Аб некаторых спрэчных пытаннях словаўтварэння імя па бацьку ў сучаснай беларускай мове (у параўнанні з рускай) / І.Э. Ратнікава // Беларуская мова і літаратура ў школе. – Мінск, 1991. – С. 70 – 75.

9. Ратникова, И.Э. Место отчества как актуального эксплицитного патронима в ряду базовых антропонимических единиц / И.Э. Ратникова // Русский язык. Вып. 12. – Минск, 1992. С. 68 – 75.

## Трэніровачныя практыкаванні

***Практыкаванне 1.*** Вызначце, пры дапамозе якога суфікса ўтвараліся старажытныя імёны па бацьку. У якіх сучасных жаночых імёнах па бацьку гэты суфікс захаваўся ў якасці рэлікта?

*Вячеславъ сын Ярославль (1057), посадник Костянтин сын Добрынь (1018), Иванко Вячеславль (1127).*

***Практыкаванне 2.*** Утварыце ад наступных імён мужчынскія і жаночыя імёны па бацьку.

*Алфей, Альфій, Алфёр, Алферый, Анань, Ананій, Анікій, Анікей, Анастас, Анастасій, Анатоль, Анатолій, Аніс, Анісій, Антон, Антоній, Аркадзь, Аркадзій, Арцём, Арцемій.*

***Практыкаванне 3.*** Ці існуюць правілы ўтварэння імён па бацьку ад двайных уласных імён? Якім можа быць афіцыйны запіс у дакументах хлопчыка па імені *Антон*, калі яго бацьку завуць *Пётр-Часлаў*?

***Практыкаванне 4.*** Утварыце ад наступных імён мужчынскія і жаночыя імёны па бацьку.

*Гаўрыіл, Данііл, Гаўрыла, Даніла, Ізмаіл, Міхаіл, Самуіл; Леў, Павел, Якаў, Проў; Яраслаў, Святаслаў, Вячаслаў; Анціпа, Вавіла, Засіма, Ваха, Шалва.*

***Практыкаванне 5.*** Ад імён *Анікіта, Мікіта, Міна, Сава, Сіла, Фока* ўтварыце мужчынскія і жаночыя імёны па бацьку.

***Практыкаванне 6.*** Утварыце ад наступных імён мужчынскія і жаночыя імёны па бацьку.

*Жорж, Казімеж, Герц, Мкртіч, Мініч, Лукаш, Важа, Гоча, Лель, Віль, Эміль, Алесь, Каміль, Шаміль.*

***Практыкаванне 7.*** Утварыце ад наступных імён мужчынскія і жаночыя імёны па бацьку.
*Васілій, Юлій, Вікенцій, Лаўрэнцій, Цярэнцій; Нікій, Люцый, Стахій, Дзмітрый, Лоллій; Менея, Ананія, Захарыя, Ахія, Малахія.*

***Практыкаванне 8.*** Утварыце мужчынскія і жаночыя імёны па бацьку ад імён *Ілля, Лука, Кузьма, Фама.* Як вымаўляюцца жаночыя імёны па бацьку ад гэтых імён на рускай мове?

***Практыкаванне 9.*** Прачытайце рады імён. Адкажыце, ці аднолькавыя формы імён па бацьку ўтвараюцца ад наступных імён. Запішыце іх.

*Георгій – Юрый – Ягор – Рыгор;*
*Якаб – Якуб – Якуп – Якаў;*
*Марк – Маркел – Маркей – Маркій – Маркіян;*
*Жан – Іван; Ліадор – Іліадор;*
*Абдулла – Габдулла; Сімон – Сямён;*
*Рафаіл – Рафаэль; Венядзікт – Бенядзікт.*

З дапамогай слоўніка павялічце рады.

***Практыкаванне 10.*** Ад варыянтаў аднаго імені ці ад розных імён паходзяць наступныя імёны па бацьку? Укажыце, ад якіх. Вусна ўтварыце ад іх жаночыя імёны па бацьку.

*Аўрэліянавіч - Аўрэльевіч, Агапавіч - Агап'евіч - Агапітавіч, Агафонавіч - Агафонікавіч, Амбросавіч – Амбросьевіч - Амвросьевіч, Арсенавіч - Арсеневіч - Арсенцьевіч, Арцем'евіч – Арцямонавіч – Арцёмавіч, Барыслававіч - Барысавіч, Валенцьевіч – Валентавіч – Валянцінавіч - Валенціёнавіч, Васімавіч – Васавіч – Васіянавіч, Васілеевіч – Васільевіч – Васілевіч, Віктаравіч – Віктор'евіч – Віктарынавіч, Віталіянавіч – Віталевіч - Вітальевіч.*

***Практыкаванне 11.*** Ад імён *Вахтангій, Віргіліуш, Густаў, Ежы, Іонас, Кароль, Макс, Матэвуш, Меер, Міхель, Міхл, Ота, Сауд, Франц, Франко, Цімур, Ян, Яніс* утварыце мужчынскія і жаночыя імёны па бацьку.

***Практыкаванне 12.*** Ад рэдкаўжывальных імён *Аза, Вата, Зіна* і пад. у апошні час утвараюць імёны па бацьку *Азавіч, Ватавіч, Зінавіч*. Як вы лічыце, пра што могуць сведчыць існуючыя прозвішчы *Азін, Вацін, Зінін*, утвораныя ад тых жа імён?

***Практыкаванне 13.*** Перакладзіце імёны на беларускую мову, пры дапамозе слоўніка патлумачце, з якой мовы яны да нас прыйшлі і што абазначаюць, утварыце ад іх імёны па бацьку.

*Абдулла, Август, Авдей, Авенир, Амадей, Анатолий, Анфим, Бертрам, Бойко, Вадим, Велемир, Ганнибал, Гаффар, Дементий, Джузеппе, Евгений, Евсевий, Ефим, Иероним, Иммануил, Кирьян, Кристиан, Леонард, Мариус, Прокофий, Степан, Тит.*

***Практыкаванне 14.*** Спішыце. Дзе трэба ўстаўце прапушчаныя літары. Напісанне патлумачце.

*Ал…ксандравіч, Ал…ксеевіч, Анці…ох, Аўрэлі…н, Бал…слававіч, Бен…дзіктавіч, Б…ртольдавіч, Б…рнардавіч, Валер…евіч, Вал…дэмаравіч, Вал…р…янавіч, Вікенц…евіч, Га…рылавіч, Дарм…донтавіч, Да…монтавіч, Ды…генавіч, Зіно…евіч, З…нонавіч, Ем…льянавіч, І…гудавіч, Іману…лавіч, Іпац…евіч, Н…фёдавіч, Па…лінавіч, Пафнуц…евіч, Пракоф…евіч, Радзі…он, Грыгор…евіч, Савел…евіч, Саму…левіч, Сев…рынавіч, Ц…рэнцьевіч, Эл…ясавіч, Юлі…савіч.*

## Пытанні і заданні для самакантролю

1. Ці згодны вы з меркаваннем навукоўцаў наконт другаснасці імён па бацьку ў адносінах да прозвішчаў? Патлумачце сваю думку.

2. Чаму да цяперашняга часу пытанне аб размежаванні прозвішчаў і імён па бацьку з’яўляецца адным са складанейшых у рускай і беларускай анамастыцы?

3. Што сведчыць пра фарміраванне ў XVI – XVIII стст. патронімаў як афіцыйнай антрапанімічнай катэгорыі?

4. Што, на вашу думку, дае магчымасць размяжоўваць у гістарычных помніках аманімічныя імёны па бацьку і прозвішчы?

5. Ці магло раней утварацца імя па бацьку не толькі ад кананічнага імені але і ад імені-мянушкі?

6. Ці выкарыстоўвалася раней імя па бацьку як знак сацыяльнага размежавання?

7. Якія, на вашу думку, найменні могуць разглядацца як прадвеснікі прозвішчаў на Беларусі? Чаму?

8. Якія функцыі сёння выконвае імя па бацьку?

9. Як вы лічыце, чаму менавіта на ўсходнеславянскіх землях імя па бацьку стала абавязковай афіцыйнай антрапанімнай адзінкай?

10. Пры дапамозе якіх фармантаў утвараецца імя па бацьку сёння?

11. Ці трэба, на ваш погляд, пры наданні імені ўлічваць яго спалучальнасць з іменем па бацьку?

12. Чаму мы можам гаварыць, што ў беларусаў імя па бацьку да сённяшняга часу застаецца абавязковым элементам толькі ў афіцыйнай сферы ўжывання? Прывядзіце прыклады ўстойлівага ўжывання двухчленных называнняў у мастацкай літаратуры, у сродках масавай інфармацыі.

13. З якога перыяду графа “імя па бацьку” становіцца абявязковай у афіцыйных дакументах беларусаў? Рускіх?

14. Ці можна з упэўненасцю сцвярджаць, што жаночыя найменні *Некрасья, Давыжая, Васильевая, Павловая, Иваняя* – патронімы?

15. З якімі праблемамі, на вашу думку, могуць з цягам часу сутыкнуцца асобы з афіцыйна зарэгістраванымі імёнамі *Алік, Ален, Гарры, Дабрыня, Жора, Жорж, Пітэр, Рудзік, Эддзі, Яраполк* і пад.?

## ПРОЗВІШЧЫ

**Ключавыя словы:** *прозвішча, першасныя прозвішчы, другасныя прозвішчы, прозвішчаўтваральны фармант, апелятыў, субстантыўнае прозвішча, ад’ектыўнае прозвішча, трансанімізацыя, патранімічны фармант, матранімічны фармант, агульнаславянскі прозвішчны тып, усходнеславянскі прозвішчны тып, унутрымоўны прозвішчны тып, семантычнае поле, ядро семантычнага поля, каляядзерная прастора семантычнага поля, перыферыя семантычнага поля, мікраядро семантычнага поля, сектар семантычнага поля, адапелятыўнае прозвішча, адтапанімнае прозвішча, адыменнае прозвішча, nomina personalia, nomina impersonalia.*

## Структура і распаўсюджанне прозвішчаў

Марфалагічную структуру сучасных прозвішчаў складаюць прозвішчная аснова і прозвішчны фармант. Фінальныя элементы прозвішчаў – *-аў, -ін, -скі, -овіч, -енка, -онак, -еня* і інш. – не мэтазгодна называць ні суфіксамі, бо ў этымалагічным плане гэта не ў поўнай меры суфіксы, ні канчаткамі, таму што гістарычна яны выконвалі канкрэтную словаўтваральную функцыю. Для называння такіх элементаў найлепш выкарыстоўваць тэрмін “прозвішчныя (прозвішчаўтваральныя) фарманты”, паколькі ён аб’ядноўвае ў сваім значэнні і паняцце суфікса, і паняцце канчатка, падкрэслівае сучасную статычнасць гэтай часткі прозвішча.

Па структуры ўсе прозвішчы дзеляцца на ***першасныя*** і ***другасныя*** (упершыню такі падзел прапанаваў акадэмік М.В. Бірыла ў працы “Беларускія антрапанімічныя назвы ў іх адносінах да антрапанімічных назваў іншых славянскіх моў (рускай, украінскай, польскай)”) [3].

***Першасныя*** – прозвішчы, утвораныя ад уласных асабовых імён і мянушак **без далучэння** прозвішчаўтваральных фармантаў: напрыклад, прозвішча *Сяргун* паходзіць ад Сяргун – размоўна-бытавой формы кананічнага імені Сергий; прозвішча *Рыбка* – ад мянушкі Рыбка, а тая – ад апелятыва *рыбка*. Да першасных належаць таксама прозвішчы *Сянчура, Фядура, Васёха, Сашко, Пятруша, Пятрага; Зубко, Босы, Крук, Ламач, Барадзюля, Плакса* і інш.

***Другасныя*** – прозвішчы, утвораныя шляхам далучэння прозвішча-ўтваральных фармантаў да імён ці іх форм, мянушак або тапонімаў: *Базыл-ёў* < Базыль + *-ёў*, *Андрухін* < Андрух-а + *-ін*, *Жарскі* < Жар-ы + *-скі*.

Першасныя прозвішчы займаюць значнае месца ў сучасным беларускім антрапаніміконе. Вядома, што сярод славянскіх народаў першасныя прозвішчы пераважаюць у чэхаў і славакаў, вельмі распаўсюджаны ў палякаў, з усходніх жа славян – ва ўкраінцаў. У рускай антрапаніміі першасныя прозвішчы сустракаюцца рэдка, таму некаторыя даследчыкі (А.В. Супяранская, А.У. Суслава) называюць іх “нестандартнымі”.

Першасныя прозвішчы ўтрымліваюць у сабе 1) апелятыўныя назоўнікі (такіх прозвішчаў найбольш), 2) уласныя імёны, 3) апелятыўныя прыметнікі.

У сувязі з гэтым сярод першасных прозвішчаў выдзяляюць антрапонімы ***субстантыўнага*** і ***ад'ектыўнага*** характару.

Да прозвішчаў ***субстантыўнага*** характару адносяцца тыя, што супадаюць з назоўнікамі-апелятывамі (*Ціхоня, Гарбель, Валасач, Перагуд, Рабацяга*) або ўласнымі асабовымі імёнамі ці іх формамі (*Багдан, Вусцін, Бернат, Ісай, Пілат, Валодзька, Пронька*). Агульная рыса такіх адзінак – адсутнасць у іх родавай карэляцыі. Носьбітамі прозвішчаў могуць быць прадстаўнікі абодвух полаў, пры гэтым антрапонімы не маюць нейкіх спецыфічных распазнавальных форм. Інакш кажучы, прыналежнасць субстантыўных прозвішчаў асобам мужчынскага або жаночага полу не залежыць ад граматычнага роду апелятыва, пакладзенага ў аснову прозвішча, а вызначаецца спалучальнасцю з асабовым уласным іменем або ад'ектыўным азначэннем: Васіль *Рабацяга,* Алена *Рабацяга,* таленавіты Іван *Валасач,* прыгожая Святлана *Валасач*. Калі носьбітамі з'яўляюцца прадстаўнікі розных полаў, то словаўтваральныя парадыгмы аднаго і таго ж прозвішча, як правіла, адрозніваюцца: бачыў Івана *Пілата* і Алену *Пілат,* пазнаёміўся з Віктарам *Кірпічом* і Ірынай *Кірпіч,* разам з Алесем *Ціхонем* і Галінай *Ціхоняй.* Як бачым, прозвішча скланяецца з улікам рэальнага полу асобы.

Да прозвішчаў ***ад'ектыўнага*** характару належаць адзінкі, што суадносяцца з прыметнікамі: *Белы, Гладкі, Голенькі, Сівы, Харошанькі, Чорны, Шчаслівы, Ясны.* Граматычнай прыметай такіх антрапонімаў з'яўляецца наяўнасць у іх родавай карэляцыі: форма роду прозвішча непасрэдна залежыць ад полу яго носьбіта: Павел *Сівы* і Ала *Сівая.* Ад'ектыўныя прозвішчы скланяюцца, як і адпаведныя прыметнікі.

Першасныя прозвішчы могуць быць аманімічныя як з вытворнымі *(Гарбель, Нядбайла, Паўтаруха, Пляскач, Тарапыня, Ціхоня),* так і з невытворнымі апелятывамі-назоўнікамі *(Гуз, Жыжа, Качан, Квач, Колас, Крук, Піла, Пята, Шаг, Шкумат).*

У першасных прозвішчах, што супадаюць з вытворнымі назоўнікамі, можна вылучыць найбольш частотныя фінальныя элементы.

Найперш гэта фармант ***-ка/-ко*:** *Бялько, Зявалка, Крыўко, Малько, Пляшко, Пузатка, Сіўко.* Такія прозвішчы даволі распаўсюджаны на тэрыторыі Беларусі. У рускіх яны лічацца рэдкаснымі, ва ўкраінцаў з'яўляюцца частотнымі. Такая высокая прадуктыўнасць прозвішчаў на *-ка/-ко* на тэрыторыі Беларусі можа быць растлумачана некалькімі прычынамі.

Па-першае, тып на *-ка/-ко* папулярны ў народна-дыялектнай мове [19], дзе ўтвараюцца а) аддзеяслоўныя назоўнікі па занятку, прафесіі асобы, а таксама па схільнасці да названага дзеяння, часта з экспрэсіяй неадабрэння: параўн. прозвішчы *Хавайка* – магчыма, ад асабовага назоўніка ці мянушкі (х)Хавайка 'чалавек, які нешта хавае або сам ад некага хаваецца', *Пацалуйка* – ад (п)Пацалуйка 'той, хто любіць цалавацца', а таксама *Падвалочка, Прыходзька, Разумейка, Сапко, Хадыка;* б) неасабовыя аддзеяслоўныя назоўнікі, якія ў выніку метафарычнага пераносу маглі стаць мянушкамі, а пасля трансанімізацыі перайсці ў разрад прозвішчаў: параўн. прозвішчы *Жыгалка* – магчыма, ад апелятыва *жыгалка* < *жыгаць, Шыпко* –

ад *шыпко* < *шыпець, Налівашка* – ад *налівашка* < *наліваць;* в) толькі на тэрыторыі Віцебшчыны і Магілёўшчыны адпрыметнікавыя і аддзеепрыметнікавыя асабовыя і неасабовыя назоўнікі: параўн. прозвішчы *Патрэпка* – ад *патрапаны* або *патрэбны* пры [б] > [п], *Гарачка* – ад *гарачы, Бурко, Бяльхо, Глушко, Гняўко, Крыўко, Пузатка, Сіўко;* г) адсубстантыўныя асабовыя назоўнікі, якім у вялікай меры ўласціва тое, што названа ўтваральным словам, з экспрэсіяй пахвальнасці ці, наадварот, пагардлівасці (тып, як і папярэдні, рэгіянальны): прозвішчы *Пляшк*о – ад *плех* ’лысіна’, *Вусько, Кудзерка.*

Па-другое, значная колькасць прозвішчаў на *-ка/-ко* – вынік пераасэнсавання апелятываў, у складзе якіх прадуктыўны памяншальна-ласкальны суфікс *-к-*, уласцівы як літаратурнай, так і дыялектнай мове: *Аўчынка, Галаўко, Губко, Крапіўка, Лапко, Рыбка, Світко, Сіротка, Скурко, Ступка, Халяўка, Шчацінка, Шэйка.*

Па-трэцяе, частка прозвішчаў на *-ко* суадносіцца з дэмінутыўнымі формамі апелятываў-назоўнікаў мужчынскага роду на *-ок*/*-ёк*: параўн. *Глазко, Дубко, Зубко, Кавалько, Карабко, Клачко, Мяшко, Папко, Петушко, Пупко, Ражко, Рачко, Сняжко* і *глазок, дубок, зубок, кавалёк, карабок, клачок, мяшок* і г.д. Ю.К. Радзько бачыць прычыну замены суфікса *-ок* суфіксам *-ко* ў імкненні носьбіта прозвішча пазбавіцца аманіміі з адпаведнай агульнай назвай [17, с. 142].

Часам назіраецца штучная замена флексіі *-ка* на *-ко* ў прозвішчах, аманімічных адпаведным назоўнікам. Відаць, прычына такой з’явы ў названым ужо вышэй жаданні носьбіта пазбавіцца супадзення прозвішча з апелятывам, асабліва ў тых выпадках, калі семантыка апошняга з’яўляецца непрыемнай для чалавека: *Банько, Башко, Дубінко, Дырко, Кабылко, Кішко, Скурко.*

Частку беларускіх прозвішчаў можна суаднесці з дзеясловамі: *Заруба* (зарубіць), *Засека* (засекчы), *Недасек, Недасека* (не дасекчы), *Падрэз* (падрэзаць), *Падскок* (падскочыць), *Перагуд* (перагусці), *Прышчэпа* (прышчапіць). Паколькі прэфіксацыя не характэрна пры ўтварэнні прозвішчаў, то хутчэй за ўсё прыведзеныя антрапонімы – вынік трансанімізацыі мянушак або нецаркоўных імёнаў, якія ўтварыліся ад адпаведных дзеясловаў: *Заруба* < мянушка або нецаркоўнае імя Заруба ’той, якога ледзь не *зарубілі* (у баі, на вайне)’, *Засек(а)* < Засек(а) ’той, каго не змаглі *засекчы*’, *Падскок* < Падскок ’чалавек, які пры хадзе *падскоквае*’.

Шэраг прозвішчаў супадае са складанымі словамі, утворанымі ад спалучэнняў а) **прыметнік + назоўнік**: *Беладзед, Белавус, Белагалоўка, Даўгапол, Крывалап, Крыванос, Крываручка, Старавойт, Чарнавок, Чарнавус, Шалахвост;* б) **назоўнік + дзеяслоў**: *Бабавоз, Бабаед, Жарнасек;* в) **займеннік + дзеяслоў**: *Самалёт;* г) **прыслоўе + дзеяслоў**: *Скараход.* Адзначаныя прозвішчы з’яўляюцца нечастотнымі.

У якасці першасных сустракаюцца таксама прозвішчы, што суадносяцца з уласнымі асабовымі імёнамі. Пры гэтым выкарыстоўваюцца як хрэсныя славянскія, так і запазычаныя неславянскія (яўрэйскія, арабскія,

латышскія) імёны ў літаратурнай і дыялектнай формах, а таксама ўсечаныя формы імёнаў і імёны з суфіксамі суб'ектыўнай ацэнкі. А.В. Супяранская адзначае, што паходжанне такіх прозвішчаў рознае. Яны могуць належаць да той пары, калі ў карыстанні былі два імені – нецаркоўнае і царкоўнае. Нельга адмаўляць і верагоднасць адваротнай дэрывацыі з прозвішчаў тыпу *Іваноў* > Іван. Трэба памятаць і пра тое, што зыходныя імёны ў якасці прозвішчаў даваліся часам асобам, якія паступалі ў семінарыі [8, с. 70].

Па структуры імёны, ад якіх утварыліся адпаведныя прозвішчы, могуць быць **вытворнымі** *(Генюш, Грышан, Івашура, Касцень, Мацюш, Пашко, Пятрышча, Семянюга, Стануль)* і **невытворнымі**. Сярод невытворных перавага належыць літаратурным формам: параўн. прозвішчы *Вавіла, Гардзей, Дзямід, Зыгмунт, Кандрат, Максім, Фларэнц, Харытон* і адпаведныя ўласныя асабовыя імёны Вавіла, Гардзей, Дзямід, Zygmunt, Кандрат, Максім, Фларэнц, Харытон. Зрэдку сустракаюцца ўтварэнні ад дыялектных форм імён: *Войцыг, Лазер, Логвін, Міхаль, Ходас, Хрол.*

Прозвішчы могуць адрозніваццa ад аманімічных імён фіналлю: параўн. прозвішча *Вернела* і імя Варнель (< Варнава), *Язэпа* і Jozef, *Самуйла* і Самуил. Прычына разыходжання можа быць не толькі ў дзеянні закона адкрытага склада, але і ў імкненні прозвішча адмежавацца ад імені.

Сярод прозвішчаў, што ўзніклі шляхам трансанімізацыі (пераходу імён з аднаго класа ў другі; у гэтым выпадку з класа ўласных асабовых імён у клас прозвішчаў) з **вытворных** імён, вылучаецца некалькі структурных груп: 1) адзінкі, у аснове якіх імёны з усечанай асновай: *Міх* < Міх < Міхаіл, *Том* < Том < Tomasz; 2) прозвішчы, што супадаюць з вытворнымі імёнамі першага дэрывацыйнага рада: *Карпуць* < Карпуць < Карп, *Лукша* < Лукша < Лука ці Лук'ян, *Мірош* < Мірош < Мірон, *Пятрага* < Пятрага < Пётр, *Фалько* < Фалько < Фалалей; 3) антрапонімы, у аснове якіх імёны другога дэрывацыйнага рада, утвораныя ад імёнаў першага дэрывацыйнага рада: *Івашура* < Івашура < Іваш < Іван, *Кіраёк* < Кіраёк < Кірэй < Кір або Кірыл, *Міхейка* < Міхейка < Міхей < Міхаіл, *Пашута* < Пашута < Паша < Павел; 4) прозвішчы, што паходзяць ад вытворных імён трэцяга дэрывацыйнага рада: *Сянчура* < Сянчура < Сенька < Сеня < Сямён.

Дэталёвы аналіз адыменных прозвішчаў дазваляе выявіць самыя папулярныя ў перыяд прозвішчаўтварэння формы імён і фарманты ў іх.

Надзвычай высокай прадуктыўнасцю вылучаецца суфікс *-к-*: прозвішчы *Амялюшка* (< Амялюшка < Емельян), *Аношка* (< Аношка < Анания), *Аўдошка* (< Аўдошка < Евдоким), *Бартошка* (< Бартошка < Bartłomiej), *Міцько* (< Міцько < Димитрий), *Пашко* (< Пашко < Павел). На высокую частотнасць названага суфікса звяртаў увагу яшчэ М. В. Бірыла, які пісаў, што ў помніках XVI–XVIII стст. з суфіксам *-к-* засведчаны 72 формы ад 50 імёнаў. Разам зафіксавана ў помніках і рэканструявана па сучасных беларускіх прозвішчах 195 форм на *-ко*/*-ка* ад 143 уласных асабовых імён [15, с. 175].

Прычына такой папулярнасці адзначанага суфікса бачыцца, па-першае, у яго характары: суфікс надае імёнам эмацыянальна-экспрэсіўнае адценне,

дазваляе выказаць адносіны гаворачага да той асобы, да якой звяртаюцца ці якая з’яўляецца прадметам гутаркі; па-другое, у яго шырокіх спалучальных магчымасцях, бо суфікс -*ка*/-*ко* можа далучацца як да поўнай іменнай асновы (Дзямідка < Дзямід, Панцялейка < Панцялей), так і да ўсечанай, што і адбываецца ў пераважнай большасці прыкладаў (*Люцько* < Люцько < Łucjan, *Тамко* < Тамко < Tomasz), а таксама да вытворных імён, якія ўжо маюць суфіксы (*Кірушка* < Кірушка < Кіруша < Кірыл).

Першасныя субстантыўныя прозвішчы сведчаць, што дастаткова прадуктыўнымі (хоць і ў меншай ступені, чым -*ка*/-*ко*) падчас прозвішчаўтварэння былі наступныя фіналі ў асабовых імёнах:

***-уш//-юш, -уша****: Барт****уш****, Ген****юш****, Мац****юш****, Стан****юш****, Як****уш****, Ян****уш****; Лук****уша****;*

***-уль****: Барт****уль****, Вайц****юль****, Макс****уль****, Март****уль****, Стан****уль****, Сташ****уль****;*

**-ш, -ша**: *Герма****ш****, Кана****ш****, Міро****ш****, Тума****ш****, Ярмо****ш****; Лук****ша****;*

***-ага, -уга//-юга, -ыга***: *Юр****ага****, Пятр****ага****; Вял****юга****, Семян****юга****; Сям****ыга****;*

***-ель***: *Варн****ель****, Вашк****ель****, Грыг****ель****, Юрг****ель****;*

***-ута***: *Лаг****ута****, Міш****ута****, Паш****ута****, Як****ута****;*

***-ура***: *Іваш****ура****, Сав****ура****, Сянч****ура****, Фяд****ура****;*

***-уць***: *Карп****уць****, Петр****уць****, Сав****уць****, Ян****уць****;*

***-на//-но***: *Алёх****на****, Міх****на****, Міх****но****, Юх****но****.*

Надзвычай рэдка сустракаюцца наступныя фарманты, якія фіксуюцца ў адзінкавых прыкладах: ***-ун//-юн*** (*Міс****юн****, Сярг****ун***), ***-ень*** (*Касц****ень***), ***-ан*** (*Грыш****ан***), ***-нь*** (*Гры****нь***), ***-ас*** (*Ян****ас***), ***-ус*** (*Ян****ус***), ***-сь*** (*Габры****сь****, Суце****сь****,*), ***-ека*** (*Карп****ека***), ***-ок//-ёк//-эк*** (*Канан****ок****, Кіра****ёк****, Бор****эк***), ***-еза*** (*Карп****еза***), ***-ышча*** (*Пятр****ышча***), ***-ц*** (*Гры****ц***), ***-аш//-ош*** (*Барт****ош****, Міл****аш***), ***-ей*** (*Багдз****ей****, Куз****ей***), ***-ух//-юх*** (*Ант****ух****, Арц****юх***), ***-ех//-ёх*** (*Вас****ех****, Вас****ёх***).

Акрамя прааналізаваных вышэй, да першасных варта аднесці яшчэ дзве групы прозвішчаў: 1) антрапонімы з “непразрыстай”, “цьмянай” асновай, якія па структуры блізкія да апелятываў: *Анільяк, Антопуш, Арсоба, Бізня, Болуш, Брэмза* і да т.п.; 2) запазычаныя прозвішчы, якія не маюць адпаведных уласна беларускіх, агульнаўсходнеславянскіх або агульнаславянскіх прозвішчаўтваральных фармантаў. Сярод іх значнае месца належыць антрапонімам літоўскага паходжання а) на -*ель* з -*elis*: *Гігель* – літ. gigẽlis ’палявы хвошч’; *Даргель* – літ. darželis ’кветнік’; *Дубнель* – літ. dubenẽlis ’сподачак’, а таксама *Апель, Бездзель, Вашкінель, Догель, Жынгель, Зюзель, Лаўжэль, Цынгель, Цыунель, Шакель, Шудзель.* Дарэчы, суфікс -*elis* у літоўскай мове з’яўляецца адным з самых прадуктыўных словаўтваральных фармантаў. Дэрываты на -*elis* маюць памяншальнае ці ласкальнае адценне; б) на -*уль* з -*ulis*: *Брузгул* – літ. bruzgúlis ’ваўчок’, ’закрутка’; *Раўгуль* – літ. raugulỹs ’адрыжка’, а таксама *Гасюль, Жагуль, Ундруль* і інш. Даследчыкі адзначаюць наступную заканамернасць: сучасныя беларускія прозвішчы на -*уль* бытуюць на той жа тэрыторыі, што і айконімы з названым фармантам: часцей за ўсё гэта раёны, якія мяжуюць з Літвой; в) на -*ас, -іс, -ус*: *Шакаліс* – літ. šakalỹs ’лучына, трэска’; *Протас* – літ. protas ’розум’; *Валюкас* – літ. valiukas ’свавольнік’; *Грудзіс* – літ. grudis ’штурханіна, таўкатня’, а таксама

*Балтаданіс, Брачас, Брэдзіс, Вайчаніс, Еўдальніс, Журкеліс, Каркаліс, Кіулінас, Макутэнус, Марчулайкіс, Масюліс, Мільтакіс, Талуціс, Труліс, Трыбіс, Тускенус, Шкімеліс, Ядагальвіс, Яўнас* і інш. Прыведзеныя адзінкі, як правіла, не асвоены беларускай мовай і гучаць як адпаведныя літоўскія апелятывы. У літоўскай мове *-as, -us, -ys, -is* – гэта канчаткі назоўнікаў у адзіночным ліку.

Шэраг прозвішчаў утрымлівае германскія фарманты а) ***-сон*** з *Sohn* ’сын’: *Давідсон, Ітэльсон, Петэрсон, Юргінсон, Якабсон, Янсон;* б***) -ман*** ’муж’ або ’чалавек па імені’: *Балман, Бауман, Бляхман, Глейдман, Дрэйман, Ландсман, Нірман, Эрдман* і інш.; в) ***-берг*** з *der Berg* ’гара’: *Глімберг, Ліндзінберг, Міндзенберг, Родберг, Станберг, Тамберг;* г) ***-ер***: *Бахер, Лабер, Лаўдзер, Лігер, Ліснер, Мільдзер.*

Нягледзячы на тое, што ў нямецкай мове адзначаныя вышэй фарманты з’яўляюцца прозвішчаўтваральнымі, а некаторыя з іх носяць там патранімічны (*-сон, -ман*) або матранімічны (*-ман*) характар, у беларускай анамастыцы ўсё ж мэтазгодна аднясенне такіх антрапонімаў да першасных, бо ў славянскай антрапанімнай сістэме названыя фарманты не выступаюць у якасці прозвішчаўтваральных.

Асобныя прозвішчы маюць яскравыя структурныя рысы грузінскай, армянскай, кітайскай, татарскай і іншых антрапанімных сістэм: *Кандынашвілі, Бакшчанян, Сцепанян, Шэйвян, Джу-лі-Джан, Зав-Ды-Ян, Алі-Аглы.*

Такім чынам, першасныя прозвішчы даволі распаўсюджаны на тэрыторыі Беларусі. Асноўную іх большасць складаюць утварэнні ад назоўнікаў-апелятываў, значна менш адзінак, што паходзяць ад уласных асабовых імёнаў. Прозвішчы ад’ектыўнага характару з’яўляюцца самымі непрадуктыўнымі.

Пераважная большасць першасных прозвішчаў, аманімічных назоўнікам-апелятывам, мае ў сваім складзе фіналі, прадуктыўныя ў жывой народнай мове, што не з’яўляецца выпадковым: працэс фарміравання прозвішчаў падпарадкоўваўся традыцыям і законам, уласцівым дыялектнай мове. Сучасныя ж прозвішчы ілюструюць вынікі дзеяння гэтых традыцый.

Для прозвішчаў, утвораных ад уласных асабовых імён і іх форм, характэрна перавага адзінак, што супадаюць з вытворнымі імёнамі першага дэрывацыйнага рада. Значна менш антрапонімаў, якія суадносяцца з поўнай гутарковай або з усечанай формай імён, а таксама з вытворнымі імёнамі другога і трэцяга дэрывацыйных радоў.

Ад’ектыўныя прозвішчы часцей супадаюць з вытворнымі, чым з невытворнымі прыметнікамі.

Другасныя прозвішчы ўтвораны пры дапамозе спецыяльных прозвішчаўтваральных фармантаў, да ліку якіх адносяцца *-оў/-еў/-аў, -ін/-ын, -овіч/-евіч/-авіч, -іч/-ыч/-ыц, -скі/-цкі, -ук/-юк, -чук, -енка/-энка/-анка, -онак/-ёнак, -еня/-эня*, а таксама некаторых з тых, што ўжываюцца ў першасных прозвішчах – *-ак/-як, -ік/-ык, -ец/-эц.* У першасных прозвішчах апошнія з пералічаных фармантаў з’яўляюцца элементам дапрозвішчнага

ўтварэння і таму не выконваюць антрапанімнай функцыі. Гэтыя ж фарманты ў другасных прозвішчах служаць сродкам утварэння прозвішчаў.

М.В. Бірыла згрупаваў усе славянскія прозвішчы, вылучыўшы ***агульнаславянскія, усходнеславянскія*** і ***ўнутрымоўныя*** прозвішчныя тыпы [5].

Да ***агульнаславянскіх*** прозвішчных тыпаў належаць наступныя: тып на *-оў/-еў/-аў, -ін/-ын*, тып на *-скі/-цкі*, тып на *-іч/-ыч/-ыц*, тып на *-ак/-як*, тып на *-ік/-ык/-чык*, тып на *-ец/-эц, -авец.* Прозвішчы з пералічанымі фармантамі характэрны для ўсіх славянскіх моў.

**Прозвішчы на *-оў/-еў/-аў*** разгледзім разам з адзінкамі на ***-ін/-ын***, паколькі выбар аднаго з двух фармантаў залежыць толькі ад характару асновы, да якой ён далучаўся. Пры дапамозе фарманта *-оў/-еў/-аў* звычайна ўтвараюцца прозвішчы ад мужчынскіх імён і ад апелятываў-назоўнікаў мужчынскага роду, пры дапамозе фарманта *-ін/-ын* – ад жаночых імён і апелятываў-назоўнікаў жаночага і ніякага роду. Абодва фарманты носяць патранімічны або матранімічны характар.

Прозвішчны тып на *-оў/-еў/-аў, -ін/-ын* займае дамінуючае месца ў беларускім антрапаніміконе. Пры ўтварэнні такіх прозвішчаў фарманты *-оў/-еў/-аў, -ін/-ын* далучаліся да імён-мянушак *(Голікаў, Барадаўкін, Лапцеў, Пранікаў, Свістуноў, Талсташоў, Шапавалаў)* і да хрэсных імён і іх форм *(Ванюшын, Грышаеў, Дзянісаў, Касцюкоў, Лукашоў, Мінін)*.

Прозвішчаўтваральныя асновы ў залежнасці ад характару дзеляцца на: 1) **невытворныя** бяссуфіксныя: *Архіп-аў, Аўдзе[j-э]ў, Бог-аў, Горб-аў, Гуз-аў, Жар-аў, Зык-аў, Панкрат-аў, Цімафе[j-э]ў, Шыб-ін;* 2) **вытворныя** суфіксальныя, што яшчэ ў дапрозвішчны перыяд далучылі пэўныя суфіксы: *Арцюх-оў, Багацік-аў, Беляк-оў, Грыша[j-э]ў, Петрык-аў, Піскун-оў.*

Зрэдку прозвішчаўтваральны фармант далучаўся да асновы, што мела не адзін, а два суфіксы: *Іван-ач-к-ін, Міш-ур-к-ін, Паўл-юч-к-оў, Сім-ач-к-ін, Сярг-уш-к-ін, Ян-усь-к-ін* і інш.

Прозвішчы могуць утрымліваць у сваім складзе не адзін, а два прозвішчаўтваральныя фарманты: *Агеенкаў, Барысенкаў, Дзёмінаў, Ільіноў, Кузьмічоў, Лагуненкаў, Матвеічаў, Паўлючэнкаў, Савінаў, Салдаценкаў, Фаміноў, Фільчанкаў.* Ва ўсіх прыведзеных прыкладах можна вылучыць па дзве прозвішчаўтваральныя ступені. Напрыклад, прозвішча *Барысенкаў* паходзіць ад *Барысенка,* апошняе ж – ад уласнага асабовага імені Барыс. Фарманты *-енка* і *-аў*, як вядома, носяць патранімічны характар, таму *Барысенка* – першая прозвішчаўтваральная ступень, а *Барысенкаў* – другая. Графічна працэс утварэння прозвішча *Барысенкаў* выглядае так: Барыс > *Барысенка* > *Барысенкаў.* Прозвішчы трэцяй і больш ступеняў таксама сустракаюцца ў беларускай мове. Наяўнасць такіх адзінак у антрапаніміконе яшчэ раз пацвярджае той факт, што фарміраванне прозвішчаў – працэс паступовы і працяглы.

У якасці прозвішчаўтваральнай часам выкарыстоўвалася аснова складаных назоўнікаў мужчынскага роду з нулявой флексіяй. Такія назоўнікі паходзяць ад спалучэнняў: а) назоўнік + дзеяслоў: шапкі валяць (валяць

’вырабляць’) > Шапавал > *Шапавалаў;* казу даіць > Казадой > *Казадоеў,* а таксама *Валкарэзаў, Вінакураў, Канавалаў, Кашавараў, Маслабоеў, Мукамолаў, Трудалюбаў;* б) прыметнік + назоўнік: старая вера > Старавер > *Старавераў;* стары дуб > Старадуб > *Старадубаў,* а таксама *Белагалоўкін, Белашапкін, Дабрамыслаў, Талсташэеў;* в) займеннік + дзеяслоў: сам хваліцца > Самахвал > *Самахвалаў;* сам звоніць > Самазвон > *Самазвонаў,* а таксама *Самадураў, Самалётаў, Самацветаў;* г) прыслоўе + дзеяслоў: інакш ходзіць > Іназход > *Інаходаў;* красна ’прыгожа’ баяць > Краснабай > *Краснабаеў,* а таксама *Скараходаў, Сухавараў;* д) дзеепрыметнік + назоўнік: ламаны нос > Ламанос > *Ламаносаў;* е) прыслоўе + назоўнік: мала зямлі > Малазем > *Малаземаў; Малалетаў;* ж) лічэбнік + назоўнік: *Сакаралетаў, Трыгубкін.*

Такім чынам, прозвішчы на *-оў/-еў/-аў, -ін/-ын* па прадуктыўнасці займаюць сярод другасных першае месца на тэрыторыі Беларусі.

М.В. Бірыла лічыў, што адзінкі на *-оў/-еў/-аў* у беларускай прозвішчаўтваральнай сістэме стаяць некалькі асобна ад прозвішчаў, утвораных пры дапамозе іншых фармантаў. “Калі ж улічыць той факт, што ў народным асяроддзі імёны па бацьку не былі звычайным элементам у назве асобы, а карысталіся мянушкай (*Кирюха Косой*) ці формай прыналежнага прыметніка (*Кирюха Ваякин*), то зразумела, што гэта прозвішчы кніжнага ці дакладней канцылярскага паходжання” [3, с. 52]. Неабходна таксама памятаць, што “ў працэсе арганізацыі новай адміністрацыйнай структуры, пашырэння на беларускія гарады прынцыпаў рускага гарадскога самакіравання, упарадкавання памешчыцкага землекарыстання і прывядзення да прысягі ўсяго насельніцтва далучанай часткі Беларусі пры афармленні дакументаў большасць яго (насельніцтва) была аформлена прозвішчамі з суфіксамі *-ов/-ев*” [5, с. 41, 44].

Максімальнае распаўсюджанне прозвішчаў на *-оў/-еў/-аў, -ін/-ын* у беларускай мове адзначаецца ў Магілёўскай вобласці. У напрамку на захад назіраецца змяншэнне іх частотнасці: у Гродзенскай і паўднёвай частцы Брэсцкай абласцей яны сустракаюцца спарадычна ці нават адсутнічаюць зусім. У некаторых жа раёнах Віцебскай вобласці, якія мяжуюць з Расіяй, частотнасць прозвішчаў на *-оў/-еў/-аў, -ін/-ын* значна перавышае 50-працэнтны паказчык.

Ва ўкраінскай мове налічваецца 4% прозвішчаў на *-оў/-еў/-аў, -ін/-ын*, затое ў рускай яны складаюць каля 78% і займаюць па частотнасці першае месца.

**Прозвішчны тып на *-скі/-цкі*** па прадуктыўнасці займае другое месца на тэрыторыі Беларусі. Найбольш пашыраны такія прозвішчы ў Гродзенскай, Мінскай і заходняй частцы Віцебскай абласцей. Частотнасць названага тыпу ў рускай мове блізкая да сярэднебеларускай, а ва ўкраінскай мове – самая высокая на ўсходнеславянскай тэрыторыі і складае каля 17%. Сярод славянскіх моў самая багатая на такія прозвішчы балгарская, у якой іх доля складае каля 18%.

Асноўная большасць прозвішчаў гэтага тыпу ўтворана ад тапонімаў: *Ушацкі* < Ушачы, *Вярхоўскі* < Вярхоўе, *Добрынскі* < Добрына, *Чашніцкі* < Чашнікі. Значна менш адзінак, што паходзяць ад назваў асобы па імені, занятку або якой-небудзь характэрнай прыкмеце. У іх *-скі/-цкі* ўказвае на прыналежнасць і па функцыі набліжаецца да патранімічных фармантаў *-оў/-еў/-аў, -овіч/-евіч/-авіч*: *Карпоўскі* < Карп, *Макарскі* < Макар, *Касецкі* < касец, *Манецкі* < манец ’ілгун’, *Невядомскі* < невядомы.

У прозвішчах на *-скі/-цкі* вытворныя прозвішчаўтваральныя асновы пераважаюць над невытворнымі *(Баравіцкі, Баркоўскі, Галубіцкі, Гарадзецкі, Кашыцкі, Сінягоўскі, Траянскі; Горскі, Губскі, Жарскі, Крымскі).*

У некаторых выпадках назіраецца далучэнне фарманта да ўсечанай асновы тапоніма: *Гатоўскі* < Гатоў-кі; *Жураўскі* < Жураў-ка або Жураў-цы; *Палонскі* < Палон-ка; *Піруцкі* < Піруц-іна; *Сікорскі* < Сікор-ыца; *Сіняўскі* < Сіняў-ка.

Антрапонімы на *-скі/-цкі* паходзяць ад разнастайных у структурным плане прозвішчаўтваральных асноў тапонімаў. Вельмі рэдка выкарыстоўваюцца асновы імён і мянушак. У сувязі з гэтым слушнай з’яўляецца думка, што “ўзнікненне прозвішчаў на *-скі(-цкі)* з’яўляецца натуральным з пункту погляду славаўтваральнай сістэмы беларускай мовы. Таму нельга гаварыць, што падобныя прозвішчы ўзніклі пад уплывам польскай мовы. Аб уплыве польскай мовы можна гаварыць толькі ў сэнсе расшырэння вобласці ўжывання суфікса *-скі(-цкі)*... Гэта значыць пад уплывам польскай мовы – у выніку шырокай моды на “шляхецкія” прозвішчы на *-скі(-цкі)* – суфікс *-скі* стаў ужывацца ў некаторых утварэннях, у якіх пры адсутнасці гэтага ўплыву маглі б ужывацца іншыя суфіксы” [3, с. 36–37].

Па прадуктыўнасці **прозвішчны тып на *-овіч/-эвіч/-евіч/-авіч, -іч/-ыч/-ыц*** займае на тэрыторыі Беларусі трэцяе месца. Найбольш пашыраны на паўночнай ускраіне Мінскай вобласці ў зоне Вілейка – Крывічы – Бягомль, на ўсход – у зоне ад Барысава. Значна менш такіх прозвішчаў у паўднёва-ўсходняй частцы Гомельшчыны і ўсходзе Віцебшчыны.

Ва ўкраінскай мове антрапонімы гэтага тыпу складаюць 5%, у рускай – каля 2%, што тлумачыцца наданнем такім адзінкам у XVI–XVIII стст. саслоўнага адцення, абмежаваннем іх утварэння і ўжывання, дазволам карыстацца толькі выбраным асобам. Як адзначаў М.В. Бірыла, спасылаючыся на дадзеныя А.М. Селішчава, у Пскове, напрыклад, фарманты *-овичь, -евич* ва ўсіх прозвішчах былі заменены на *-ов, -ев* [5, с. 37].

Прозвішчы гэтага тыпу паходзяць ад **вытворных** *(Арцюх-овіч, Грын-евіч, Івашк-евіч, Міхн-евіч, Паўлюк-евіч, Петрак-евіч, Федук-овіч; Губар-эвіч, Лекар-эвіч, Піскун-овіч)* і ад **невытворных** асноў імён, іх форм, імён-мянушак апелятыўнага характару *(Багдан-овіч, Барыс-евіч, Аўгусцін-овіч, Карп-овіч; Бял-евіч, Зуб-овіч, Зубр-эвіч, Мях-овіч, Унук-овіч, Ус-овіч)* і таму носяць патранімічны характар.

**Прозвішчны тып на *-ец/-эц, -авец*** з’яўляецца малапрадуктыўным на тэрыторыі Беларусі. Генітыўна такія антрапонімы выражалі атрыбутыўнасць, указвалі на месца пражывання або паходжання, патранімічнасць.

Большая частка антрапонімаў на *-ец/-эц, -авец* утворана ад асноў тапонімаў: *Завадзінец* < Завадзін-а, *Латыгалец* < Латыгаль, *Баравец* < Барав-ое ці Барав-ыя, *Быхавец* < Быхаў, *Валынец* < Вылынь, *Варанец* < Варан-ы, *Ліскавец* < Ліскав-а, *Суравец* < Сураў, *Тоўпінец* < Тоўпін-а.

Некаторыя прозвішчы на *-авец* суадносяцца з уласнымі асабовымі мужчынскімі імёнамі: *Міцькавец, Сцепанец, Ціханавец, Паўлавец, Піліпянец.* Асобныя прозвішчы на *-авец* могуць быць як адыменнымі, так і адтапанімнымі. Так, напрыклад, прозвішча *Юркавец* можа быць утворана як ад назвы вёскі Юркава і абазначаць выхадца з гэтага населенага пункта, так і ад імені Юрка.

**Прозвішчны тып на *-ік/-ык, -чык*** таксама малапрадуктыўны. Такія прозвішчы бытуюць найперш на паўночнай ускраіне Брэсцкай і ў паўднёвай частцы Гродзенскай абласцей.

Фармант *-ік/-ык*, як вядома, па паходжанні з'яўляецца памяншальным, ён шырока прадстаўлены ў першасных прозвішчах, якія суадносяцца з дэмінутыўнымі формамі мужчынскіх імёнаў і апелятываў-назоўнікаў мужчынскага роду. У прозвішчах другасных фармант *-ік/-ык* набыў іншае значэнне: а) матранімічнае (надзвычай рэдка), пацверджаннем чаму служаць прозвішчы, утвораныя ад жаночых імён, пры якіх ён ніколі не ўжываўся як памяншальны. Такія антрапонімы абазначаюць асобу па імені маці *(Дунік);* б) патранімічнае (найчасцей), калі фармант далучаўся да асноў мужчынскіх асабовых імён на *-ка/-ко*: *Дзям'янч-ык* < Дзям'янк-а + -ік, а таксама *Андрэйчык, Анікейчык, Астапчык, Гаўрыльчык, Ільінчык, Макейчык, Навумчык, Сафрончык, Філімончык* і інш.

У некаторых выпадках ад дзвюх форм аднаго і таго ж імені ўтвараліся розныя прозвішчы: *Купрынчык* і *Купрыянчык, Міронччык* і *Мірэйчык, Станчык* і *Станіслаўчык.*

Часам прозвішчаўтваральнай выступала аснова антрапоніма ў форме прыметніка ці дзеепрыметніка *(Рудзік* < Руды, *Беглік* < Беглы, *Брыцік* < Брыты, а таксама *Багацік, Голік, Каханчык, Мандрык* (польск. mądry 'разумны'), *Новік, Рубанік, Рудзік, Сіўчык, Тоўсцік, Чулік),* назоўніка мужчынскага *(Канавальчык, Краўчык, Кухарчык),* жаночага або ніякага роду *(Козік* < Каза, *Ліпік* < Ліпа, *Шчэрбік* < Шчэрба; *Стойлік* < Стойла).

**Прозвішчны тып на *-ак/-як*** малапрадуктыўны ў беларускай мове. Фармант *-ак/-як* мае патранімічнае і матранімічнае значэнне: пры яго дапамозе ўтвараліся прозвішчы ад імені ці мянушкі бацькі (найперш) або маці (рэдка): *Юрчак* (ад Юрка), *Стасяк* (ад Стас), *Фядак* (ад Федзя), *Андрушчак* (ад Андрушка); *Настасяк* (Настасся). Прозвішчы сустракаюцца ў асноўным у паўднёва-заходняй частцы рэспублікі – на Брэстчыне.

Да ***ўсходнеславянскіх*** прозвішчных тыпаў належаць тып на *-енка/-энка/-анка* і тып на *-ук/-юк, -чук*, якія сустракаюцца толькі на тэрыторыі Беларусі, Расіі і Украіны і не адзначаны ў іншых славянскіх народаў.

**Прозвішчны тып на *-енка/-энка/-анка*** ўяўляе сабой беларуска-ўкраінскую мадэль. Ва Украіне ён займае першае месца і вядомы ва ўсіх без

выключэння яе абласцях. У Беларусі асноўны масіў бытавання такіх прозвішчаў знаходзіцца ва ўсходняй частцы рэспублікі – на ўсход ад лініі Бягомль – Барысаў – Чэрвень – Слуцк – Лунінец. Ядро ж максімальнай прадуктыўнасці такіх адзінак знаходзіцца не на памежжы з Украінай, а ў зоне вакол горада Віцебска (Шумілінскі, Гарадоцкі, Лёзненскі, Бешанковіцкі і інш. раёны).

Даследчыкі да сённяшняга дня не змаглі растлумачыць прычыны гэтага парадоксу, хоць спробы і былі. Так, М.Я. Грынблат меркаваў, што вобласць пашырэння такіх прозвішчаў, што цягнецца суцэльнай паласой з Сярэдняга Падняпроўя ў Верхняе і ўніз па Заходняй Дзвіне, нібыта сведчыць пра дняпроўскае паходжанне крывічоў. М. Ермаловіч пярэчыць гэтаму аргументу, спасылаючыся на тое, што аднымі прозвішчамі і іх мадэлямі, якія з’явіліся параўнальна нядаўна, нельга абгрунтоўваць з’явы глыбокай старажытнасці [12, с. 107].

У якасці прозвішчаўтваральнай выступаюць наступныя асновы:

а) уласных асабовых мужчынскіх хрэсных імён і іх форм: *Дарошчанка* < Дарошка (хрэснае Дорофей), *Дзенісенка* < Дзяніс, *Дзёмчанка* < Дзёмка, *Петрушэнка* < Пятруш-а, *Радзючэнка* < Радзюк (хрэснае Родион), *Сідарэнка* < Сідар, *Сіманенка* < Сімон і інш.;

б) мянушак у форме назоўнікаў мужчынскага роду: *Дзятленка* < Дзяцел, *Калпачэнка* < Калпак, а таксама *Капыценка, Кірпічэнка, Клешчанка, Лешчанка, Мазаленка, Павучэнка* і інш. Многія з такіх прозвішчаў паходзяць ад назваў асоб па прафесіі ці родзе заняткаў: *Кажамячанка, Калдуненка, Краўчанка, Кухарэнка, Леснічэнка, Пастушэнка, Пісарэнка;* сацыяльным стане: *Багачэнка, Дзьячэнка, Купчанка, Папчэнка, Царэнка;* этнічнай і нацыянальнай прыналежнасці: *Літвіненка, Немчанка, Палячэнка, Хахленка;*

в) антрапонімаў-назоўнікаў жаночага роду: *Бабенка, Бумажанка, Лапаценка, Лейчанка, Мамчанка, Разведчанка, Цялушчанка, Шкурэнка;*

г) антрапонімаў-прыметнікаў: *Бяззубенка, Картавенка, Касалапенка, Красненка, Крывенка, Лысенка, Сухаручанка, Шырачэнка.*

Фармант мог далучацца як да **вытворных** *(Банадысенка, Галоўчанка, Грачышчанка, Змітрачэнка, Паўлючэнка, Саўчанка, Стануленка, Якушэнка)*, так і да **невытворных** асноў *(Казачэнка, Сыценка, Мартыненка).*

Як бачна, прозвішчны тып на *-енка/-энка/-анка* характарызуецца разнастайным наборам прозвішчаўтваральных асноў і шырокімі спалучальнымі магчымасцямі фарманта.

**Прозвішчны тып на *-ук/-юк, -чук***, як адзначаюць даследчыкі, складае украінска-беларуска-рускі арэал з адзіным ядром найбольшай прадуктыўнасці на сумежнай тэрыторыі паўночна-заходняй Украіны і паўднёва-заходняй Беларусі. Украінскія даследчыкі лічаць гэты тып асноўным заходнеўкраінскім тыпам [17].

Максімальная частотнасць такіх прозвішчаў на тэрыторыі Беларусі назіраецца ў паўднёва-заходняй частцы Брэсцкай вобласці. Радзей сустракаюцца ў Магілёўскай вобласці, усходніх частках Віцебскай і

Гомельскай абласцей, паўночнай частцы Мінскай і ў раёне Ліды Гродзенскай вобласці.

Па паходжанні -*ук/-юк, -чук* – памяншальныя суфіксы, якія служылі для абазначэння маладых істот. З цягам часу яны страцілі значэнне памяншальнасці і ў прозвішчах набылі новае (патранімічнае) значэнне. Пры ўтварэнні прозвішчаў фарманты далучаліся да асноў:

1) хрысціянскіх мужчынскіх імён (найчасцей): а) у поўнай народна-размоўнай форме: *Максімук* < Максім, *Пракапюк* < Пракоп, *Семянюк* < Сямён і інш.; б) у гіпакарыстычнай форме: *Зянюк* < Зен-я, *Касцюк* < Косц-я, *Сімук* < Сім-а, *Радзюк* < Родз-я; в) з дэмінутыўным суфіксам -*к(а)/-к(о)*: *Алексяйчук* < Аляксей-к-а, *Астапчук* < Астап-к-а, *Матвяйчук, Сяньчук;*

2) апелятыўных назоўнікаў мужчынскага роду з нулявой флексіяй: *Кавальчук, Канавальчук, Князюк, Літвінюк, Татарчук, Царук;*

3) апелятыўных назоўнікаў жаночага роду на -*а*: *Каплюк* < Капл-я, *Куксюк* < Кукс-а. *Мятлюк* < Мятл-а, *Смалюк* < Смал-а;

4) апелятываў-прыметнікаў: *Бялюк* < Бел-ы, *Кіслюк* < Кісл-ы, *Чарнюк* < Чорн-ы.

Зрэдку прозвішчы ўтвараліся ад тапонімаў: *Піньчук* < Пінск.

Як бачна, большасць антрапонімаў утварылася ад мужчынскіх асабовых імён і іх форм. Гэта натуральна, бо асноўнае значэнне фармантаў – патранімічнае.

Да ***ўнутрымоўных*** беларускіх прозвішчных тыпаў належаць тып на -*онак/-ёнак* і тып на -*еня/-эня*. Антрапонімы з такімі фармантамі бытуюць толькі на тэрыторыі Беларусі, зрэдку сустракаюцца на прылеглых да яе прасторах. На тэрыторыі Беларусі зафіксаваны таксама адзінкі на -*іх/-ых*, якія адносяцца даследчыкамі да ўнутрымоўных рускіх тыпаў.

**Прозвішчны тып на *-онак/-ёнак*** у цэлым па рэспубліцы непрадуктыўны. Антрапонімы з такім фармантам даволі шырока бытуюць у Мінскай вобласці на поўнач ад Мінска, а таксама ў паўночна-заходняй частцы Віцебскай вобласці.

Фармант -*онак/-ёнак* мае патранімічны характар і сустракаецца ў прозвішчах на той жа тэрыторыі, на якой з гэтым суфіксам утвараюцца назвы маладых істот тыпу *цялёнак, парасёнак* (на іншай тэрыторыі – *цяля, парася*).

Прозвішчы на -*онак/-ёнак* утвораны ад уласных асабовых мужчынскіх імён і ад антрапонімаў апелятыўнага паходжання. У якасці прозвішчаўтваральных выступалі невытворныя і вытворныя асновы імён: *Арцям-ёнак, Герасім-ёнак, Дзеніс-ёнак, Есіп-ёнак, Ігнац-ёнак, Макар-онак; Васюцёнак, Габрусёнак, Дарашчонак, Касцючонак, Сцепулёнак.*

Сустракаюцца выпадкі, калі ад розных форм аднаго і таго ж імені ўтвараецца два і больш прозвішчы на -*онак/-ёнак*. Так, ад поўнай (Захар) і дэмінутыўнай (Захарка) форм кананічнага імені Захария паходзяць прозвішчы *Захаронак* і *Захарчонак.* Ад эмацыянальна-ацэначнай формы Якуш кананічнага праваслаўнага імені Иаков і ад яго каталіцкага адпаведніка Якуб (Jakub) утварыліся прозвішчы *Якушонак* і *Якубёнак.* Розныя формы імені Міхаіл сталі базай для чатырох прозвішчаў: *Міхальчонак* (ад

Міхалька), *Міхасёнак* (ад Міхась), *Міхашонак* (ад Міхаш), *Міхяёнак* (ад Міхей), *Мішкуцёнак* (ад Мішкута).

Цікава, што асобныя надзвычай рэдкія імёны рэалізавалі сваю прозвішчаўтваральную функцыю толькі ў тыпе на *-онак/-ёнак*: *Арасцёнак* (ад канан. Орест), *Заясёнак* (ад катал. Izajasz).

Пры далучэнні фарманта да апелятыўных імён-мянушак выкарыстоўваліся невытворныя асновы назоўнікаў мужчынсага роду: *Казлёнак, Карабёнак, Кляшчонак, Кучаронак, Папялёнак, Язёнак.* Рэдкімі з’яўляюцца прозвішчы, што паходзяць ад назоўнікаў жаночага роду: *Жабёнак, Капусцёнак, Крысёнак, Куксёнак, Лапёнак, Пятлёнак, Шыёнак;* ніякага роду: *Памялёнак, Пяклёнак;* прыметнікаў: *Галёнак, Глушонак, Гнядзёнак, Кіслёнак, Крывёнак, Рудзёнак, Рыхлёнак, Храмёнак, Чарнёнак.*

Гучанне і напісанне некаторых прозвішчаў звязана з уплывам польскай арфаграфіі: *Алексіонак, Валадзіонак, Валенціонак, Кліменціонак, Хвасціонак.*

**Прозвішчны тып на *-еня/-эня*** таксама ўласцівы толькі беларускай мове. Такія адзінкі распаўсюджаны ў паўднёвай частцы Мінскай і паўночнай частцы Брэсцкай і Гомельскай абласцей. Па значэнні фармант *-еня/-эня* суадносіцца з апелятыўным фармантам *-яня*: качаня, кураня, лісяня. У прозвішчах ён выражае патранімічнае значэнне.

Прозвішчы ўтвараліся ад мужчынскіх імён і іх форм (*Федасеня, Ляўчэня* < Ляўко, *Арцяменя, Тарасеня, Сергіеня*), а таксама ад антрапонімаў апелятыўнага паходжання (*Зяленя, Кайдуленя, Крупеня, Шупеня, Гайдучэня).*

**Прозвішчны тып на *-іх/-ых*** характарызуецца даследчыкамі не толькі як уласна рускі, але больш таго – як рэгіянальны, “сібірскі”, бо такія антрапонімы шырока распаўсюджаны на поўначы і ў чарназёмнай паласе Расіі. “Спачатку з Паўночнай Дзвіны, а затым і з чарназёмнай паласы – прозвішчы на *-іх*/*-ых* хлынулі за Урал. Асноўная маса перасяленцаў у Сібір у XVII–XVIII стст. перасекла Табол на адрэзку паміж вусцем Таўды і Курганам, там і сканцэнтраваны гэтыя прозвішчы” [20].

Такія прозвішчы ўзыходзяць да патронімаў, якія называлі сям’ю як цэлае: *Беражных* – гэта значыць ’сын або прыгонны сям’і *Беражных*’, аналагічна *Барзых, Кароткіх, Картавых, Рускіх.*

Паколькі прозвішчны тып на *-іх/-ых* не характэрны для беларускай антрапаніміі, можна выказаць меркаванне аб занясенні такіх адзінак на беларускую тэрыторыю ў працэсе перасялення рускіх.

Такім чынам, другасныя прозвішчы па колькасці дамінуюць над першаснымі. Асноўная большасць прозвішчаўтваральных фармантаў носіць патранімічны характар. Вылучаюцца антрапонімы з фармантамі, якія першапачаткова належалі дэмінутыўным (*Каросцік, Коўшык, Русачонак, Федасеня*) або атрыбутыўным (*Баговец, Латыгалец*) формам, а патранімічнае значэнне набылі толькі падчас прозвішчаўтварэння.

У якасці прозвішчаўтваральнай асновы ў большасці выпадкаў выступаюць імёны-мянушкі апелятыўнага паходжання і хрэсныя мужчынскія імёны. Рэдка прозвішчаўтваральны фармант далучаўся да старажытных славянскіх мужчынскіх і жаночых імён, мянушак і хрэсных жаночых імён.

Спалучальнасць прозвішчаўтваральных фармантаў і прозвішчаўтваральнай асновы, як правіла, не залежыць ад характару апошняй: практычна ў кожным тыпе назіраюцца самыя розныя базавыя назвы – асабовыя імёны, мянушкі ў форме назоўніка або прыметніка.

## Семантычныя асаблівасці прозвішчаў

Семантычныя асаблівасці прозвішчаў будзем разглядаць праз семантычнае поле. Адзначым, што такі падыход прадугледжвае выяўленне ядзерна-перыферыйных адносін паміж кампанентамі поля і з’яўляецца новым для ўсходнеславянскай антрапанімікі. Даследчыкі адзначаюць, што менавіта *функцыянальна-семантычны* падыход найбольш дакладна выяўляе спецыфіку анамастычнай прасторы. Асноўнае адрозненне семантычнага поля ад лексіка-семантычных груп заключаецца ў тым, што элементы поля аб’яднаны адной семай, у той час як члены лексіка-семантычных груп – некалькімі. Для анамастычнага поля такой *канстытутыўнай* семай з’яўляецца ‘імя ўласнае’, ‘nomen proprium’, ‘proper name (noun)’ [10, с. 10].

Сярод даследчыкаў рускай анамастыкі палевага падыходу да апісання онімаў прытрымліваецца В.І. Супрун, які ў працы “Анамастычнае поле рускай мовы і яго мастацка-эстэтычны патэнцыял” [10] распрацаваў палевую мадэль комплекснага апісання анамастычнай прасторы сучаснай рускай мовы.

Семантычнае поле – гэта “іерархічная структура мноства лексічных адзінак, аб’яднаных агульным (інварыянтным) значэннем, якія адлюстроўваюць у мове пэўную паняційную сферу” [18, с. 458]. Поле аб’ядноўвае пэўную прастору аднародных кампанентаў, якія ўтвараюць рухомую “мазаіку”, таму яно мае адпаведныя аналогіі ў розных навуках: параўн. электрамагнітнае поле, гравітацыйнае поле, поле тэмператур і інш.

Вывучэнне семантыкі асноў прозвішчаў прыводзіць да выяўлення тыпаў слоў, якія паслужылі базай для онімаў, а таксама лексічных адзінак, што выйшлі з сучаснай мовы, але захаваліся ў складзе прозвішчаў. Сам факт другаснасці ўключэння некаторых лексем у анімічны рад не дазваляе падыходзіць да іх аналізу з тымі ж крытэрыямі, што і да аналізу агульнай лексікі. Для таго, каб зразумець, чаму людзі звярталіся да тых або іншых лексічных палёў пры фарміраванні асобных класаў антрапонімаў, трэба зразумець гісторыка-культурны код адпаведнай эпохі.

У семантычнае поле “Прозвішчы жыхароў Беларусі” ўваходзяць усе прозвішчы, што бытуюць на тэрыторыі Беларусі. У структуры поля вылучаюцца наступныя часткі: 1) ядро, у якім знаходзяцца прозвішчы адапелятыўнага характару; 2) каляядзерная прастора, яе кампаненты – адыменныя прозвішчы; 3) перыферыя, якую складаюць адтапанімныя прозвішчы.

Такое размеркаванне розных па характары кампанентаў поля (адапелятыўных, адыменных, адтапанімных) невыпадковае. У **ядро** прынята

уключаць семантычна больш простыя адзінкі, якімі і з’яўляюцца **адапелятыўныя** прозвішчы, бо зыходны апелятыў у іх вылучаецца вельмі лёгка, ён “ляжыць на паверхні”: *Казакоў* (казак), *Пісараў* (пісар), *Жукаў* (жук), *Піскуновіч* (піскун), *Сталярчук* (сталяр).

Адзінкі **каляядзернай прасторы** больш складаныя ў семантычным плане, бо паходзяць ад **уласных асабовых імён**. А большасць хрэсных імён славян грэчаскага, старажытнаяўрэйскага, старажытнарымскага, лацінскага, сірыйскага, егіпецкага паходжання. Так, імёны *Валерый* і *Канстанцін* лацінскага паходжання, *Міхаіл, Сямён* – старажытнаяўрэйскага, *Васіль, Дарафей* – грэчаскага і г.д. Прозвішчы каляядзернай прасторы не валодаюць такой празрыстай унутранай формай, як адапелятыўныя, бо для асноўнай большасці носьбітаў мовы імёны *Валерый, Канстанцін, Міхаіл, Сямён* і інш. не асацыіруюцца з тымі значэннямі, якія ў іх заключаны ў мове-крыніцы: *Валерый* ‘моцны, здаровы’, *Канстанцін* ‘пастаянны’, *Міхаіл* ‘роўны Богу’, *Сямён* ‘які пачуў’, *Васіль* ‘царскі, велічны’, *Дарафей* ‘дар Бога’.

На перыферыю семантычнага поля аднесены **адтапанімныя** прозвішчы, утвораныя ад назваў геаграфічных аб’ектаў: *Ушацкі* < Ушачы, *Чарнарэцкі* < Чарнарэчча, *Данскі* < Дон, *Ульскі* < Ула.

Ядро семантычнага поля ўтвараюць прозвішчы, што паходзяць ад апелятываў: па колькасці яны пераважаюць над астатнімі дэрыватамі. Нагадаем, што аднясенне прозвішчаў да адапелятыўных з’яўляецца ў некаторай ступені ўмоўным, таму што базай для іх служылі, як вядома, не апелятывы непасрэдна, а старажытныя славянскія імёны і мянушкі, якія паходзяць ад апелятываў. Напрыклад, памылковым будзе сцвярджаць, што прозвішча *Зязюлін* утворана непасрэдна ад апелятыва *зязюля*: яно паходзіць ад мянушкі або язычніцкага імені *Зязюля*. Такое імя ці мянушку мог атрымаць чалавек, паводзіны або знешні выгляд якога нагадваюць гэтую птушку. Утварэнне прозвішча адбывалася наступным чынам: апелятыў *зязюля* > імя-мянушка *Зязюля* > прозвішча *Зязюлін*.

Вядома, што да прыняцця хрысціянства славяне карысталіся імёнамі тыпу Воўк, Сокал, Бяроза, Дуб, Злоба, Някрас і пад., якія мелі пажадальны (Харошка, Добр, Міл, Сокал, Бяроза, Дуб) або засцерагальны характар (Чарныш, Някрас, Няміл, Злоба, Нянаш), указвалі на парадак з’яўлення ў сям’і (Пяршак, Серадняк, Трацяк, Шастак), выражалі адносіны бацькоў да дзіцяці (Ждан, Нячай, Бажэн). Прозвішчы, утвораныя пазней ад такіх імён, у анамастыцы таксама прынята лічыць адапелятыўнымі, хоць і яны прайшлі шлях “апелятыў – язычніцкае асабовае імя – прозвішча”.

Ядро семантычнага поля “Прозвішчы жыхароў Беларусі” складаецца з двух мікраядзер: 1) прозвішчы, утвораныя ад *nomina personalia*; 2) прозвішчы, утвораныя ад *nomina impersonalia*. Кампаненты першага мікраядра ўтрымліваюць у антрапааснове лексемы, якія **ўжо падчас свайго ўзнікнення абазначалі асобу** па нейкай прымеце або родзе дзейнасці: *Бандарэнка* (ад бондар), *Піваварaў* (ад півавар), *Жарнасечанка* (ад жарнасек), а таксама *Гарбачоў, Рыбакоў, Французаў, Ламаносаў, Лапавухаў.* Другое мікраядро ўключае прозвішчы, што паходзяць ад апелятываў, якія называюць

прадметы, з’явы, рэчывы, паняцці, гэта значыць, не звязаны з характарыстыкай чалавека: *Жабін, Скрыпка, Целегаў, Камароў, Шчука, Петухоў, Корачкін, Булаўка.*

Большасць прозвішчаў ад *nomina personalia* ўтворана шляхам трансанімізацыі, пры якой адбываецца пераход імені (імені ўвогуле) з аднаго анамастычнага класа ў другі. У нашым выпадку назіраецца перанос асабовых нецаркоўных імён і мянушак (размежаваць іх бывае немагчыма) у клас прозвішчаў: мянушка Галавач ’чалавек з вялікай галавой’ → прозвішчы *Галавач, Галавачоў;* Бабок – нецаркоўнае імя, дадзенае дзіцяці за яго мініяцюрнасць, або мянушка дарослага чалавека, кволага і невялікага ростам → прозвішчы *Бабок, Бабкоў, Бабковіч.* У мікраядры вылучаюцца групы прозвішчаў, якія ўтвараюць некалькі сектараў:

Прозвішчы, утвораныя ад апелятываў, якія:

а) характарызуюць чалавека ў фізічным і псіхічным плане;

б) указваюць на заняткі, прафесію, сацыяльны стан;

в) называюць асоб па этнічнай і нацыянальнай прыналежнасці;

г) адлюстроўваюць сямейны стан, адносіны або з’яўляюцца тэрмінамі сваяцтва;

д) характарызуюць абставіны з’яўлення дзіцяці ў сям’і і адносіны да яго бацькоў;

е) адлюстроўваюць асаблівасці з’яўлення чалавека ў населеным пункце.

Сектары адрозніваюцца ступенню насычанасці: адны ўключаюць ад дзесяткаў да некалькіх соцень і нават тысяч адзінак. Прычына рознай ступені насычанасці сектараў бачыцца ў актуальных прынцыпах намінацыі пры адборы апелятываў для ўтварэння прозвішча. Не кожнай лексеме ўласціва здольнасць вылучаць чалавека з пэўнага кола людзей. Асабістым іменем становіцца толькі той апелятыў, які ў дадзеным асяроддзі і ў дадзены час вызначаецца дастатковай ступенню індывідуалізацыі.

Аднясенне адзінак да пэўнага сектара нярэдка з’яўляецца даволі складаным, што звязана 1) з мнагазначнасцю апелятываў, 2) з недастатковай вывучанасцю дыялектнай лексікі і адсутнасцю фіксацыі яе ў слоўніках, 3) са спецыфічнай семантыкай асобных адзінак на розных тэрыторыях. Нягледзячы на сказанае, многія антрапонімы варта ўключаць у пэўны сектар, абапіраючыся на “празрыстую” ў семантычным плане аснову, кіруючыся вядомым фармантам і наяўнасцю адпаведнай словаўтваральнай мадэлі. Так, прозвішчы *Свешнік, Чаканнік, Ігольнік, Халсціннік* лагічна аднесці ў сектар “Антрапонімы, утвораныя ад апелятываў, якія ўказваюць на заняткі, прафесію, сацыяльны стан” на аснове пералічаных вышэй прымет: параўн.: *Рашэтнік* < рашэтнік ’майстар, які вырабляў рашоты’; *Грабеншчыкоў* < грабеншчык ’той, хто рабіў або прадаваў грабяні’; *Гусельнік* < гусельнік ’вытворца гусляў’. У названы сектар трэба ўключыць і іншыя падобныя на прыведзеныя, але не зафіксаваныя ў слоўніках дэрываты з суфіксамі *-нік* і *-ар*.

У выпадках, калі апелятыў мае значэнне прадмета і асобы, перавага аддаецца апошняму. Напрыклад, прозвішчы *Хрулько, Хрулькоў* утвараны найхутчэй ад апелятыва *хруль* ’нізкаcontainерослы чалавек або чалавек з вельмі доўгім носам’, ’малыш’, хоць у беларускай дыялектнай мове існуюць лексемы *хрулі* ’рэдкая страва з бульбянымі клёцкамі’, *хруля* ’худая карова’, а ў рускай *хруль, хрулек* абазначае ’лік пры гульні ў бабкі’.

У асновах прозвішчаў сектара **“Антрапонімы, суадносныя з апелятывамі, якія характарызуюць чалавека ў фізічным і псіхічным плане”** фіксуюцца імёны-мянушкі, што даваліся па наступных ***знешніх*** прыкметах чалавека:

- рост, структура цела: *Барэйка – барэйка* ’тоўстае дзіця’; *Велькі* – польск. *wielki* ’вялікі’; *Вялікаў; Даўгаль; Дзюжаў; Драбязка; Магер* – ням. *mager* ’худы, сухарлявы’; *Магучы; Малей; Маханькоў* – параўн.: *маханькі* ’маленькі’; *Паджараў; Сутула; Худоба*;
- узрост: *Маліц – малец* рэг. ’хлопец, падлетак’; *Саракалетаў; Стажык* – польск. *starzyk* абл. ’стары чалавек’; *Старчанка;*
- “колеравыя” прыкметы: *Балтакіс* – літ. baltãkis ’белавокі’; *Белавус; Белагалоўка; Белы; Булан; Буры; Гервятовіч* – параўн.: літ. gèrvėtas ’рабы’; *Руды; Святлоў; Сівалобчык; Сіўчык; Чарнавок; Чарныш.*
- асаблівасці частак цела: *Аднавухаў; Астравухаў; Беззубёнак; Бязручка; Бяспальчык; Валасач; Карнапальцаў; Касалапаў; Крыванос; Крывашэеў; Кудліч; Кудраўцоў; Лабаты; Ламаносаў; Лапавухаў; Лысы; Маланошка; Сукрысты – сукрысты* рэг. ’кучаравы’; *Таўстаногаў;*
- фізічныя недахопы, захворванні, увеччы: *Гамзюк; Гарбун; Глушак; Касы; Крывун; Кульгавы; Мігай; Сапун; Сляпуха; Сляпцоў; Смаргун; Сухарукаў; Храмы; Шапель – шапель* ’шапялявы чалавек’;
- асаблівасці гаворкі, маўлення: *Заіка; Картавенка; Картавых; Краснабай; Цукан – цуканамі* называюць прадстаўнікоў тых гаворак, дзе “цокаюць”, гэта значыць замест *ч* вымаўляюць *ц*; *Шапель – шапель* ’шапялявы чалавек’;
- асаблівасці руху: *Скрабатун – скрабатун* абл. ’той, хто шоргае нагамі пры хадзе’*; Шаркель – шаркель* ’той, хто ходзіць, шоргаючы нагамі’.

Частка прозвішчаў сектара паходзіць ад імёнаў-мянушак, што адлюстроўвалі наступныя ***ўнутраныя*** якасці чалавека:

- разумовыя здольнасці: *Дурноў; Дурынін; Замудракоў; Мудрацоў; Мудровіч; Размыслоў; Разумнік;*
- рысы характару, асаблівасці паводзін: *Бадзяка; Балбатуноў; Балтун; Вясёлаў; Габалаў* – укр. *габало* ’той, хто турбуе, дакучае, мучыць’; *Галуза – галуза* ’свавольнік’; *Гурноў* – укр. дыял. *гурний* ’фанабэрысты’; *Дабрак; Лабусаў* – польск. *lobuz* ’гарэза, свавольнік, хуліган’, ’нягоднік, прахвост’; *Лукавы; Малчанаў; Менжынскі* – польск. *tężny* ’мужны, бясстрашны’, уст. ’статны, рослы’; *Нядбальскі; Плакуноў; Пянткоўскі* – параўн.: польск *pętak* пагард. ’несур’ёзны (пусты) чалавек, сапляк, малакасос’, ’малыш’; *Самахвалаў; Хітроў; Хлусевіч; Ціхоня;*

- <u>адносіны да працы</u>: *Агурэнь – агурэнь* абл. зневаж. ’абібок, гультай’; *Буданаў* – рус. *будан* ’гультаяваты хлопец’.

Прозвішчы, матываваныя мянушкамі, што паходзяць ад апелятываў, што называюць ***знешнія*** прыметы, пераважаюць над антрапонімамі, асновы якіх утрымліваюць ***унутраную*** характарыстыку. Гэта натуральна, бо менавіта знешнія, а не ўнутраныя якасці з’яўляюцца найбольш паказальнымі пры апісанні асобы: яны – самы даступны для назірання бок чалавека, бо адразу заўважаюцца пры зносінах і знаёмстве. Для высвятлення ж унутраных рыс неабходны працяглы час.

Лексемы, якія называюць **адмоўныя** рысы характару, выкарыстоўваюцца ў прозвішчаўтварэнні часцей, чым тыя, што абазначаюць **станоўчыя** якасці. Такая традыцыя існуе ва ўсёй беларускай антрапаніміі.

Частка прозвішчаў сектара **“Антрапонімы, суадносныя з апелятывамі, якія ўказваюць на заняткі, прафесію, сацыяльны стан”** паходзіць ад мянушак, што ўтвораны ад апелятываў, якія можна аднесці да наступных сфер вытворчасці:

- <u>промысел, рамяство</u>: *Алейнік – алейнік* ’спецыяліст па вырабу алею’; *Аўчыннікаў – аўчыннік* ’гарбар’; *Буднік – буднік* ’смалакур’, польск. *budnik* уст. ’гаспадар ларка; латочнік’; *Вінакур – вінакур* ’той, хто займаецца вінакурэннем – вырабляе віно спосабам перагонкі’; *Віннік – віннік* ’вінакур’; *Ганчар; Гутнікаў – гутнік* ’рабочы, які працаваў на гуце, вырабляў шкло’; *Кажэўнікаў; Кравец; Кушняроў – кушнер* ’майстар, які вырабляе шкуры пушных жывёл на футра’*; Піваварaў; Пушкароў; Суднік – суднік* ’той, хто робіць драўляны посуд’; *Цагельнік – цагельнік* ’рабочы, які працуе на цагельні’; *Чаканшчык; Шкляр;*
- <u>сельская гаспадарка</u>, <u>жывёлагадоўля</u>: *Аўчар – аўчар* ’авечы пастух’; *Бортнік – бортнік* ’пчаляр, які займаецца здабычай мёду лясных пчол’*; Гуменнік – гуменнік* ’наглядчык за гумном і працай на гумне’; *Дзегцяроў; Касарэнка; Конюхаў; Маслабоеў; Пастухоў; Пчалаводаў; Садоўнічы; Хмельнік* ’той, хто вырошчвае хмель’; *Цялятнікаў; Чумак – чумак* ’возчык і гандляр на Украіне і поўдні Расіі, які перавозіў на валах соль, рыбу і іншыя тавары’;
- <u>лясніцтва</u>, <u>паляванне</u>, <u>рыбалоўства</u>: *Валкарэзаў; Леснікоў; Ляснічы; Пташнік*; *Рыбак; Рыбалкін – рыбалка* ’рыбак’; *Рыбнік – рыбнік* ’спецыяліст па рыбалоўстве; работнік рыбных промыслаў’, рус. ’той, хто прадае рыбу’;
- <u>гандлярства</u>: *Крамар; Купец; Прасолаў – прасол* рэг. ’скупшчык мяса і рыбы для продажу’; *Рандарэнка – рандар* ’гаспадар карчмы’; *Шынкарэнка;*
- <u>воінская служба</u>: *Ваяводзін – ваявода* ’ў Старажытнай Русі: начальнік войска, кіраўнік горада ці акругі’; *Драгун – драгун* ’вайсковец асобных часцей кавалерыі, здольных весці бой як у конным, так і ў спешаным страі’*; Жалдак* – ст.-укр. і ст.-бел. *желдак, жолдак* ’салдат, воін’; *Жаўнер – жаўнер* ’салдат’; *Ратнікаў* – рус. *ратник* ’салдат, апалчэнец’;

*Салдатаў; Стральцоў; Харунжы – харунжы* ’сцяганосец у войску’, ’малодшы афіцэрскі чын у казацкім войску’;

- іншыя: *Варожка; Калдуноў; Каліканаў* – параўн.: польск. *kalikant* ’памочнік арганіста, які прыводзіць у рух мяхі аргана’; *Канавалаў – канавал* уст. ’знахар, які лечыць коней’; *Лекарэвіч; Пісараў; Скамарох; Скараход – скараход* ‘даўней – пасыльны, ганец’; *Фурман.*

Шэраг прозвішчаў утвораны ад мянушак, якія паходзяць ад апелятываў, што абазначаюць асоб па сацыяльным стане. Частка такіх апелятываў называе канкрэтных прадстаўнікоў сацыяльных груп, некаторыя ж проста супрацьпастаўляюць багатых і бедных. Ад першых паходзяць прозвішчы *Батрак, Баярын, Князь, Паючэнка* – параўн.: польск. *pajuk* гіст. ’выязны лакей (пры двары магната)’, ’слуга турэцкага султана’, *Царок, Шляхціч;* ад другіх – *Багаты; Багацік; Бедны; Галяк; Голы.*

Гаворачы пра антрапонімы, асновы якіх утрымліваюць лексемы *цар, шляхціч, пан, гаспадар, гетман, барын, князь, граф* і інш. і аформлены пры дапамозе фармантаў *-аў/-оў/-еў*, трэба памятаць, што носьбітамі такіх прозвішчаў былі хутчэй за ўсё прыгонныя і што зафіксаваны ў іх аснове апелятыў паказвае, каму належаў селянін: *Князеў* < (“чый?”) *князеў* ’той, які належаў князю, гэта значыць *князеў* селянін’; *Баярынаў; Графаў; Князеў; Папоў; Шляхцічаў.*

Асобную групу складаюць прозвішчы, якія паходзяць ад мянушак, утвораных ад апелятываў, што характарызуюць рэлігійных служкаў. Напрыклад, *Архірэеў – архірэй* ’агульная назва вышэйшых чыноў праваслаўнага духавенства (епіскапа, архіепіскапа, мітрапаліта)’; *Дзьякаў; Жакаў* – ст.-бел. *жак* ’служка ў касцёле’, рус. уст. ’вучань каталіцкай школы, польск. *żak* гіст. ’шкаляр, бедны студэнт’; *Ігуменаў – ігумен* ’настаяцель праваслаўнага манастыра’, але паколькі ігумны не маглі ўступаць у шлюб і мець дзяцей, то прозвішча ўтворана, напэўна, ад імені Ігумен, якім рэлігійныя бацькі маглі назваць дзіця ў знак павагі да гэтага звання; *Коган – коген* ’прадстаўнік саслоўя свяшчэннікаў у яўрэяў’; *Ксяндзоў – ксёндз* ’польскі каталіцкі святар’; *Левін* – параўн.: *левіт* – ’прадстаўнік або выхадзец з саслоўя левітаў’, аднак нельга адмаўляць магчымасць утварэння гэтага прозвішча і ад імя Леў; *Панамароў; Папоў.*

Разнастайнымі з’яўляюцца ўтварэнні ад апелятываў, якія характарызуюць ігракоў на музычных інструментах: *Добыш* – укр. *добошъ*’ які іграе на бубне ў казацкім войску, барабаншчык’, польск. *dobosz* ’барабаншчык’, *Дудар, Скрыпачоў, Сурнікаў – сурнік* ’трубач, той, хто іграе на сурне’, *Трубач*.

Значная частка прафесій, адлюстраваных у прозвішчах, вядома носьбітам мовы (кравец, рыбак, токар, цырульнік), бо існуе і зараз; некаторыя назвы выйшлі з актыўнага ўжытку, але захоўваюцца ў прыказках, прымаўках, народных песнях, гульнях, творах мастацтва (бортнік, бурлак, скараход). Асобныя лексемы зараз маюць іншую, чым у час прозвішча-ўтварэння, семантыку: *дворнік* раней ’гаспадар пастаялага двара; работнік і вартаўнік пры кожным доме; наглядчык за гандлёвым дваром, радскі

стараста’; *гароднікі* раней ’мянушка людзей, якія вырошчвалі агародніну ў паноў’, рус. *городник* ’цясляр, які будуе абаронныя ўмацаванні, масты, насыпныя зрубы’; *агароднік* ’селянін, які не меў ворнай зямлі, а карыстаўся трыма моргамі агароду, за якія ён павінен быў несці службу адзін раз на тыдзень, а жонка яго летам павінна была шэсць дзён адпрацаваць на жніве’, зараз ’той, хто займаецца агародніцтвам’; *дэпутат* раней ’выбарны паверaны ад урада або ад грамадства для назірання за ходам справы, для прынясення просьбы, віншавання, удзячнасці’.

Іншыя назвы абазначаюць рэаліі, якія даўно зніклі, але пакінулі свой след у прозвішчах, напрыклад: *вінакур, гусельнік, жарнасек* ’чалавек, які робіць і насякае жорны’, *ігольнік, катляр* ’майстар, які робіць катлы’, *лаўнік* ’лавачнік, гаспадар лаўкі, купец’, ’старажытны магістрацкі чыноўнік, які меў права судзіць “на присутственной скамье – лавце”’, ’чалавек, які выганяў сялян на паншчыну’, ’старшы плытагон’, *цівун* ’наглядчык за працай сялян у памешчыка ў часы прыгону’. Вывучэнне прозвішчаў, якія паходзяць ад такіх апелятываў, дазваляе больш поўна зразумець гісторыю, культуру і быт народа.

Сектар **“Антрапонімы, суадносныя з апелятывамі, якія называюць асоб па этнічнай і нацыянальнай прыналежнасці”** налічвае шмат адзінак. Яны ўтрымліваюць у сабе назвы прадстаўнікоў розных нацый і народаў: *Англічанаў, Башкіра, Бесарабскі, Грэкаў, Італьянцаў, Македонцаў, Мардвін, Сербаў, Суржыкаў* < *суржык* ’чалавек змешанай нацыянальнасці, напрыклад, сын рускага і цыганкі’, *Татарчук, Татарынаў, Французаў, Чачэнец, Чувашонак*.

Большасць апелятываў уяўляе сабой афіцыйна прынятыя ў беларускай мове этнонімы, асобныя ж адзінкі бытуюць толькі ў дыялектнай мове.

Існуюць цэлыя гнёзды прозвішчаў, суадносных з этнонімамі, якія называюць прадстаўнікоў суседніх з беларусамі тэрыторый. Вялікае гняздо ўтвараюць прозвішчы, матываваныя этнонімамі, якія абазначаюць ***палякаў*:** *Лях, Ляхаў, Ляховіч, Ляшонак; Мазур* < польск. *Mazur* ’мазур, жыхар Мазовіі’; *Мазура; Мазуро; Мазурын; Паляк; Палякоў; Палячонак; Палячэнка.*

Шмат прозвішчаў, якія паходзяць ад мянушак, былых апелятываў, што называюць ***літоўцаў*:** *Літоўка, Ліцвін, Ліцвінаў, Ліцвінюк, Ліцвянкоў* і інш., ***немцаў***: *Немцаў, Немчанка, Нямцоў, Прус, Прусаў, Прускі, Шваб* < *шваб* ’прадстаўнік абласной групы нямецкага насельніцтва былога герцагства Швабія’, *Швайбовіч,* ***рускіх***: *Маскаленка, Маскалёнак, Маскалёў, Маскаль, Маскалькоў, Рускіх.*

Асноўная прычына шырокага прадстаўніцтва этнонімаў у асновах прозвішчаў бачыцца ў перасяленні людзей з адной этнічнай тэрыторыі на другую.

Відаць, колькасць утварэнняў ад этнонімаў знаходзіцца ў прама прапарцыянальнай залежнасці ад гістарычных умоў – у першую чаргу ад ступені агульнасці развіцця народаў.

У сектары **“Антрапонімы, суадносныя з апелятывамі, якія адлюстроўваюць сямейны стан, адносіны або з’яўляюцца тэрмінамі**

**сваяцтва”** ў першую чаргу выдзяляюцца прозвішчы, што паходзяць ад мянушак, былых апелятываў, якія абазначаюць тэрміны сваяцтва: *Братаў, Дзядоў, Зяцеў, Мамін, Мужаў, Стрый – стрый* ’дзядзька’, *Унуковіч.* Пры гэтым высокай прадуктыўнасцю вылучаецца апелятыў *дзед.* Відаць, прычына – у магчымасці названай адзінкі ўжывацца не толькі з прамым значэннем ’бацькаў або матчын бацька’, але і з пераносным ’стары чалавек’ або ’муж’. Мянушку Дзед мог атрымаць чалавек любога ўзросту, у якога выяўляюцца знешнія або ўнутраныя рысы, характэрныя старому чалавеку: наяўнасць барады, сівы колер валасоў, асаблівасці постаці і інш.

У сектар уваходзяць таксама прозвішчы, суадносныя з апелятывамі, якія адлюстроўваюць сямейны стан: *Адзінец* – ст.-рус. *одиньць* ’адзінокі, бессямейны чалавек’, *Бабылёў, Кодзіс – кодзіс* у яўрэяў ’сірата’, *Сіроткін, Сямейнікаў.*

Некаторыя назвы ўказваюць на абставіны з’яўлення ў сям’і або на адносіны ў плане падзелу маёмасці: *Дольнік* – рус. *дольник* ’прыёмнае дзіця, якое набыло ўсе правы атрымання ў спадчыну, гэта значыць сваю *долю* (частку) спадчыны’, *Прымак.*

Аналіз прозвішчаў названага сектара дазваляе выявіць асаблівасці сямейнага жыцця і характар сямейных узаемаадносін у мінулым.

Сектар **“Антрапонімы, суадносныя з апелятывамі, якія характарызуюць абставіны з’яўлення дзіцяці ў сям’і і адносіны да яго бацькоў”** уключае шмат прозвішчаў, у аснове якіх назвы, што характарызуюць адносіны бацькоў да нованароджанага:

**’дзіця, якога чакалі’** – *Бажанаў, Бажанкоў, Бажанок, Бажэн, Бажэнаў* (параўн.: абл. *бажаны* ’жаданы’, *бажаць* ’жадаць’), *Ждан, Жданаў, Жданко, Жданковіч;*

**’дзіця, якога не чакалі’** – *Няжданаў, Нячай, Нічай, Нічаеў*.

Разнастайнымі з’яўляюцца прозвішчы, утвораныя ад мянушак, былых апелятываў, якія паказваюць чарговасць нараджэння дзіцяці ў сям’і: *Первянёнак, Трацяк, Пяткевіч, Шостак, Сямак, Дзевятко, Сераднякоў, Бальшакоў* (*бальшак* ’гаспадар, старшы сын або брат’). Адзінкавыя прозвішчы (*Найдуноў, Нянашаў)* утвораны ад аберагальных язычніцкіх імёнаў (Найдун, Нянаш), якія даваліся дзецям, каб увесці ў зман цёмныя сілы: паколькі дзіця нянароднае, то бацькі не будуць асабліва гараваць, калі з ім здарыцца штосьці дрэннае, а таму для злых сіл гэтае дзіця не з’яўляецца цікавым, бо іх мэта – нашкодзіць людзям.

Прозвішчы, што ўваходзяць у сектар, даюць надзвычай цікавы матэрыял аб прынцыпах і традыцыях называння дзяцей у дахрысціянскі перыяд.

Сектар **“Антрапонімы, суадносныя з апелятывамі, якія адлюстроўваюць асаблівасці з’яўлення чалавека ў населеным пункце”** ўключае такія прозвішчы, як *Новік, Новікаў, Навасёлаў, Зямляк, Землякоў, Уражэнка* і інш. Шэраг апелятываў мае значэнне ’новы’, гэта значыць ’немясцовы, перасяленец з іншага населенага пункта’: *Навашынскі* – ад *новаш, наваш* ’новы чалавек у сяле, новы член сям’і’, *Навіцкі, Навічок,*

*Навічэнка, Новік, Новікаў* і інш. Нярэдка зыходны апелятыў з’яўляецца складаным словам усё з той жа часткай *новы: наважыл, навасад, навасёл* > адпаведна *Наважылаў, Навасадаў, Навасёлаў* (для антрапоніма *Навасёлаў* тлумачэнне ад *навасёл* больш верагоднае, чым ад тапоніма Новае Сяло, бо ўтворанае ад Новае Сяло прозвішча гучала б *Навасельскі*).

Асобныя прозвішчы ўтрымліваюць у аснове назвы *беглы* ’чалавек, які, ратуючыся, тайна, самавольна збег з месца жыхарства’ або *бежанец* ’чалавек, які пакінуў месца свайго жыхарства з прычыны вайны або стыхійнага бедства’: *Беган, Бегуноў, Бежанец.* Гісторыяй усходнеславянскіх народаў засведчана шмат фактаў, калі людзі пакідалі абжытыя мясціны. Уцекачамі, напрыклад, маглі быць язычнікі, якія не ўспрынялі пашырэння хрысціянства, або бежанцы, што ратаваліся ад вынішчэння татарамі, якія часта нападалі з поўдня і паўднёвага ўсходу (XIII–XVII стст.) і інш.

Другую частку ядра займае мікраядро, у якое ўключаны прозвішчы, утвораныя ад *nomina impersonalia*. Такія прозвішчы паходзяць ад разнастайных мянушак, былых апелятываў, якія першапачаткова не адносіліся да асобы. Магчымасць характарызаваць чалавека яны атрымалі пасля таго, як набылі пераноснае значэнне і анімізаваліся.

У названае мікраядро ўключаны наступныя сектары:

Антрапонімы, утвораныя ад апелятываў, якія называюць:

а) прадметы;

б) адзінкі фауны;

в) адзінкі флоры;

г) часткі цела;

д) абстрактныя паняцці;

е) харч;

ж) рэлігійныя тэрміны, атрыбуты, святы;

з) з’явы прыроды і часавыя паняцці;

і) рэчывы;

к) грашовыя адзінкі і адзінкі вымярэння.

Сектар **“Антрапонімы, суадносныя з апелятывамі, якія называюць прадметы”** ўключае вялікую колькасць кампанентаў**.**

Апелятывы вылучаюцца надзвычайнай разнастайнасцю. Яны звязаны не толькі з гаспадарчай, але і з культурнай, ваеннай сферай дзейнасці чалавека і абазначаюць:

- прадметы быту, іх часткі, у тым ліку посуд: *Агарак; Аўчынка; Блюдзін; Бутылкін; Вераценька; Ворса; Гальнёў – галень* абл. ’стары венік без лісця; дзяркач’; *Гаршкоў; Гляк; Грэбнеў; Дубіна; Качаргін; Коўшык; Лавачкін; Пачопка – почапка* ’вяровачка для падвешвання’, ’дужка вядра’; *Рынкевіч – рынка* ’патэльня на ножках з доўгай ручкай’; С*амавар; Свечка; Сундукоў;*
- прылады працы і іх часткі: *Абух; Гвоздзеў; Дзюбіла; Долатаў; Лапацін; Лейка; Лемех; Малаток; Мятла; Піла; Рыдлевіч*; *Свярлоў; Тапарышчаў; Тапарэнка; Цяпкін; Шлягін – шляга* ’прылада, ударамі якой

трамбуюць ці ўшчыльняюць глебу, пясок, каменне і да т.п., а таксама выраўноўваюць паверхню’; *Шыдлёнак* – польск. *szydło* ’шыла’; *Шылаў;*

- адзенне, абутак, іх часткі: *Кажух; Капялюш; Курта; Лапаць; Магерка – магерка* ’круглая высокая мужчынская шапка з лямцу, якую насілі раней сяляне’; *Рукавічка; Рэйтузаў; Сапажкоў; Світко; Тапкаў; Халява – халява* ’частка бота, якая закрывае нагу ад ступні да калена’; *Чулкоў; Шапко; Шляпін;*
- музычныя інструменты: *Бубноў; Дудка; Жалейка; Скрыпка; Трубін;*
- зброю і ваенныя атрыбуты: *Наганаў; Шаблін; Штыкаў; Шчыт.*

У асновах прозвішчаў шырока прадстаўлены назвы прадметаў быту. Гэта не выпадкова: тое, што было вакол чалавека ў паўсядзённым жыцці, нярэдка метафарызавалася і станавілася антрапонімам. Напрыклад, вельмі жвавага чалавека маглі празваць *Верацеенькам*, сквапнага – *Сундуком,* а сухарлявага – *Шылам* або *Шчэпкай.*

Разнастайнай з’яўляецца група апелятываў, якія называюць сродкі працы і іх часткі. Яны дапаўняюць лексемы, што абазначаюць занятак, прафесію, віды дзейнасці, даюць “прафесійна-працоўную характарыстыку калектыва; вядомыя яму сродкі працы і механізмы, асаблівасці апрацоўкі, комплекс працоўных навыкаў – усё гэта ў апасродкаваным выглядзе замацоўваецца ў лексіцы і перажывае сваю эпоху” [7, с. 70].

Частка вылучаных з прозвішчаў апелятываў адносіцца да архаізмаў, таму антрапонімы, што іх утрымліваюць, з’яўляюцца своеасаблівым “архівам”, у якім зафіксаваны назвы старажытных рэчаў.

Прадуктыўнымі з’яўляюцца апелятывы ***скрыпка*** (прозвішчы *Скрыпачка, Скрыпачкін, Скрыпка, Скрыпкін, Скрыпко, Скрыпчанка*)*,* ***дудка*** (*Дудка, Дудкін, Дудко, Дудо, Дуткін*), ***дубіна*** (*Дубіна, Дубінін, Дубінкін, Дубінко, Дубіно, Дубіновіч*). Прычына высокага прозвішчаўтваральнага каэфіцыента апелятываў *скрыпка* і *дудка,* магчыма, у шырокай папулярнасці гэтых музычных інструментаў, якія здаўна суправаджалі жыццё беларусаў. Прозвішчаўтваральныя магчымасці апелятыва *дубіна* таксама невыпадковыя: раней гэтая лексема не мела таго адмоўнага значэння, якое нясе зараз, а нецаркоўнае імя і мянушка *Дубіна* сімвалізавалі моц і сілу, таму часта сустракаліся ва ўсходніх славян.

Сектар **“Антрапонімы, суадносныя з апелятывамі, якія адносяцца да фауны”** таксама даволі значны па колькасці.

Назвы жывёл і птушак адносяцца да ліку адзінак, якім уласцівы высокі антрапанімны каэфіцыент. Гэта звязана, па-першае, з шырокімі магчымасцямі адзначаных лексем персаніфікавацца; па-другое, з захаваннем традыцый татэмізму, пры якім абагатвораныя жывёлы (а таксама птушкі, расліны, з’явы прыроды) лічыліся родапачынальнікамі племені. У асновах прозвішчаў адлюстраваны наступныя назвы прадстаўнікоў фауны:

- дзікіх звяроў: *Бабровіч; Барсук; Волкаў; Гарнастаеў; Заяц; Кабан; Краценак; Лісаў; Лось; Мядзведзеў; Нарніцкі* – польск. *nornica* ’палёўка рыжая’; *Нядзвецкі – нядзведзь* рэг. ’мядзведзь’; *Рысь; Слонаў* (раней

*сланом* называлі цяжкага звера ўвогуле, напрыклад, *слон сахаты* ‘лось’)*; Собаль; Шакалаў;*

- свойскіх жывёл: *Баран; Барашка*; *Бык; Дзюшка; Жарабцоў; Кабылкін; Казёл; Котаў; Кошка; Парсюкевіч; Пяскоў* (ад нецаркоўнага імя або мянушкі Пяско – памяншальнай формы ад *пёс*); *Цялушкін; Цялятка;*
- дзікіх птушак: *Арлоў; Бусленка; Буцянкоў; Варабей; Варона; Воран; Гіль* – дыял. *гіль* ’снягір’; *Глухароў; Голуб; Грак; Дзятлаў; Дрозд; Дубанос; Жаўранак; Жураўлёў; Звірбуль* – параўн.: літ. *zvìrblis* ’варабей’; *Зуеў – зуй, зуёк* ’балотная птушка з роду кулікоў’; *Зязюля; Каршуноў; Курапаткін; Лебедзеў; Сарокін; Сікора* – польск. *sikora* ’сініца’; *Скаврон* – параўн.: польск. *skowronek* ’жаваранак’; *Сойка; Страздзін* – параўн.: літ. *strãzdas* ’дрозд’;
- свойскіх птушак: *Гусак; Гусько; Індзюкоў; Какошка* – польск. *kokoszka* ’квактуха’; *Курыцын; Пятух;*
- насякомых: *Аваднёў; Жук; Муравей; Мурашка; Мурашоў; Муха; Павучонак; Полазаў – полаз* ’неядавітая змяя’; *Пчолка; Саранчоў; Шчамель* – абл. *шчамель* ’чмель’;
- рыб, паўзуноў і іншых жывых істот: *Акунёў; Бялуга; Венжык* – польск. *wężyk* ’змейка’; *Вігеліс* – параўн.: літ. *vėgėle* ’налім’; *Жабін; Карась; Ляшчоў; Рак; Судак; Уклейка; Чарвяк; Шчука; Шчупак; Язёнак; Яршоў.*

Заўважаецца значная перавага назваў птушак над назвамі жывёл, звяроў і рыб у апелятывах, ад якіх утвораны прозвішчы. У сувязі з гэтым слушнай будзе думка У.А.Ніканава, што прычына ў тым, што птушкі мелі ў жыцці чалавека эканамічнае значэнне: дастаткова ўзгадаць голубагадоўлю, паляванне на сакалоў, цецерукоў і інш. Немалаважным з’яўляецца і той факт, што ў паўсядзённым жыцці людзі часцей сустракаліся з птушкамі, чым са звярамі і рыбамі [20, с. 195].

Сектар **“Антрапонімы, суадносныя з апелятывамі, якія з’яўляюцца адзінкамі флоры”** таксама багаты па напоўненасці кампанентамі. Такія прозвішчы паходзяць ад мянушак, былых апелятываў, што з’яўляюцца назвамі:

- дрэў: *Бразоўскі* – параўн.: польск. *brzoza* ’бяроза’; *Бярозкін; Вербін; Дубаў; Елкін; Ліпко; Рабінкін; Ракіцін; Сасна; Ясенеў;*
- кустоў, траў: *Асока; Аўсюк; Багун; Верас; Гірса – гірса* ’пустазелле сямейства злакавых’; *Дзягіль; Лапухоў; Малінкевіч; Пастарнакаў; Рамашка; Ружэвіч; Сніткін, Сныткін – сні(ы)тка* ’від травы’; *Траўка; Фіялка; Хвошч; Хмялёў; Хрэн*;
- раслін, якія культывуюцца чалавекам: *Агурцоў; Бабаха* – параўн.: укр. дыял. *бабоха* ’буйная фасоля’; *Бабок; Бурак; Вінаградаў; Гарбуз; Гарохаў; Грачуха; Грачыха, Грачышкін; Кавуноў; Капуста; Рэдзька; Рэпаў; Сліўка; Смародка;*
- грыбоў: *Апёнак; Баравік; Груздзеў; Масленік – масленік* ’масляк’; *Падасінавік; Сыраежка;*

- <u>пладоў</u> <u>і</u> <u>частак</u> <u>раслін</u>: *Арэх; Гарошка; Жолуд; Камель; Качан; Колас; Корань; Костачка; Пупышка; Расток; Рэпнік – рэпнік* ’лісце рэпы’; *Струк*; *Шаірка* – кірг. *шаір, шаірка* ’дрэвавая смала’; *Шульчэнка* – укр. *шулька* ’пачатак кукурузы’; *Яблакаў; Ягадаў.*

Як бачна, прозвішчы ўтрымліваюць відавыя назвы. Прычына гэтага можа быць у больш выразнай вылучальнай ролі і больш шырокіх асацыятыўных магчымасцях менавіта відавых адзінак. Напрыклад, у выніку анімізацыі родавай назвы *звер* на першы план выходзіць агульная характарыстыка – ’чалавек нелюдзімы, злы’. Калі ж асобу называюць *Ваўком,* то падкрэсліваюць такія яе рысы, як сілу і вынослівасць, *Бугаём* – моц і велічыню, *Зайцам* – палахлівасць або фізічны недахоп – прыроджанае раздваенне верхняй губы. Сказанае адносіцца ў першую чаргу да мянушак, у аснове якіх – назвы звяроў, жывёл, птушак і іншых прадстаўнікоў флоры і фауны. Ад такіх апелятываў маглі ўтварыцца і язычніцкія імёны. У гэтым выпадку бацькі, даючы такія імёны, выказвалі зычанні сваім дзецям: жадалі, каб сын быў дужы, як мядзведзь, тур, вол; адважны, як арол, сокал; цвёрды, як дуб; каб дачка была любая, як зязюлька; харошая, як ластаўка, краска, кветка [18, с. 96].

Цікавыя назіранні прыводзіць У. Юрэвіч пра язычніцкае імя, а пазней і прозвішча *Воўк*: “Некалі была такая завядзёнка: каб сын жыў доўга здаровым і моцным, трэба назваць яго ваўком, бо гэтыя звяры ў нас самыя дужыя і вынослівыя. Хадзіла паданне, што калі сын атрымае імя, у аснове якога слова воўк, ён застанецца беражоным. Ледзь не ва ўсёй Еўропы ёсць імёны, што паходзяць ад гэтага слова. У балгар гэта Вылка, у сербаў – Вук, у немцаў – Вольф (ды яшчэ з удакладненнямі: Рудольф – чырвоны воўк, Вольфган – воўчы ход)” [25, с. 148].

У сектар **“Антрапонімы, суадносныя з апелятывамі, якія называюць часткі цела”** ўваходзяць такія прозвішчы, як *Барада*; *Броўка; Вусько; Галоўка; Глазко; Горлаў; Губко; Дзясноў; Жыла; Зуб; Кудзерка; Лабёнак; Мяржвінскі* – польск. *mierzwinka* ўст. ’клінападобная бародка’; *Носік; Пальчыкаў; Плячоў; Пузоў; Пупко; Плейка* – літ. *pléikė* ’лысіна’; *Харэвіч; Храбтоў; Шульга* – рус. *шульга* ’левая рука’, ’ляўша’, укр. ’левая рука і нага’, ’ляўша’, назва расліны; *Шэйка; Язычэнка.*

Да пералічаных прозвішчаў цесна прымыкаюць антрапонімы, якія суадносяцца з апелятывамі, што называюць часткі цела жывёл: *Дзюба; Капыт; Лапа; Пух; Пушкоў; Пыкаў – пыка* рэг. ’мыса жывёлы’; *Рогаў; Рылько; Хвасцёнак.*

Асноўная большасць апелятываў, вылучаных з прозвішчаў, называе знешнія органы чалавека і тым самым дапаўняе адзінкі, якія характарызуюць асобу па знешніх прыкметах тыпу *зубан, насаты.* Відавочна адно: анімізаваліся не выпадковыя апелятывы, а толькі тыя, што называюць часткі цела, знешняя прыкмета якіх не адпавядае норме.

Сектар **“Антрапонімы, суадносныя з апелятывамі, якія абазначаюць абстрактныя паняцці”** ўключае наступныя прозвішчы: *Араматаў; Бібін* – польск. *biba* разм. ’выпіўка, папойка, гулянка’; *Бурдо* –

ст.-бел. *бурда* ’мяцеж, беспарадак’, польск. *burda* ’скандал, дэбош’; *Говар; Гоман; Горушка; Грудзіс* – літ. *grūdis* ’штурханіна, таўкатня’; *Гукаў; Звонаў; Злобін; Надзежка; Няволя; Падскок; Патай* – рэг. *патай* ’тайна’; *Пацалуёнак; Прыгодзін; Разбоеў; Разлом; Розум; Сандоў* – польск. *sąd* ’суд’, ’меркаванне, разважанне’, уст. ’прыгавор’; *Скокаў; Сонаў; Смерцеў; Сухавераў* – параўн.: укр. *суховеря* ’сухамятка’; *Хабараў; Шкода; Шчэк* – польск. *szczek* ’брэх’, разм. ’брахня’.

Значная частка антрапонімаў гэтага сектара бярэ пачатак ад слоў, запазычаных з літоўскай і польскай моў, а таксама мае аддзеяслоўныя асновы, гэта значыць, што адапелятыўныя мянушкі, ад якіх паходзяць прозвішчы, апісвалі чалавека паводле пэўных характэрных для яго паводзін, дзеяння: напрыклад, асоба, якая любіла *скакаць*, магла атрымаць мянушку *Скок*, ад якой і ўтварылася прозвішча *Скокаў*, а чалавек, які вылучаўся схільнасцю да выпіўкі, – мянушку *Біба*, ад якой паходзіць прозвішча *Бібін*.

Аналізуючы асновы прозвішчаў сектара **“Антрапонімы, суадносныя з апелятывамі, якія называюць харч”**, можна даведацца пра характар ежы ў далёкім мінулым. Значная частка прозвішчаў паходзіць ад апелятываў, што абазначаюць назвы хлеба, яго частак, а таксама іншых вырабаў з мукі: *Аладзьеў; Аляб’еў; Алябін* – рус. *алаба, алабыш, алябья* ’від мучных вырабаў’; *Балабкін* – рус. *балаба, балабка* ’хлябец, калабок, каравай’; *Блінаў; Бохан; Бублікаў; Букацін – букатка* ’печаны хлеб’; *Булкін; Караваеў; Коркін; Лапшын; Лусто; Піражкоў; Пірог; Праскурын – праскура* рэг. ’просвіра; благаславёны хлеб пры шасціднёвым памінанні па нябожчыку’; *Перапечын – перапеча* ’ляпёшка’; *Пранік; Праснякоў; Скарынкін; Хлебінаў.*

Частка прозвішчаў уключае лексемы, што абазначаюць іншую страву: *Жур; Кашын; Кісель; Кулеш; Поліўкін – поліўка* ’вадкая страва з мучной прыправай’, ’рэдкая частка якой-небудзь ежы, жыжка’; *Палюхін – палюхі* ’клёцкі з дранай бульбы’, ’клёцкі з грэцкай мукі’, укр. *палюх* ’палец’, ’вялікі палец’; *Саладуха; Саламаха; Ухін; Халаднік.*

Асобныя прозвішчы ўтрымліваюць назвы прадуктаў жывёлагадоўлі: *Молакаў, Саланінка, Сарадоеў, Смятанка, Сыраватка.*

Сектар **“Антрапонімы, суадносныя з апелятывамі, якія адносяцца да рэлігійных тэрмінаў, атрыбутаў, свят”** ілюструе характар богаслужэння, адносіны чалавека да рэлігіі. Значная частка прозвішчаў утрымлівае лексемы, звязаныя з хрысціянствам (тэрміны, паняцці, назвы святых і інш.): *Ангельцаў; Багамол – багамол* ’чалавек, які ўвесь час моліцца’, ’насякомае, што нагадвае такога чалавека’; *Баговіч; Бажок; Бесаў; Богаў; Гаспадзёнак; Духовіч; Лядаў – ляд* ’сатана’; *Пяклёнак; Раеў; Рызо; Рэвут; Рэут – рэут* ’самы вялікі звон на званіцы’; *Старавераў; Хрышчановіч; Чарткоў; Шыш; Шышко* – параўн. *шыш* ’нячыстая сіла’, ’вастраверхая куча’, ’фіга’, ’бадзяга, злодзей’, ’сатана’, ’бадзяга’, ’шышка’, ’чорт’.

Прозвішчы, што паходзяць ад найменняў нячысцікаў *(Бесаў, Лядаў, Чарткоў, Шыш, Шышко),* з’яўляюцца аберагальнымі: калі бацькі давалі нованароджанаму імёны Бес, Ляд, Чорт і да т.п., то спадзяваліся, што нячыстая сіла не будзе чапаць “сваіх”.

Шэраг антрапонімаў суадносіцца з язычніцтвам: прозвішчы *Лёля, Зюзя, Зузёнак* паходзяць ад назваў міфалагічных істот, што, паводле старажытных уяўленняў славян, з’яўляліся апекунамі пор года: Лёля – вясны, Зюзя – зімы (нельга не адзначыць іншыя варыянты тлумачэння гэтых найменняў. Так, антрапонім *Лёля* А.В. Супяранская лічыць скарочанай формай імёнаў Алена і Вольга. Прозвішчы *Зузя, Зузёнак* А.А. Свашэнка кваліфікуе як вынік пераасэнсавання жаночага балгарскага імя *Зуза* ад *Суса* ← *Сусанна*). Мнагабожжа, пакланенне славян прыродзе, надзяленне яе рысамі жывых істот пакінулі след у прозвішчах *Лясун, Ляшак, Шчураў* (*шчур* ’дух продка, які з’яўляецца хатнім апекуном’, а таксама ’невялікая птушка’, ’чалавек, што прывык шчурыцца’, ’пацук’).

Асобныя прозвішчы ўтрымліваюць назвы рэлігійных свят: *Дзевятнікаў – дзевятнік* ’хрысціянскае свята ў дзевяты чацвер пасля Вялікадня’; *Каляда; Макавееў – спас-макавей* ’свята на пачатку жніўня’ (не выключана таксама магчымасць утварэння ад этноніма *макавеі* ’назва народа, які ўпамінаецца ў Бібліі’); *Мясаед; Мясаедаў.*

Антрапонімы выяўляюць багацце і разнастайнасць язычніцкай лексікі ў сваім складзе. Гэта дае падставы меркаваць, што беларусы не пазбавіліся яшчэ язычніцкіх традыцый падчас утварэння прозвішчаў.

Сектар **“Антрапонімы, суадносныя з апелятывамі, якія адлюстроўваюць з’явы прыроды і часавыя паняцці”** нешматлікі. У ім вылучаюцца наступныя прозвішчы, звязаныя з назвамі з’яў прыроды: *Буржынскі* – польск. *burza* ’навальніца’; *Вецер; Вятоха – вятох* разм. ’месяц у апошняй квадры’; *Вятр* – польск. *wiatr* ’вецер’, ’нюх’; *Градаў; Громаў; Дымчанка; Зорка; Мароз; Мяцелеў; Мяцеліца; Саулін* – літ. *saulė* ’сонца’; *Сняжко; Сонцын; Сухавейка; Туманаў; Хмара; Холад; Цеплякоў – цяпляк* рэг. ’ранішні мароз’, рус. *тепляк* ’цёплы вецер’, ’жаночая шубка’; *Шадзенка* – польск. *szadz* ’іней’, ’васкавы налёт’.

Частка антрапонімаў паходзіць ад назваў часавых паняццяў: *Весніч; Вішнякоў*; *Вясна; Майскі; Пятніца; Снежань; Сярэдаў – сярэда* ’серада’; *Феўралёў.* Нагадаем, што прозвішчы тыпу *Марозаў, Туманаў, Вішнякоў* і да т.п. звязаны з нецаркоўнымі імёнамі Мароз, Туман, Вешняк, што даваліся дзецям, народжаным у моцны мароз, туман або вясной. Імёны ж Сонца, Зорка і інш. хутчэй за ўсё былі пажадальнымі: бацькі хацелі, каб дзіця расло такім жа прыгожым і харошым, як сонца і зоры.

У сектар **“Антрапонімы, суадносныя з апелятывамі, якія называюць рэчывы”** ўключаны наступныя прозвішчы: *Бархатаў; Бумага; Глінка; Мільта* – лат. *milti* ’мука’; *Мядкоў; Парахавы; Парахонька – парахонька* – памянш. ад *парахонь* рэг. ’парахня [дробныя, як пясок, сухія рэшткі сапрэлага або паточанага шашалем дрэва – **Г.С.**]’; *Попелаў; Сажын; Саломка; Сахараў; Серабро; Слёзкін; Смолкін; Соладаў; Шавяка* – рус. *шевяк* ’жывёльны памёт’; *Шчолак.*

Шэраг апелятываў, ад якіх утварыліся мянушкі, а потым і прозвішчы сектара **“Антрапонімы, суадносныя з апелятывамі, якія абазначаюць**

**грашовыя адзінкі і адзінкі вымярэння”,** з’яўляецца ўстарэлымі назвамі: *Грошаў; Грывень; Паўпудзенка; Пудаў; Фунцікаў; Шэлегаў.*

Такім чынам, сучасныя прозвішчы ўтвораны ад разнастайных па значэнні адапелятыўных мянушак: атрыбутыўных і агентыўна-прафесійных назваў асоб; тэрмінаў сваяцтва; адзінак, якія характарызуюць адносіны бацькоў да дзяцей, паказваюць асаблівасці з’яўлення нованароджанага; лексем, што адлюстроўваюць жывёльны і раслінны свет, прадметы, з’явы прыроды і інш. З катэгорыі *nomina personalia* найбольш шматлікімі з’яўляюцца адзінкі, якія характарызуюць чалавека па знешніх і ўнутраных рысах. Сярод *nomina impersonalia* значнае месца займаюць назвы прадметаў і фаўністычныя найменні.

Аналіз апелятываў, якія ўтрымліваюцца ў прозвішчах, паказальны не толькі ў анамастычным, але і ў этнаграфічным, гістарычным і лінгвістычным планах. Вельмі слушнымі з’яўляюцца словы А.В. Суперанскай, якая адзначае наступнае: “Пры ўсёй універсальнасці некаторых груп лексем, што ўжываюцца ў якасці антрапонімаў, яны ўсё ж адрозніваюцца ў розных народаў і па колькасці і па якасці. Нягледзячы на розныя “фільтры”, праз якія праходзяць прозвішчы да свайго замацавання, “асноўны спектр” іх застаецца для кожнага народа і тэрыторыі свой, асаблівы” [8, с. 69].

Амаль ва ўсіх лексіка-семантычных разрадах прадстаўлены дыялектныя словы – у асноўным беларускія, радзей – рускія, украінскія, польскія.

У каляядзерную прастору ўключаны прозвішчы, утвораныя ад уласных асабовых імён. Яна з’яўляецца даволі насычанай па колькасці кампанентаў. Лёгка суаднесці з адпаведнымі імёнамі прозвішчы *Андрэеў, Сцяпанаў, Сяргееў, Пятроў,* не выклікае асаблівай цяжкасці тлумачэнне і такіх прозвішчаў, як *Ануфрыеў, Амосаў, Афанасьеў, Герасімаў, Ціханаў, Яўграфаў, Яўстаф’еў,* бо пакладзеныя ў іх аснову імёны нярэдка сустракаюцца ў тэкстах мастацкай літаратуры, у іменаванні прадстаўнікоў старэйшага пакалення. Акрамя гэтага, трэба памятаць і пра такую асаблівасць сучаснага іменніка, як наяўнасць у яго складзе даўно забытых адзінак, што выклікана жаданнем бацькоў надзяліць дзіця арыгінальным, рэдкім іменем.

Для шэрагу прозвішчаў суаднясенне іх з адпаведным іменем з’яўляецца нялёгкім працэсам. Так, напрыклад, цяжка суаднесці прозвішчы *Зотаў, Каліненка, Каліstrataў, Мараньkoў, Маркіянаў, Маркелаў, Яўменаў* з адпаведнымі імёнамі (Зот, Каліна, Калістрат, Марон, Маркіян, Маркел, Яўмен), бо пералічаныя імёны і раней, відаць, даваліся вельмі рэдка, а зараз і ўвогуле не ўжываюцца.

Кампаненты каляядзернай прасторы ўтвораны ад разнастайных па характары адзінак: традыцыйна-царкоўных, адаптаваных на ўсходнеславянскай глебе поўных, размоўна-бытавых імён, эмацыянальна-ацэначных форм і інш.

Антрапонімы, у аснове якіх ***царкоўныя*** формы хрэсных імён, складаюць невялікую групу. Прозвішчы *Алексіёнак, Аўдзіёнак, Гардзіёнак, Сергіенка, Давідовіч, Давідзенка* ўзыходзяць да кананічных імёнаў Алексий, Авдий, Гордий, Сергий, Давид.

Паколькі царкоўная форма была ненатуральнай, чужой для ўсходнеславянскіх моў, то паралельна ёй у выніку фанетыка-марфалагічнага асваення ўтварыліся поўныя ***размоўна-бытавыя*** формы і варыянты хрэсных імён. Пры гэтым агульнай тэндэнцыяй было імкненне спрасціць кананічнае імя, зрабіць яго зручным для вымаўлення.

Прозвішчы адлюстроўваюць розную ступень адаптацыі хрэсных імён: ад нязначных да больш значных змен, якія робяць імя непазнавальным: *Есюкевіч* (< Есюк < хрэснае Иосиф), *Астаневіч* (< Астаня < хрэснае Евстафий), *Транчонак* (< Тронька < Троня < хрэснае Трофим).

У прозвішчах назіраюцца фанетычныя і марфалагічныя змены ў імёнах, уласцівыя ўсім усходнеславянскім мовам. Да ліку такіх змен належаць наступныя:

а) замена пачатковага [е] на [о] з частым пераходам [о] у [а] у выніку акання: ***А****мельчанка* < **А**мелька < **Е**мельян; ***А****лфёраў* < **А**лфёр < **Е**левферий; ***А****храмёнак* < **А**хрэм < **Е**фрем;

б) пераход [ф] у [х], [п] ці [хв]: *Тра**х**імёнак* < Тра**х**ім < Тро**ф**им; *Есі**п**аў*, *Асі**п**ёнак* < Есі**п**, Восі**п** < Иоси**ф**; ***П****ілат* < **П**ілат < **Ф**иларет; *Арэ**хв**а* < Арэ**хв**а < Аре**ф**а;

в) спрашчэнне груп галосных: ***Ю****дзін* < **Ю**да < **Иу**да; *Дан**і**ловіч* < Дан**і**ла < Дан**ии**л; *Сям**ё**наў* < Сям**ё**н < Сим**ео**н;

г) спрашчэнне груп зычных: *Я**ф**іменка* < Я**ф**ім < Е**вф**имий; *Сазо**н**аў* < Сазо**н** < Сазо**нт**;

д) устаўка зычнага [в] паміж галоснымі: *Ля**в**оненка* < Ля**в**он < Леонт; *Радзі**в**онаў* < Радзі**в**он < Родион.

Многія прозвішчы ілюструюць вынікі адаптацыі імён, звязаныя з фанетычнымі асаблівасцямі беларускай мовы. Такія гукавыя змены трэба лічыць унутрымоўнымі, нягледзячы на тое, што асобныя з іх уласцівы некаторым гаворкам іншых моў – рускай і ўкраінскай. Пералічым гэтыя змены:

а) прыстаўны галосны [о//а] перад спалучэннем зычных: ***А****трахімовіч,* ***А****трашкевіч,* ***А****трашкоў,* ***А****трошчанка,* ***А****трохаў* < **А**трахім, **А**трошка, **А**трох < Трофим*;* ***А****ўласаў,* ***А****ўласевіч,* ***А****ўласенка,* ***А****ўласёнак* < **А**ўлас < Власий;

б) прыстаўны зычны [в]: ***В****усцін* < **В**усцін < Иустин; ***В****осіпаў,* ***В****асіповіч,* ***В****асіпенка,* ***В****осіп’еў* < **В**осіп < Иосиф;

в) страта пачатковага ненаціскнога галоснага [а] ці [о] з [а]: *Панасенка* < Панас < **А**фанасий; *Гапееў, Гапяёнак* < Гапей < **А**гапий; *Гапановіч, Гапанкоў* < Гапон, Гапонька < **А**гафон;

г) змяненне [в] у [у]: ***У****ладзіміраў,* ***У****ладзіміровіч* < **У**ладзімір < **В**ладимир; ***У****ласевіч* < **У**лас < **В**ласий.

Звяртае на сябе ўвагу і той факт, што прозвішчаў, утвораных ад ***размоўна-бытавых*** форм кананічных імёнаў *(Андрусаў, Антонцаў, Васёха, Васіковіч, Васюцёнак, Дзям’янцаў, Есюкевіч, Івашура, Касцюшкін, Місурагін, Міхасёў, Петрусёў, Пятрага, Пятрышчаў, Сімакоў, Сянчура, Сяргун,*

*Тарасюкоў, Федакоў, Фядзяеў, Фядулаў, Фядура, Юргелевіч, Юрасёў* і інш.), значна больш, чым утварэнняў ад ***поўных*** форм.

Паколькі на тэрыторыі Беларусі суіснавалі і суіснуюць дзве кананічныя іменаслоўныя сістэмы – праваслаўная (або візантыйска-грэчаская) і рымска-каталіцкая, – то нярэдка варыянты аднаго імені, якое мае рознае гукавое афармленне ў праваслаўным і каталіцкім календарах, служаць базай для ўтварэння адпаведных шматкампанентных прозвішчных радоў (гл. Табліцу 1).

Табліца 1

**Прозвішчы, якія ўтрымліваюць у складзе праваслаўныя і каталіцкія імёны**

| Імя ў календары праваслаўным (1) і каталіцкім (2) і прозвішчы, матываваныя гэтым іменем | |
|---|---|
| 1 | 2 |
| **Григорий**: *Грыгаровіч, Грыгарэнка, Грыгор'еў, Грыгорчык, Грыгорый, Грыневіч, Грынкевіч, Грынцэвіч, Грынь, Грынько, Грыц, Грыцкевіч, Грыцко, Грыцэнка, Грычэнка, Грышын, Грышанаў, Грышаеў, Грышкевіч, Грышчанка, Грышчонак, Грыгель, Грыдзюшка* і інш. | **Grzegorz**: *Гжэгорчык* |
| **Василий**: *Васільеў, Васіленка, Васількоў, Васілёнак, Васілевіч, Васільчанка, Васіковіч, Васючонак, Васюковіч, Васькін, Васькевіч, Васюкоў, Васюцёнак, Васютовіч, Васяновіч, Васека, Васёха, Васёх, Васянкоў* і інш. | **Bazyli**: *Базылёў, Базыленка* |
| **Фама**: *Фамін, Фамічэнка, Фамічоў, Фаміч, Фамінаў, Фамёнак, Фаменка, Фомчанка, Хамёнак, Хаменка, Хамічэнка, Хамічонак, Хамінкоў, Хомчанка, Хоміч, Хаміч* | **Tomasz**: *Тамашонак, Тамашэнка, Тамашкоў, Тамашоў, Томашаў, Тамілаў, Тамашэвіч, Тумаш, Тумашэвіч, Тумашкоў, Том* |
| **Иосиф**: *Есіпаў, Есіповіч, Есіпёнак, Есяпёнак, Есіпенка, Есюкевіч, Асіпкоў, Асіповіч, Асіпенка, Асіпёнак, Асяпенка, Асяпёнак, Асяпкоў, Васіпенка, Осіпаў, Осіпкін* і інш. | **Jyzef**: *Юзэфовіч, Язэпа*<br><br>**Jakub**: *Якубаў, Якубёнак, Якубенка, Якубянец, Якубовіч, Якубцоў, Якубкін* |

| | |
|---|---|
| **Иаков**: *Якаўлеў, Якута, Якуценка, Якоўчанка, Яшчанка, Яшкоў, Яшын, Яковіч, Якуш, Якушаў, Якушэнка* і інш. | **Wawrzynies**: *Ваўранюк* |
| **Лаврентий**: *Лаўрыновіч, Лаўрановіч, Лаўрыненка, Лаўранёнак, Лаўрэнаў, Лаўранюк, Лаўрычэнка, Лаўрэнцаў, Лаўронаў* і інш. | **Gabriel**: *Габрусёнак, Гебрусёў, Габрысь* |
| **Гавриил**: *Гаўрылаў, Гаўрылёнак, Гаўрылін, Гаўрыленка, Гаўрыкаў, Гаўрушын, Гаўрушчанка, Гаўручонак, Гаўрыльчык, Гаўрышаў, Гаўрыловіч* | **Eliasz**: *Ільяшоў, Ільяшэвіч, Ільясевіч, Еляшэвіч, Елішэвіч, Ельяшэвіч* |
| **Илия**: *Ільін, Ілінчык, Ільюшчанка, Ільюкін, Ільіноў, Ільюшэвіч, Ільюцін, Ільюшэнка, Ільінчык* | **Ambroży**: *Амбражэвіч Амбразевіч, Абразей, Абразееў, Абразевіч* |
| **Амвросий**: *Амбросаў, Амбросенка, Амбрасёнак, Абросаў, Абросенка* | **Izajasz**: *Заясёнак* |
| **Исаия**: *Ісаеў, Ісай* | |
| **Венедикт**: Вінідзіктаў | **Benedykt**: *Банадысенка, Бендзікаў, Банад* |
| **Варфоломей**: *Варфаламееў* | **Bartłomiej**: *Балтрамовіч, Балтрумовіч, Балтрушэвіч, Балтруковіч, Балтрукоў, Барткевіч, Бартуль, Бартуш, Бартош, Бартошка* |

Асновы некаторых прозвішчаў утрымліваюць хрэсныя імёны, якія прыняты толькі каталіцкай царквой і не маюць адпаведнікаў у праваслаўных святцах: *Бернатовіч, Бернат* (Bernard); *Казіміраў, Казіміранка, Казюраў* (Kazimierz); *Каралёў, Каралевіч, Караленка, Каралькоў, Кароль* (Karol – імя, папулярнае ў многіх краінах свету); *Гаспаровіч, Каспераў, Касперсон, Каспіровіч, Кашпар* (Kasper); *Жыгмант, Зыгмунт* (Zygmunt); *Людвікаў* (Ludwig); *Францаў, Франкевіч, Франскевіч, Францкевіч, Пронін, Пранько, Пронька* (Franciszek); *Яцкевіч, Яцко, Яцэнка, Яцыневіч, Яцына, Яцук, Яцэвіч* (Jacek, Jacenty, Hiacynt, аднак нельга выключаць магчымасць другой матывацыі прозвішчаў – іменем  Jakob); *Здзесеў* (Zdzisław).

Частка прозвішчаў утрымлівае адзінкі, якія могуць быць кваліфікаваны і як імёны, і як апелятывы (гл. Табліцу 2).

Табліца 2

**Прозвішчы, утвораныя ад імёнаў і ад апелятываў**

| Прозвішча | Аснова ўтрымлівае | |
|---|---|---|
| | імя або яго форму | апелятыў |
| *Ашурак* | Усходняе Ашур | рус. ошуры ‘астаткі’ |
| *Відус* | літ. Vidunas | літ. Vidus ’унутранасці’ |
| *Войтаў* | Войцех | Войт |
| *Гайдар* | цюрк. Гайдар | цюрк. гайдар ‘валын-шчык’ |
| *Забела* | літ. Zabele | забела ‘малако, смятана’ |
| *Малік, Малікаў* | усх. Малік | малік ‘малы’ |
| *Маняк* | чув. Маняк | укр. маняк ‘пудзіла’ |
| *Мацюк* | Матвей | рус. матюк ‘лаянка’ |
| *Паршоў, Паршонак, Паршын* | Парша < Панцялей | парша ‘хвароба скуры’, ‘рыба’ |
| *Пратас, Протас* | літ. Protys < Protenis | літ. protas ‘розум’ |
| *Русан* | Русан < Хрисанф | русан ‘русый’ |
| *Супрун* | Супрун < Софрон | супрун ‘буркун’ |
| *Тараканаў* | цюрк. Таракан | таракан ‘насякомае’, цюрк. тархан ‘скупшчык’ |
| *Трашкоў* | Трошка < Трафім | рус. трёшка ‘траячка’, бел. ‘крыху’ |
| *Уланаў* | манг. Улан | улан ‘кавалерыст’ |
| *Шабанаў* | араб. Шабан | тат. шогбан, шабан ‘назва месяца’ |
| *Шарыпа, Шарыпенка, Шарыпскі* | мусульм. Шариф | рус. шарып ‘з выпучанымі вачамі’ |

Прозвішчы адлюстроўваюць **старажытныя славянскія** імёны, якія бытавалі яшчэ **да** прыняцця хрысціянства: *Станіслаўчук, Станіслаўчык, Станчык, Станчыкаў, Станюш, Стасёнак, Стаськоў, Стасяк, Стасько, Станкевіч, Станевіч, Сташуль, Сташэвіч, Стануль, Станулевіч, Стануленка, Станулёнак* (Станислав**)**; *Уладзіміраў, Уладзіміровіч, Валодзька, Валадзько, Валодзін, Валуцька, Валашкоў, Валоцка, Валадзёнак, Валадзіёнак, Валадзіонак, Валадкевіч, Валаткевіч, Валатковіч, Ладзік* (Владимир); *Вайцяшонак, Вайцяховіч, Вайціховіч, Вайцюль, Вайткевіч*, *Войцыг* (**Войтех**); *Багданаў, Багдановіч, Багдан, Багдзей* (Богдан)*; Багаслоў* (Богослов); *Багушэвіч, Богуш* (Богуслав); *Броннькін, Броня, Бронін* (Бронислав); *Ваславёнак* (Венцеслав); *Владысенка, Владысёнак* (Владислав); *Гарыслаўка* (Горислав); *Казіміраў, Казіміранка, Казюраў* (Казимир); *Славіч* (Вячеслав).

Шматлікія прозвішчы можна лічыць як адыменнымі, так і адтапанімнымі дэрыватамі (*Вайцяхоўскі, Васілеўскі, Іванаўскі, Ісакаўскі*,

*Янушкаўскі, Герасімоўскі, Якубоўскі, Макарскі, Мікульскі, Тамашэўскі, Данілаўскі, Аляшкоўскі* і інш.), бо яны маглі ўтварацца як ад імені, так і ад назвы населенага пункта. Сёння немагчыма адназначна сцвярджаць, з’яўляўся першы носьбіт прозвішчаў *Вайцяхоўскі, Базылёўскі* выхадцам з сяла Вайцяхі ці Базылёўка або сынам/прыгонным нейкага Войцеха, Базыля. Найхутчэй такія адзінкі адтапанімныя, асабліва калі рэальна існуе (ці існаваў) тапонім, які мог быць пакладзены ў аснову антрапоніма. Бо нельга не пагадзіцца з думкай М.В. Бірылы, што, “з’яўляючыся натуральным ва ўтварэннях ад геаграфічных і тапаграфічных назваў, ... [фармант *-скі /-цкі* – **Г.С.**] менш уласцівы ўтварэнням ад назваў асобы па імені, занятку ці прымеце, дзе звычайнымі апелятыўнымі ўтварэннямі выступаюць словы з суфіксамі *-оў (-аў, -еў), -ін (-ын), -ач* і некаторыя іншыя” [3, с. 37]. Калі ж аднайменнага тапоніма няма, то можна з большай ступенню верагоднасці дапусціць магчымасць утварэння падобных прозвішчаў ад імён.

Уяўляюць цікавасць прозвішчы, што ўтрымліваюць імёны, якія не належаць ні да старажытных славянскіх, ні да занесеных у царкоўныя святцы хрэсных. Такія адзінкі былі запазычаны ў выніку кантактаў з іншымі народамі: латышамі, літоўцамі, яўрэямі, татарамі і інш.

Аб магчымасці пражывання балтаў на тэрыторыі сучаснай Беларусі ў даславянскі перыяд выказваюцца многія археолагі і антраполагі. Пацверджанне гэтай думкі знаходзім таксама ў працах вядомых анамастаў М.В. Бірылы і А.П. Ванагаса, якія, даследуючы беларускую і балтыйскую антрапанімію, выявілі агульныя мадэлі ўтварэння прозвішчаў, назваў населеных пунктаў. Адзначаныя мовазнаўцы звярнулі ўвагу на тое, што “балтыйскі пласт тапаніміі і антрапаніміі некаторых паўночна-заходніх раёнаў Беларусі, якія мяжуюць з Літвой, да гэтага часу з’яўляецца вельмі значным, а іншы раз нават пануючым” [4, с. 4].

Прозвішчы з балтыйскімі элементамі распаўсюджаны на тэрыторыі Беларусі. Яны паходзяць ад літоўскіх ці латышскіх апелятываў, а таксама імён, якія ўжываюцца літоўцамі, у тым ліку грэчаскага, лацінскага і інш. паходжання, напрыклад, *Гетаўт* (Getautas, Getautė), *Урбан, Урбановіч, Урбанайц* (Urbonas), *Анастасіс* (Anastãzas), *Закс* (Zakys < Zakãrijas), *Нарбут* (Norbut < Norbutas).

Значнае месца належыць прозвішчам, якія змяшчаюць яўрэйскія мужчынскія імёны. Да яўрэйскіх прозвішчаў належаць патранімічныя адзінкі з германскімі фармантамі ***-сон*** ’сын’ і ***-ман*** ’чалавек па імені’ (*Давідсон, Якабсон; Гецман, Фішман*), а таксама прозвішчы-імёны (*Матус, Матуш, Несан*). Гаворачы пра яўрэйскія прозвішчы, не заўсёды можна мець поўную ўпэўненасць, што яны належаць людзям гэтай нацыі, таму што яўрэі карысталіся антрапанімнымі адзінкамі тых народаў, сярод якіх яны жылі. Так, названыя прозвішчы з элементамі ***-сон, -ман*** выкарыстоўваюцца ў першую чаргу немцамі, а таксама яўрэямі. Таму можна дапусціць утварэнне прыведзенага прозвішча *Фішман* не толькі ад яўрэйскага мужчынскага імені Фишл, Фишель, але і ад нямецкага апелятыва fisch ’рыба’ (*Фішман* < *фішман* ’рыбак’).

Вылучаецца група прозвішчаў, утвораных ад мужчынскіх імён, якімі карыстаюцца прадстаўнікі мусульманскага веравызнання. Разгледзім некаторыя з іх: *Гайдар* (ад імя Гайдар, якое ўзыходзіць да арабскага “хайдар” ’леў’); *Муратаў* (ад татарскага Мурат, араб. Мурад ’жаданы’; яго часта даюць разам з іншымі сінанімічнымі імёнамі, напрыклад, Саід ’шчаслівы’); *Мамаеў* (ад цюркскага Мамай, якое захавалася ў іменніку як адбітак татара-мангольскага нашэсця); *Галімаў, Галімовіч* (ад татарскага Галим, Алим, якое ў мусульман з’яўляецца эпітэтам іх правіцеляў: ’той, які ведае’); *Шаломаў* (ад татарскага Шолом ’мір’; параўн. арабскае “салам” з тым жа значэннем).

Некалькі прозвішчаў – *Шах, Шахаў, Шахмет, Шахметаў* – утрымліваюць імя Шах, якое бярэ пачатак са старажытнаіранскага тытула. Як піша Э.Я. Сафараліева, правіцелі Ірана нярэдка далучалі гэты тытул да свайго імені, у выніку чаго ўзніклі шматлікія ўтварэння (іх каля 20) з кампанентам “шах” [21, с. 317]. Відаць, імя Шахмет, ад якога потым пайшлі прозвішчы *Шахмет, Шахметаў,* можна таксама аднесці да ліку такіх утварэнняў.

Такім чынам, адыменныя прозвішчы займаюць значнае месца ў беларускім антрапаніміконе. Асноўная большасць іх паходзіць ад мужчынскіх хрэсных імён праваслаўнага ці каталіцкага календара. Невялікую групу складаюць утварэнні, што змяшчаюць старажытныя славянскія імёны (як правіла тыя, што кананізаваны царквой), а таксама антрапонімы, якія знаходзяцца ва ўжытку прадстаўнікоў неславянскага свету: яўрэяў, літоўцаў, латышоў, арабаў, персаў і інш.

Прозвішчы выяўляюць багатую і разнастайную сістэму адаптаваных на ўсходнеславянскай і беларускай глебе кананічных імёнаў, прадстаўленых шматлікімі размоўна-бытавымі і поўнымі літаратурнымі формамі. Колькасць прозвішчаў ад розных імёнаў неаднолькавая, што можна растлумачыць, па-першае, ступенню папулярнасці канкрэтнага імені падчас утварэння прозвішчаў; па-другое, частатой фіксацыі яго ў царкоўным календары; па-трэцяе, колькасцю імянных варыянтаў; па-чацвёртае, здольнасцю іменнай асновы спалучацца з прозвішчаўтваральнымі фармантамі.

На перыферыі семантычнага поля знаходзяцца прозвішчы, утвораныя ад тапонімаў. Прозвішчы ўтрымліваюць розныя па характары тапонімы: 1) адзінкі, што даюць толькі агульную характарыстыку носьбіта роду: *Загурскі* – ’які жыў (нарадзіўся, прыбыў) за гарой’; *Забалотны* – ’які жыў (нарадзіўся, прыбыў) за балотам’; *Заборскі; Падгорскі;* 2) лексемы, што ўказваюць на канкрэтны населены пункт, з якога прыбыў (або ў якім жыў ці нарадзіўся) першы носьбіт прозвішча: *Матукоўскі* – з в.Матукі, *Дулінскі* – з в.Дуліна, *Лапкоўскі* – з в.Лапкі. Пераважаюць адзінкі другой групы, бо прозвішчы першай групы маюць агульную “тапаграфічную” характарыстыку і не ў поўнай меры выконваюць функцыю ідэнтыфікацыі асобы.

У залежнасці ад характару лакалізацыі тапонімаў прозвішчы можна падзяліць на некалькі груп:

1) утрымліваюць тапонімы, размешчаныя на тэрыторыі Беларусі: *Асінаўскі* < в.Асінаўка; *Бабінскі* < в.Бабінка; *Баканоўскі* < в.Баканы; *Ульскі*

< г.п. Ула; *Ушацкі* < г.п.Ушачы; *Чарнарэцкі* < в.Чарнарэчча; *Ізбіцкі* < в.Ізбіцкае;

2) утрымліваюць тапонімы, якія знаходзяцца на тэрыторыі блізкага замежжа: а) Расіі: *Донаў, Данскі, Донскі* < р.Дон; *Валагжанін* < г.Вологда; *Масальскі* < г.Масальск; *Растоўскі* < г.Растоў; *Смаленскі* < г.Смаленск; *Самарскі* < г.Самара; б) Украіны: *Запарожыц* < Запарожжа; *Красніцкі* < Красне; *Гваздецкі* < Гваздець; *Крымскі* < Крым; в) Польшчы: *Златагорскі; Радзішэўскі.*

Тлумачэнне многіх прозвішчаў не можа быць адназначным: сустракаюцца адзінкі з дзвюма і больш матывацыямі. Сярод іх такія, што ўключаюць частку *-оў-*, якая ў адным выпадку з'яўляецца інтэрфіксам (*Бычкоўскі* < в.Бычкі), а ў другім – суфіксам матывуючага тапоніма (*Бычкоўскі* < в.Бычкова). На тэрыторыі Беларусі багата прыкладаў, падобных на прыведзеныя ніжэй:




Шэраг прозвішчаў могуць быць матываваны як тапонімамі, так і тапаграфічнымі назвамі, якія не нясуць указання на канкрэтнае месца: *Залескі* ('які жыве за лесам або ў в.Залессе'); *Запольскі* ('які жыве за полем або ў в.Заполле'); *Зарэцкі* ('які жыве за ракой або ў в.Зарэкі, в.Зарэчча').

Не маюць адназначнага тлумачэння адзінкі, што суадносяцца з аднакаранёвымі тапонімамі, якія абазначаюць населеныя пункты, размешчаныя на тэрыторыі розных абласцей Беларусі. Так, прозвішча *Гілёўскі* магло ўтварыцца як ад тапоніма, што называе вёску на тэрыторыі Віцебскай вобласці (в.Гілі), так і ад назвы хутара на Міншчыне (х.Гілёўка). Да ліку прыкладаў, падобных на гэты, неабходна аднесці таксама наступныя:
*Баравіцкі* < Баравіца (Мн. вобл., Мг. вобл.);
*Баранаўскі* < Баранава (Вц. вобл.); Баранаўка (Мн. вобл.);
*Быкоўскі* < Быкі (Вц. вобл., Мн. вобл.) і Быкоўцы (Мн. вобл.);
*Грабаўскі* < Грабава (Мг .вобл.), Грабаўё (Мн. вобл.), Грабаў (Гом. вобл.);
*Грыбоўскі* < Грыбы, Грыбова, Грыбоўцы (Вц. вобл.); Грыбы (Мг. вобл.) і інш.

Часта націск у прозвішчы з'яўляецца вызначальным паказчыкам таго, ад якога з некалькіх тапонімаў мог утварыцца антрапонім: *Дабрынскі / Добрынскі* < Дабрынь / Добрына; *Драздоўскі / Дроздаўскі* < Дразды / Дроздава; *Малінаўскі / Маліноўскі* < Малінаўка / Малінова.

Утварэнне тапаантрапонімаў часам суправаджаецца поўным накладаннем марфем: *Друцкі* < Друцк, *Іванскі* < Іванск, *Земскі* < Земск, *Мядзвецкі* < Мядзвецк, *Полацкі* < Полацк, *Рачыцкі* < Рачыцк, *Смаленскі* < Смаленск. Як

бачна, прозвішчаўтваральнымі ў такіх выпадках выступаюць тапонімы ў форме назоўнікаў мужчынскага роду.

Утварэнне прозвішчаў ад тапонімаў – працэс не аднабаковы, бо існуе і адваротная з'ява: утварэнне тапонімаў ад прозвішчаў. На гэта не раз звярталі ўвагу такія даследчыкі, як В.П. Лемцюгова, З.В. Рубцова і інш. Так, менавіта прозвішчы з'явіліся ўтваральнымі для такіх назваў населеных пунктаў, як Дамброўскія, Лісоўскія, Чарняўскія, Савіцкія, Альшэўскія, Букоўскія, Вярцінскія, Глінскія, Жылінскія, Гірдзюкі < *Дамброўскі, Лісоўскі, Чарняўскі, Савіцкі, Альшэўскі, Букоўскі, Вярцінскі, Глінскі, Жылінскі, Гірдзюк* (і тапонімы, і прозвішчы рэальна існуюць на Віцебшчыне).

Калі прыведзеныя адзінкі **дазваляюць дапусціць**, што пералічаныя тапонімы **маглі** ўтварыцца ад названых антрапонімаў, то існуюць прыклады, якія не выклікаюць сумнення ў факце называння вёсак ад прозвішча іх заснавальнікаў ці жыхароў: прозвішча *Раманчук* зафіксавана ў вёсцы Раманчукі Глыбоцкага р-на і размешчаных паблізу населеных пунктах, прозвішча *Ралавец* -- у вёсцы Ралаўцы Глыбоцкага р-на, прозвішча *Дубінец* – у вёсцы Дубянцы Чашніцкага р-на, прозвішча *Цясто* – у вёсцы Цясты Верхнядзвінскага р-на, прозвішча *Сардыка* – у вёсцы Сардыкі Верхнядзвінскага р-на. Сустракаюцца нават выпадкі, калі носьбіты прозвішча, якое дало назву вёсцы, складаюць большую палову яе жыхароў: в.Варошкі (Лепельскі р-н) – прозвішча *Варошка*, в.Кухты (Глыбоцкі р-н) – прозвішча *Кухта(о)*. Усе прыведзеныя прыклады бытуюць на тэрыторыі Віцебшчыны.

Большасць тапонімаў, пакладзеных у аснову прозвішчаў, з'яўляецца назоўнікамі ніякага роду або pluralia tantum, што можна растлумачыць асаблівасцямі дапасавання тапоніма да тэрміна-класіфікатара. Нягледзячы на тое, што цяпер многія населеныя пункты маюць статус вёскі, раней яны мелі іншы статус – былі сялом.

Тапонімы, якія абазначаюць населеныя пункты Беларусі і замежжа, адрозніваюцца паміж сабой: першыя называюць дробныя аб'екты (вёска, сяло, хутар, пасёлак, раз'езд, зрэдку – горад), а другія – вялікія (рака, горад, раён, вобласць). Тлумачачы такую з'яву, трэба памятаць пра функцыю прозвішчаў і прычыны іх узнікнення. Хутчэй за ўсё першыя носьбіты прозвішчаў *Запарожскі, Крымскі, Донскі* і падобных – людзі немясцовыя, прыезджыя. Таму для вылучэння іх з пэўнага асяроддзя, калектыву было дастаткова агульнай характарыстыкі ('з Запарожжа'; 'з Крыма'; 'з-пад Дона'), якая змяшчаецца ў антрапоніме, без дадатковай канкрэтызацыі, з якога іменна населенага пункта Крыма ці Запарожжа прыбыў носьбіт такога прозвішча. Для мясцовых жа жыхароў характарыстыка, напрыклад, 'з-пад Віцебска' ці 'з-за Дзвіны' з'яўляецца недастатковай для дакладнай ідэнтыфікацыі асобы, бо яе можна аднесці да шматлікай колькасці людзей. Таму ў адносінах да карэнных жыхароў прымянялася больш дэталёвае тлумачэнне: з якой канкрэтна вёскі (сяла, хутара і да т. п.) паходзіць чалавек.

Гістарычныя падзеі мінулага (міграцыя палякаў, акаталічванне беларусаў) пакінулі свой след і ў антрапанімікone, які ўключае шмат

прозвішчаў з фанетычнымі асаблівасцямі польскай мовы: *Гурскі, Загурскі* (параўн.: gora – бел. гара), *Белабжэцкі* (параўн.: brzed – бел. бераг), *Бразоўскі* (параўн.: brzoza – бел. бяроза), *Бжызінскі* (параўн.: brzezina – бел. беразняк, бярозавы гай).

Такім чынам, семантычны аналіз асноў адапелятыўных прозвішчаў з'яўляецца дастаткова каштоўным. Ён, на думку А.В. Супяранскай, "дае значную інфармацыю, якая ўяўляе цікавасць для гісторыкаў, этнографаў, сацыёлагаў, а таксама лінгвістаў. Пры параўнанні лексічных палёў, па якіх размяркоўваюцца асновы прозвішчаў у розных мовах, можна зрабіць вывады пра агульнасць або, наадварот, рознасць нацыянальных культур асобных народаў" [9, с. 81]. Сапраўды, прозвішчы ў большай ступені, чым іншыя антрапанімныя адзінкі, захоўваюць звесткі пра старажытны стан мовы, у іх знаходзяць адлюстраванне асаблівасці матэрыяльнай і духоўнай культуры народа. М.В. Бірыла называе адапелятыўныя прозвішчы "люстэркам, у якім адбілася... гісторыя развіцця лексічнай сістэмы мовы" [1, с. 3], звяртае ўвагу на тое, што частка прозвішчаўтваральных асноў захоўвае звесткі з агульнаславянскай эпохі, "пры гэтым адны з асноў у апелятыўнай лексіцы беларускай мовы існуюць і зараз, а другія да нашых дзён або не дайшлі, або, магчыма, жывуць дзе-небудзь у дыялектах, але ... нам яны невядомы... Антрапанімія, такім чынам, закансервавала пэўную частку лексем, якія не захавала мова, і дае надзвычай каштоўны матэрыял для гістарычнай лексікалогіі і этымалогіі" [1, с. 3].

## Асноўная літаратура


1. Бірыла, М.В. Беларуская антрапанімія: Прозвішчы, утвораныя ад апелятыўнай лексікі / М.В. Бірыла. – Мінск: Навука і тэхніка, 1968. – 508 с.
2. Бірыла, М.В. Беларуская антрапанімія: Уласныя імёны, імёны-мянушкі, імёны па бацьку, прозвішчы / М.В. Бірыла. – Мінск: Навука і тэхніка, 1966. — 328 с.
3. Бірыла, М.В. Беларускія антрапанімічныя назвы ў іх адносінах да антрапанімічных назваў іншых славянскіх моў (рускай, украінскай, польскай) / М. В. Бірыла. – Мінск: Выд-ва Акадэміі навук БССР, 1963. – 58 с.
4. Бірыла, М.В. Літоўскія элементы ў беларускай анамастыцы: Даклады VI Міжнароднага з'езда славістаў / М.В. Бірыла, А.П. Ванагас. – Мінск: Навука і тэхніка, 1968. — 100 с.
5. Бірыла, М. В. Тыпалогія і геаграфія славянскіх прозвішчаў. Даклады X Міжнароднага з'езда славістаў / М.В. Бірыла. – Мінск: Навука і тэхніка, 1988. – 63 с.
6. Грынблат, М.Я. Беларуска-латышскія сувязі ў тапаніміі і антрапаніміі БССР / М.Я. Грынблат // Беларуская анамастыка. – Мінск: Навука і тэхніка, 1977. — С. 43–49.

7. Никонов, В.А. География фамилий / Отв. ред. С. И. Брук; АН СССР, Ин-т этнографии им. Н. Н. Миклухо-Маклая / В.А. Никонов. – М: Наука, 1988. – 189 с.
8. Суперанская, А.В. «Нестандартные» русские фамилии / А.В. Суперанская, А.В. Суслова // Ономастика и норма. – М.: Наука, 1976. – С. 59 – 71.
9. Суперанская, А.В. Современные русские фамилии / Отв. ред. Ф. П. Филин / А.В. Суперанская, А.В. Суслова. – М: Наука, 1984. – 176 с.
10. Супрун, В.И. Ономастическое поле русского языка и его художественно-эстетический потенциал: Дис. в виде науч. докл. ... д-ра филолог. наук: 10.02.01 / Волгоградский гос. пед. ун-т / В.И. Супрун. – Волгоград, 2000. – 76 с.
11. Унбегаун Б. О. Русские фамилии (Перевод с англ.). – М.: Прогресс, 1989. – 443 с.
12. Усціновіч, Г. Нашы прозвішчы Г. Усціновіч // Роднае слова. – 2005. – №8. – С. 73-77.
13. Шур, В. Беларускія ўласныя імёны: Беларуская антрапаніміка і тапаніміка: Дапаможнік для настаўнікаў / В.В. Шур. – Мінск: Маст. літ., 1998. – 239 с.
14. Шур, В.В. Уласныя імёны ў часе і прасторы / В.В. Шур. – Мінск: НІА, 2008. – 100 с.

## Дадатковая літаратура

15. Бірыла, М.В. Беларуская антрапанімія: Структура ўласных мужчынскіх імён / М.В. Бірыла. – Мінск: Навука і тэхніка, 1982. – 320 с.
16. Грушко, Е.А. Фамилии... / Е.А. Грушко, Ю.М. Медведев. – М.: Рольф, 1998. – 576 с.
17. Редько, Ю.К. Сучасні украіньскі прізвища / Ю.К. Редько. – Киів: Наук. думка, 1966. – 215 с.
18. Русский язык. Энциклопедия / Гл. ред. Ю. Н. Караулов. – 2-е изд., перераб. и доп. – М.: Большая Российская энциклопедия; Дрофа, 1997. – 703 с.
19. Сцяцко, П.У. Беларускае народнае словаўтварэнне. Афіксальныя назоўнікі / Рэд. М. В. Бірыла / П.У. Сцяцко. – Мінск: Навука і тэхніка, 1977. – 320 с.
20. Никонов, В.А. Имя и общество / В.А. Никонов. – М: Наука, 1974. -- 278 с.
21. Никонов, В.А. Словарь русских фамилий / Сост. Е.Л. Крушельницкий / В.А. Никонов. – М: Школа-Пресс, 1993. – 224 с.
22. Сафаралиева, Э.Я. Как тебя зовут? / Э.Я. Сафаралиева. – Махачкала: Дагестанское книжное изд-во, 1994. – 339 с.
23. Справочник личных имён народов РСФСР. – М.: Русский язык, 1989. – 655 с.

24. Станкевіч, Я. Хрышчоныя імёны вялікалітоўскія / Я. Станкевіч // Спадчына. – 1992. – № 6. – С. 96–101.
25. Юрэвіч, У. Слова жывое, роднае, гаваркое...: Дапаможнік для настаўнікаў / У. Юрэвіч. – Мінск: Маст. літ., 1998. – 282 с.

## Трэніровачныя практыкаванні

***Практыкаванне 1.*** Размяркуйце прыведзеныя ніжэй другасныя прозвішчы на групы ў залежнасці ад характару прозвішчаўтваральнага фарманта: 1) агульнаславянскія, 2) усходнеславянскія, 3) унутрымоўныя. Выдзеліце ў іх фармант.

*Унуковіч, Перавозкін, Юрчак, Быхавец, Бялюк, Федарэнка, Рагалеў, Шыдлоўскі, Зямчонак, Круглік, Барадулін, Мілашэвіч, Змітрачэнка, Янушкоўскі, Гайдучэня, Латушкін, Міхасёў, Латыгалец, Шчэрбік, Тарасюк, Казачонак, Ліпчанка, Полацкі, Паўлавец, Крывёнак, Андрусяк, Назарук, Быкаў, Кузьміч, Пухальскі, Каваленя, Літвінюк, Азярэц.*

***Практыкаванне 2.*** Выпішыце з прыведзеных ніжэй прозвішчаў тыя, што маюць адыменны характар. У дужках пасля кожнага прыклада запішыце форму імені, ад якой непасрэдна ўтворана прозвішча. Ці супадае гэтая форма з поўнай афіцыйнай?

*Міхалчанка, Юранаў, Навумчык, Герасімаў, Васюковіч, Грыневіч, Кухарэнка, Палячонак, Змітрачэнка, Алексіёнак, Прошчанка, Савін, Міхасёў, Дарошчанка, Пашко, Дзёмчанка, Астапчык, Касцюковіч, Фаміч, Каліненка, Касцяновіч, Петрашкевіч, Карпекін, Алёхін, Пятрышчаў, Касцюкоў, Купрэеў, Кандрашоў, Несцераў, Мінін, Федуноў, Івашура, Пашута, Міхяёнак, Стануленка, Сафрончык, Андрэйчык, Васькін, Барыскаў, Давідовіч, Гаўрышаў, Касцюшкін, Васёха, Тарасюкоў, Грышановіч, Валькін.*

***Практыкаванне 3.*** Пра носьбітаў якіх пералічаных ніжэй прозвішчаў можна з пэўнай доляй упэўненасці сказаць, што яны беларусы? Абгрунтуйце свой адказ.

*Глінскі, Дрозд, Дубін, Дубоўскі, Багданаў, Ляўшун, Маісеенка, Садоўскі, Садоўнікаў, Акулёнак, Хільман, Райцаў, Гайдуленя, Абрамовіч, Талкач, Якабсон, Грышын, Мальчэўскі, Рымдзёнак, Бауман, Богдан, Петрачэнка, Белавус, Барзых, Талуціс, Алеська, Куцькін, Сарока, Мустэйкіс, Казачонак, Тоўпінец, Марозаў, Мароз, Іванчук, Эрдман, Старадуб, Барадзін.*

***Практыкаванне 4.*** Пастаўце ў творны і месны склоны. Запішыце ў два слупкі. Растлумачце правапіс канчаткаў.

Варыянт 1. *Багдановіч Максім, Паўлючэнка Надзея, Прыстаўка Міхаіл, Аўдошка Вера, Казачэнка Мікалай, Краско Яўген, Жураўлёў Андрэй, Міхаль Сяргей, Захаранка Таццяна, Скарына Францыск, Сяргей Кіраў, пасёлак Кіраў, Юрый Гагарын, горад Гагарын, Кузьма Філін, горад Столін, непаседа Вася, задавака Вольга, забіяка Сяргей, плакса Валя, самавучка Ала, самавучка*

*Юра, калега Вера, непаседа Алег, разявака Алена, задзіра Алеся, зануда Аляксей.*

Варыянт 2. *Пашута Андрэй, Пашкевіч Надзея, Аўдошка Аксана, Гняўко Сяргей, Александровіч Павел, Абрамовіч Яўгенія, Магер Пётр, Бірыла Мікалай, Святляк Ганна, Акулёнак Алена, Анціпенка Алесь, Зуёнак Міхаіл, Дубко Яўген, Мялешка Валянціна, Шалуха Алесь, Юрый Нікалаеў, горад Нікалаеў, Іван Тураў, горад Тураў, Фама Кавалёў, горад Магілёў, плакса Іра, стараста Генадзь, самавучка Васіль, задавака Таня, калега Андрэй, разявака Вольга, бацька Алег, прамоўца Святлана.*

***Практыкаванне 5.*** Запішыце прозвішчы і імёны членаў вашай групы ў тры слупкі: у першы слупок – у форме **Н. скл**., у другі – у форме **Д. скл**., у трэці – у форме **Т. скл.** Вусна растлумачце правапіс канчаткаў ва ўскосных склонах. У першым слупку знайдзіце і падкрэсліце адной рыскай прозвішчы, якія маюць іншы канчатак, калі іх носьбітам з’яўляецца асоба процілеглага полу, хвалістай рыскай – прозвішчы, скланенне якіх не залежыць ад полу носьбіта, дзвюма рыскамі – прозвішчы, якія не скланяюцца ўвогуле. Пры неабходнасці звяртайцеся да граматык.

***Практыкаванне 6***. Прадоўжыце пералік прозвішчаў (запішыце 3-5 прыкладаў), пры ўтварэнні якіх ад тапоніма назіраецца поўнае або частковае накладанне марфем: *Полацкі – Полацк + -ск-(і), …*

***Практыкаванне*** *7*. Выкарыстоўваючы прыведзеныя ніжэй прыклады, дакажыце, што прозвішчы часам утрымліваюць “закансерваваную” інфармацыю, якая не захавалася ў сучаснай беларускай мове.

*Свешнікаў, Грабеншчыкоў, Ігольнікаў, Віннікаў, Жарнасек, Рашэтнікаў, Гусельнік, Катляроў, Лаўнікаў, Алейнікаў, Калеснікаў, Вінакураў, Гутнікаў, Пушкароў, Суднік, Бортнік, Гуменнік, Хмельнік, Канавалаў.*

## Пытанні і заданні для самакантролю

1. Дайце азначэнне тэрміна *прозвішча*. Параўнайце значэнне гэтага тэрміна ў беларускай і рускай мовах.
2. Хто ўпершыню прапанаваў падзел прозвішчаў на першасныя і другасныя?
3. Якая прымета ляжыць у аснове падзелу прозвішчаў на першасныя і другасныя? Прывядзіце прыклады першасных і другасных прозвішчаў.
4. Якія першасныя прозвішчы належаць да субстантыўнага і ад’ектыўнага тыпаў? Прывядзіце прыклады. Як можна вызначыць, жанчыне ці мужчыну належаць прозвішчы субстантыўнага і ад’ектыўнага тыпу?
5. Якімі прычынамі можна растлумачыць вялікую колькасць першасных прозвішчаў на *-ка/-ко* на тэрыторыі Беларусі?

6. Назавіце найбольш характэрныя фіналі ў асабовых імёнах, ад якіх паходзяць першасныя субстантыўныя прозвішчы. Прывядзіце прыклады такіх прозвішчаў.
7. Па якіх паказчыках можна вызначыць літоўскае паходжанне прозвішча?
8. Якія германскія фарманты ўтрымліваюць беларускія прозвішчы? Прывядзіце прыклады і ахарактарызуйце структуру такіх прозвішчаў.
9. Назавіце прозвішчныя тыпы, якія вылучаюцца сярод другасных прозвішчаў. Якая прымета ляжыць у аснове гэтай класіфікацыі?
10. Назавіце ўсе агульнаславянскія прозвішчныя тыпы. У чым выяўляюцца асаблівасці бытавання кожнага з іх а тэрыторыі Беларусі?
11. Пералічыце ўсходнеславянскія прозвішчныя тыпы. Раскажыце пра іх распаўсюджанасць на Беларусі.
12. На прыкладзе ўнутрымоўных прозвішчных тыпаў пакажыце, як народныя традыцыі называння знаходзяць адбітак у антрапаніміі.
13. Назавіце прычыны нераўнамернага распаўсюджання розных прозвішчных тыпаў на тэрыторыі сучаснай Беларусі.
14. Раскажыце пра сутнасць полевага падыходу да апісання семантыкі прозвішчных асноў. Як схематычна можна паказаць семантычнае поле “Прозвішчы жыхароў Беларусі”?
15. Як можна растлумачыць тое, што прозвішчы найчасцей утрымліваюць найменні з характарыстыкай фізічных, а не псіхічных якасцей чалавека?
16. Паразважайце, ці можна праз даследаванне антрапонімаў выявіць характар заняткаў нашых далёкіх продкаў у мінулым.
17. Якімі культурнымі традыцыямі можна растлумачыць тое, што ў беларусаў група назваў белага і чырвонага колераў у прозвішчах надзвычай разнастайная?
18. Як можна растлумачыць тое, што ў асновах прозвішчаў шырока прадстаўлены назвы бытавых прадметаў? Прывядзіце прыклады такіх прозвішчаў.
19. З чым звязана тое, што назвы жывёл і птушак адносяцца да ліку адзінак, якім уласцівы высокі антрапанімны каэфіцыент?
20. Якія антрапанімныя факты сведчаць пра жыццеўстойлівасць язычніцкіх вераванняў беларусаў?
21. Якія фанетычныя і марфалагічныя змены ва ўласных імёнах, характэрныя для ўсіх усходнеславянскіх моў, знайшлі адлюстраванне ў прозвішчах? Прывядзіце прыклады такіх прозвішчаў. Растлумачце сутнасць змен.
22. Якія вынікі адаптацыі хрэсных імён на беларускамоўнай глебе назіраюцца ў прозвішчах жыхароў Беларусі? Прывядзіце прыклады прозвішчаў.
23. Назавіце 5-7 кананічных імён, якія адрозніваюцца гучаннем у праваслаўным і каталіцкім календарах. Ці аднолькавая ступень прадуктыўнасці розных варыянтаў аднаго імені пры ўтварэнні прозвішчаў? Чым гэта можна растлумачыць?
24. Ці заўсёды можна дакладна, адназначна выявіць матывацыю прозвішча? Чаму?

25. Пералічыце рысы, што з’яўляюцца паказчыкамі неславянскага паходжання прозвішчаў. Прывядзіце прыклады такіх прозвішчаў.
26. Пакажыце на прыкладах, што ўтварэнне прозвішчаў ад тапонімаў – працэс не аднабаковы і што існуе адваротная з’ява: утварэнне тапонімаў ад прозвішчаў.
27. Дайце агульную характарыстыку асаблівасцей структуры прозвішчаў жыхароў Віцебшчыны. Параўнайце дадзеныя па Віцебшчыне і па Беларусі, назавіце агульнае і адрознае. Пры неабходнасці звяртайцеся да табліц і карт.
28. Хто з беларускіх даследчыкаў займаецца (займаўся) вывучэннем прозвішчаў? Назавіце іх працы, дайце кароткую характарыстыку гэтых прац.

## МЯНУШКІ

**Ключавыя словы:** *мянушка, імя-мянушка, празванне-мянушка, кананічнае імя, хрэснае імя, язычніцкае імя, неафіцыйнае найменне, унутрысямейная мянушка, агульнабытавая мянушка, індывідуальная мянушка, групавая мянушка, сямейная мянушка, радавáя мянушка, мянушка-патронім, мянушка-матронім, мянушка-андронім, мянушка-гінонім, мянушка-адэльфонім, простая мянушка, складаная мянушка, састаўная мянушка, мянушка-абрэвіятура, nomina personalia, адпрозвішчная мянушка, адыменная мянушка.*

### Класіфікацыя мянушак

З усіх антрапанімных адзінак (уласнае асабовае імя, прозвішча, імя па бацьку, мянушка, псеўданім) менавіта мянушка з’яўляецца самай старажытнай. Да прыняцця хрысціянства большая частка імён уяўляла сабой

імёны-мянушкі (празванні-мянушкі), утвораныя на базе апелятыўнай лексікі (*Дуб, Заяц, Нялюб, Міл, Мароз, Крывы*).

У дахрысціянскі перыяд імя было роўнае мянушцы. У XVII-XVIII стст. імёны-мянушкі ў функцыі, блізкай да функцыі ўласнага асабовага імені, сталі ўжывацца радзей, бо пачалі выціскацца кананічнымі хрэснымі імёнамі.

Сярод мовазнаўцаў усталявалася думка, што мянушкі набывалі асаблівую папулярнасць у тых народаў, у якіх існуючая сістэма ўласных асабовых імён была запазычана, таму простыя людзі не разумелі першаснага, зыходнага значэння імені. Так было ва ўсходніх славян, якія разам з прыняццем хрысціянства атрымалі новую сістэму іменавання, а з ёй – і незразумелыя для іх імёны лацінскага і грэчаскага паходжання. Таму яшчэ некалькі стагоддзяў пасля прыняцця хрысціянства амаль кожны чалавек меў, акрамя царкоўнага, яшчэ і язычніцкае імя, якое, па сутнасці, і было мянушкай. У сувязі з гэтым У. Івашка характарызуе мянушкі як элемент язычніцкай сістэмы імён з апелятыўна значымымі асновамі.

Неафіцыйныя найменні распаўсюджваюцца і тады, калі колькасць уласных асабовых імён, якія могуць быць выкарыстаны, з’яўляецца абмежаванай. Так, напрыклад, было ў арабскіх народаў доўгі час пасля мусульманізацыі [22, с. 218].

У антрапаніміі слова *мянушка* ўжываецца са значэннем ‘неафіцыйнае найменне чалавека, дадзенае па яго знешніх ці ўнутраных асаблівасцях, паводзінах, характары заняткаў, пасадзе, прозвішчы і інш.’.

Функцыі мянушак у старажытнасці адрозніваюцца ад іх ролі ў наш час: у старажытнасці мянушкі выконвалі найперш намінатыўна-ідэнтыфікацыйную і прафілактычна-пажадальную функцыі, сёння ж яны выкарыстоўваюцца як сродак эмацыянальна-экспрэсіўнай характарыстыкі чалавека. У X ст. імёны-мянушкі былі адзіным сродкам ідэнтыфікацыі асобы, а ў наш час яны існуюць побач з іншымі антрапанімнымі адзінкамі.

Цікава, што ў XXI стагоддзі, калі існуе вялікая колькасць мадэлей называння асобы, мянушкі не страцілі сваёй папулярнасці. Даследчыкі называюць дзве асноўныя прычыны ўзнікнення мянушак:

1) недастатковая колькасць афіцыйных асабовых назваў у параўнанні з патрэбамі камунікантаў: “ні адна мова (і беларуская не складае выключэння) не мае ў сваім звароце столькі асабовых імён, каб імі можна было без паўтарэння назваць усіх членаў таго ці іншага грамадскага калектыву”. Так, А. Грамыка – былы Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР – успамінаў, што на яго радзіме ў вёсцы Старыя Грамыкі на Гомельшчыне амаль усе жыхары мелі прозвішча Грамыка. У суседніх Новых Грамыках, дзе больш за 500 двароў, – таксама адны Грамыкі. У вёсцы Пацёсы, дзе больш за 200 двароў, таксама ўсе жыхары з прозвішчам Грамыка. Пагэтаму сяляне прыдумвалі адзін аднаму прозвішчы-мянушкі [22, с. 53-54];

2) імкненне да дакладнай персаніфікацыі пэўнай асобы, выдзяленне яе па якой-небудзь прыкмеце з пэўнага калектыву, асяроддзя. Так, напрыклад, багатыя людзі маюць мянушкі *Кашалёк, Буржуй*, адзінокія – *Бабыль*, працалюбівыя – *Пчолка, Электравенік,* з дрэнным зрокам – *Лупа* і г.д.

Гістарычных помнікаў дахрысціянскага перыяду захавалася вельмі мала, а тыя, што ёсць, – грэка-візантыйскія. Таму цяжка апісаць антрапанімію дахрысціянскага перыяду. Аднак з упэўненасцю можна гаварыць пра тое, што асноўнай адзінкай называння чалавека ў той час было імя і што імёны ў дахрысціянскі перыяд былі празваннямі (або своеасаблівымі мянушкамі), якія ўтвараліся на базе апелятыўнай лексікі. Старажытны чалавек адухаўляў прыроду, верыў, што з навакольным светам можна весці размовы, як з чалавекам, верыў у магічную сілу слова, быў упэўнены, што жывёлы, дрэвы, розныя з'явы прыроды, назвы якіх узяты ў якасці імён, становяцца апекунамі, ахоўнікамі іх носьбітаў [12, с. 3]. Старажытныя людзі "ўтойвалі свае імёны ад ворагаў, лічачы, што аднаго ведання імені дастаткова для таго, каб нашкодзіць каму-небудзь. Іншы раз пісалі ў сябе на пятах імёны сваіх ворагаў, каб пры хадзе зневажаць іх і тым самым рабіць зло носьбітам гэтых імён" [20, с. 41].

На язычніцкіх уяўленнях пра містычную ўладу імён і заснаваны шматлікія бытавыя забабоны. Сутнасць іх – прыпісванне імені магчымасцей нячыстай сілы. Атаясамленне "імя – душа" ўласціва шматлікім вераванням. Гэтым выклікана і табу асабовых імён, не распаўсюджанае на тэрыторыі славянскіх народаў. Другі спосаб падмануць злыя сілы – даць дзіцяці імя, якое адштурхоўвае значэннем (тыпу "*дурань*", "*сабачы хвост*"), з разлікам, што злы дух такога дрэннага не возьме. У Расіі нават у XVI-XVII стагоддзях існаваў звычай падманнай знаходкі: дзіця хавалі, каб падмануць "злыя сілы", а пасля рабілі выгляд, што гэта не тое дзіця, называлі яго па-іншаму. Таму нецаркоўнае імя *Найдзён* не заўсёды давалася падкідышу.

Мянушкі бываюць *унутрысямейныя* і *агульнабытавыя*. Для называння дарослага чалавека ў грамадстве, якое знаходзілася на пачатковых стадыях развіцця, дастаткова было аднаго *ўнутрысямейнага* свецкага імені. Адносна нешырокая наменклатура імён дазваляла адрозніваць людзей у невялікіх кангламератах. Пазней, з развіццём грамадства, спатрэбіліся дадатковыя вылучальныя найменні. Уласныя імёны, якія давалі дзецям пры нараджэнні (да прыняцця хрысціянства – людскія, а потым – хрысцільныя), пачалі дапаўняцца мянушкамі, якімі характарызаваў асобу калектыў. Натуральна, што дзіця атрымлівала імя, якое адлюстроўвала прадметы і з'явы навакольнага асяроддзя. Пры называнні выкарыстоўваліся словы, звязаныя са з'яўленнем чалавека на свет, з яго паводзінамі ў маленстве, з адносінамі да яго дарослых. Напрыклад, калі дзіця было чаканым, жаданым у сям'і, яго называлі *Ждан, Бажэн,* калі ж яно з'яўлялася раптоўна, нечакана – *Нячай, Няждан*. Пры называнні ўлічваліся агульныя рысы чалавека, асаблівасці яго знешнасці, паводзін і інш.

Акрамя прамога выкарыстання лексікі, што існавала ў той час, шляхам розных перабудаванняў ствараліся асобныя словы, найбольш прыдатныя для называння. Такія спецыяльныя ўтварэнні можна лічыць паўнацэннымі ўласнымі імёнамі мінулага. Часцей за ўсё ўнутрысямейныя імёны мелі форму назоўніка, найменні ў форме прыметніка былі мала распаўсюджаны. А.В. Супяранская і А.У. Суслава лічаць, што "гэта тлумачыцца функцыянальнай

асаблівасцю ўнутрысямейных уласных імён: у сям'і імя служыла для называння. Мянушка, утвораная ад прыметніка, выглядае больш натуральна, калі пра людзей гавораць у трэцяй асобе" [20, с. 85].

З цягам часу (прыкладна з XIV ст.) аднаго ўнутрысямейнага імені стала недастаткова для дакладнай персаніфікацыі. Каб даць поўную характарыстыку асобы, пачалі выкарыстоўваць дадаткова другое ўласнае імя, імя-мянушку, імя па бацьку, назву мясцовасці ці ўладання. Таму ў старабеларускіх юрыдычных актах XIV-XVIII стст. адзначаюцца двух-, трох- і чатырохслойныя найменні асобы. Імя-мянушка не было абавязковым, але амаль заўсёды суправаджала асноўнае імя ў розных сітуацыях.

З прыняццем хрысціянства ўнутрысямейныя імёны сталі актыўна выціскацца царквой. Менавіта іх, а не агульнабытавыя найменні, царква імкнулася замяніць хрысцільнымі іншамоўнымі імёнамі. У гэты час і нават да XVIII ст. старажытныя ўласныя імёны не выходзяць з ужытку, а працягваюць існаваць разам з хрысцільнымі, але пасля прыняцця хрысціянства гэта не ўнутрысямейныя імёны, а празванні-мянушкі.

Наменклатура ўнутрысямейных імён невялікая ў параўнанні з агульнабытавымі. Сям'я была адносна замкнёнай сістэмай, аднолькавыя найменні не выконвалі размежавальнай функцыі.

Асноўная маса агульнабытавых імён была нейтральнай. Імёны-мянушкі, што цяпер нам здаюцца зневажальнымі (*Гарбач, Крывашэй, Крывалап, Пляшко, Дубіна*), у мінулым не ўспрымаліся так эмацыянальна, як сёння: яны здаваліся натуральнымі, бо проста канстатавалі факт. Некаторыя з іх узыходзілі да так званых засцерагальных імён, асноўнае прызначэнне якіх было зберагчы дзіця ад хвароб і жыццёвых цяжкасцей, даць яму магчымасць выжыць.

Зараз цяжка даведацца, калі і як атрымалі свае найменні *Горланъ, Молчунъ, Лепетуха, Тарабуля, Кроха, Рабчикъ, Рыхликъ, Цибикъ* і інш. Пытанняў не ўзнікае, калі гэта частка шматслоўнага называння, бо да імені з цягам часу дадалася мянушка (*Иванъ Стары, Сымонъ Немелкий*). Калі ж у старажытных помніках выкарыстоўваецца аднаслоўнае называнне (не выключана, што гэта былі не адзіныя імёны і што гісторыя не данесла да нас іх поўнага наймення чалавека), то магчыма, што перад намі ўнутрысямейнае свецкае імя ці мянушка. Таму для зручнасці мы далей будзем аднолькава называць іменем-мянушкай унутрысямейнае імя і агульнабытавое.

У аснову імені-мянушкі лёг рэальны факт. Перш за ўсё знешнасць, паводзіны ці характар чалавека з'яўляецца падставай для ўзнікнення імені-мянушкі. Чалавек па нейкіх рысах можа асацыіравацца з якой-небудзь жывёлай, птушкай, рыбай ці прадметам. Узнікаюць такія найменні і ў сувязі з рознымі падзеямі ў жыцці чалавека, прафесіяй, заняткам, яго роляй у грамадстве. Таму ў імёнах-мянушках шырока адлюстроўваюцца ўсе бакі сямейнага, грамадскага і палітычнага жыцця чалавека. Менавіта пагэтаму імёны-мянушкі можна назваць своеасаблівым позіркам у мінулае.

З цягам часу імёны-мянушкі ўсё больш аддаляюцца ад імён і набліжаюцца да прозвішчаў. На думку М.В. Бірылы, "на гэтым шляху кожнае

імя-мянушка праходзіць два этапы. На першым яно з’яўляецца бытавым, штодзённым іменем асобы, уласна іменем-мянушкай. А на другім этапе імя-мянушка адной асобы, скажам, галавы рода, вялікай сям’і, становіцца агульным дыферэнцыруючым іменем для ўсіх членаў сям’і. Тут імя-мянушка выконвае функцыю, блізкую да функцыі прозвішчаў. Але гэта яшчэ “часовае прозвішча” – толькі для аднаго-двух пакаленняў канкрэтнай сям’і. Часовае яшчэ і таму, што яно няўстойлівае ў сваёй форме, гэта значыць яшчэ не стала наследным “знакам”, “гербам” канкрэтнай сям’і” [13, с. 6].

Сучасныя неафіцыйныя найменні бываюць *індывідуальнымі* і *групавымі* (*сямейнымі*, *радавымі*). *Індывідуальныя* мянушкі называюць аднаго чалавека, напрыклад, *Чыжык* – жвавы чалавек, *Баценька* – быў дырэктарам саўгаса, *Боцман* – служыў на марфлоце, *Булён* – быў поварам у арміі, *Мачыла* – прыхільнік выпіўкі (параўн. *замачыць* ‘адзначыць выпіўкай якую-небудзь падзею, справу і пад.’), *Макрыца* – чалавек нізкага росту.

*Групавыя* мянушкі называюць некалькіх чалавек: *Сельсавет* – мянушка сямі сяброўак з адной вуліцы, *Чатыры Пэ* – мянушка студэнтак, якія вучацца ў адной акадэмічнай групе, вылучаюцца абмежаванымі разумовымі здольнасцямі, а іх прозвішчы пачынаюцца на літару “пэ”, *Прыматы* – мянушка студэнтаў, якія вучацца на спецыяльнасці “прыкладна́я матэматыка”, *Канюхоўскія Музыкі* – так называюць двух мужчын, якія добра іграюць на гармоніках, таму іх часта запрашаюць на вячоркі, вяселлі і іншыя святы, *Цімур І Яго Каманда* – групавая мянушка мужчын, аб’яднаных агульнымі інтарэсамі, *Бабры* – так празвалі двух хлопцаў-студэнтаў, якія на археалагічнай практыцы жылі ў сырой палатцы.

Часам агульнай мянушкай называюць цэлыя сем’і: *Карабкі* – сям’я Карабіцкіх, *Дудкі* – сям’я Дудковых, *Банцікі* – сям’я Баншчыкавых, *Вурачкі* – незадаволеныя людзі, ад дзеяслова *вурчаць, Знахары* – усё пра ўсіх ведаюць, *Седуны* – першы носьбіт мянушкі ў дзяцінстве доўга не хадзіў, а сядзеў, *Рулюкі* – першы носьбіт мянушкі пастаянна вытрымліваў пост, падчас якога еў рулі – посную ежу. Сямейныя мянушкі распаўсюджаны найперш у сельскай мясцовасці, дзе прыналежнасць да пэўнай сям’і, роду з’яўляецца важнай, часам нават вызначальнай характарыстыкай асобы.

Агульная сямейная мянушка можа адрознівацца ў старэйшых і малодшых, у мужчын і жанчын па форме. Напрыклад, галаву сям’і завуць *Чорт*, яго сына – *Чарток*, а жонку *Чарціха*; бацька *Сібірак,* жонка *Сібірачка,* сын *Сібірачок;* бацьку клічуць *Бык*, а сына *Бычок*, муж *Маркова*, жонка *Маркоўка*; бацька *Поп*, а сын *Папок*; бацька носіць мянушку *Гармонік*, а яго дзеці *Гармонічкі*; гаспадыню называюць *Удава́*, а яе дачку *Удовішка* і г.д.

Сярод найменняў для ўнутрысямейных адносін адрозніваюць наступныя: *патронімы* – найменні нашчадкаў, утвораныя ад імён, прозвішчаў або мянушак бацькоў ці больш далёкіх продкаў па мужчынскай лініі; *матронімы* – найменні нашчадкаў, утвораныя ад імён, прозвішчаў або мянушак маці ці больш далёкіх продкаў па жаночай лініі; *андронімы* – найменні жонак, утвораныя ад імён, прозвішчаў або мянушак мужоў,

*гінонімы* – найменні мужоў, утвораныя ад імён, прозвішчаў або мянушак жонак, *адэльфонімы* – найменні братоў і сясцёр і інш.

Сямейныя мянушкі-патронімы па форме часта супадаюць з прыналежнымі прыметнікамі і ўтвараюцца ад імені галавы сям'і: *Барысавы, Пілiпавы, Лукашовы, Валодзевы, Федзіны.* Найменні могуць быць матываваны таксама назвай прафесіі ці пасады галавы сям'і: *Кузняцы, Бондары, Аграномавы, Брыгадзіравы, Дохтаравы.*

Індывідуальныя патронімы могуць мець у сваім складзе не толькі суфікс -*ов*- (*Паўлючкова* – дачка Паўла), але і іншыя суфіксы і нават прыстаўкі: *Талян* – сын Анатоля, *Міцік* – сын Дзмітрыя, *Лаўрык* – унук Лаўрэнція, *Навумчык* – унук Навума, *Баравок* – сын мужчыны па мянушцы *Бораў, Сцепанішка* – дачка Сцяпана, *Цімхоўна* – дачка Цімафея, *Падцімух* – сын Цімафея.

Сямейныя мянушкі-*матронімы*, утвораныя ад імені гаспадыні, часта бываюць аманімічныя з прыналежнымі прыметнікамі і ўключаюць суфікс -*ін*-: *Матроніны* (ад Матрона), *Клаўдзіны* (ад Клаўдзя). Прывядзём прыклады індывідуальных матронімаў: *Маісей* – зяць Маісы, *Удовішка* – дачка жанчыны, якая носіць мянушку *Удавá, Марылішка* – дачка Марылі, *Матрошка* – дачка Матроны, *Дуніч* – сын *Дуні* (Евдакіі), *Нюшыха* – дачка *Нюшы* (Ганны), *Касалапіха* – дачка жанчыны па мянушцы *Касалапая.*

Пры ўтварэнні андронімаў актыўна выкарыстоўваецца суфікс -*іх*(а): *Пеціха* 'жонка Пеці', *Сеньчыха* 'жонка Сенькі', *Лявоніха, Барысіха, Ніканорыха, Ільюшчыха, Валянцініха, Нікаліха, Дзёмчыха,* а таксама *Каніха* (муж носіць мянушку *Конь Дзеравянны)*, *Бараніха* (мужа называюць мянушкай *Баран* за ўпартасць), *Мошыха* (прозвішча мужа *Мошкін*), а таксама ўжываецца суфікс -*ін-: Сініцына* (мянушка мужа Сініца), *Зомбіна* (мянушка мужа Зомбі), *Гвоздзіна* (мянушка мужа Гвоздзь), *Краліна* (мянушка мужа Краль).

Суфікс -*іх(а)* з'яўляецца настолькі актыўным пры называнні жанчын, што можа ўтвараць мянушкі нават ад прозвішчаў саміх жанчын: *Фраліха* (жанчына мае прозвішча *Фралова*), *Ляўчыха* (ад прозвішча *Ляўчук*), *Макрэнчыха* (Макрэнка), *Новічыха* (Новікава), *Курашыха* (Кураш).

Найменні мужоў, утвораныя ад імён, прозвішчаў ці мянушак іх жонак (гінонімы), сустракаюцца надзвычай рэдка: *Улыбін* (мянушка жонкі *Улыба*).

Мянушкі брата па імёні, мянушцы брата ці сястры або найменне сястры па імені, мянушцы брата (іншай сястры), ці адэльфонімы, распаўсюджваюцца, як правіла, на малодшых у сям'і. Мянушкі старэйшых могуць перайсці на малодшых без якіх-небудзь змен. Часам адэльфонімы адрозніваюцца фармантамі: старэйшы брат *Сіні* (носіць прозвішча *Сінёў*), малодшы – *Падсінены*, малодшая сястра – *Сінічка*. Сустракаюцца адрозненні ў лексічным плане: старэйшы брат *Карась*, малодшы – *Пяскар*; старэйшая сястра *Рашпіль*, малодшая – *Падпілак*. У гэтых прыкладах можна ўбачыць водгаласкі структурнага і семантычнага сунайменя, уласцівага старажытнарускім імёнам.

Сустракаюцца групавыя мянушкі, якія ўяўляюць сабой агульныя назвы жыхароў асобных населеных пунктаў. У Глыбоцкім р-не Віцебскай вобласці, напрыклад, жыхароў в. Удзела ў акаляючых вёсках называюць *смалякамі*, бо раней тут была смалакурня. А жыхароў в. Крывічы ў в. Пліса гэтага ж р-на – *крывіцкія палонікі* або *крывіцкія лапонікі*, што абазначае ‘людзі простыя, бедныя, няўмелыя’.

Калі населены пункт дзеліцца на часткі, якія маюць сваю назву, то могуць існаваць мянушкі ў жыхароў розных частак. Напрыклад, в. Забор’е Расонскага р-на Віцебскай вобласці дзеліцца на дзве часткі, жыхароў адной часткі называюць *пашкоўцы*, бо яны ўсе носяць адно прозвішча – Пашкоў, а другой – *азяране*, таму што жывуць каля возера. Вёску Азярцы Глыбоцкага р-на той жа вобласці насяляюць *шанхайцы*, *партугальцы* і *хутаранцы*. Першыя з іх пражываюць у той частцы вёскі, якая тут завецца Шанхай, другія – у Партугаліі, а трэція – у новабудоўлях.

У колькасных адносінах індывідуальныя мянушкі пераважаюць над групавымі. І гэта натуральна, бо асноўная функцыя неафіцыйных найменняў – характарызуючы, вылучыць, выдзеліць чалавека з грамадства.

Паводле структуры ўсе неафіцыйныя найменні можна падзяліць на *простыя, складаныя і састаўныя. Простыя* мянушкі – гэта аднаслоўныя адзінкі, якія маюць адзін корань: *Цыганка, Мышка, Пузыр, Трапло, Булка.*

*Складаныя* мянушкі маюць дзве (найчасцей) і больш каранёвыя марфемы, якія ўтвараюць адно слова*: Гідранос, Мегамозг, Мазгалом, Шлёп-Нага, Браты-Пілоты, Манька-Матацыкл.*

Да ліку складаных варта аднесці таксама мянушкі-абрэвіятуры:

а) складовыя: *Зачуха* – заведуе чужым хазяйствам;

б) літарныя: *ПП* (чытаецца “пэ-пэ”, утворана ад пачатковых літар імені і імені па бацьку носьбіта – Пётр Пятровіч), *ЖБ* (чытаецца *“жэ-бэ”*, ад імені Жэня і прозвішча Баранаў), *ЛД* (чытаецца “эл-дэ”, утворана ад Лілія Дзмітрыеўна), *ЛМ* (ад Лілія Мечыславаўна). Як сведчаць рэспандэнты, дзве апошнія мянушкі ўтварыліся па аналогіі з назвамі цыгарэт – *LD* і *LM*. Носьбіты мянушак працуюць у школе, з’яўляюцца класнымі кіраўнікамі, вядуць антынікацінавую прапаганду сярод падлеткаў;

в) гукавыя: *ЕВА* – ад Елкіна Вера Аляксандраўна.

Стварэнне мянушак-абрэвіятур можа тлумачыцца пэўнай камунікатыўнай задачай, напрыклад, выкарыстаннем своеасаблівай “шыфроўкі” паведамлення, паколькі сэнс мянушкі-абрэвіятуры звычайна вядомы абмежаванаму колу людзей.

*Састаўныя* мянушкі складаюцца з двух і больш слоў: *Метр У Кепцы Два У Скачку* (пра чалавека невысокага росту), *Святая Троіца, Саша Ціхі* (гучна гаворыць), *Тамара Касая, Кашмар Іванаўна* (жорсткая, злая), *Рваны Кед, Федзя Маленькі, Сцёпка Крыкун, Дзед Васыль*, *Мама Стася, Цёця Ася, Дзядзя Сцёпа, Дурны Глаз, Белы Арол, Валасатая Нага, Місцер Мускул, Джоні Дурак, Дружышча Бобёр, Брацец Кролік* (дзве апошнія мянушкі належаць мужчынам з вялікімі пярэднімі зубамі). Як бачна з прыкладаў, у структуру састаўных найменняў могуць уваходзіць наступныя кампаненты:

уласнае імя, імя па бацьку, характарыстыка па сацыяльным статусе, фізічных і псіхічных асаблівасцях носьбіта і інш.

Мянушкі прадстаўнікоў розных сацыяльных і ўзроставых груп маюць шэраг агульнага ў матывацыі: многія з іх паходзяць ад прозвішчаў, характарызуюць захапленні, фізічныя і псіхічныя асаблівасці носьбіта, узніклі пасля пэўных падзей ці ўчынкаў носьбіта. Адрозненні заўважаюцца ў лексічным напаўненні семантычных груп. Так, найменні моладзі часам уключаюць адзінкі са слэнга, паўтараюць імёны ўдзельнікаў папулярных у гэтым асяроддзі музычных груп, герояў перадач, мультыплікацыйных і кінафільмаў: *Лафá* (ад Лёша), *Халява* (хлопец, які падчас сесіі нічога не вучыць), *Масяня* (ад імені персанажа тэлеперадачы), *Дэцл* (носьбіт захапляецца музычнай дзейнасцю спевака Дэцла), *Сплін* (фанат групы “Сплін”), *Шнур* (носьбіт мянушкі цікавіцца жыццём і творчасцю лідэра музычнай групы “Ленінград” Сяргея Шнурава), *Цімаці* (носьбіт мае прозвішча Цімафееў; Цімаці – сцэнічны псеўданім расійскага спевака), *Рэпер* (падлетак, які апранаецца ў шырокія джынсавыя штаны і “байкі” з капюшонам).

У асяроддзі моладзі частымі з’яўляюцца мянушкі, утвораныя ад уласных асабовых імён у іх змененым, пераасэнсаваным выглядзе: *Сэр Гей* – ад Сяргей, *Кашка* – ад Аркашка, *Вітас* – ад Віця, *Вандам* – ад Вадзім, *Санчас* – ад Саня, *Сайка* – ад Сашка, *Дзюшка* – ад Надзюшка, *Кадзіла* – ад Аркадзь, *Валан* – ад Валянцін, *Горац* – ад Рыгор, *Лягушка* – ад Вальгушка (афіцыйнае – Вольга), *Улітка* – ад Улька (афіцыйнае – Ульяна), *Касцет* – ад Косця, *Катра* – ад Кацярына, *Анаша* – ад Наташа, *Кальян* – ад Калян (афіцыйнае – Мікалай), *Юла* – ад Юля, *Люцік* – ад Людміла, *Юшка* – ад Ільюшка, *Ірыска* – ад Ірышка, *Дзімасты* – ад Дзіма, *Пулямёт* – ад Максім, *Пабеда* – ад Вікторыя. Як бачна, многія мянушкі аманімічныя з апелятывамі, якія блізкія з імёнамі па гучанні, хоць і не маюць з апошнімі нічога агульнага.

У адрозненне ад прозвішчаў, мянушкі – афіцыйна і юрыдычна не замацаваныя найменні. Яны, як правіла, знікаюць разам з носьбітам, а не працягваюць існаваць і перадавацца нашчадкам, як прозвішча.

## Семантычныя групы мянушак

Пра імёны, якія былі ва ўсходніх славян да ўвядзення хрысціянства, можна меркаваць па рэтраспектыўных назіраннях гісторыкаў, па больш позніх фіксацыях і летапісах XI–XIV стст. або па іх водгаласках у антрапаніміі XV–XVII стст. Рэканструяваць увесь антрапанімікон да X ст. нікому не ўдалося, але такія спробы рабіліся. Так, у слоўніку старажытна-рускіх асабовых уласных імён М.М. Тупікова (Тупиков Н.М. Словарь древнерусских личных имен. СПб., 1903) сабрана 5300 мужчынскіх і каля 50 жаночых імён; найбольш распаўсюджаныя сярод іх наступныя: *Богдан, Истома, Томило, Ждан, Третьяк, Бессон, Бажен, Воин, Волк, Дружина, Жук, Меньшой, Некрас, Нечай, Первой, Посник, Пятой, Русин, Черной, Шестой*.

Абапіраючыся на матэрыялы слоўніка М.М. Тупікова, А.М. Селішчаў паспрабаваў даць класіфікацыю імён па значэнні асновы, у выніку чаго ім вылучана 19 груп [18, с. 108 – 114]:

1. Абставіны з'яўлення новага члена сям'і (знойдзены, падкінуты, узяты ў іншых). Выяўленне чакання і нечаканасці з'яўлення новага члена. Пачуцці бацькоў: *Найден, Прибыток, Жданко, Неждан, Бажен…*

2. Прафілактыка: *Бессон, Горе, Грязной, Мертвой, Невзор, Негодяй, Неудача...*

3. Сямейныя адносіны. Парадак і час нараджэння: *Первой, Второй, Третьяк, Субота, Неделя, Вешняк, Позняк...*

4. Знешні выгляд. Фізічныя недахопы: *Беззуб, Безнос, Брюхан, Глазатой, Головач...*

5. Уласцівасці: *Баламут, Булгак, Быстрой, Ведун, Веселой, Несмеян, Неупокой...*

6. Сацыяльнае і эканамічнае становішча: *Холоп, Боярин, Селянин, Мещанин…*

7. Прафесія, Заняткі. Пасада: *Гончар, Кожевник, Кузнец, Дегтярь, Коновал..*

8. Чужынцы. Месца жыхарства: *Несвой, Ненаш, Иноземец, Ростовец, Муромец…*

9. Царкоўныя адносіны і элементы: *Аминь, Богомаз, Грешной, Грех, Двоекрещен…*

10. Кплівыя мянушкі: *Беспорточник, Болван, Олух, Семихвост, Кривой Колпак…*

11. Жывёліны: *Баран, Барсук, Бык, Векша, Кобель..*

12. Птушкі: *Воробей, Ворона, Гагара, Галка, Галчонок, Голубь...*

13. Насякомыя. Паўзуны: *Блоха, Гнида, Жук, Змейка, Комар...*

14. Рыбы: *Ерш, Лещ, Окунь, Осетр, Сом..*

15. Расліны: *Арбуз, Береза, Дуб, Калина, Капуста...*

16. Ежа: *Блин, Борщ, Говядина, Гуща, Каша...*

17. Імёны і мянушкі па розных прадметах: *Алмаз, Атлас, Башмак, Веревка, Гвоздь…*

18. Татарскія імёны: *Алай, Ахмат, Казыл, Касим, Кизилбай...*

19. Імя народа: *Варяжка, Гречанин, Казарин, Немчин, Русин…*

Большасць імён, прыведзеных у класіфікацыі, датуецца XIV–XVII стст., меншая частка XI–XIII стст. І хоць многія з іх адпавядаюць прыкладам X ст., упэўненасці няма, што менавіта такімі яны ўсе былі да X ст.

Даследчыкі А.У. Суслава і А.В. Супяранская вылучаюць наступныя дзевяць груп імён [20, с. 42-43]:

1. Лікавыя імёны: *Первак* і *Первой, Второй* і *Вторак, Третьяк*, *Четвертак* і *Четвертуня, Пятой* і *Пятак, Шесток* і *Шестак, Семей* і *Семак, Осьмой* і *Осьмак, Девятой* і *Девятко, Десятой.*

2. Імёны, дадзеныя па колеры валасоў і скуры: *Черныш, Черняй, Чернява, Чернава, Бел, Беляй, Беляк, Белой, Белуха* і інш.

3. Імёны, дадзеныя па іншых знешніх прыметах – росце, асаблівасцях целаскладу: *Сухой, Толстой, Долгой, Мал, Малыш, Малюта, Малой, Малуша; Заяц, Губа, Беспалой, Головач, Лобач* і інш.

4. Імёны, якія прысвойваліся ў залежнасці ад характару і паводзін дзіцяці: *Бессон, Булгак* (неспакойны), *Забава, Крик, Истома, Молчан, Неулыба, Смеяна, Несмеяна, Смирной.*

5. Імёны, у якіх адзначалася пажаданасць аба непажаданасць з'яўлення дзіцяці ў сям'і і іншыя абставіны: *Богдан, Бажен* (жаданы, мілы), *Голуба, Любім, Любава, Ждан, Неждан, Чаян і Нечай, Милава, Поздей, Поспел* і інш.

6. Імёны, якія надаваліся па часе нараджэння дзіцяці: *Вешняк* (вясною), *Зима, Мороз* (зімою) і інш.

7. Імёны, што ўзыходзілі да старажытных павер'яў. Гэта "дрэнныя, благія" імёны, якія быццам былі здольныя адганяць злых духаў, хваробы, смерць: *Горяин, Немил, Некрас, Нелюба, Неустрой, Злоба, Старой, Тугарин* (туга – смутак).

8. Імёны, па якіх можна даведацца пра суседзяў, з якімі жылі ўсходнія славяне: *Казарин* (хазарын), *Чудин* (прадстаўнік фіна-ўгорскага племені чудзь), *Карел, Татарин* і інш.

9. Імёны, звязаныя з жывёльным і раслінным светам: *Волк, Кот, Жеребей, Корова, Трава, Пырей, Щавей* (шчаўе), *Ветка* і інш.

Большасць з пералічаных у прыведзеных класіфікацыях празванняў уяўляюць сабою простыя імёны, што ўжываліся ў народным асяроддзі.

М.В. Бірыла адзначае, што ў якасці мянушак маглі выкарыстоўвацца практычна ўсе імёны [13]. Аднак фактычна пераважала лексіка наступных семантычных груп:

1. Назвы свойскіх жывёл: *Баран, Каза, Казёл, Трус.*
2. Назвы дзікіх звяроў і грызуноў: *Бабёр,Ваўчок, Выдра.*
3. Назвы членістаногіх (насякомых), павукападобных: *Гнідка, Жук, Камар, Караед, Мурашка, Муха, Павук.*
4. Назвы чарвей, мяккацелых, земнаводных паўзуноў, ракападобных: Жаба, *Жаб, Змей, Рак, Рачок, Рачко.*
5. Назвы свойскіх птушак: *Гусак, Певень, Пятух, Петушок, Селезень.*
6. Назвы дзікіх птушак: *Птах, Чайка, Чапля, Чыж, Чыжык, Шпак, Шпачок, Шчагол.*
7. Назвы рыб: *Лешч, Акунь, Рыбец. Селядзец, Сліжык, Таран.*
8. Назвы частак цела і покрыва цела чалавека і жывёл: *Барадуля, Галава, Губа, Жыватoк, Зуб, Зубец, Зубок, Кішка, Кожа, Калена, Корх* 'кулак', *Лапа, Шчака.*
9. Назвы хвароб, траўм, паталагічных адхіленняў: *Гуз*, *Гуля, Мазоль, Плеха 'лысіна', Пляшко.*
10. Назвы раслін: *Бярозка, Баравік. Буряк, Гарбуз, Грачыха, Грыб, Груша, Капуста, Канапелька, Купель, Лозка, Пастарнак, Плюшч.*

11. Назвы частак раслін і пладоў: *Бацвінне, Гронка, Жолуд, Кара, Корань, Корч, Струк, Шышка, Яблык.*

12. Назвы прылад працы, прадметаў бытавога ўжытку і іх частак: *Квач, Кій, Калодка, Капыл, Качарга, Куль, Лемеш, Лапата, Лапатка, Мятла.*

13. Назвы тыпаў паселішчаў, пабудоў, агароджаў і іх частак, назвы матэрыялаў, з якіх яны зроблены: *Вярея, Косцёл, Масток, Мыльня* 'лазня', *Печка, Стоўп, Тын, Тыніна, Шчыт.*

14. Назвы экіпажаў, вупражак і іх частак: *Дышаль, Капыл, Спіца.*

15. Назвы хатняга посуду: *Берасцень, Гладыш, Дзежка, Жлукта, Коўш, Каробка, Кацёл, Кашэль.*

16. Назвы адзення, абутку, галаўных убораў, прадметаў прыналежнасці для ложка, прадметаў для пакрыцця цела.: *Карман, Лапаць, Лык,, Лычко, Матуз, Машна, Рыза, Рухлядка, Світа, Сяннік.*

17. Назвы прадуктаў харчавання, напояў і іх частак: *Боршч, Бохан, Каша, Кашка, Кісель, Каравай, Луста, Масла, Яйка, Яйцо.*

18. Назвы грашовых адзінак, дзён тыдня, мер вагі, даўжыні: *Манета, Пятніца, Рубель, Серада, Субота.*

19. Назвы са значэннем зборнасці і рэчыўнасці: *Воск, Дрожжа, Смала, Салома, Ярына.*

20. Назвы элементаў зямной паверхні: *Балота, Зыль* 'балота', *Калуга* 'балоцістае месца, лужа', *Альшанік, Алешнік* 'альховы хмызняк', *Ралля, Яміна.*

21. Назвы абстрактных з'яў, пачуццяў чалавека, з'яў грамадскага жыцця: *Вайна, Голад, Галадок, Туман, Худзізна, Чуда.*

22. Назвы асоб па прафесіі ці занятку, назвы службовых і ваенных асоб, назвы прадстаўнікоў розных сацыяльных груп: *Баншчык, Бараначнік, Бондар, Залатар, Муляр, Мяснік, Накавальнік, Шавец, Шкляр, Шляхта, Шубнік.*

23. Назвы асоб па адносінах роднасці ці па стане ў сям'і: *Блізнец, Внук, Внучко, Дзевяты, Дзядзіная* 'цётка, жонка дзядзькі', *Знайдзён, Кохан, Пазняк, Пацеха, Пятак, Пятко.*

24. Назвы асоб па знешнім выглядзе ці па фізічных якасцях: *Бяспальчы, Бязрукі, Бязручка, Белан, Бялей, Грамадны, Губар.*

25. Назвы асоб па разумовых якасцях, па асаблівасцях характару, па звычках, схільнасцях: *Маўчан, Мудрэц, Скарага, Скраба, Скрага, Скупы,Умірака, Хлус.*

26. Назвы асоб па становішчы ў грамадстве, у калектыве: *Захожы, Новак, Новік, Панёнак, Пустасёл, Чэрнь.*

27. Назвы народаў і этнічных груп: *Грэчын, Казак, Літвін, Маскаль, Масквіцін, Паляк, Русін, Татарын, Цыган, Цыганок, Цыганко, Чаркас, Чэх, Швед.*

28. Назвы асоб па геаграфічнай назве: *Берестенін :* Бересте, сучасн. Брэст, *Брагінец : Брагін, Брылевец : Брылі, Глушанін :* Глуша, *Гасцілавец :* Гасцілы, Гасцілава, *Кіянін :* Кіеў.

Нягледзячы на адрозненні, якія існуюць паміж старажытнымі і сучаснымі мянушкамі, лексіка-семантычны склад апошніх блізкі да таго, што выкарыстоўваўся ў X стагоддзі.

Паводле дадзеных Н.І. Новік [7, с. 21], у вёсцы Каплічы Калінкавіцкага раёна Гомельскай вобласці вылучаюцца наступныя тэматычныя групы мужчынскіх мянушак:

1. Па росце і целаскладзе:
   а) высокага росту: *Бодыль, Дзегель, Бусел, Даўгелы* і інш.;
   б) нізкага росту: *Вася Куцы, Маляй, Пуплік;*
   в) тоўсты: *Борух, Брухмель, Крэгель, Гладыш* і інш.;
   г) худы: *Перахлябісты, Сухарык, Таран.*
2. Па рысах твару:
   а) з тоўстымі губамі: *Губрэй;*
   б) з вялікімі зубамі: *Зубовіч;*
   в) з доўгімі вусамі: *Кот*;
   г) з вялікімі круглымі вачамі: *Лупаты*;
   д) з вялікім носам: *Носар*;
   е) з кручкаватым носам: *Коршак*;
   ж) з дробнымі рысамі: *Зязюля*.
3. Па памерах і форме галавы, наяўнасці валасоў і іх колеры:
   а) галавасты: *Гаршчок, Бязмен;*
   б) круглаваты, лысы: *Глобус, Лысоў;*
   в) па колеры валасоў: *Рыжы, Руды, Цыган.*
4. Па вопратцы, якую носяць мужчыны, па прычосцы і асаблівасцях хады:
   а) неахайны: *Ахламон, Апудзіло, Кокель;*
   б) непрычэсаны: *Космач, Лахмач;*
   в) валасаты: *Кашлаты*;
   г) шырока ступае: *Шагайло, Шагака.*
5. Па рысах характару:
   а) смелы: *Казак;*
   б) спрытны: *Скоры*;
   в) гаваркі: *Бурбалка;*
   г) легкадумны: *Гайдамака, Шалапут;*
   д) зазнайка: *Джынджык*;
   е) слабавольны: *Ёсель, Хамут;*
   ж) палахлівы: *Заец, Цяля;*
   з) маўклівы: *Маўчун, Немка;*
   і) ганарысты: *Дзірэктар*;
   к) падманшчык: *Хлус*;
   л) злы: *Гад, Нехрысць;*

м) злодзей: *Рукаты*.

6. Па фізічных асаблівасцях, паталагічных адхіленнях:

а) мажны: *Лоб;*

б) блізарукі: *Ачкарык, Ачкасты, Слепец;*

в) глухі: *Глушэц, Цецера;*

г) хваравіты: *Дахадзяга, Дохлік;*

д) без рукі ці нагі: *Бязногі, Бязрукі;*

е) часта маргае: *Маргун*.

7. Па разумовых здольнасцях, адукацыі:

а) кемлівы: *Башкавіты, Путны, Пуцёвы;*

б) адукаваны: *Вучоны, Граматны, Грамацей;*

в) някемлівы: *Абух, Аблавух, Авечка, Балбес, Дубіна, Ёлупень, Матыка, Тумак, Турак, Самалук, Таўкач.*

8. Па адносінах да працы:

а) працавіты: *Гарапашнік, Гарушчы, Рабоцька;*

б) гультай: *Байбус, Вуваленъ, Лежань, Неўломак, Труцень.*

9. Па характары заняткаў чалавека ў вольны час:

а) карцёжнік: *Кароль, Туз;*

б) даглядае курэй: *Курач*;

в) аматар рыбнай лоўлі: *Карась, Шчукар, Рыбак.*

10. Па назвах прадуктаў харчавання: *Блін, Кісель.*

11. Па сваяцкіх адносінах і становішчы ў сям'і: *Блізнюк, Прымак, Унук.*

Ніжэй прыводзіцца класіфікацыя і кароткі аналіз сучасных мянушак, што бытуюць у сельскай мясцовасці сярод жыхароў Верхнядзвінскага і Віцебскага раёнаў Віцебскай вобласці. Матэрыял быў сабраны студэнтамі УА "Віцебскі дзяржаўны універсітэт імя П.М. Машэрава".

**1.** Мянушкі, утвораныя ад "nomina personalia", гэта значыць ад уласных імён, імён па бацьку, прозвішчаў. Сярод такіх онімаў надзвычай пашыраны менавіта адпрозвішчныя.

Сярод даследчыкаў антрапаніміі няма адзінства погляду на функцыю адпрозвішчных мянушак. Часам такія адзінкі нават не ўключаюць у разрад мянушак, матывуючы гэта тым, што іх функцыя выключна намінатыўная: яны не могуць нічога характарызаваць, з'яўляюцца асемантычнымі. Г.М. Мезенка слушна заўважае, што "адпрозвішчныя дэрываты – асаблівы тып антрапонімаў. Асаблівасць іх заключаецца ў тым, што яны, у адрозненне ад мянушак, найчасцей не маркіраваныя, не выклікаюць негатыўных эмоцый, характарызуюцца нулявой унутранай формай" .

І.А. Шумская адносна адпрозвішчных мянушак піша: "І сапраўды, адпрозвішчныя мянушкі ў адрозненне ад ацэначна-характарыстычных не заўсёды паказваюць на пэўныя прыкметы і ўласцівасці чалавека, але цалкам пагадзіцца, што яны ніяк не характарызуюць чалавека, мусіць, нельга. Бо ўсякая мянушка ёсць моўны знак, і ён, як і іншыя словы-знакі, мае багатую гаму адценняў. Таму і адпрозвішчныя мянушкі не могуць быць

асемантычнымі, гэта супярэчыла б іх прызначэнню” [21, с. 26]. У якасці пацверджання сваёй думкі даследчыца прыводзіць прыклады розных мянушак, утвораных ад аднаго і таго ж прозвішча: *Баран* і *Баранчык* – ад прозвішча *Баранаў, Сцепанючка* і *Сцепанючыха* – ад *Сцепанюк.* На Віцебшчыне таксама сустракаюцца выпадкі ўтварэння розных антрапанімных адзінак ад аднаго і таго ж прозвішча: мянушкі *Масла* і *Маслёнак* – ад прозвішча *Маслюкова; Воўк, Ваўчок і Ваўчыха* – ад *Волкава; Тарас* і *Тарасюк* – ад прозвішча *Тарасенка.* Як бачна, прыведзеныя найменні адрозніваюцца семантычным адценнем, а інфарматыўная характарыстыка выражаецца ў іх пры дапамозе суфіксаў.

Такім чынам, адпрозвішчныя мянушкі маюць шмат агульнага з ацэначна-характарыстычнымі: адпрозвішчныя, як і ўсе мянушкі, ужываюцца ў абмежаваным асяроддзі, акрамя асноўнай анамастычнай (намінатыўнай), выконваюць інфарматыўную і кантактную функцыі. Сказанае дазваляе ўключаць іх у разрад мянушак.

Значная частка адпрозвішчных мянушак утварылася пад уплывам літаратурных твораў, кіно, тэлебачання. Падабенства гучання прозвішча ці яго часткі і наймення вядомага літаратурнага, мультыплікацыйнага ці кінагероя, культурнага ці палітычнага дзеяча нярэдка становіцца прычынай з’яўлення мянушкі: *Мурзілка* – ад прозвішча Мазура, *Чыпаліна* – ад Цыбульскі, *Страшыла* – ад Страшноў, *Дзед Мазай* – ад Мазаеў, *Жырыноўскі* – ад Жарнасек, *Ленін* – ад Ільінаў, *Пушкін* – ад Тушкін. Як адзначаюць рэспандэнты, шматпланавасць зместу ў такіх мянушках, як правіла, адсутнічае. Напрыклад, у аснове мянушкі *Страшыла* адсутнічае другаснае значэнне ‘непрыгожы’ ці ‘падобны на аднайменнага літаратурнага героя’, а найменне *Мурзілка* не падразумявае матывацыю ад *мурзаты*.

Цікавыя прыклады неафіцыйных іменаванняў – мянушкі *Цэодва* (ад прозвішча Угаркіна) і *Патэльня* (ад прозвішча Скавародка). Антрапонім *Цэодва* першапачаткова матывуецца трансфармацыяй прозвішча з часткай *угар* на *ўгарны газ*. Апошнім матывацыйным звяном з’яўляецца хімічная формула, гукавое выражэнне якой і стала мянушкай. Сказанае вышэй можна праілюстраваць пры дапамозе матывацыйнага ланцужка: Угаркіна → угар → угарны газ → $CO_2$ → *Цэодва*. Мянушка *Патэльня* – вынік перакладу апелятыва *сковорода* на беларускую мову.

Часам прычынай узнікнення мянушкі з’яўляецца цяжкасць вымаўлення, незразумеласць семантыкі прозвішча: *Слесар* (ад прозвішча Снісар).

Частка адпрозвішчных мянушак утворана шляхам усячэння фіналі прозвішча (*Кузя* – ад Кузьмянкова, *Амбра* – ад Амбразевіч) нярэдка з далучэннем суфіксаў *-ік/-ык, -чык* (*Усік* – ад Усава, *Шарык* – ад Шарава, *Захарчык* – ад Захарава). Зрэдку ўсякаецца пачатак прозвішча (*Чук* – ад Раманчук, *Ніна* – ад Мамоніна), пачатак і фінальная частка (*Фіма* – ад Яфіменка, *Сечка* – ад Жарнасекаў).

Матывацыйнай базай мянушак могуць быць скарочаныя і бытавыя формы імён, напрыклад: *Сайка* – ад Сашка, *Дзюшка* – ад Надзюшка, *Кадзіла* – ад Аркадзь, *Валан* – ад Валянцін, *Гор* – ад Рыгор.

Неафіцыйныя найменні *Цвяточак* – ад Анюта і *Цвецік* – ад Васіль (а дакладней – ад Васілёк) утварыліся шляхам метафарызацыі. Імёны названых асоб асацыіруюцца з назвамі кветак (параўн. рускія назвы *анютины глазки* і *василёк)*. Матывацыя онімаў залежыць таксама ад паводзін людзей, рыс іх характару: носьбіты найменняў *Цвяточак* і *Васілёк* прыгожыя знешне, валодаюць станоўчымі ўнутранымі якасцямі (добрыя, ласкавыя).

Сустракаюцца неафіцыйныя онімы, якія сведчаць пра негатыўныя адносіны да носьбіта мянушкі або ўжываюцца, каб абразіць чалавека, пасмяяцца з яго. Такія антрапонімы могуць рыфмавацца з імёнамі, змяшчаць дадатковыя звесткі пра носьбіта або ўяўляць сабой трансфармаваныя гукавыя абалонкі імені: *Друша* – ад Андруша, *Падліза* – ад Ліза, *Тазік* – ад Тадзік, *Шкурык* – ад Шурык (Аляксандр), *Сэр Гей* – ад Сяргей.

Адыменныя мянушкі часам уяўляюць сабой іншамоўныя “адпаведнікі” афіцыйнага імені носьбіта (*Ляон* – ад Леанід, *Джон* – ад Жэня, *Вано* – ад Ваня, *Вальдэмар* – ад Валерый, *Жанэт* – ад Жанна, *Жулі* – ад Юля) або апелятыўны “адпаведнік”, які блізкі да оніма толькі наборам гукаў (*Кактус* – Каця, *Вавёрачка* – Вера, *Алень* – Алена, *Сняжок* – Сняжана, *Радуга* – Радміла, *Люцік* – Людміла, *Касцет* – Канстанцін, *Тыгр* – Ігар *Лягушка* – Вальгушка, Вольга, *Улітка* – Ульяна).

Іншы раз адыменная мянушка звязана з іменаваннем вядомага спевака, акцёра ці палітыка: *Вітас* – ад Віця (Вітас – сцэнічны псеўданім спевака расійскай эстрады), *Вандам* – ад Вадзім (Вандам – прозвішча галівудскага акцёра), *Гарбачоў* – ад Міхал Сяргеевіч (прычына ўзнікнення мянушкі – супадзенне імені і імені па бацьку носьбіта і палітычнага дзеяча М.С. Гарбачова).

Некаторыя адыменныя мянушкі ўзнікаюць пад уплывам фальклору, літаратурных, музычных ці мультыплікацыйных твораў: *Паравоз* – ад Міколка (параўн. назву твора М. Лынькова “Міколка-паравоз”), *Чума* – ад Вова (уплыў песні “Вова – чума” спевака Іраклі Перцхалавы, якая з’яўляецца вельмі папулярнай сярод моладзі), *Ліса* – ад Аліса, *Артэмон* – ад Арцём (Аліса і Артэмон – персанажы казкі “Прыгоды Бураціна”), *Кракадзіл* – ад Гена, *Крыса* – ад Ларыса (Кракадзіл і Крыса – героі мультыплікацыйнага фільма аб прыгодах Чабурашкі).

Узнікненне ж мянушак *Пулямёт* – ад імені Максім і *Пабеда* – ад імені Вікторыя можна растлумачыць праз своеасаблівыя асацыяцыі, што існуюць у свядомасці тых, хто дае найменні, падобныя на прыведзеныя.

**2.** Мянушкі, якія характарызуюць фізічныя якасці асобы. Знешні выгляд чалавека (яго вопратка, колер валасоў, рост, целасклад і г.д.) звяртае на сябе ўвагу іншых людзей, стварае першаснае, агульнае ўражанне пра асобу, нярэдка падлягае крытыцы. Таму характарыстыка асаблівасцей частак цела, адзення і іншых вонкавых прымет чалавека часта ляжаць у аснове

мянушак. Антрапонімы, якія апісваюць знешні выгляд носьбіта, складаюць адну з самых багатых па колькасці і разнастайных па семантыцы груп, у якой можна вылучыць падгрупы мянушак, дадзеных па: 1)  росце і целаскладзе, 2) асаблівасцях частак цела; 3) наяўнасці, асаблівасцях валасоў, колеры скуры; 4) асаблівасцях голасу, маўлення; 5) адзенні; 6) асаблівасцях вачэй, зроку.

Мянушкі па росце і целаскладзе характарызуюць людзей:

1) высокага росту: *Доўгі*, *Шпала*, *Малютка*, *Дзядзя Сцёпа, Аіст*, *Длінны, Лом, Малютка* (у аснове наймення антыфразіс – ужыванне слова ў супрацьлеглым значэнні);

2) нізкага росту: *Моль*, *Кнопа, Кнопка*, *Малая*, *Гном, Мошка*, *Маляўка*, *Малышня, Клоп*, *Гном*, *Плінтус*, *Штэпсель*, *Мелкі*, *Шпунцік*;

3) поўнага целаскладу: *Пупсік, Плюшка*, *Калбасік*, *Тоўсты*, *Батон*, *Пузыр, Карлсан*, *Малыш, Снікерс* – мянушкі мужчын; *Супербаба*, *Баба Машына*, *Бомба*, *Плюшка*, *Жыжа* – мянушкі жанчын*;*

4) худога целаскладу: *Трос*, *Рахіт*, *Вешалка*, *Мумія, Кішка, Вешалка*;

5) атлетычнага целаскладу: *Атлет*, *Лашадзіна*, *Конь*.

Найменні *Карандаш* і *Кузнечык* утрымліваюць у сабе не адну, а дзве характарыстычныя рысы: яны называюць мужчын не толькі па росце (нізкага росту), але і па асаблівасцях целаскладу (вельмі худыя). Паралельна з мянушкай *Карандаш* ужываецца антрапонім *Агрызак*, які мае выразную эмацыянальна-экспрэсіўную афарбоўку, сведчыць пра негатыўныя адносіны да носьбіта. Абедзве мянушкі належаць аднаму чалавеку.

Мянушкі па асаблівасцях частак цела валодаюць празрыстай унутранай формай і характарызуюць зубы, форму галавы, вушы, нос, вусны носьбітаў.

Людзі з вялікімі пярэднімі зубамі носяць мянушкі *Бабёр*, *Бобрык, Кролік*, *Дружышча Бабёр* (уплыў тэлерэкламы зубной пасты), *Брацец Кролік*, з хворымі на карыес зубамі – *Карыес, Гнілы*, з вялікімі вушамі – *Слон*, *Ушасты*, *Ушасцік*, *Мікі Маус* (уплыў аднайменнага мультыплікацыйнага фільма), *Чабурашка* (варыянты *Чэба, Чабуратар*), з гарбом на спіне – *Горб, Гарбатая, Гарбыль, Вярблюд,* з вялікім жыватом – *Пуза*, *Жывот*, *Вадзяны* (мянушка мае сувязь з мультыплікацыйным фільмам), *Халадзец,* з вялікімі вуснамі – *Губашлёп, Грыбазвон.* Асаблівасці носа апісваюць антрапонімы *Клёпа* (курносая), *Сліва* (з сінім носам), *Баксёр* (на носе пасля пералому засталася гарбінка), форму галавы – *Шышка*, *Галавасцік.*

Мянушкі, дадзеныя па асаблівасцях голасу, маўлення,  указваюць на артыкуляцыйныя асаблівасці асобы, называюць словы, якія носьбіт часта ўжывае, характарызуюць гучнасць голасу.

Найменні *Трындычыха*, *Буль-Буль*, *Булька*, *Немец* характарызуюць нізкую ступень маўленчай выразнасці асоб. Жаночая мянушка *Трындычыха* стала ўжывацца пад уплывам аднайменнай гераіні кінафільма “Вяселле ў Малінаўцы”, якая вельмі хутка гаварыла. Онімам *Немец* называюць старога чалавека, які хутка гаворыць, таму невыразна прамаўляе словы (размаўляе, як іншаземец). Антрапонімамі *Буль-Буль* і *Булька* называюць чалавека, маўленне якога цяжка зразумець.

Мянушкі могуць ілюстраваць вымаўленне носьбітамі асобных слоў: *Додзік* замест *дождждык*, *Аст'ёўскі* замест *Астроўскі* (носьбіт не выгаворвае гук "р"), *Чанік* замест *чайнік*, *Матафон* замест *магнітафон*, *Паёнік* – ад размоўнага рускага *половник*. Найменне *Додзік* носіць выключна кплівае адценне, паколькі ў размоўнай мове бытуе абразлівае слова *додзік* 'чалавек з нізкім інтэлектуальным узроўнем, фізічна слабы'.

Найменне *Дзетачка* атрымала жанчына, якая вельмі добразычліва ставіцца да людзей і звяртаецца да іх словам *дзетачка*. Антрапонім *Лапа* замацаваўся за чалавекам, які пры размове ўжывае зваротак *лапачка*. Станоўчыя адносіны да носьбітаў, названых онімамі *Дзетачка* і *Лапа*, уплываюць на характар унутранага значэння названых мянушак. Такія ж антрапонімы, як *Кузькіна Маць*, *Етавот, Гэна*, *Радзі Бога, Цудоўненька, Чуда* (усе ўзніклі ад слоў, што часта ўжывае носьбіт), выкарыстоўваюцца, каб пасмяяцца з носьбітаў.

Мянушка *Сірэна* мае кплівае ўнутранае адценне і называе жанчыну, якая часта павышае голас. Антрапонім *Гром* (чалавек з гучным голасам) выкарыстоўваецца як сродак выражэння павагі да носьбіта, прызнання яго аўтарытэту сярод аднавяскоўцаў.

Як бачна, мянушкі гэтай групы часцей за ўсё называюць людзей з дэфектамі маўлення. Матывацыйнай базай неафіцыйных найменнў могуць выступаць таксама словы-"паразіты" і ненарматыўная лексіка.

Мянушкам, якія характарызуюць асоб паводле наяўнасці, асаблівасці валасоў, колеру скуры, уласціва выразная матывацыя. Сярод іх значная колькасць найменняў апісвае рыжавалосых: *Рыжая*, *Рыжык*, *Мядзянка, Золатка, Сонейка*, *Медны* (са светла-рыжымі тонкімі валасамі, якія нагадваюць медны дрот), *Божы Адуванчык* (пажылая жанчына, якая фарбуе валасы ў рыжы колер), *Іржавая, Апельсін.* Антрапонімы *Золатка, Сонейка* і *Рыжык* выражаюць станоўчыя адносіны да асобы. Мянушкі *Іржавая* і *Мядзянка* характарызуюцца негатыўным унутраным значэннем (параўнаем: змяя мядзянка).

Людзі з чорнымі валасамі маюць мянушкі *Чорны, Воран, Варона, Каркуша, Вядзьмарка,* са светлымі – *Белка, Белы, Бяляк*, з густымі – *Фен, з* доўгімі спіралепадобнымі – *Макарошка,* з узлахмачанымі, непрыбранымі – *Лахудра,*з коратка пастрыжанымі – *Вожык.*

Мянушкай *Мамант* называюць чалавека з валасатым целам, мянушкай *Лысы* – з лысінай на галаве, а таксама з кароткай стрыжкай. Мужчыну, які толькі пачаў лысець, называюць найменнем *Лішай* (антрапонім адносіцца да ліку негатыўных, здзеклівых).

Антрапонімы *Гудрон*, *Чорны, Эфіоп,Чорт* апісваюць людзей з цёмнай скурай.

Мянушкі, дадзеныя па асаблівасцях адзення. Мянушка *Бос* матывавана надпісам BOSS на майцы, якую хлопец часта насіў. Онім мае жартоўны падтэкст: носьбіт ні знешне (вельмі худы, нізкага росту), ні па родзе дзейнасці не адпавядае мянушцы *Бос* (паралельна ўжываецца мянушка *Босік*).

*Журнальнай Дамай* празвалі жанчыну пенсійнага ўзросту, якая модна апранаецца, *Клоунам* – чалавека, які ходзіць у адзенні яркага колеру, *Зялёным* і *Зялёнкай* – мужа і жонку пагранічнікаў, службовая форма якіх мае зялёны колер, *Рэперам* – хлопца-падлетка, які апранаецца ў шырокія джынсавыя штаны і “байкі” з капюшонам, *Хіпі* – чалавека, што неахайна апранаецца, не сочыць за сваім знешнім выглядам, *Крывой Шапкай* – жанчыну пасля таго, як яна аднойчы неакуратна апранула берэт, *Цыплёнкам* – хлопца, які часта апранаецца ў жоўтае.

Мянушкі, якія характарызуюць вочы, зрок, часам маюць выключна кплівае, прыніжальнае адценне: *Цыклоп* (жанчына з адным здаровым вокам, замест другога яна мае шкляны пратэз), *Жаба, Верлаокі* (з выпуклымі вачамі), *Касабланка* (касыя вочы), *Крот* (маленькія вочы). Онімы *Дацэнт*, *Лупа*, *Сава́* характарызуюць асоб з дрэнным зрокам, якія носяць акуляры. Дарэчы, антрапонім *Дацэнт* – адзін з найбольш распаўсюджаных: зафіксаваны шматлікія выпадкі выкарыстання яго ў розных населеных пунктах.

3. Мянушкі, якія характарызуюць псіхічныя якасці асобы, найперш прадстаўлены найменнямі з адмоўнай ацэнкай, антрапонімы ж са станоўчым адценнем з’яўляюцца адзінкавымі. У мянушках падкрэсліваюцца наступныя характарыстыкі носьбітаў:

1) злы, помслівы: *Халера*, *Клізма, Звер, Старуха Ізвергіль* (відавочнай з’яўляецца сувязь мянушкі і назвы літаратурнага твора Максіма Горкага “Старуха Ізэргіль”), *Змей Гарыныч*, *Царок*, *Гніда;*

2) скупы: *Скулля* (параўн. выраз *скулля табе*, які ўжываецца на просьбу што-небудзь даць ці пазычыць);

3) ганарысты: *Гардзяна*, *Звязда*, *Прынцэса*, *Шыпшына;*

4) працалюбы: *Пчолка, Электравенік;*

5) упарты: *Індзюк*, *Іа;*

6) хітры: *Ліс*, *Хітры*;

7) нелюдзімы: *Дзік*, *Хмыр;*

8) неахайны: *Папандопала*;

9) гняўлівы: *Бык*, *Фас*, *Халерык*, *Бес;*

10) вяртлявы: *Шныр* (параўн. *шнырыць* – ‘заглядваць у розныя месцы, шукаючы, высочваючы каго-небудзь, што-небудзь’, ‘хадзіць, рухацца сюды-туды, у розных напрамках’);

11) гаваркі: *Радыё, Гаварун, Бла-Бла;*

12) злоўжывае спіртным: *Пахмел, Бахус, Барометр*. Рэспандэнты растлумачылі паходжанне апошняй мянушкі наступным чынам: “паглядзі, у яго зашкальвае барометр” (колькасць выпітых напояў перавышае магчымы ўзровень);

13) шмат плача: *Плакса*;

14) шмат вучыцца: *Прафесар* (мае выдатныя веды ў розных галінах навукі, усё ведае), *Завучка, Зубрс* (ад *зубрыць*);

15) сэрцаед: *Мачо;*

16) пляткар *Рэшато* (не можа трымаць у сабе навіны);

17) які любіць доўга паспаць: *Сплюндзер;*

18) песіміст, увесь час на што-небудзь скардзіцца, жаліцца: *Мазоль;*

19) аматар сварыцца: *Звяга.*

Такім чынам, мянушкі могуць утрымліваць у сабе як прамую характарыстыку асобы (*Хітры*, *Халерык*, *Сплюндзер*), так і ўскосную (*Мазоль*, *Камуніст*, *Фас*). Найменні могуць сведчыць пра ўплыў на неафіцыйны іменнік літаратуры (*Старуха Ізвергіль*), фальклору (*Змей Гарыныч*), мультыплікацыйных і кінафільмаў (*Іа*, *Папандопала*, *Хатабыч*). Асобныя антрапонімы выкарыс-тоўваюцца, каб абразіць чалавека, паказаць выключна негатыўныя адносіны да яго (*Клізма*, *Гніда*, *Халера*). Некаторыя онімы сведчаць пра іранічныя ці саркастычныя адносіны да асоб (*Электравенік*, *Індзюк*, *Прынцэса*, *Звязда*).

**4.** Неафіцыйныя найменні, якія характарызуюць чалавека па родзе дзейнасці, сацыяльным статусе. Школа – адзін з першых сацыяльных калектываў, які ўплывае на характар асобы і яе паводзіны. У школьным асяроддзі актыўна функцыянуюць неафіцыйныя найменні, сярод якіх можна вылучыць традыцыйныя і унікальныя. Так, мянушкі настаўнікаў, дадзеныя вучнямі, варта аднесці да ліку традыцыйных, звязаных з прадметамі выкладання (*Француженка* – настаўніца французскай мовы, *Музічка* – настаўніца музыкі, *Геаграфіца* – настаўніца геаграфіі і г.д). Каб хутка перадаць інфармацыю, ужываюць антрапонімы, значэнне якіх агульназразумелае, часта неіндывідуалізаванае, такія онімы могуць насіць адразу некалькі людзей, якія выкладаюць адзін прадмет: *Беларусіца* – настаўніца беларускай мовы і літаратуры, *Біялагіца*, *Хіміца* (*Хімічка*) – настаўніца хіміі.

Іншы раз у якасці мянушкі ўжываецца відазмененае (у марфемным ці фанетычным плане) слова, матываванае назвай чалавека па прадмеце, які ён выкладае, ці па афіцыйнай пасадзе. Напрыклад, *Істэрычка* – ад гістарычка, *Дзірык* – ад дырэктар. Да ліку неафіцыйных найменняў, якія маюць відавочна жартоўны характар, адносіцца антрапонім *Электрадзед* (так называюць пажылога настаўніка фізікі).

Працоўнае месца, род дзейнасці асобы таксама ўплываюць на склад неафіцыйнага іменніка. Так, *Паганцам* называюць пагранічніка (параўн. з размоўным *пагранец*), *Доктарам* – медыцынскага брата, *Секрытуткай* – сакратара. Параўноўваючы названыя антрапонімы, можна заўважыць, што мянушкі *Паганец* і *Секрытутка* валодаюць негатыўным унутраным значэннем, паколькі пры называнні асоб дадаткова ўлічваюцца адмоўныя рысы іх характару: *Паганец* – злы, *Секрытутка* – апранаецца і паводзіць сябе так, як жанчына вольных паводзін. Матывацыю апошняга наймення можна праілюстраваць схематычна: *Секрытутка* = рускае *секрет*-*арь* + *прастыт*-*утка*.

Неафіцыйнае найменне *Рэкецір* мае негатыўнае ўнутранае значэнне. Так называюць падатковага інспектара, які, па словах рэспандэнтаў, “абкрадае” людзей. Мянушку *Бэйсік* атрымаў мужчына-праграміст.

Матывацыя прыведзенага наймення ўзыходзіць да аднайменнага апелятыва, што ўжываецца ў маўленні праграмістаў.

Онімы *Печкін* і *Баранкін* паўтараюць прозвішчы літаратурных герояў. Першая мянушка называе чалавека, што працуе паштальёнам, другая – вадзіцеля. Найменне *Зінгер* замацавалася за жанчынай, якая ў вольны час шые вопратку (ад назвы папулярнай швейнай машынкі “Зінгер”), *Вэксаль* – за вясковай жыхаркай, у якой можна пазычыць грошай.

У якасці неафіцыйнага наймення можа выкарыстоўвацца таксама назва былога статусу асобы: *Матрос* – служыў у марскім флоце, *Снайпер* – быў снайперам у Афганістане, *Сяржант* – з гэтым званнем быў дэмабілізаваны, *Пісар* – падчас службы ў арміі працаваў у канцылярыі.

Сярод мянушак, што ўказваюць на сацыяльны статус асобы, можна вылучыць наступныя падгрупы: 1) найменні багатых людзей (*Кашалёк*, *Князь*, *Буржуй*), 2) адзінокіх (*Бабыль*, *Пень*), 3) па сямейных адносінах (*Малы* – бо малодшы ў сям’і, *Жынка* – тое, што і жонка). Неафіцыйныя найменні *Кашалёк*, *Князь*, *Бабыль*, *Пень* з’яўляюцца частаўжывальнымі ў розных населеных пунктах. Антрапонім *Буржуй*, па сведчанні рэспандэнтаў, мае негатыўную ўнутраную форму, сведчыць пра адмоўныя адносіны да носьбіта. Онім *Жынка* паходзіць ад украінскага слова *жынка* і характарызуе жанчыну, якая з’яўляецца прадстаўніцай украінскай дыяспары.

Як бачна, неафіцыйныя найменні, што называюць асоб паводле роду дзейнасці, сацыяльнага статусу, часцей за іншыя выкарыстоўваюцца ў якасці традыцыйных, агульнаўжывальных на тэрыторыі некалькіх населеных пунктаў. Некаторыя з мянушак маюць выключна кплівае ўнутранае значэнне (*Секрытутка*, *Рэкецір*). У якасці кантактных выкарыстоўваюцца толькі тыя антрапонімы, якія называюць былы статус асобы (*Сяржант*, *Пісар*, *Снайпер*).

Такім чынам, мянушкі ўваходзяць у самы старажытны пласт лексікі і разам з тым захоўваюць сваё прызначэнне сярод сучасных найменняў. Іх можна назваць пастаяннымі спадарожнікамі чалавека, якія не толькі называюць асобу, але і нясуць інфармацыю пра яе.

## Асноўная літаратура


1. Бут-Гусаім, С.Ф. Мянушка як сродак аб’ектывуючага адчужэння суб’екта ў беларускай мове / С.Ф. Бут-Гусаім // Славянские языки: системно-описательный и социокультурный аспекты исследования: Материалы междунар. научно-метод. конф., Брест, 17-18 нояб. 2005 г. В 2 ч. Ч. 2 / М-во образования Респ. Беларусь, Брест. гос. ун-т им. А.С. Пушкина; [редкол.: Е.И. Абрамова, Г.В. Писарук, О.А. Фелькина]. – Брест: Изд-во БрГУ, 2006. – С. 3–6.
2. Бут-Гусаім, С.Ф. Характарыстычныя назвы чалавекаў беларускай мове / С.Ф.Бут-Гусаім // Веснік Брэсцкага універсітэта. – 2001. – №5. – С. 58–68.
3. Гілевіч, Н.І. Аб адным тыпе антрапонімаў / Н.І. Гілевіч // Беларуская мова, 1980. – Вып. 8. – С. 35 – 41.

4. Королёва, И. Прозвища и неофициальные именнования человека сегодня / И. Королева, Т. Денисова // Acta albaruthenica, rossica, polonica. VII міжнародная навуковая канферэнцыя “Беларуска-руска-польскае супастаўляльнае мовазнаўства, літаратуразнаўства, культуралогія”: Зборнік навуковых артыкулаў / Пад агульнай рэд. Г.М. Мезенка. – Віцебск: Выдавецтва УА “ВДУ імя П.М. Машэрава”, 2006. – С. 325 – 327.
5. Лобань, Н.П. Які Рыгорка, такая пра яго й гаворка: Мянушка як сродак выражэння ацэнкі і характарыстыкі літаратурнага персанажа / Н.П. Лобань // Роднае слова, 1999. – №7. – С. 61– 67.
6. Ляшкевіч, В.М. Які Сава, такая і слава / В.М. Ляшкевіч // Acta albaruthenica, rossica, polonica. VII міжнародная навуковая канферэнцыя “Беларуска-руска-польскае супастаўляльнае мовазнаўства, літаратуразнаўства, культуралогія”: Зборнік навуковых артыкулаў / Пад агульнай рэд. Г.М. Мезенка. – Віцебск: Выдавецтва УА “ВДУ імя П.М. Машэрава”, 2006. – С. 336 – 338.
7. Новік, Н.І. Матываваныя мужчынскія мянушкі / Н.І. Новік // Беларуская мова. – Вып. 20. – Мінск, 1993. – С. 20 – 26.
8. Семянькова, Г.К. Неафіцыйнае іменаванне жыхароў Віцебшчыны і светапогляд беларусаў / Г.К. Семянькова // Веснік Віцебскага дзяржаўнага універсітэта, 2002. – № 2. – С. 89 – 94.
9. Семянькова, Г.К. Неафіцыйныя найменні ў студэнцкім асяроддзі / Г.К. Семянькова, І.М. Грушэўская // Веснік Віцебскага дзяржаўнага універсітэта, 2005. – № 1. – С. 69 – 73.
10. Струкаў, В.В. Мянушка як антрапонім у беларускай мове / В.В. Струкаў // Роднае слова. – 2004. – № 4. – С. 40 – 41.
11. Шур, В.В. Аб спецыфіцы беларускіх мянушак / В.В. Шур // Веснік Мазырскага дзяржаўнага універсітэта імя Н.К. Крупскай. – 2000. – №3. – С. 102 – 105.

**Дадатковая літаратура**

12. Бірыла, М. В. Беларуская антрапанімія: Структура ўласных мужчынскіх імён / М.В. Бірыла. – Мінск: Навука і тэхніка, 1982. – 320 с.
13. Бірыла, М.В. Беларуская антрапанімія: Уласныя імёны, імёны-мянушкі, імёны па бацьку, прозвішчы / М.В. Бірыла. – Мінск: Навука і тэхніка, 1966. – 328 с.
14. Бірыла, М.В. Усходнеславянскія антрапонімы з адмоўем *не-* тыпу Невер, Непосед, Недвига, Недомолва / М.В. Бірыла // Беларуская анамастыка. – Мінск: Навука і тэхніка, 1977. – С. 128 – 159.
15. Бірыла, М.В. Усходнеславянскія антрапонімы з адмоўем *не-* тыпу Нeждан, Недбай, Небаба, Некрас, Неваш, Нетреба / М.В. Бірыла // Беларуская анамастыка. – Мінск: Навука і тэхніка, 1981. – Вып. 2. – С. 4 – 27.
16. Ляшкевіч, В.М. Імёны-мянушкі жыхароў Віцебшчыны і Магілёўшчыны XVI – XVIII стст., утвораныя ад геаграфічных і этнічных назваў / В.М.

Ляшкевіч // Славянские языки: системно-описательный и социокультурный аспекты исследования: Материалы междунар. научно-метод. конф., Брест, 17-18 нояб. 2005 г. В 2 ч. Ч. 2 / М-во образования Респ. Беларусь, Брест. гос. ун-т им. А.С.Пушкина; [редкол.: Е.И.Абрамова, Г.В. Писарук, О.А. Фелькина]. – Брест: Изд-во БрГУ, 2006. – С. 25 – 27.
17. Ляшкевіч, В.М. Імя-мянушка як крыніца экстралінгвістычнай інфармацыі / В.М. Ляшкевіч // Веснік Віцебскага дзяржаўнага універсітэта. – 2004. – № 3 (33). – С. 92 – 96.
18. Селищев, А.М. Избранные труды / А.М. Селищев. – М., 1968.—238 с.
19. Семянькова, Г.К. Найменне асобы як адлюстраванне сацыякультурных і гістарычных працэсаў / Г.К. Семянькова // Славянские языки: системно-описательный и социокультурный аспекты исследования: Материалы междунар. научно-метод. конф., Брест, 17-18 нояб. 2005 г. В 2 ч. Ч. 2 / М-во образования Респ. Беларусь, Брест. гос. ун-т им. А.С.Пушкина; [редкол.: Е.И.Абрамоваи др.]. – Брест: Изд-во БрГУ, 2006. – С. 28 – 30.
20. Суслова, А.В. О русских именах / А.В. Суслова, А.В. Суперанская. – Л.: Лениздат, 1985.—221 с.
21. Шумская, І.А. Пра адзін тып антрапонімаў / І.А. Шумская // Беларуская анамастыка. – Мн., 1992. – С. 26 – 31.
22. Шур, В. Беларускія ўласныя імёны: Беларуская антрапаніміка і тапаніміка: Дапаможнік для настаўнікаў / В.В. Шур. – Мн.: Мастацкая літаратура, 1998. – 239 с.

## Трэніровачныя практыкаванні

***Практыкаванне 1.*** Параўнайце тры класіфікацыі старажытных імён-мянушак (А.М. Селішчава, А.У. Суславай і А.В. Супяранскай, М.В. Бірылы). Што агульнага ў гэтых класіфікацыях і чым яны адрозніваюцца?

***Практыкаванне 2.*** Прывядзіце вядомыя вам прыклады групавых мянушак, што з'яўляюцца назвамі жыхароў асобных населеных пунктаў. Растлумачце паходжанне такіх антрапонімаў.

## Пытанні і заданні для самакантролю

1. Дайце азначэнне тэрміна *мянушка.* Якое месца займае гэты від антрапанімнай адзінкі ў сённяшнім жыцці?
2. У які перыяд імя было роўнае мянушцы? Чаму?
3. Чаму ва ўсходніх славян пасля прыняцця хрысціянства яшчэ доўгі час хрэсныя імёны ўжываліся паралельна з язычніцкімі?
4. Якую ролю выконвалі мянушкі ў старажытнасці, якая іх функцыя ў наш час?
5. Якія прычыны ўзнікнення мянушак на сучасным этапе?
6. Як язычніцкія вераванні адбіваліся на складзе дахрысціянскіх імён?

7. У чым адрозненне паміж унутрысямейнымі і агульнабытавымі мянушкамі?
8. Прывядзіце прыклады вядомых вам індывідуальных і групавых мянушак, растлумачце, як яны ўзніклі.
9. Раскажыце пра мянушкі-патронімы (сямейныя і індывідуальныя).
10. Якія мянушкі называюцца матранімічнымі? Як яны ўтвараюцца?
11. Якія мянушкі належаць да андронімаў? У чым асаблівасць іх утварэння?
12. Якія вылучаюць групы мянушак паводле структуры? Прывядзіце прыклады на кожную групу.
13. Якія семантычныя групы сучасных неафіцыйных найменняў вылучаюцца навукоўцамі? У чым адметнасць кожнай з гэтых груп?
14. Паразважайце, чаму ўтвараюцца мянушкі-абрэвіятуры.
15. Якія існуюць адрозненні ў матывацыі мянушак, што належаць прадстаўнікам розных сацыяльных і ўзроставых груп? Чым выкліканы гэтыя адрозненні?

# ПСЕЎДАНІМЫ

**Ключавыя словы**: *псеўданім, калектыўны псеўданім, фіктонім (уласна псеўданім), абагульняльны псеўданім, крыптанім, псеўдаандронім, псеўдагінім*.

## Кароткая тэарэтычная даведка

Акрамя імені, імені па бацьку, прозвішча, мянушкі, існуе такая антрапанімная адзінка, як псеўданім (ад грэч. *pseudonymos* – “ілжыва названы”) – спецыяльна прыдуманае найменне, якое ўжываецца ў грамадскім жыцці чалавека паралельна з сапраўдным іменем або замест яго. Псеўданім можа замяняць прозвішча (часцей за ўсё), імя, імя па бацьку, усю формулу іменавання. Па ўмовах стварэння прыдуманага наймення трэба адрозніваць **літаратурны** псеўданім ад **сцэнічнага** і **іншых шматлікіх выпадкаў**

**зашыфроўкі імён**, напрыклад ужыванне ўмоўных партыйных імён пры падпольнай рабоце і да т.п. Найбольш пашыраны псеўданімы сярод пісьменнікаў і акцёраў. Іх часта маюць таксама вучоныя, грамадскія і палітычныя дзеячы. У некаторых аўтараў, акрамя асноўнага псеўданіма, было шмат іншых (у Зміцера Жылуновіча – 61: *А., Ад невядомага Змітра, Авадзен, Авадзень, Авадзён, Авадзіон, Аглядальнік, Аса, Белар.-Камуніст, Беларус, Вар., Васа, Г.Ц., Габрусь, Дорндорф, Друк, Гляк, Д., Д.Ж., Ж-ч, З-ж-ч, Зета, Сымон друк, Янка Кліч, Цішка Гартны, Бэйгар* і інш.; у Канстанціна Міцкевіча – 59: *Агарак, Адзінокі, Альбуцкі, Булава, Ганна Груд., Гушча (Якуб Колас), Таро., Дзядзька Карусь, Дубовы Ліст, К., К.М.; К-с, Я; Свой чалавек, Лесавік, Kołas, Marcin z za reczki, Mikalajewiec, Stary Szut*і інш.; у Івана Луцэвіча – 44: *Адзін з "парнаснікаў"; Марка Бяздольны, Вайдэльота, Здарэнец, І.К., І.Л., К-а, І.Купала, Янка Купала, Стары Мінчук, Хаўруснік, Янук з-пад Мінска, Ня-Гутнік, „Lewy", Kahaniec, Janka Kupała* і інш.; Максіма Багдановіча – 22: *Б., Б-віч, М. Б-віч, Б-ч, Максім Крыніца, М.Б., Н.Б., Осьмак, Эхо, Maksim Hrynica, Rion* і інш., у Петруся Бройкі – 14: *Аўлас (з Я. Скрыганам), Бандылевіч, Баравы, П. Далецкі, Звычайны Пятрусь, Андрэй Прыгода, Сымон Ракіта, Стары дзядок Аўлас, Дзед Тарас* і інш.). Шмат якія псеўданімы выціснулі сапраўднае прозвішча і сталі пастаянным аўтарскім іменем (Цішка Гартны, Якуб Колас, Янка Купала).

Гісторыі беларускай літаратуры вядомы выпадкі, калі за псеўданімам хавалася, наадварот, не адна асоба, а некалькі. Напрыклад, пад псеўданімам *Я. Лупаты* схаваны сапраўдныя імёны Я. Брыля, П. Панчанкі, Я. Скурко.

Навука аб псеўданімах – **псеўданіміка –** мае міждысцыплінарны характар: яна аднолькава блізкая лінгвістыцы і літаратуразнаўству. Задача лінгвістаў – вывучаць спосабы ўтварэння і семантыку псеўданімаў, літаратуразнаўцаў – тлумачыць паходжанне псеўданімаў, прычыны звароту чалавека да выдуманага імені; задача бібліёграфаў – вызначаць прыналежнасць псеўданіма той ці іншай асобе, складаць слоўнікі псеўданімаў. Вывучэнне псеўданімаў дазваляе больш поўна ўявіць гістарычныя падзеі, гісторыю літаратуры, мастацтва.

## Асноўныя характарыстыкі псеўданімаў

Псеўданім уваходзіць у разрад антрапонімаў і мае рысы, уласцівыя гэтым анамастычным адзінкам; у той жа час ён адрозніваецца ад іншых антрапонімаў наступным:

1. З'яўляецца адзінкай з абмежаванай сферай ужывання.
2. Выконвае спецыфічныя функцыі, у тым ліку эзатэрычную.
3. З'яўляецца вынікам самаіменавання аўтара.
4. Функцыянальна дэтэрмінаваны рознымі экстралінгвістычнымі фактарамі: імкненнем пазбегнуць праследаванняў, жаданнем містыфікаваць адрасата, модай, камерцыйнымі рэзонамі і інш.

5. Семантыка псеўданіма мае двухпланавы характар, які заключаецца ў здольнасці не толькі выконваць функцыю ўласнага імені, а і захоўваць даанамастычнае значэнне асновы.

6. Мастацкі псеўданім займае асаблівую пазіцыю ў тэксце – ініцыяльную ці фінальную, што робіць яго эстэтычна значным кампанентам і абумоўлівае спецыфічную функцыю аб'яднання моўных інтэнцый мастацкага тэксту.

Разнавіднасці псеўданімаў і спосабы іх утварэння вывучаны пакуль недастаткова, хаця яны цікавыя і павучальныя.

Н.У. Падольская ў сваім "Слоўніку рускай анамастычнай тэрміналогіі" (М., 1988.) прыводзіць дзве разнавіднасці псеўданімаў: п с е ў д а а н д р о н і м ы – мужчынскія імёны, выкарыстаныя ў якасці псеўданіма жанчынамі (напрыклад, *Мацей Крапіўка, Гаўрыла, Гаўрыла з Полацка* – Алаіза Пашкевіч, *Адам Шкіляр* – Ванда Лявіцкая), і п с е ў д а г і н і м ы – жаночыя імёны, выкарыстаныя ў якасці псеўданіма мужчынамі (напрыклад, *Ганна Аршыца* – Уладзімір Дубоўка, *Алеся Гаротная* – Аляксандр Шлюбскі).

## Класіфікацыя псеўданімаў

Важнай праблемай з'яўляецца класіфікацыя псеўданімаў. Першай спробай даць класіфікацыю гэтых адзінак стаў трактат Адрыена Байе, выдадзены ў Парыжы ў 1690 г. «Аўтары, што схаваліся пад чужымі, запазычанымі, прыдуманымі, ілжывымі, зашыфраванымі, наўмысна змененымі, вывернутымі або перакладзенымі на іншую мову прозвішчамі», у якім аўтар не проста канстатуе факты, але і апісвае спосабы (больш за 20) з'яўлення псеўданімаў. У 1980 г. рускі даследчык псеўданімаў В.Г. Дзмітрыеў у сваёй кнізе "Схаваўшыя сваё імя (З гісторыі ананімаў і псеўданімаў)", паклаўшы ў аснову спосаб утварэння гэтых адзінак, прапануе адрозніваць псеўданімы, звязаныя з сапраўднымі імёнамі і не звязаныя з імі. У псеўданімах першага тыпу сапраўднае імя аўтара зашыфравана рознымі спосабамі, і яго можна знайсці, расшыфраваўшы подпіс. Псеўданімы другога тыпу адрозніваюцца па сваім функцыянальным значэнні: характарызуюць аўтара, служаць літаратурнай маскай, забяспечваюць інкогніта.

Найбольш прымальную класіфікацыю беларускіх псеўданімаў даў у 1983 г. Я. Саламевіч, на думку якога з боку ідаўтварэння і графічнай перадачы іх можна падзяліць на тры наступныя разнавіднасці:

**1. Уласна псеўданімы** (сапраўдныя псеўданімы), або фіктонімы. Гэта формы, якія ствараюць поўнае ўражанне імя і прозвішча аўтара: *Янка Купала, Марка Бяздольны* (І. Луцэвіч), *Якуб Колас, Тамаш Булава, Тарас Гушча* (К. Міцкевіч), *А. Мсціслаўскі* (М. Гарэцкі), *Кузьма Чорны* (М. Раманоўскі), *Міхась Чарот* (М. Кудзелька), *Гальяш Леўчык* (І. Ляўковіч) і інш.

**2. Абугальняльныя псеўданімы.** У іх сапраўднае імя і прозвішча аўтара заменены ўказаннем на яго:

а) нацыянальнасць ( *Беларус* – П. Дземідовіч, *Максім Беларус* – М. Гарэцкі, *Пётра Беларус* – П. Яленскі, *Litwin* – А. Рымша);

б) тэрытарыяльную прыналежнасць (*Сімяон Полацкі* – С. Пятроўскі-Сітніяновіч, *Мікалаевец* – К. Міцкевіч, *Янук з-пад Мінска* – І. Луцэвіч, *Юрка Бусел з-пад Слуцка* – Ю. Булгак);

в) сацыяльнае становішча (*Бэйгар* – З. Жылуновіч, *Сярожа пастушок* – С. Крывец);

г) партыйнасць (*Беларус-Камуніст* – З. Жылуновіч);

д) спецыяльнасць, пасаду, работу (*Старый педагог* – Я. Карскі, *Падпольнік* – В. Харужая, *Этнограф* – А. Шлюбскі, *Падарожны* – А. Лявіцкі);

е) факты біяграфіі, асаблівасці творчасці і стылю (*Алесь Гарун, Сумны* – А. Прушынскі, *Н. Жальба, Слёзнавокі* – А. Бяленка, *Янка Журба* – І. Івашын).

3. **Крыптанімы.** Яны ўтвараюцца з:

1) ініцыялаў імені або прозвішча, імені і прозвішча, часам імені, імені па бацьку і прозвішча, а таксама пачатковых літар псеўданіма аўтара (*І.Л.* – І. Луцэвіч, *А.* – А. Шлюбскі, *Б.* – М. Багдановіч, *Я.К.* – І. Луцэвіч, *В.Т.* – В. Таўлай, *Е.* – Я. Карскі, *Е.Р.Р.* – Е. Раманаў);

2) абы з якіх літар розных алфавітаў ( *В.М.* – Р. Шырма, *З.* – С. Плаўнік, *К-А-А* – І Луцэвіч, *A.D., Dem.* – Ф. Багушэвіч, * *S* – І. Неслухоўскі);

3) розных скарачэнннняў імені або прозвішча аўтара ці яго псеўданіма (*К-а* – І. Луцэвіч, *Б-і* – Я. Дыла, *А.* – Бабарэка, *Б-ч, Б—віч* – М. Багдановіч);

4) анаграм: змешвання літар і складоў імені і прозвішча і прачытання прозвішча ззаду наперад (*А. Рэка* –А. Бабарэка, *В. Нэдбэ* – Л. Бэндэ, *Акцьуб* – Э. Будзька)[2] (Саламевіч Я. Слоўнік беларускіх псеўдонімаў і крыптонімаў (XVI—XXстст.). Мінск, 1983. С. 3-4.).

Даследчыкі рускіх і ўкраінскіх літаратурных псеўданімаў адзначаюць таксама наступныя тыпы:

а) складанаскарочаны – псеўданім, утвораны з фрагментаў імені і прозвішча пісьменніка (*Маран* – Марыя Андрыеўская);

б) астэронім – псеўданім, які складаецца з зорачак (*** – Осіп Макавей);

в) нулонім – псеўданім, які складаецца з нулёў  (0000 – М. Гогаль);

г) патронім – псеўданім, утвораны ад імені бацькі (*Серафімовіч* – Аляксандр Серафімавіч Папоў, *Васільчанка* – Сцяпан Васільевіч Панасенка);

д) хагеонім – біблейскае імя або царкоўны тэрмін і выраз, які выкарыстоўваецца ў якасці псеўданіма (*Апостал Фёдар* – Ф. Благоў, *Сатана* – М. Маёраў, *“Паламар Багародніцкай званіцы”*— І. Сразнеўскі);

е) іншамоўныя імёны і прозвішчы пісьменнікаў, перакладзеныя на родную мову (*И. Железнов* – И. Эйзен, *Ульяна Кравченко* – Юлия Шнайдер);

ж) змешаны – псеўданім, які складаецца з рэальнага прозвішча аўтара і прыдуманага (*Лебедзеў-Кумач* – В. Лебедзеў, *Квитка-Аснавяненка* – Г. Квітка);

з) імёны літаратурных герояў, выкарыстаныя ў якасці псеўданімаў (Собакевич – В. Катаеў). Акрамя пералічаных, існуюць і іншыя тыпы псеўданімаў, такія, якія складаюцца з адных імён, альбо калі пісьменнік называе сябе стваральнікам твора іншага аўтара і г.д.

Фантазія пісьменнікаў у прыдумванні імён-масак неабмежаваная. І ўсё ж яна не выходзіць за рамкі, што склаліся ў сістэме мовы. Усе тыпы псеўданімаў ствараюцца па вядомых мадэлях і паддаюцца структурнаму і семантычнаму аналізу і апісанню.

Беларускія пісьменнікі пачалі карыстацца псеўданімамі яшчэ ў XVI ст. Гэта былі пераважна пісьменнікі-палемісты, якія выступалі супраць каталіцызму, супраць уніі. Шырока ўжываліся псеўданімы ў XIX і асабліва на пачатку XX ст.

## Прычыны з’яўлення псеўданімаў

Прычыны з’яўлення псеўданімаў самыя разнастайныя:

1) цяжкія цэнзурныя ўмовы царскага часу. Неабходнасць хавацца ад улады, цэнзуры вымушала палітыкаў і пісьменнікаў утойваць свае сапраўдныя імёны;

2) імкненне высокапастаўленых аўтараў выказваць свае погляды, па розных прычынах схаваўшы сваё сапраўднае імя і службовае становішча;

3) падкрэсліванне асаблівасці асобы аўтара або яго творчасці, прадставіць яго не такім, які ён на самой справе (літаратурная маска);

4) жаданне прымусіць публіку гадаць пра сапраўднага носьбіта выдуманага імені;

5) супадзенне прозвішча аўтара з прозвішчам ужо вядомай у літаратуры асобы (*Якуб Колас* меў знакамітага цёзку па прозвішчы – польскага паэта Адама Міцкевіча. У рускай літаратуры савецкага перыяду былі два пісьменнікі Юрыі Якаўлевы. Адзін з іх, каб пазбегнуць блытаніны, пачаў падпісвацца псеўданімам *Арбат*);

6) немілагучнасць або цяжкасць пры вымаўленні прозвішча. Вядома, напрыклад, што Ілья Ільф узяў сабе псеўданім, кароткі і кідкі, замест сапраўднага цяжкавымаўляльнага прозвішча Файнзільберг;

7) літаратурная гульня (напрыклад, у 20-я гг. XX ст., калі ў СССР назіраўся рост чытальніцкай цікавасці да перакладной літратуры, некаторыя аўтары друкавалі свае творы пад імёнамі неіснуючых “замежных” пісьменнікаў;

8) саслоўныя або іншыя забабоны (Жанчыны нярэдка хавалі свае імёны, беручы ў якасці псеўданімаў мужчынскія. Так, Ванда Лявіцкая пісала пад псеўданімам Адам Шкіляр, а Аўрора Дзюван вядома як Жорж Санд);

9) боязь правалу на літаратурнай ніве;

10) пратэст бацькоў (Вядома, што Анна Гарэнка першыя вершы пачала публікаваць пад прозвішчам сваёй бабулі, таму што баялася засмуціць бацьку, які не бачыў у ёй вялікага паэта. Так з'явілася вядомая паэтка Анна Ахматава);

11) проста даніна модзе ці сціпласць аўтара і інш.

Права ставіць псеўданім замест сапраўднага прозвішча ці імені захоўваецца і сёння. Раскрыццё псеўданіма пры жыцці аўтара без яго згоды не дазваляецца, акрамя выпадкаў, калі псеўданім выкарыстоўваецца ў мэтах фальсіфікацыі аўтарства. Рэдакцыі часопісаў і газет, выдавецтвы павінны захоўваць таямніцу псеўданіма.

Але гісторыя літаратуры, крытыкі, журналістыкі, публіцыстыкі не можа абысціся без расшыфроўкі псеўданімаў. Таму ўжо з XVII ст. у шмат якіх краінах пачалі складацца і выдавацца спецыяльныя слоўнікі псеўданімаў.

## З гісторыі даследавання псеўданімаў

Адным з першых слоўнікаў псеўданімаў вучоныя называюць слоўнік І. Сауэрса «De vestigii litteraris, sub quibus nomina intexta sunt» («Аб подпісах і знаках, пад якімі схаваны сапраўдныя імёны»), выдадзены ў 1652 г. У 1669 г. у Лейпцыгу з'явіўся трактат Ф. Гейслера «De nominum mutatione et anonymys scnptonbus» («Аб змене імён і ананімных пісьменніках»). З 1674 г. вядомы трактат нямецкага юрыста Вінцэнта Плакцыя «Theatrum anonymorum et pseydonymorum» («Агляд ананімаў і псеўданімаў»), які некалькі разоў дапаўняўся і перавыдаваўся пасля яго смерці: першы раз у 1708 г. Фабрыцыусам, другі раз у 1740 г. Міліусам [2, с. 4-5; 7, с. 3].

Пра тое, што ў Францыі ў XVII ст. сярод літаратараў быў шырока распаўсюджаны звычай замяняць сапраўдныя імёны і прозвішчы псеўданімамі, можна даведацца з трактата А. Бае «Auteurs desquisez sousles noms etrangers, empruntez, supposez, feints a plaisir, chiffrez, renversez, retournez ouchangez d'une langue en une aultre» («Аўтары, што хаваліся пад чужымі, запазычанымі, прыдуманымі, несапраўднымі, зашыфраванымі, спецыяльна змененымі, вывернутымі або перакладзенымі на іншую мову прозвішчамі» – 1690 г.).

У славян, бадай, адным з першых быў слоўнік псеўданімаў А. Даленскага, выдадзены ў Празе ў 1934 г., затым трохтомны “Слоўнік псеўданімаў і крыптанімаў польскіх пісьменнікаў, а таксама тых, што датычыць Польшчы” А. Бара, выдадзены ў Кракаве ў 1936-1938 гг. У 1944 г. у Браціславе выйшаў “Слоўнік славацкіх псеўданімаў” І. Орміса. Балгарскія псеўданімы сабраў і выдаў І. Багданаў (Сафія, 1961), украінскія – А. Дэй (Кіеў, 1969).

У рускай навуковай літаратуры XIX ст. найбольш важным, хоць і не вельмі зручным для карыстання сярод спісаў псеўданімаў, стаў “Вопыт слоўніка псеўданімаў рускіх пісьменнікаў” (“Опыт словаря псевдонимов

русских писателей") В.С. Карцава і М.Н. Мазаева, выдадзены ў 1891 г., а таксама "Бібліяграфічны слоўнік рускіх пісьменніц" М. Галіцына (1865–1889). Першым, хто даў поўныя формы імён і імён па бацьку аўтараў, аказаўся ўладзімірскі бібліёграф і краязнавец А.В. Смірноў, які ў 1892 г. у часопісе "Бібліяграфічныя нататкі" у якасці дапаўнення да ўказальніка В.С. Карцава і М.Н. Мазаева надрукаваў спіс псеўданімаў, што ўключыў каля тысячы адзінак. Самым вядомым і найбольш поўным слоўнікам ХХ ст. стаў слоўнік І.Ф. Масанава, які складаецца з чатырох тамоў. Першыя тры тамы – алфавітны ўказальнік псеўданімаў, чацвёрты том – алфавітны спіс аўтараў.

Работу бацькі па зборы і вывучэнні псеўданімаў прадоўжыў сын И.Ф. Масанава – Ю.І. Масанаў, які ў 1963 г. выдаў кнігу літаратуразнаўчага характару "У свеце псеўданімаў, ананімаў і літаратурных падробак" («В мире псевдонимов, анонимов и литературных подделок»), дзе зрабіў першую спробу даць класіфікацыю псеўданімаў («Віды псеўданімаў: вопыт класіфікацый»).

Вывучэннем псеўданімаў займаліся таксама такія вядомыя рускія навукоўцы, як В.В. Вінаградаў, А.А. Рэфармацкі, Б.В. Унбегаун, В.Д. Бандалетаў, М.В. Гарбанеўскі і інш. У 70-80-х гг. мінулага стагоддзя вельмі актыўна вывучаў псеўданімы В.Р. Дзмітрыеў [гл.: 1, 2, 3, 4].

В 1999 г. выйшла ў свет «Энцыклапедыя псеўданімаў» С. Падсяваткіна, у якой даецца кароткая гісторыя псеўданімаўтварэння. Выданне носіць навукова-папулярны характар. У ім утрымліваецца інфармацыя аб жыцці вядомых палітыкаў, вучоных, пісьменнікаў, дзеячаў культуры і мастацтва, як рускіх, так і замежных, пачынаючы з XVI да XX ст.

Інфармацыю пра псеўданімы сучасных палітыкаў, пісьменнікаў, артыстаў, футбалістаў і інш. можна адшукаць у Інтэрнэце (гл: http://www.borriska.narod.ru/psev).

Сур'ёзнага ж лінгвістычнага аналізу псеўданімаў у рускай анамастыцы пакуль няма.

Беларуская літаратура мае свой "Слоўнік беларускіх псеўданімаў і крыптанімаў (XVI – XX стст.)" (Мінск, 1983). У слоўнік уключаны матэрыялы не толькі з прэсы на беларускай мове, але і з выданняў на рускай і польскай мовах, якія выходзілі на Беларусі, а таксама псеўданімы, якімі падпісаны матэрыялы, звязаныя з гісторыяй беларускага народа, яго культурай, літаратурай, мастацтвам, этнаграфіяй, фальклорам, надрукаваныя на рускай і польскай мовах у розных выданнях і за межамі рэспублікі як у дарэвалюцыйны, так і ў наш час.

Сістэматычным зборам беларускіх псеўданімаў да Я. Саламевіча ніхто спецыяльна не займаўся. З публікацый, у якіх раскрываецца значная колькасць псеўданімаў, можна назваць бібліяграфічны нарыс Ю.В. Бібілы "Літаратурныя працы Ц. Гартнага", змешчаны ў 1928 г. у кнізе "Цішка Гартны ў літаратурнай крытыцы".

Падводзячы вынікі, адзначым, што анамастычная лексіка выключна чуйна рэагуе на грамадска-палітычныя, сацыяльныя і культурныя пераўтварэнні, настройваючы сваю сістэму і яе асобныя кампаненты на

аптымальнае выкананне сацыяльнага заказу. Такім чынам, псеўданімы з’яўляюцца багатай крыніцай для выяўлення фактаў, што маюць экстралінгвістычную значнасць. Псеўданімы -- сур’ёзны грамадскі феномен, які заслугоўвае больш пільнага разгляду.

## Асноўная літаратура


1. Аникин, А.Е. К истолкованию одного имени собственного: псевдоним Иннокентия Анненского Никто-Ник.Т-о (Несколько соображений) / А.Е. Аникин // Славянское и балканское языкознание: Проблемы лексикологии и семантики. Слово в контексте культуры. – Москва: Индрик, 1999. – С. 7-14.
2. Дмитриев, В. Замаскированная литература / В. Дмитриев. – М., 1973.—128 с.
3. Дмитриев, В. О псевдонимах и их классификации / В.Дмитриев // Филологические науки, 1975. – № 5. – С. 83-85.
4. Дмитриев, В. Придуманная литература (рассказы о псевдонимах) / В. Дмитриев. – М., 1986.—218 с.
5. Дмитриев, В. Скрывшие свое имя / В. Дмитриев. – М., 1970.—291 с.
6. Масанов, Ю. В мире псевдонимов, анонимов и литературных подделок / Ю.Масанов. – М., 1963.—251 с.
7. Суркова, Т.И. Номинация в псевдонимах русских писателей XIX-XX вв. / Т.И. Суркова // Русская ономастика: Республ.сб. / отв.ред. А.К. Матвеев. – Свердловск, 1976. – С. 100-104.
8. Федорищев, В.Е. Способы образования русских и украинских литературных псевдонимов / В.Е. Федорищев // Шоста Республіканська ономастична конференція: Тез.доп.і повідомл. Ч. 1. Одеса, 1990. С. 161-163.
9. Шумская, І.А. Пра адзін тып антрапонімаў / І.А. Шумская // Беларуская анамастыка. – Мінск, 1992. – С. 26–31.
10. Шур, В.В. Уласныя імёны ў часе і прасторы / В.В. Шур. – Мінск: НІА, 2008.—100 с.


## Дадатковая літаратура


11. Имя твое: Научно-попул.сб.1: Имена личные, фамилии, прозвища, псевдонимы, генеалогия, топонимы, нумерология, фольклор / Редкол.: Семен Кушнер и др. – Иерусалим, 1993. – 93 с.
12. Масанов, И.Ф. Словарь псевдонимов: В 4 т. / И.Ф. Масанов – М., 1956.
13. Маска, кто вы? // Витьбичи, 1996. – № 39 (723), 4 апреля.
14. Подольская, Н.В. Словарь русской ономастической терминологии. 2-е изд., перераб.и доп. / Н.В. Подольская. – М.: Наука, 1988. – 192 с.
15. Подсеваткин, С. Энциклопедия псевдонимов. – Москва, 1999. – 301с.

16. Саламевіч, Я. Слоўнік беларускіх псеўданімаў і крыптанімаў (XVI—XX стст.) / Я. Саламевіч – Мінск: Мастацкая літаратура, 1983. – 207 с.

## Інтэрнэт-рэсурсы

1. http://www.borriska.narod.ru/psev

## Трэніровачныя практыкаванні

***Практыкаванне 1.*** Вылучыце ўсе ўласныя імёны і вызначце, да якіх разрадаў онімаў яны могуць быць аднесены.

*Перад нараджэннем Ісуса Хрыста на ўсходзе ад Віфлеема з'явілася цудоўная зорка, у якой халдзейскія валхвы – уплывовыя асобы з Персіі – пазналі зорку ад Іакава, прадказаную прадракальнікам Валаамам за 1450 гадоў да Раства Хрыстова. У выніку гэтага прадказання на Усходзе са старажытных часоў было распаўсюджана вераванне, што ў Іудзеі народзіцца вялікі Цар, які будзе ўладарыць над усім светам, і што раство Яго будзе абвешчана з'яўленнем незвычайнай зоркі* (Земная жизнь Пресвятой Богородицы и описание святых чудотворных ее икон, чтимых православной церковью, на основании Священного Писания и церковных традиций, с изображениями в тексте праздников и икон Божией Матери / сост. София Снессорева. – Москва: Благовест, 2007. – С. 46 – 47).

***Практыкаванне 2.*** З раздзела **Алфавітны паказальнік аўтараў** "Слоўніка беларускіх псеўданімаў і крыптанімаў XVI-XX стст." Я. Саламевіча (Мінск, 1983) выпішыце прозвішчы пісьменнікаў, якія маюць больш за 20 псеўданімаў і крыптанімаў.

***Практыкаванне 3.*** Карыстаючыся "Слоўнікам беларускіх псеўданімаў і крыптанімаў XVI-XX стст." Я. Саламевіча (Мінск, 1983), выпішыце і раскласіфікуйце ўсе псеўданімы Зміцера Хведаравіча Жылуновіча.

***Практыкаванне 4.*** Са Слоўніка рускай анамастычнай тэрміналогіі Н.У. Падольскай (М.,1988) выпішыце і перакладзіце на беларускую мову азначэнні *псеўданіма* і яго разнавіднасцей.

***Практыкаванне 5.*** Карыстаючыся "Слоўнікам беларускіх псеўданімаў і крыптанімаў XVI-XX стст." Я. Саламевіча (Мінск, 1983), устанавіце, каму належаць наступныя псеўданімы:

*Macej Buraczok, B.de C, Юр. Баравы, Псэўдонім, Г-к, Разора, Навум Война, Сяргей Асот, Wydawca Albumu Wileńskiego, А.К, "Левы", Stary Szut, Якуб Паляшук, Д.Супоня.*

***Практыкаванне 6.*** Параўнайце будову слоўнікавых артыкулаў у “Анамастычным слоўніку твораў Якуба Коласа” (склад. Г.У. Арашонкава і інш.; Пад рэд. М.В. Бірылы. Мінск, 1990) і “Слоўніку ўласных імёнаў у паэзіі М. Багдановіча” (Ю.А. Гурская. Мінск, 1997). Звярніце ўвагу на дакладнасць і паўнату вызначэння імені, наяўнасць / адсутнасць указання на паходжанне імені, ілюстравання імён і інш.

***Практыкаванне 7.*** Карыстаючыся слоўнікам А.В. Супяранскай (Словарь русских личных имен. М. 1998), вызначце паходжанне наступных імён (грэчаскія, лацінскія, старажытнаяўрэйскія, старажытнарускія):

*Август, Абрам, Артем, Александр, Анастасий,Анатолий, Андрей, Антон, Бабак, Баган, Бажен, Базан, Баян, Беляш, Владимир, Валентин, Константин, Корней, Лука, Михаил, Стефан, Юлий, Максим, Яков, Николай, Олег,Очан, Павел, Теодор, Чурляй.*

### Пытанні і заданні для самакантролю

1. Што такое псеўданім?
2. Чаму з’яўляюцца псеўданімы?
3. На што могуць указваць псеўданімы?
4. Назавіце асноўныя характарыстыкі псеўданімаў.
5. Якія існуюць разнавіднасці псеўданімаў?
6. Хто з беларускіх і рускіх вучоных займаўся вывучэннем псеўданімаў?
7. Назавіце першы ў гісторыі еўрапейцаў слоўнік псеўданімаў.
8. Прывядзіце прыклады, калі за псеўданімам хавалася не адна асоба, а некалькі.
9. Які тэрмін выкарыстоўваецца для называння навукі аб псеўданімах?
10. Прывядзіце прыклады розных відаў крыптанімаў.
11. Ахарактарызуйце розніцу паміж мянушкамі і псеўданімамі.
12. Раскажыце аб прызначэнні і пабудове слоўніка псеўданімаў Я. Саламевіча.

## НІКІ

**Ключавыя словы:** *нікі, сеткавы псеўданім, віртуальны камп’ютэрны дыскурс, інтэрнэт-зносіны.*

### Кароткая тэарэтычная даведка

Антрапанімная сістэма валодае вялікай колькасцю мадэлей, кожная з якіх знаходзіць сваё выкарыстанне або ў афіцыйнай, або ў неафіцыйнай камунікатыўных сітцуацыях. З узнікненнем зносін па Інтэрнэце з’явілася патрэбнасць выступаць пад выдуманым іменем, што актывізавала

анамасіялагічны працэс. У выніку ўзнік новы від антрапоніма – нік, або сеткавы псеўданім.

## Асноўная характарыстыка нікаў

Тэрмін *нік* шырока выкарыстоўваецца ў сетцы Інтэрнэт, ён даследуецца ў манаграфіях, артыкулах і дысертацыях, прысвечаных вывучэнню спецыфікі віртуальнай камунікацыі, яе жанраў (П.Е. Кандрашоў [1], К.В. Аўчарова [2], М.Ю. Сідарава [3], М.Б. Бергельсан [4]), камп’ютэрнага сацыялекта (Е.Б. Русакова [5]), маладзёжнага дыскурса (М.Г. Чабаненка [6]).

У свабоднай энцыклапедыі Інтэрнэта “Вікіпедыі” *нік* (*нікне'йм, нікнэ'йм*) вызначаецца як сеткавае імя, псеўданім, які выкарыстоўваецца карыстальнікам падчас зносін у Інтэрнэце (у чаце, форуме, блогах) [7]. Сапраўды, адным са спецыфічных спосабаў эксплікацыі асобы ў інтэрнэт-дыскурсе з’яўляецца выкарыстанне слоў, што ідэнтыфікуюць суразмоўнікаў, гэта значыць нікаў. М.В. Галамідава называе іх “камп’ютэрнымі імёнамі, умоўнымі або выдуманымі, якія карыстальнік стварае для камп’ютэрных зносін асабістага характару” [8, с. 19].

Нікі з’яўляюцца заканамерным вынікам развіцця працэсу намінацыі, паколькі ўяўляюць сабой зручныя тыпы імён для вызначэння людзей у новым камунікатыўным асяроддзі. Яны валодаюць большай намінатыўнай унікальнасцю і індывідуальнасцю, чым асабовае імя, паколькі ў межах, напрыклад, чата заўсёды адпавядаюць толькі аднаму пэўнаму карыстальніку, які імкнецца самастойным і ўсвядомленым выбарам імені выказаць свае інтэнцыі і ўстаноўкі, застаючыся пры гэтым ананімным. Адносна нікаў можна сказаць, што ў працэсе прысваення сеткавага псеўданіма элемент свядомасці пераважае над элементам стыхійнасці. Пры выбары ніка самім камунікантам матываванасць ідзе “знутры”, ад самога чалавека, намінатар і аб’ект намінацыі супадаюць. Калі чалавек бярэ ў якасці ніка сваю рэальную мянушку або імя, гэта матывацыя ідзе звонку, з боку, носьбіт сеткавага імені з’яўляецца аб’ектам намінацыі, а намінатар – суб’ектам намінацыі. У любым выпадку працэс стварэння і прысваення ніка належыць акту штучнай намінацыі (калі толькі чалавек не выбраў яго выпадковым наборам клавіш або з дапамогай праграм-генератараў у Інтэрнэце).

Нікі ў большай ступені набліжаюцца да неафіцыйных антрапонімаў – псеўданімаў і мянушак. Усе яны ўтвараюць перыфірыю антрапанімнага поля. Агульная значнасць псеўданімаў і мянушак, іх яркі, экспрэсіўны характар, звязаны з вобразным перажываннем і выражэннем эмацыянальнай ацэнкі, уласцівы і многім нікам (*МАШКЕНЦЫЯ, АньГо_ЦвЯто4еГ, Красатулечка, Птушко_BY*). Падабенства нікаў і псеўданімаў заключаецца, па-першае, у тым, што яны ўспрымаюцца носьбітамі мовы як заменнікі рэальнага імені, як дапаможныя, умоўныя іменныя абазначэнні, як маска, за якою можна хавацца. Па-другое, усе яны з’яўляюцца прадуктам індывідуальнай і наўмыснай імятворчасці, якая характарызуецца асабістымі намінатыўнымі

намаганнямі і праяўленнямі патэнцыялу ўласнай фантазіі і вынаходлівасці пры фанетычным, графічным і зместавым афармленні. Віртуальная рэальнасць уплывае як на іменную дэнатацыю, так і на форму нікаў: выкарыстоўваюцца ў розных камбінацыях і варыяцыях графічныя сімвалы, шмат дадумваецца для стварэння прыдатнага вобраза: *O'Negin, $@$#@, $ My][@ $, зЮлЁная, Ксю-Ша, ~Zlaia@, ЧеБуратиНО.* Частыя парушэнні моўных норм збліжаюць нікі і з мянушкамі, якія таксама індывідуальныя па сваім утварэнні і ўзнікаюць у выніку самых розных адхіленняў ад прынятых норм найменавання, вымаўлення, мадэлей утварэння і г.д. [9, с. 170].

Нікі маюць некаторае падабенства з афіцыйнымі антрапонімамі. Сеткавыя псеўданімы збліжаюцца з асабовымі імёнамі ў тым сэнсе, што ў бытавых зносінах апошнія так сама актуальныя, як нікі ў асабіста арыентаваных чат-зносінах. Толькі асабовыя імёны заўсёды актуалізуюцца ў вуснай форме, а нікі – у пісьмовай. З прозвішчамі нікі збліжае тое, што і тыя, і другія не маюць набору варыянтаў: прозвішчы – з-за сваёй сацыяльнай значнасці, а нікі – у мэтах бяспекі і каб пазбегнуць хаосу ў зносінах. Нік у спалучэнні з паролем – гэта неабходны код доступу ў чат, блог і г.д., таму ён інварыянтны. Але нік больш дымакратычны, паколькі суб'ект мовы можа мець множную персаніфікаванасць: выступаць пад некалькімі "маскамі" і мець іх па сваім жаданні.

Адным з галоўных адрозненняў ніка ад іншых антрапонімаў з'яўляецца вобласць яго ўжывання. Нікі выкарыстоўваюцца ў сферы віртуальнага камп'ютэрнага дыскурса (у чатах, блогах, на форумах, у мабільных паслугах знаёмстваў, на літаратурных сайтах і інш.). акрамя таго, у адрозненне ад псеўданімаў, нікі суаднесены не з грамадска значнай дзейнасцю, а са сферай межасабовых кантактаў у віртуальнай рэальнасці са сваёй ідэалогіяй і субкультурай. Яны прадстаўляюць чалавека як прыватную асобу. Неабходна адзначыць, што гэта сцвярджэнне не можа ў поўнай ступені распаўсюджвацца на нікі пісьменнікаў і паэтаў на літаратурных сайтах, паколькі сярод іх ёсць вядомыя ў пэўным асяроддзі аўтары.

Яшчэ адным адрозненнем сеткавага псеўданіма з'яўляецца патрабаванне яго непаўторнасці, унікальнасці ў межах аднаго чата, форума, блога. З-за пісьмовага характару камунікацыі кожны нік павінен адрозніваецца ад астатніх сваім графічным афармленнем. Гэтыя адрозненні дасягаюцца пры дапамозе вялікай або малой літар *(Кот – кот),* пры дабаўленні лічбы або любога значка *(alex – alex13),* пры перадачы літарамі лацінскага алфавіта *(Лис – Lis),* пры перакладзе на англійскую мову *(Волк— Wolf)* і інш. Часам пры выбары ніка парушаюцца арфаграфічныя нормы, але часта гэта спосаб зрабіць форму дадзеных антрапонімаў больш яркай і запамінальнай (*Чорный Бегемот, ЕжЫк, зЮлЁная, cveta-radugi, ДевочкаСкандал, dushamoya*).

Пры афармленні нікаў можна вылучыць некалькі выпадкаў суіснавання лацінкі і кірыліцы:

1. Лацінская транслітарацыя рускага ніка *Knopochka, lubov, ded moroz*).

Колькасць сеткавых псеўданімаў на рускай мове з выкарыстаннем

графікі кірыліцы або лацінкі знаходзіцца ў блізкіх колькасных адносінах. Але магчымыя выпадкі, калі тэхнічныя прычыны (несупадзенне кадзіровак, нерусіфікаваная клавіятура) патрабуюць выкарыстання толькі лацінкі.

2. Сімуляцыя кірыліцы з выкарыстаннем літар лацінскага алфавіта на аснове графічнага падабенства некаторых літар лацінкі і кірыліцы, што парушае законы практычнай транскрыпцыі. У выніку атрымліваюцца наступныя адпаведнікі лацінскіх літар і рускіх фанем: B = <в>/<в’>, g = <д>/<д’>, H = <н>/<н’>, m = <т>/<т’>, n = <п>/<п’>, P/p = <р>/<р’>, r = <г>, u = <и>, X/x = <х>, Y/y = <у> (*Hy norogu!, npokaЗHuK, moska, Hukto, pycckuu, Yborshica, cemepka, Cepera)*. Гэты від пісьма ўжываецца рэдка з-за нязручнасці і працаёмкасці такога спосабу ўводу тэксту.
3. Стварэнне нікаў з літар кірыліцы і лацінкі (*Sолнечная, ЛимоNая_КиSлоТа, worldный, СvобоDна_Я*).
4. Перадача кірыліцай запазычанага транскрыбіраванага ніка (*Спирит, долл, ШедовДансер, ДаркЛайт)*. Тут прасочваецца заканамернасць: перадача рускамоўных сеткавых псеўданімаў лацінкай намнога перавышае перадачу англамоўных нікаў кірыліцай. Апошнія ў большасці выпадкаў перадаюцца ўласцівым ім алфавітам.
5. Стварэнне квазілітар кірыліцы і лацінкі. Творчае выкарыстанне даступных значкоў і сімвалаў – прычына з’яўлення новых спосабаў стварэння блізкіх да агульнапрынятых напісанняў літар: а = @, б = 6, Ж/ж = )!( или }!{, З/з = 3, I/i = 1 или !, К/к/k = |{, Л = Jl, L/l = 1 или !, O = 0, () или [], S/s = $, X/x = )(, }{ или ][, Ш/ш = |||, ы = bl, ь = b (*Svet1k, ch@me1e0n, }{OTT@БЫЧ, Be!o4k@, Br!tv@, $lon, )!(ORIK, CheB@r@||||{0, r()m@, Dro6HeHbKuЙ, JIeT4uK)*.

## Функцыі нікаў

Нікі па сваёй прыродзе поліфункцыянальныя. М.В. Галамідава пры аналізе нікаў адзначае шэсць асноўных функцый. На яе погляд, нік – гэта сродак: 1) дыферэнцыяцыі, або адрознення, людзей; 2) індывідуалізацыі і вызначэння ўнікальнасці чалавечага “я” ; 3) забеспячэнне свабоды і раскаванасці зносін; 4) прыцягненне ўвагі, абуджэння цікавасці; 5) пацехі камунікантаў; 6) гульнявых паводзін. Першыя дзве функцыі (дыферэнцыяцыі і індывідуалізацыі) характэрныя для ўсіх антрапонімаў, а астатнія з’яўляюцца адрознымі рысамі нікаў [8, с. 19-21]. Да гэтых функцый неабходна дадаць функцыю самапрэзентацыі, дыскурсіўную, кантактаўстанаўляльную, эмацыянальна-экспрэсіўную [6, с. 160] і характарызавальную.

Кантактаўстанаўляльная функцыя забяспечвае ўключэнне чалавека ў пастаяннае або часовае згуртаванне камунікантаў па інтарэсах. Змяшчаючы ў сабе прэсупазітыўныя веды, нік служыць кадзіруючым (з пазіцыі адрасанта) і дэкадзіручым (з пазіцыі адрасата) знакам, таму гэтую функцыю яшчэ называюць кодавай, або “фільтрацыйнай” [3, с. 98].

Нікі валодаюць дыскурсіўнай каштоўнасцю, паколькі забяспечваюць у непаслядоўным палілогу чата пэўную долю складнасці. У складанай сістэме ўзаемадзейнасці камунікантаў указанне на нікі адрасанта і адрасата перад кожнай рэплікай служаць дыскурсіўным сігналам для атрымальніка паведамлення, дапамагае арыентавацца ў патоку зносін і садзейнічаепаспяховай камунікацыі [10, с. 334]. Але нік выконвае арыентыровачную функцыю не толькі ў працэсе зносін. На пачатковай стадыісеткавы псеўданім дапамае наведвальнікам чатаў вызначыцца з выбарам партнёра для камунікатыўнага ўзаемадзеяння. Пад дыскурсіўнай (тэкстаўтваральнай) функцыяй ніка таксама разумеецца арганізацыя пэўнай лініі паводзін у адпаведнасці з абраным іменем-маскай або змена тэкставых стратэгій пры змене ніка [6, с. 14].

Нікаі, якія ўтвораны ад прэцэдэнтных імён, уласціва інфарматыўная функцыя. Сваімі экстралінгвістычнымі асацыяцыямі такія нікі адсылаюць субяседнікаў да энцыклапедычных ведаў, назапашаных культурай.

Нікі выконваюць экспрэсіўную функцыю, іх можна аднесці да спецыфічных выразных сродкаў на ўзроўні лексікі з-за здольнасці камп'ютэрных імён у вельмі сціслай форме рэалізаваць творчыя патэнцыі камунікантаў (*Тамерлайн, Мурдолак, ВаВерка, galaxynaut, Burunduslik, ZuZuKa*).

Пры перадачы інфармацыі ў мабільным і IRC-чаце, у жанры імгненных паведамленняў (ICQ) нікі выконваюць адрасную функцыю, паколькі яны, называючы адрасата, указваюць, на які нумар або канал трэба даставіць паведамленне.

Дамінуючай крыніцай нікаў з'яўляюцца апелятывы, якія перайшлі ў разрад онімаў (нікаў) у выніку працэсу анімізацыі. Гэта можна патлумачыць тым, што нікі знаходзяцца на перыферыі антрапанімнага поля і ствараюцца ў працэсе адзінага асабістага акта намінацыі. Прынята лічыць таксама, што "магчымасць ужывання апелятываў у якасці ўласных імён амаль не ведае граніцы" [11, с. 264]. Гэта палажэнне (а яно, бясспрэчна, тычыцца і нікаў, паколькі апелятыўная лексіка даволі разнастайная ў такіх іменаваннях) уяўляецца настолькі відавочным, што наогул не выклікае пярэчанняў. Відаць, ёсць сэнс гаварыць не толькі пра амаль бязмежныя магчымасці ўжывання апелятыўнай лексікі ў якасці нікаў, але і аб рэалізацыі гэтай магчымасці ў маўленчай практыцы.

Адапелятыўныя нікі разнастайныя ў семантычных адносінах і ўтвараюць 10 асноўных лексіка-семантычных груп: 1) чалавек (прафесія, тытул, унутраныя / знешнія якасці, паходжанне і інш.); 2) жывёла, птушкі, насякомыя; 3) натурфакты (расліны, з'явы прыроды, стыхіі, рэчывы, нябесныя целы і інш.); 4) знешнія прыкметы і ўнутраныя якасці; 5) прадметы, створаныя чалавекам; 6) абстрактныя паняцці (эмоцыі і інш.); 7) незямныя і міфічныя істоты; 8) невядомая асоба/ананім; 9) заклік, каманда, пажаданне або меркаванне; 10) вынік словатворчасці намінатараў.

Такім чынам, нік – гэта асобны від перыферыйнага антрапоніма, які адрозніваецца функцыянаваннем у асабіста арыентаваным віртуальным

дыскурсе, інварыянтнасцю і унікальнасцю афармлення, што надае чалавеку ў сітуацыі інтэрнэт-зносін нейкі афіцыйны статус. Разнародная карціна графічнага афармлення і функцыянавання нікаў, іх намінацыйная унікальнасць дае магчымасць удзельнікам віртуальных зносін адлюстраваць сваю індывілуальнасць і дэманструе імкненне да пераадолення стандарта.

## Асноўная літаратура


1. Кондрашов, П.Е. Компьютерный дискурс: социолингвистический аспект: автореф. дис. ... канд. филол. наук: 10.02.19 / П.Е. Кондрашов; Кубанск. гос. ун-т. – Краснодар, 2004. – 19 с.
2. Овчарова, К.В. Компьютерные чаты в интернет-коммуникации: содержание и особенности функционирования: автореф. дис. ... канд. филол. наук: 10.02.19 / К.В. Овчарова; Кубанск. гос. ун-т. – Краснодар, 2008. – 26 с.
3. Сидорова, М.Ю. Интернет-лингвистика: русский язык. Межличностное общение. / М.Ю. Сидорова. – М.: «1989.ру», 2006. – 191 с.
4. Бергельсон, М.Б. Языковые аспекты виртуальной коммуникации / М.Б. Бергельсон // Вестн. Московск. ун-та. Сер. 19, Лингвистика и Межкультурная коммуникация. – 2002. – № 1. – С. 55 – 67.
5. Русакова, Е.Б. Русский компьютерный социолект: формирование и функционирование: автореф. дис. ... канд. филол. наук: 10.02.19 / Е.Б. Русакова; Российск. гос. ун-т им. И. Канта. – Калининград, 2007. – 23 с.
6. Чабаненко, М.Г. Молодежный дискурс как реализация типовой и индивидуальной языковой личности: автореф. дис. ... канд. филол. наук: 10.02.01 / М.Г. Чабаненко; Кемеровск. гос. ун-т. – Кемерово, 2007. – 21 с.


## Дадатковая літаратура


7. Википедия [Электронный ресурс]. – Режим доступа: http://ru.wikipedia.org/wiki/Ник. – Дата доступа: 15.03.2008.
8. Голомидова, М.В. Русская антропонимическая система на рубеже веков / М.В. Голомидова // Вопросы ономастики. – Екатеринбург: Изд-во Уральского университета, 2005. – № 2. – С. 11 – 22.
9. Ушаков, Н.Н. Прозвища и личные неофициальные имена: (К вопросу о границах прозвища) / Н.Н. Ушаков // Имя нарицательное и собственное: сб. статей. – М.: Наука, 1978. – С. 146 – 173.
10. Потапова, Р.К. Лингвистическая специфика виртуальной коммуникации (коммуникация в мировой информационной сети) / Р.К. Потапова // Новые информационные технологии и лингвистика: учеб. пособие. – 4-е изд., стереотип. – М.: Ком.книга, 2005. – С. 318 – 364.

11. Курилович, Е. Положение имени собственного в языке / Е. Курилович // Очерки по лингвистике: сб. статей: пер. с польск., франц., англ., нем. / под общ. ред. В.А. Звегинцева. – М.: Изд-во иностр. лит., 1962. – С. 251 – 266.

## Трэніровачныя практыкаванні

***Практыкаванне 1.*** Складзіце нікі з літар кірыліцы і лацінкі.

***Практыкаванне 2.*** Знайдзіце ў Інтэрнэце нікі, створаныя спосабам транслітарацыі беларускага ніка.

***Практыкаванне 3.*** Прывядзіце прыклады нікаў лексіка-семантычных груп 1) чалавек (прафесія, тытул, унутраныя / знешнія якасці, паходжанне і інш.); 2) жывёла, птушкі, насякомыя; 3) натурфакты (расліны, з’явы прыроды, стыхіі, рэчывы, нябесныя целы і інш.); 4) знешнія прыкметы і ўнутраныя якасці; 5) прадметы, створаныя чалавекам.

***Практыкаванне 4.*** Прывядзіце прыклады нікаў лексіка-семантычных груп 1) абстрактныя паняцці (эмоцыі і інш.);2) незямныя і міфічныя істоты; 3) невядомая асоба/ананім; 4) заклік, каманда, пажаданне або меркаванне; 5) вынік словатворчасці намінатараў.

***Практыкаванне 5.*** Вызначце спосаб афармлення наступных нікаў:

*ГлаВеВас; liubochka; &&?; Амfora; ДаркЛайт; Ро@на.*

## Пытанні і заданні для самакантролю

1. Што такое нік і якія яго вызначальныя характарыстыкі?
2. Чым якасна нікі адрозніваюцца ад іншых анімічных адзінак?
3. Які сэнс мае паняцце *віртуальны камп’ютэрны дыскурс*?
4. З якімі з неафіцыйных антрапонімаў найбольш збліжаюцца нікі?
5. У чым заключаецца падабенства нікаў з афіцыйнымі антрапонімамі?
6. З чым суаднесены нікі ў віртуальнай рэальнасці?
7. Колькі выпадкаў суіснавання лацінкі і кірыліцы вылучаецца пры афармленні нікаў?
8. Пералічыце ўсе функцыі, якія могуць выконваць нікі.
9. У чым заключаецца дыскурсіўная каштоўнасць нікаў?
10. Якім нікам уласціва інфарматыўная функцыя?
11. Што з’яўляецца галоўнай крыніцай нікаў?

12. Пералічыце асноўныя лексіка-семантычныя групы нікаў і іх прывядзіце прыклады.

13.Дайце дэфініцыю паняцця *нік*.

14. Што дае магчымасць удзельнікам віртуальных зносін адлюстраваць сваю індывілуальнасць і дэманструе імкненне да пераадолення стандарта.

15.У чым заключаецца намінацыйная унікальнасць нікаў?

## АНТРАПОНІМЫ Ў МАСТАЦКІМ ТЭКСЦЕ

### Сутнасць тэкставых антрапонімаў

**Ключавыя словы:** *антрапонімы, нацыянальны імяннік, лексічная сістэма мовы, онім, апелятыў, рэальны і ідэальны імяннік, тэкставыя онімы, сэнсавая прастора тэксту, асацыятыўныя магчымасці ўласных імён, узроўні інфармацыі, энцыклапедычны ўзровень інфармацыі, семантычная структура ўласнага імені, дэнататыўны кампанент семантыкі, сігніфікатыўны кампанент семантыкі, прагматычны кампанент*

*семантыкі, паэтонім, тэкставая прастора, знешняя і ўнутраная формы тэксту.*

## Кароткая тэарэтычная даведка

Антрапонімы з'яўляюцца адным з найбольш буйных аб'яднанняў уласных імён. Яны існуюць у якасці вядучага кампанента любога нацыянальнага іменніка, бо называюць асноўны элемент любой намінацыі – чалавека.

Антрапонімы – гэта прадстаўнікі лексічнай сістэмы мовы. Уласнае імя часцей за ўсё звязана з функцыяй абазначэння, і яго сувязі з выражэннем паняцця няпэўныя. Але онім валодае здольнасцю пашыраць сваю семантыку праз уключэнне разнастайнай інфармацыі пра дэнатат іменавання ў перыферыйны сектар унутранай структуры. У сістэме рэальнай намінацыі антрапанімныя адзінкі часцей за ўсё захоўваюць устойлівасць семантычнай структуры, чаго нельга сказаць пра онімы, якія ўжываюцца ў тэкставай прасторы.

Імя ўласнае рэальнага іменніка значна адрозніваецца ад оніма, што функцыянуе ва ўмовах тэксту. Трэба адзначыць некалькі момантаў, што істотна ўплываюць на сутнасць антрапанімных адзінак, у прыватнасці на вызначэнне іх семантыкі.

Па-першае, тыя аб'екты, якія называюць уласныя імёны, не існавалі ў рэчаіснасці. Ідэальныя прадметы ўзніклі ў творчай фантазіі аўтара, пераўтварыліся ў ідэальныя, выдуманыя вобразы, а пасля гэтага вобразы атрымалі найменні. Выдуманыя прадметы толькі дубліруюць рэальны мір і ў значнай ступені адрозніваюцца ад сапраўдных рэалій. І таму пошукі паняційных паралелей на ўзроўні семантыкі тэкставых онімаў бесперспектыўныя.

Па-другое, штучныя дэнататы, што стварыў аўтар, чытач успрымае максімальна суб'ектыўна, таму ў семантыку абавязкова ўносяцца элементы асабістага светаўспрымання і светаадчування.

Па-трэцяе, сэнсавая прастора тэксту вызначаецца вельмі шырокай асацыятыўнасцю. Яе складаюць усе элементы тэкставай структуры, у тым ліку і антрапонімы. Часцей за ўсё аўтары выкарыстоўваюць асацыятыўнасць уласных імён, каб прыцягнуць увагу да таго ці іншага персанажа. Асацыяцыі пашыраюць перыферыйную семантыку оніма, узбагачаюць яе новымі, раней невядомымі сэнсавымі блокамі, ідэямі. Асацыятыўныя магчымасці ўласных імён часта залежаць ад здольнасці чытача ўспрымаць тэкст тым ці іншым чынам: успрымальнік тэксту павінен пераўтварыцца ў рэцыпіента вобразнага і ідэйнага светабачання аўтара, а для гэтага неабходна першасная падрыхтоўка (тое, што па традыцыі называецца ўстанаўленнем тэкставай фонавай інфармацыі ці прадугледжвае першапачатковае валоданне ёю).

Уласнае імя аб'ядноўвае ва ўнутранай структуры два ўзроўні інфармацыі, якія з'яўляюцца важнымі і неабходнымі для аўтара. Першы ўзровень – моўны, другі – энцыклапедычны. Першы дае звесткі пра дэнатат

іменавання, другі пашырае сувязі імені з яго носьбітам, сацыяльнай сферы носьбіта і іменавання, выяўляе адносіны таго, хто называе, да таго, каго ён называе. У мастацкім тэксце выкарыстоўваюцца абодва названыя ўзроўні інфармацыі.

Акрамя гэтага, уласнае імя суадносіцца з такімі з'явамі рэчаіснасці, што з часам змяняюцца. Ва ўнутранай форме кожнага оніма сумяшчаюцца пазіцыі рэферэнта (канкрэтнага аб'екта намінацыі) і дэнатата (прадмета, тыпа). Статус і сутнасць сігніфікатыўнага кампанента семантыкі анімічнай адзінкі так і застаецца пытаннем, якое выклікае палеміку.

Семантыка агульнага імені, як было адзначана раней, складаецца з тых жа кампанентаў, што і ўнутраная форма ўласнага імені. Ва ўнутранай структуры можна вылучыць ядро, якое сумяшчае прадметна-паняційнае значэнне, і перыферыю. Перыферыя семантыкі традыцыйна з'яўляецца комплексам адносін, сувязей і асацыяцый часам аб'ектыўнага, часам суб'ектыўнага характару. Прысутнасць усіх кампанентаў гэтага комплекса не выступае неабходнай умовай існавання ўласнага імені і тым больш не пазбаўляе яго ролі аб'екта аналізу і рознабаковай увагі.

Так, асацыяцыі і сувязі паміж імёнамі часта толькі магчымыя, а не даказаныя і прасочаныя. Каб перыферыйны кампанент семантыкі актывізаваўся, патрэбны спецыяльныя ўмовы ўспрымання чалавекам уласнага імені, здольнасць інтэрпрэтаваць атрыманыя праз онім звесткі. Напрыклад, семантыка оніма *Іліяда* суадносіцца з даволі ўстойлівым уяўленнем пра эпічную паэму з часоў старажытнай Грэцыі. Такім чынам, дэнататыўны і сігніфікатыўны кампаненты оніма дастаткова вызначаныя. У вобласць прагматыўнай семантыкі ўключаюцца звесткі пра тое, што аўтар паэмы – знакаміты грэчаскі паэт Гамер, што гэта пісьмовы помнік сусветнага значэння, што напісаны ён гекзаметрам, што асноўваецца на паданнях пра Траянскую вайну і г.д. Але дастаткова было У.Караткевічу пры намінацыі паэтычнага зборніка дадаць да оніма *Іліяда* займеннік *мая*, і семантыка анімічнай адзінкі набыла новыя адценні, якія актывізавалі семантычную перыферыю, а асабістыя асацыяцыі аўтара, звязаныя з падабенствам цяжкасці гістарычнага лёсу Іліона і роднага краю, пашырылі яе, рэарганізавалі: *Іліяда* У.Караткевіча – гэта эпас пра сваю радзіму, беларускі край, які квітнее і жыве ў згодзе, які добра памятае ўрокі мінулага, які дарага цэніць сваю свабоду і мір, як некалі Іліон, які быў разбураны траянцамі: *"Дзе мой край? / Там, дзе мудрыя продкі ў хвоях паснулі, / Дзе жанчыны, як радасны сон у стагах на зары, / А дзяўчаты, як дождж залаты. А сівыя матулі, / Як жніўё з павуціннем і добрае сонца ўгары"* [12, с. 136].

Актывізацыя перыферыйнага кампанента семантыкі называецца прырашчэннем семантыкі. Па сутнасці паспяховасць гэтага працэсу цалкам залежыць ад аб'ёму і разнастайнасці фонавых ведаў чытача, ад умення ўключыць аб'ект пазнання ва ўмовы пэўнай моўнай сітуацыі, ад агульнага ўзроўню ўспрымання тэксту, ад асаблівасцей светабачання чытача, ад супадзення / падабенства сістэмы вызначальных каштоўнасцей чалавечага існавання і г.д.

Такім чынам, у семантычнай структуры ўласнага імені можна вызначыць тры асноўныя кампаненты:

***першы*** – дэнататыўны – суадносіцца з дэнататам, гэта значыць прадметам, тыпам, які вызначае характар іменавання;

***другі*** – сігніфікатыўны – суадносіцца з сігніфікатам, з тым паняццем, якое апасродкавана ўвасабляецца ў анімічнай адзінцы;

***трэці*** – прагматычны – складаецца са шматлікіх суб'ектыўных адценняў значэння, з асацыяцый, што ўзнікаюць на аснове аб'ектыўнай інфармацыі пра дэнатат іменавання.

Так, для імені *Уладзімір* вынікам вылучэння дэнататыўнага кампанента семантыкі стане азначэнне "суб'ект, мужчына"; сігніфікатыўнага кампанента – жывая істота, чалавек. Прагматычны кампанент будзе складацца з featureзнабаковай інфармацыі пра любога носьбіта такога імені – *Уладзімір Караткевіч* ці *Жылка, Уладзімір Ленін* ці … любы іншы, вядомы толькі вам – і ўся магчымая інфармацыя пра яго.

Змены, якія адбываюцца з онімамі ў тэксце, перш за ўсё абумоўлены некаторымі асаблівасцямі самой тэкставай прасторы. У сваім жыцці мы заўсёды сутыкаемся з тэкстам, які бывае неперарваным унутраным, невербалізаваным ці, наадварот, вербалізаваным, але абмежаваным якімі-небудзь акалічнасцямі: часовым ці канчатковым спыненнем камунікацыі, фактычна дыстантным становішчам яе ўдзельнікаў ці становішчам такога характару, што абумоўлены нейкай сацыяльнай няроўнасцю і г.д. Тэкст можа існаваць і як любая або спецыяльна арганізаваная па законах канстантнай структуры паслядоўнасць знакаў, што з'яўляецца аб'ектам лінгвістычнага даследавання. У адносінах да тэкставых онімаў у цэнтры нашай увагі вербальны тэкст, які будзе характарызавацца і апісвацца пры дапамозе дадзеных лінгвістыкі. Для вызначэння асаблівасцей уласных імён тэкставай прасторы ўкраінскім лінгвістам В.М. Калінкіным быў уведзены спецыяльны тэрмін – *паэтонім,* які выконвае ролю называння любога оніма празаічнага ці паэтычнага тэксту.

Тэкст узнікае пры ўзнікненні пэўнага станаўлення свайго творцы і функцыянуе ў вобласці камунікацыі. Камунікатыўнасць – гэта асноўная яго статусная ўласцівасць, якую трэба разумець як «ступень яго [тэксту] скіраванасці да чытача» [1, с. 8]. Тэкст дэманструе якасці і адзінкі інфармацыі, прадукта дзейнасці суб'екта па асэнсаванні свайго месца сярод іншых людзей і ў свеце ў цэлым, і матэрыялу для ўспрымання і інтэрпрэтавання.

Тэкст звязвае ў адно аўтара (стваральніка тэксту), тэкст (увасабленне разумовай дзейнасці аўтара) і чытача, які інтэрпрэтуе тэкставую інфармацыю [1]. Адрасат тэксту ператвараецца ў рэцыпіента, бо аўтарскі тэкст пранікае ў яго індывідуальную сістэму інфармацыі пра свет, а пасля супастаўлення з ёю ўспрыняты тэкст або пранікае ў кагнітыўную сетку суб'екта і надае ёй новыя, раней невядомыя асацыяцыі і сэнсавыя адценні, або не прымаецца ёю.

Як вынік разумовай дзейнасці аўтара і ўспрымальніка, тэкст з'яўляецца вербалізаванай сістэмай ведаў, але ўключае ў сябе і сегмент, які словамі не

выражаецца. Вядома, што паміж выказваннямі ў тэксце існуюць так званыя сэнсавыя разрывы. Яны запаўняюцца за кошт несупыннага ўнутранага тэксту, што абавязкова суправаджае вербальныя тэкставыя адзінкі. Таму працэс суаднясення тэкставага ўспрымання і інтэрпрэтавання немагчымы без азначанага аб'ёму фонавых ведаў. З пункту погляду зместу, найбольш каштоўнай пры ўспрыманні мастацкага тэксту з'яўляецца літаратурная фонавая інфармацыя, якая ўзнаўляецца праз сістэму розных літаратурных рэмінісцэнцый. Такім чынам, тэкст ёсць «цэласная адзінка, якая складаецца з камунікатыўна-функцыянальных кампанентаў, арганізаваных у сістэму для ажыццяўлення камунікатыўнага намеру аўтара тэксту суадносна з моўнай сітуацыяй» [1, с. 21].

Арганізацыя знешняй і ўнутранай формы тэксту залежыць ад мэты аўтара. І калі аб'ектыўны бок вызначаецца жанрам, тыпам тэксту, то аўтарская мэтавая сістэма ўвасабляецца ў суб'ектыўным стаўленні да тэкставай інфармацыі з боку аўтара. І гэта суб'ектыўная мадальнасць кіруе чытачом пры тлумачэнні, карэкціруе гэты працэс, а таксама вызначае прагматычны бок тэксту.

Знешняя тэкставая форма не супадае з унутранай, таму што аб'ём саміх знакавых адзінак значна саступае аб'ёму іх значэння. Памер прагматычнай інфармацыі залежыць ад тыпу тэксту, яго накіраванасці на канкрэтнага чытача. Улічваючы названыя абставіны, мы можам разглядаць анімічны тэкставы элемент як адзін з найбольш значных кампанентаў фарміравання глыбіннага, сэнсавага боку тэксту. Онім сумяшчае ў сабе вельмі важныя інфармацыйныя планы энцыклапедычнага, стылістычнага, эмацыянальнага, сацыяльнага характару, што актыўна ўключаюцца ў сістэму асацыяцый невербалізаванага ўзроўню тэкставай інфармацыі. Вынік устанаўлення балансу паміж унутраным і знешнім бакамі мастацкага тэксту – інфармацыйная насычанасць тэкставай прасторы.

Такім чынам, сутнасць паэтоніма як кампанента прасторы мастацкага твора і быційная спецыфіка тэксту знаходзяцца ва ўмовах абумоўленага ўзаемаўплыву.

## Паняцце антрапанімнага поля

**Ключавыя словы:** *моўная сістэма, анамастычная сістэма, анамастычная прастора, анамастычнае поле, ядзерная структура, каляядзерная структура, перыферыйная структура, аспекты структуравання анамастычнай прасторы, аб'ект іменавання, антрапанімікон, антрапанімнае поле, механізмы прыцягнення і аддалення ядзерных і перыферыйных адзінак, прэцэдэнтнае імя.*

### Кароткая тэарэтычная даведка

Анамастыка – сукупнасць анімічных адзінак – з’яўляецца часткай агульнай моўнай сістэмы. Але і сама існуе як сістэма, што складаецца са шматлікіх кампанентаў. У навуковых працах сустракаецца некалькі ўзаемазвязаных тэрмінаў для абазначэння анамастычнай сукупнасці – *анамастычная прастора, анамастычнае поле*.

Увядзенне паняцця *анамастычнай прасторы* неабходнае для выяўлення спецыфікі ўласнага імені ва ўсіх яго ўласцівасцях і праяўленнях. Прызнанне анамастычнай прасторы ў якасці сістэмы грунтуецца на агульным вызначэнні галоўнай прыметы сістэмнасці як аб’яднання «некаторай разнастайнасці ў адзінае цэлае, элементы якога ў адносінах да цэлага і іншых частак займаюць адпаведныя месцы» [43, с. 415]. У той жа час сама прастора ёсць «сукупнасць уласных імён сама па сабе, безадносна да яе ўнутранай будовы» [21, с. 9]. У адносінах да сукупнасці анамастычных адзінак, набор якіх невыпадковы і створаны па законах сістэматызацыі, ужываецца асобнае, спецыфічнае азначэнне. І структураваная сукупнасць адзінак, якія аб’ядноўваюцца генеральнай семай “уласнае імя”, можна адзначыць як *поле*.

«Моўная сістэма» — паняцце віртуальнае. Рэальна яна праяўляецца ў функцыянальнай парадыгме, якая, у сваю чаргу, з’яўляецца абазначэннем мадэлі, што адлюстроўвае іерархічнасць пабудовы асобнай мовы. Іерархія – абавязковая катэгорыя арганізацыі сістэмы, бо менавіта яна забяспечвае устойлівасць.

Анамастычнае поле з’яўляецца сістэмна-структурным аб’яднаннем у сістэме мовы, элементам, які «мае на ўвазе наяўнасць сістэмна-структурных адносін і сувязей, выступае як упарадкаваная, іерархізаваная сукупнасць уласных імён» [21, с.10].

Анамастычная прастора аб’ядноўвае структуры, якія суадносяцца з вялікай колькасцю аб’ектаў. Вылучаецца некалькі аспектаў структуравання прасторы ўласных імён. Сярод іх і структурна-семантычны, і асацыятыўны, намінатыўны, але найбольш прадуктыўны функцыянальна-семантычны падыход. Улічваючы яго, палевасць дае магчымасць далейшага больш адраснага і асобнага апісання ўсіх анамастычных катэгорый.

Такім чынам, структурным тыпам арганізацыі анамастычнай прасторы, які забяспечвае яе ўстойлівасць, з’яўляецца поле. Яно, у сваю чаргу, падзяляецца на некалькі семантычных субпалёў. Устойлівасць і афармленасць названых субструктурных аб’яднанняў забяспечваецца адзінствам аб’екта называння (таго, што азначаецца) кожнага з субпалёў па адным ці ўсіх разам. *Поле – мадэль і спосаб існавання і групавання элементаў з нязменнымі якасцямі.*

Палявая структура прадугледжвае наяўнасць ядра і перыферыі. Суадносна з элементамі гэтых структур вызначаецца месца ўсіх астатніх адзінак. На правах асобнага ўвасаблення прасторы онімаў у рэальнай моўнай структуры поле дэманструе пераемныя сувязі з сістэмамі больш высокага ўзроўню. У першую чаргу, гэта ўласцівасць іерархічнасці, калі кожны элемент мае сваё, нязменнае месца ўнутры поля. Унутрыпалявое

знаходжанне онімаў суадносіцца з ядзернай або перыферыйнай структурамі. Пераходнай з’яўляецца каляядзерная структура. Каардынацыя ўласных імён паміж ядром і перыферыяй залежыць ад аб’ёму семантыкі, а таксама ад шырыні набору функцый, якія онім выконвае ці здольны выконваць ва ўмовах вузкага ці пашыранага кантэксту. Па-другое, гэта сувязі прыцягнення ці адштурхоўвання, якія складаюцца ў структурных аб’яднаннях анімічных адзінак унутры сістэмы і забяспечваюць яе адзінства і цэласнасць.

У якасці галоўнага прынцыпу прыналежнасці ўласнага імені да таго ці іншага семантычнага поля мы вылучылі прынцып функцыянальна-семантычны, тым самым пацвердзілі неабходнасць валодання семантыкай з устойлівай структурай. Частотнасць і стылістычная афарбаванасць вызначаюцца як дыферэнцыяльныя ўласцівасці, якія належаць кожнаму ўнутрыполеваму ўтварэнню.

Прастора і час ёсць вызначальныя і асноўныя канструкты любой мадэлі свету. Яны акрэсліваюць формы існавання з’яў і рэчаў, але з розных бакоў, і калі прастора ўвасабляе сумеснае існаванне названых элементаў, то час – працэсы змены аднаго другім, працягласць існавання. Чалавек аналізуе сваё светаадчуванне, складае разумовы вобраз прасторы і змены ўсіх сістэм у часавай плоскасці. І вынікам такой разумовай дзейнасці становіцца не толькі істотнае разуменне законаў светаўладкавання, але і выяўленне чалавекам самога сябе.

Са сферы рэальнага існавання чалавека ўсе акрэсленыя працэсы ўвасабляюцца ў прасторы мастацкага твору. І там не рэальны суб’ект ці аб’ект, а лірычны герой суадносіць сябе з прасторай і часам. А выкарыстанне аўтарам тэксту ўласнага імені, запазычанага з рэальнага іменніка, ці прэцэдэнтнага імені вядомай і сацыяльна значнай асобы «служыць для стварэння хранатапічнага эфекту верагоднай, набліжанай да чытача сучаснасці падзей, якія апісваюцца» [23, с. 110]. У выніку адзначым, што антрапанімікон і тапанімікон — традыцыйна самыя буйныя аб’яднанні ўласных імён.

Антрапонімы – гэта цэнтральны элемент анамастычнай сістэмы мастацкага тэксту, што забяспечвае адзінства семантычнай і страфічнай тэкставай арганізацыі. Антрапанімікон з’яўляецца вызначальнікам анімічнасці ўсіх астатніх адзінак. Асабліва гэты вывад датычыцца тэкставых кампанентаў, што знаходзяцца на мяжы анамастычнага самавызначэння – анімізаваных апелятываў ці апелятываваных онімаў.

Калі антрапонім называе галоўны персанаж, ён садзейнічае прыцягненню бліжэй да ядра ўсіх онімаў, якія ўваходзяць у вобласць прэзентацыі галоўнай дзеючай асобы. У каляядзернай прасторы з’яўляюцца разрады, падобныя на антрапонімы, г.зн. заонімы, міфонімы. Месца ўнутры поля тапонімаў і касмонімаў залежыць ад экстралінгвістычных фактараў. Тапонімы і касмонімы, што даюць імя буйным, функцыянальна важным аб’ектам, а таму вядомым вялікай колькасці носьбітаў мовы, набліжаюцца да ядра і ўтвараюць каляядзерную прастору; онімы, што называюць аб’екты зямной паверхні ці пазаземнай прасторы і не вызначаюцца шырокай

распаўсюджанасцю, а таму часцей за ўсё невядомыя, набываюць статус кампанентаў перыферыі. І чым бліжэй да вобласці ядра знаходзіцца ўласнае імя, тым больш функцый у прасторы мастацкага тэксту яно мае.

Сістэмныя сувязі, якія ўстанаўліваюцца ў механізмах прыцягнення і адштурхоўвання ядзерных і перыферыйных адзінак, складаюць спецыфіку выкарыстання кожнага анамастычнага поля ў структуры мастацкага твора. Складанасць унутранай формы оніма, яго магчымасці пашыраць вобласць блізкай і далёкай семантыкі робіць фактычна неабсяжнай яго рэалізацыю ў кантэксце. Структураванасць анімічных аб'яднанняў дае магчымасць гаварыць пра анамастычную вось каардынат тэкставай прасторы.

Антрапанімнае поле характарызуецца даволі складанай унутранай формай. Яго мадэль у творчасці кожнага аўтара складаецца з асобных, непаўторных кампанентаў, якія кожны раз па-іншаму паводзяць сябе ў тых ці іншых тэкстуальных абставінах. У якасці прыкладу мы разгледзім, з якіх элементаў складаюцца ядзерныя і перыферыйныя структуры антрапанімнага поля паэтычных твораў У. Караткевіча.

Сярод уласных імён найбольш частотныя антрапонімы, суадносныя з рэальным іменнікам беларусаў. Акрамя частотнасці (і часта дзякуючы ёй) такія онімы валодаюць шырокім спектрам тэкставых функцый – ад рэалізацыі ў ролі тэкставай вехі да статусу адзінкі анамастычнага фону. І шырыня складу гэтых функцый залежыць ад дасканалай, глыбокай унутранай формы, якую маюць антрапонімы тыпу ***Паўліна, Васіль, Ганна, Сымон, Алёна*** і іншыя. Менавіта яны складаюць ядро антрапанімнага поля паэзіі У.Караткевіча. У адпаведнасці з традыцыяй унутрыполевага структуравання і згодна з адзінствам дэнатата называння яны падзяляюцца на дзве группы – "імёны, якія называюць суб'екты мужчынскага полу" − ***Сымон, Ян, Кастусь, Рыгор, Васіль, Ігнат, Зміцер, Аляксандр, Георгій, Кірыл, Пётр,*** − і суадносна, "імёны, якія называюць суб'екты жаночага полу"− ***Паўліна, Зафія, Марына, Ганна, Алёна.***

Усе названыя онімы з'яўляюцца элементамі ядзернай структуры. Варты ўвагі той факт, што амаль усе названыя антрапонімы маюць у сваёй знешняй форме фарманты *-ка, -уля, -ачка, -ук, -ёк,-ась, -усь* і адпаведна з гэтым ўжываюцца ў тэксце − ***Паўлінка*** замест ***Паўліна, Марынка*** замест ***Марына, Зося, Зоська*** замест ***Зафія, Гануля*** замест ***Ганна, Алёначка*** замест ***Алёна, Юрась*** замест ***Юрый, Кастусь*** замест ***Канстанцін, Янук*** замест ***Ян.*** Гэта прадстаўніцтва – асаблівасць паэтычнага тэксту У.Караткевіча, а ядзерная структура антрапанімнага поля, пазіцыі якой займаюць ацэначныя формы імён, – з'ява больш чым нетрадыцыйная, бо кампаненты ядзернай структуры павінны вылучацца нулявой ацэначнасцю. Тлумачэнне гэтай з'яве можна прапанаваць толькі адно: згодна з беларускай традыцыяй добразычлівасці і сардэчных адносін да родзічаў і землякоў, аўтар вылучае на першыя пазіцыі называння імёны з фармантамі, якія выкарыстоўваюцца для перадачы суб'ектыўных станоўчых адносін да аб'ектаў называння, як паказчык аўтарскага стаўлення да сваіх герояў, а таксама прагназуемага характару

адносін з боку чытача. І такія антрапонімы ў кантэксце ўвасабляюць больш глыбокую, насычаную першаснымі станоўчымі асацыяцыямі ўнутраную форму. Названая ядзерная падструктура суадносіцца з рэальным беларускім іменнікам.

Другая ядзерная падструктура арганізавана імёнамі вядомых і сацыяльна значных асоб, так званымі прэцэдэнтнымі онімамі. Яны нязначна саступаюць першай субструктуры па колькасці, але набліжаюцца да яе па разнастайнасці семантыкі, асабліва ў яе прагматычным сектары. Прэцэдэнтныя антрапонімы называюць: знакамітых палітыкаў і палкаводцаў старажынага свету, Грэцыі і Рыма ***(Цэзар, Крэз, Назон),*** а таксама вучоных, паэтаў і філосафаў ***(Плутарх, Лікул, Петроній, Архімед, Ювенал),*** мастакоў і паэтаў эпохі Адраджэння ***(Рафаэль, Бацічэлі, Дантэ, Петрарка),*** кампазітараў і мастакоў Еўропы больш позняга часу ***(Бетховен, Шуберт, Гуно, Геронім Босх).*** У падборы менавіта гэтых вобразаў У.Караткевіч не арыгінальны, бо ўзнаўляе ў паэтычным тэксце вобразы найбольш вядомых дзеячаў мінулага. Беларускі хранатоп у мастацкіх творах названага аўтара ўвасабляюць імёны палітычных дзеячаў мінуўшчыны ***(Ягайла, Усяслаў, Давід),*** пісьменнікаў ***(Колас, Янка Купала, Багдановіч, Міцкевіч, Танк, Панчанка),*** грамадскіх дзеячаў ***(Скарына, Радзівіл, Будны, Цяпінскі, Касцюшка).*** Пазабеларускую славянскую прастору прэцэдэнтных асоб адлюстроўваюць антрапонімы ***Лермантаў, Шаляпін, Чайкоўскі, Станіслаўскі, Сталін.***

Прэцэдэнтныя онімы аўтар выкарыстоўвае даволі часта, і іх ідэальнае становішча ў тэксце абумоўлена дастаткова шырокай семантыкай, асабліва на прагматычным узроўні. Безумоўна, статус прэцэдэнтнасці не ўзнікае без аніякіх прычын, а таму семантыка такіх онімаў больш шырокая, чым унутраная форма іншых антрапонімаў, што былі запазычаны з рэальнага іменніка. Але аўтар, кожны раз уключаючы такое імя ў тэкст, надае яму асобныя, непаўторныя рысы і семантычныя адценні, што робіць прэцэдэнтнае імя адным з найбольш семантычна важкіх элементаў анамастычнага інструментарыя. Так, аб'яднанне ў адным паэтычным радку онімаў *Дантэ, Петрарка, Катул, Багдановіч* становіцца магчымым на аснове агульнага кампанента прагматычнай семантыкі – “паэты, якія ўслаўлялі каханне і сваіх каханых”. І гэтае ж аб'яднанне дазваляе У. Караткевічу пашырыць перыферыйную семантыку названых антрапонімаў семантычным блокам “немагчымасць і нязбыўнасць зямнога кахання і адначасовая мара і туга аб ім”: *“Йдуць у пакой праз халодны туман: / Дантэ, Петрарка, Катул, Багдановіч.../ ... Тыя, хто варты стакрот кахання, – / Тыя не маюць яго на зямлі*” [12, с. 166].

Шырокая вядомасць прэцэдэнтных імён і іх дэнататаў часта дазваляе ўжываць такія адзінкі з усім комплексам асацыяцый унутранай формы без дадатковага каменціравання і тлумачэння. У выніку – з'яўленне антрапанімных метафар, заснаваных на метанімічных пераносах: *Чайкоўскі* – знакаміты рускі кампазітар, сімфаніст, музычны драматург, які ў музычных творах раскрыў унутраны свет чалавека, стварыў класічныя ўзоры опер,

балетаў, сімфоній, камерных твораў і *Чайкоўскі* – партрэт кампазітара (*Але затое так яскрава бачу: / Пакой, Чайкоўскі хмуры на сцяне, / Раяль пра нешта дарагое плача / І прывіды каштанаў у акне* [12, с.48]); *Шуберт* – аўстрыйскі кампазітар, стваральнік каля 600 рамантычных песень і балад, вакальнага цыклу, фартэпіянных твораў і *Шуберт* – музычныя творы майстра (*Шыпіць пласцінка. Ў сэрцы многа дум. / Кручу: "Над домам флюгер ёсць у любай". / І Шуберт падзяляе ціхі сум* [12, с. 49]).

Каляядзерная структура антрапанімнага поля складаецца з невялікай колькасці кампанентаў. Па большасці гэта поўныя формы асабовых імён тыпу *Юрый, Зафія, Алёна*, асабовыя імёны і імёны па бацьку (*Ганна Львоўна*), асабовыя імёны і прозвішчы (*Чаховіч Рыгор, Карповіч Ян* і інш). Найбольш адметны з каляядзерных антрапонімаў – онім *Андрэеўна*. Яго адметнасць у тым, што называе фальклорны вобраз, пазбаўлены асабовага імені: *"Чаму жаўнер паслаў дзяўчыне хустку, / Чаму не поўна рэчанька, чаму / Андрэеўна нажом сябе забіла / Калі магла яна забіць султана?"* [12, с. 13]. І гэты выпадак паказальны, бо зноў жа тлумачыцца беларускай традыцыяй, калі часта асобу называлі не асабовым найменнем, а па яе аднесенасці да якога-небудзь роду праз першаснае ўказанне на прозвішча ці на сувязь з бацькам, як у выпадку з патронімам *Андрэеўна*.

Перыферыйная структура таксама складаецца з абмежаванай колькасці элементаў. Гэта, у першую чаргу, экзатычныя (пры супастаўленні з імёнамі беларускага іменніка) імёны тыпу *Сабіна, Джульета, Лота, Лесбія, Рут*, па-другое, мянушкі *Кабыздох, Прыгожы*, па-трэцяе, анімізаваныя апелятывы *Людзі, Паэт, Песня, Сэрца Народа, Слова Народа, Людства, Дабро* і інш.

Рознабаковыя сувязі антрапонімаў ядзернай, каляядзернай і перыферыйнай структур забяспечваюць стабільнасць антрапанімнай сістэмы ўвогуле. Акрамя гэтага, яны дапамагаюць больш шырокаму раскрыццю семантычных і функцыянальных магчымасцей кожнага оніма, што ўваходзіць у структуру. Ядзерныя онімы больш частотныя, выконваюць больш тэкставых функцый, што робіць іх асноўнымі вызначальнымі кампанентамі ўнутрыполевай структуры. Анімічнасць астатніх антрапанімных кампанентаў вызначаецца ў адносінах да элементаў ядра (гэта, у прыватнасці, датычыцца анімізаваных апелятываў). Семантычныя магчымасці імён з ацэначнымі фармантамі, якія складаюць ядро антрапанімнага поля паэтычных твораў У.Караткевіча, надаюць асаблівае эмацыянальна-ацэначнае адценне ўспрыманню паэтычных вобразаў, а паэзіі – асаблівы, нацыянальна непаўторны каларыт. І тады тое, што немагчыма ў адносінах, напрыклад, да рускай традыцыі называння, робіцца дастаткова традыцыйным і неад'емным у традыцыі беларускага называння асоб.

## Тэкставыя функцыі антрапонімаў

**Ключавыя словы:** *паэтычная сістэма, паэтычная мадэль свету, сэнсавая прастора тэксту, функцыя тэкстаўтварэння, функцыя загалоўка, загаловачны комплекс, тэкставая архітэктоніка, прагназуючая функцыя загалоўка, функцыя тэкставай вяхі, фонавая анамастычная намінацыя, сэнсавыя і страфічныя дамінанты, асобная паэтанімная падсістэма.*

## Кароткая тэарэтычная даведка

Вербальная творчасць кожнага аўтара, паэта ці празаіка, складаецца з сукупнасці завершаных тэкстаў. Кожны з іх вылучаецца сваёй непаўторнай тэматыкай, семантычнай і структурнай арганізацыяй. Але ўсе тэксты аб'ядноўваюцца агульнай скіраванасцю творчых планаў і імкненняў свойго стваральніка. Ва ўмовах аўтарскага мегатэксту існуе і такая структура, што ўяўляе сабой сістэмнае аб'яднанне анімічных адзінак.

Элементы агульнай паэтычнай сістэмы часцей за ўсё вызначае шырыня першаснага семантычнага кампанента, які трасліруецца ў сэнсавую прастору тэксту. Акрамя гэтага онімы захоўваюць здольнасць да пашырэння сваёй унутранай формы ва ўмовах узаемаадносін з іншымі лексічнымі кампанентамі тэксту. Сам факт існавання нейкай віртуальнай мадэлі агульнай паэтанімнай сістэмы, якая ўвасабляецца неабмежаванай колькасцю рэальных анімічных адзінак, дае магчымасць для вылучэння асобных паэтанімных падсістэм і скіроўвае іх сэнсавае напаўненне і характар функцыянавання.

Як ужо было адзначана, традыцыйная анімічная функцыя – функцыя называння і адрознівання прадметаў аднаго рада. У тэксце да яе дадаецца агульная функцыя тэкстаўтварэння. Яна аказвае ўплыў на астатнія тэкставыя ролі паэтоніма. Але і роля вызначэння ў прасторы тэксту адзінага лірычнага вобраза, і роля тэкставай скрэпы (гэта функцыя цесна звязана з забеспячэннем агульнай сістэмнасці знешняй формы тэксту, а ў выніку онім-скрэпа можа набыць статус не толькі частага, але і сэнсава значнага кампанента), і роля ўдзельніка стварэння агульнага анамастычнага фону ўнутрытэкставай прасторы, і роля складанага паняцця-сімвала – усе пералічаныя тэкставыя функцыі анімічных адзінак падпарадкоўваюцца агульнавызначальнаму модусу функцыянальнасці ўласных імён у тэксце. Гэты модус можна вызначыць як стварэнне мадэлі рэальнай суб'ектна-аб'ектнай ці геаграфічнай прасторы, што складаецца са шматлікіх кампанентаў.

## 1. Функцыя загалоўка

Першым элементам любога тэксту з'яўляецца загаловак. Нават тады, калі, спецыяльна сфармуляваны, ён не вербалізаваны, яго адсутнасць таксама семантычна значная. Пазіцыя загалоўка і сам загаловак любога мастацкага твора – несумненна, асаблівы код, у якім зашыфравана даволі важная і істотная інфармацыя. Загаловачны комплекс суадносіцца з усімі ўзроўнямі тэксту,

часткамі і генеральнай ідэяй.  У тэкставай архітэктоніцы дамінуючы статус належыць менавіта загалоўку.  Ён з’яўляецца адносна самастойным сегментам тэксту, але і вылучаецца максімальнай функцыянальнай нагрузкай у адносінах да тэкставага комплексу, і «тэкст выступае як індывідуальная, распаўсюджаная “перыфраза” загалоўка, загаловак у сваю чаргу ўяўляе сабою калі не перыфразу… то некаторую “жахліва ўшчыльненую” абрэвіятуру тэксту» [31, с. 194].

Загаловак – гэта яшчэ і асаблівая разнавіднасць уласных імён у мастацкім творы. Ён вылучае той ці іншы твор з чаргі падобных і складае азначэнне ўжо канкрэтнага паэтычнага ці празаічнага твора. Як зыходная намінацыя, забяспечвае самастойнасць і распазнаванне кожнага  аўтарскага твора ў кантэксце літаратурнай творчасці эпохі. Загаловачная намінацыя першая прэзентуе мастацкі твор. Разам з гэтым, узнаўляе функцыю прагматычную і прагназуючую.  З ліку ўсіх магчымых варыянтаў аўтар выбірае той, што лепей за ўсё вобразам праецыруецца на ўсе ўзроўні тэксту і суадносіцца з мастацкімі мэтамі аўтара: гэта могуць быць адзінкі, якія паведамляюць імя галоўнага персанажа ці найменне якога-небудзь аб’екта, ці адзінкі больш глыбокага інфарматыўнага тыпу, што захоўваюць у сваёй унутранай форме абагульнены змест, тэматычную арыентацыю.

Так, прагназуючая функцыя загалоўка ў поўнай ступені рэалізавалася ў паэтычнай творчасці У.Караткевіча. Шматлікія адзінкі паведамляюць пра тэму, асноўны змест паэтычных радкоў, якія складаюць паэтычныя творы. У аўтара можна знайсці такія загаловачныя намінацыі, як  ***На Беларусі бог жыве, Вершы не дапамаглі, Бог важдаецца з беларускімі прозвішчамі, Ленін калыша  дзіця, Песня пра асколак, Балада пра Вячка, князя людзей простых, Казка пра сноп, Паэма пра  явар і каліну, Балада аб трыццаць першым сярэбраніку, Слова пра чалавечнасць***. Мадэль – *«Песня пра…», «Казка пра…», «Слова пра…», «Балада аб…», «Паэма пра…»* – характарызуецца, акрамя інфарматыўнасці, яшчэ і суаднесенасцю інфармацыйнага блоку з паведамленнем пра жанравую асаблівасць паэтычных радкоў.

Семантыка оніма, як ужо адзначалася, складанае ўтварэнне, якое сумяшчае элемент адносін да дэнатата з шырокай вобласцю асацыяцый, звязаных з яго ўспрыманнем. Спецыфіка паэтычнага кантэксту, якая ўвасабляецца ў неабходнасці выражэння неабсяжнага сэнсу праз даволі абмежаваныя па аб’ёме графічныя сродкі, надае  асобны статус і першаснаму оніму тэксту. У лірыцы заўсёды выражаецца сам паэт, яго суб’ектыўныя адносіны да рэчаіснасці, да іншых людзей, самога сябе; змест паэтычнага твора складае рух паэтычнай думкі. “Згушчэнне”  яе, думкі, і ўяўляе сабой загаловак.  Ён, на думку рускага паэта І. Бродскага, ёсць «першы прыклад эканоміі – даволі складаная штука, якая тоіць у сабе мноства небяспечнасцей. Ён можа аказацца дыдактычным, празмерна эмфатычным, банальным, мудрагелістым або невыразным» [43,  с. 126].

Згодна з характарам семантыкі загаловачных намінацый, з напоўненасцю і скіраванасцю іх унутранай формы, вылучаецца тры тыпы загалоўкаў:

1) загаловак з прамым сэнсавым планам;

2) загаловак метафарычнага характару;

3) загаловак абагульнена-сімвалічнага характару.

Прамы сэнсавы план выражаюць загалоўкі, што называюць галоўнага лірычнага героя. Напрыклад, у паэзіі У.Караткевіча гэта загалоўкі ***Прарок Геронім Босх, Безгаловая Венера, Дзед Цыпрук, вартаўнік калгаснага стаўка, Машэка, Чурлёніс, Сведка, Паэт, Бацька, Дзяўчына пад дажджом*** і інш. Адзін з загалоўкаў гэтага тыпу заслугоўвае асобай увагі – намінацыя ***Глухі геній (Гойя)***. Верш напісаны па матывах аўтарскага ўспрымання карцін іспанскага мастака Гойі, вобраз якога неадступна прысутнічае ў прагматыцы паэтычнага тэксту. На першым плане аўтарам змешчаны апелятыўны кампанент, які прэзентуе вобраз (Глухі геній). Да яго дадаецца антрапанімны элемент (Гойя). Ідэя глухаты генія звязана з думкай пра тое, што ў свеце звыш магчымага чутны жорсткасць, хлусня, град куль, смерць ісціны. Мастак пазбаўляецца слыху і спрабуе шляхам тактыльнага кантакту адчуць рэчаіснасць, той свет, што акаляе яго. І ў гэтым ёсць надзея нараджэння ісціны.

Семантычны тып загалоўка, унутраная форма якога звязана з метафарычнасцю, даволі паслядоўна адлюстраваны ў паэтычных творах У. Караткевіча. Адным з найбольш верагодных тлумачэнняў з'явы метафарычных загалоўкаў з'яўляецца зашыфраванасць і ўмоўнасць паэзіі як тыпу мастацкай літаратуры. Філасофіяй жыцця ва ўзаемасувязі з законамі светаўладкавання прасякнуты загаловачныя намінацыі тыпу ***Песня колаў, Фантан слёз, Чашы слёз, Слова беларускай бярозы, Нямыя дрэвы, Каменныя слёзы, Віно дажджоў, Сэрца гары.***

Асабліва значным у прагматычным сэнсе з'яўляецца тэкст загалоўка абагульнена-сімвалічнага характару. Ён успрымаецца чытачом асацыятыўна, больш глыбока, што дазваляе звязаць яго з іншымі архітыпічнымі мастцкімі сімваламі. Названы характар намінацыі адзначаецца ў адзінках тыпу ***Крумкачы, Лісце, Чайка, Шыпшына і Ружа, Хан і табіб, Дняпро і Ака, Ён і яна.*** Так, *лісце,* дзякуючы сваім асноўным прыкметам, асацыіруецца з часам, яго неабсяжнасцю, мімалётнасцю, з пераемнасцю секунд, хвілін і гадзін, дзён, месяцаў, з людзьмі, жыццё якіх у супастаўленні з вечнасцю – толькі маленькі лісток у магутным подыху ветру.

## 2. Функцыя тэкставай вяхі

Паэтычная мадэль свету, якая ствараецца аўтарам мастацкага тэксту, прадугледжвае пэўную ступень адпаведнасці яе сістэме рэальных суб'ектна-аб'ектных суадносін рэальнасці. У выніку складаецца кола лірычных вобразаў, што дазваляе ўстанавіць семантычныя цэнтры тэксту, пазіцыі часткі з якіх займаюць онімы.

У мове гаворачы і адрасат маўлення вызначаюцца згодна з пэўнай вербальнай схемай. Падчас стварэння мадэлі свету ў мастацкім творы яна ўвасабляецца ў сістэме распазнавання вядучага, цэнтральнага вобраза і сферы адрасных мастацкіх вобразаў. Так захоўваецца схема суадноснага размяшчэння асоб у рэальнасці, дзе «значэнне "быць першай асобай", "быць другой асобай" або "быць трэцяй асобай" уключае ў сябе элементарнае і адначасова асноўнае вызначэнне месцаў гэтых асоб у канструкцыі калектыву» [35, с. 90]. На вызначэнні іерархічнай статуснасці ў сістэме мастацкіх вобразаў заснавана і апазіцыя дзвюх асноўных функцыянальных рэалізацый антрапонімаў у тэксце – функцыі тэкставай вяхі і функцыі стварэння анамастычнага фону.

Функцыя тэкставай вяхі з'яўляецца галоўнай і сістэмаўтвараючай у віртуальнай мадэлі функцый імён уласных у тэксце. Вяха заўсёды вылучае самае каштоўнае ў сэнсавых адносінах імя, самае складана арганізаванае, а таму неабходнае для арганізацыі ўнутранай і знешняй формы мастацкага твора. Уласнае імя ў функцыі тэкставай вяхі часцей за ўсё называе галоўнага героя, вобраз ці варыянт, які ў кантэксце выступае яго альтэрнатывай (напрыклад, анімізаваныя апелятывы ў названай функцыі вылучаюць у якасці вяхі нават неазначаныя суб'екты тыпу *Ён, Яна, Першы* ці часткова матэрылізаваныя вобразы тыпу *Слова, Нязнанае, Люд*.

Калі онім звязаны з намінацыяй персанажа – лірычнага героя, то ўласнае імя праводзіць яго прэзентацыю, уключае ў кантэкст міжсуб'ектных і міжаб'ектных адносін, што з'яўляецца неабходнай умовай любой камунікацыі. Але ў адносінах да тэкставай прасторы чытач праз імёны перш за ўсё знаёміцца з аўтарам, ацэньвае шырыню яго светапогляду, глыбіню яго думак, пачуццяў. Антрапанімная адзінка ў тэксце – гэта перш за ўсё анімічная праекцыя якой-небудзь рэальнай асобы. А яна заўсёды валодае нейкім акрэсленым статусам, які трапляе ў тэкставую прастору дзякуючы непасрэдна антрапоніму. Накірункі вызначэння статусу грунтуюцца на некалькіх аб'ектыўных мастацкіх абставінах: перш за ўсё, на неабходнасці вызначэння суаднесенасці мастацкага вобраза і месца, з якім звязаны акрэсленыя падзеі, па-другое, адзначэнне гендэрнай прыналежнасці персанажа, яго ўзроставых характарыстык ці асаблівасцей адносін да яго з боку іншых герояў і вобразаў. Усё названае спрыяе традыцыйнаму вызначэнню статусу персанажа – асобы па такіх накірунках, як:

– нацыянальная і арэальная характарыстыка;

– палавыя і экспрэсіўна маркіраваныя характарыстыкі кароткіх іменных форм;

– адзнакі сацыяльнага статусу.

Так, нацыянальная і арэальная характарыстыка ў адносінах да акрэсленага намі як аб'ект асаблівай увагі антрапанімікона паэзіі У.Караткевіча выступае не як прыкмета дыферэнцыяцыі, а як прыкмета кансалідацыі антрапанімных адзінак. Большая частка іх – онімы, якія распаўсюджаны на тэрыторыі Беларусі і складаюць яе непаўторны, нацыянальна каларытны імяннік – ***Якуб, Сымон, Паўліна, Алёна, Марыя,***

***Васіль, Сымон*** і інш. Адзінкавыя прыклады ўласных імён, што суадносяцца з іменнікамі іншых народаў і распаўсюджаны не на тэрыторыі Беларусі, напрыклад, ***Курт, Людвіг, Гельмальт.*** Але іх суаднесенасць з пэўнай тэрыторыяй распаўсюджання і далейшае з’яўленне ў антрапанімнай сістэме названага аўтара хутчэй за ўсё звязана з неабходнасцю развіцця тэмы Другой сусветнай вайны, у якой, як вядома, удзельнічалі і прадстаўнікі іншых народаў. Арэал распаўсюджання названых імён звязаны пераважна з тэрыторыяй і іменнікам Германіі.

Што ж да гендэрных характарыстык, якія ёсць ва ўнутранай форме антрапонімаў, то сярод антрапанімных адзінак паэтычных твораў У. Караткевіча традыцыйна больш імён, што называюць асоб мужчынскага полу – ***Юрась, Ян, Рыгор, Сымон, Васіль, Максім*** і інш. Але трэба адзначыць, што намінацыі асоб жаночага полу нязначна саступаюць па колькасці і складаюць суадносны сектар уласных імён – ***Алёна, Ганна, Марына, Зося*** і інш. Як мы ўжо адзначалі, большасць антрапанімных адзінак аўтар ужывае з эмацыянальна-ацэначнымі суфіксамі. Акрамя гэтага, дзеля выражэння асаблівых адносін да лірычных вобразаў У. Караткевіч выкарыстоўвае і ўсечаныя формы: *“Твар у Пятра задуменны і бледны: / "Ганя, Гануля, дзе песні твае? / Бацька цябе не аддасць за беднага, / Выплачаш з іншым ты вочы свае"”* [12, с. 345].

Падсістэма намінацый вобразаў па ўзроставай прыкмеце мае даволі шырокае прадстаўніцтва. Асноўным паказчыкам адрознення персанажаў па ўзросце з’яўляецца ўжыванне аўтарам антрапанімных форм з суфіксам –к – ***Паўлінка, Анежка, Янка, Зоська*** і інш.: *“Калі ж ад літар адарвуцца вочы, / Ён бачыць белазубы рот Паўліны, / Вясёлай цёткі. Як яна жартуе! / Дарослым будзе ён чытаць Купалу, / І замест юнай, з’едлівай Паўлінкі / Паўстане гэты сталы добры твар…”* [12, с.13]; з традыцыйнымі фіналямі дыферэнцыяцыі па ўзросце (тыпу *Пётр – Пятро, Ян – Янук* і т.д.): “*… Ян і Пятро ледзьве цягнуць ногі, / Каб дацягнуцца да вёскі ўначы… / … Ў вёсцы – суседзі, таварышы ў працы, / Ян – у гадах, а Пятро – малады…”* [12, с. 13].

Падсістэма намінацый, звязаных з характарыстыкай сацыяльнага статусу, традыцыйна выяўляецца ў аўтарскіх тэкстах і адначасова з’яўляецца найбольш складанай на ўзроўні прагматычнага кампанента семантыкі. Сацыяльны статус чалавека, як вядома, гэта вызначанае месца ў грамадстве. Чалавек заўсёды валодае адным ці некалькімі статусамі, і толькі адзін з іх – генеральны. Сацыяльнасць чалавека паслядоўна пранікае ў тэкставую прастору, характарызуе вобраз у сувязі з тымі сацыяльнымі прыкметамі, што ёсць ва ўнутранай яго форме. У сувязі з іерархіяй сацыяльных абавязкаў чалавека складаецца і пэўная падсістэма называння яго. У вобласці моўнага ўжывання ролю нейтральнага ядра сацыяльна скарэкціраванай намінацыі выконвае пашыраная структурная мадэль “асабовае імя + імя па бацьку + прозвішча”. У межах тэкставай мадэлі рэальнай анамастычнай прасторы ў якасці нейтральнага ядра могуць ужывацца і іншыя структурныя мадэлі.

Найбольш распаўсюджанымі з'яўляюцца дзве мадэлі называння вобразаў – "асабовае імя" і "прозвішча": асабовае імя выкарыстоўваецца для намінацыі ідэальных аўтарскіх вобразаў, прозвішча – для прэзентацыі прэцэдэнтных асоб (***Шаляпін, Бетховен, Калумб, Чайкоўскі, Шуберт, Скарына, Казакоў, Станіслаўскі, Дантэ, Петрарка, Катул, Багдановіч і інш***.).

У плане называння герояў суадносна з сацыяльным становішчам апошніх паказальныя антрапонімы паэмы "Слова пра чалавечнасць". Для іменавання галоўнага героя выкарыстоўваюцца антрапонімы ***Чаховіч, Чаховіч Рыгор, Рыгор***. Выбар варыянта называння цалкам залежыць ад камунікатыўных задач таго ці іншага кантэксту, што будуецца па схемах рэальных міжсуб'ектных адносін: *Рыгор* – для абставін даволі цесных адносін, калі ў прагматыку ўключаецца "звяртаюся да цябе так, як да людзей, якіх добра ведаю"; *Чаховіч Рыгор* – для абставін больш аддаленых з уключэннем "звяртаюся да цябе, як да людзей, якіх ведаю"; *Чаховіч* – для абставін знаёмства ці першага звяртання, калі ва ўнутранай форме з'яўляецца "звяртаюся да цябе так, як да людзей, якіх не ведаю". Нездарма апошні варыянт аўтар неаднойчы замяняе на іншы, паранімічны антрапонім *Чыкоўскі*, каб падкрэсліць: так называюць персанаж іншыя, людзі, якія яго не ведаюць, але шукаюць кантактаў. Да семантыкі далучаецца блок "я выказваю падзяку, праяўляю пашану ў адказ на прынятую прапанову аб камунікацыі" ў атрапанімных адзінак са структурай "*пан* + асабовае імя", "*пан* + прозвішча" – *пан Рыгор, пан Чыкоўскі*.

Антытэзай называння герояў з'яўляецца намінацыя галоўных вобразаў – мужа і жонкі – *Чаховіч Рыгор і Ганна Львоўна*. Мадэль "асабовае імя + імя па бацьку" часцей ужываецца, каб падкрэсліць асаблівае сацыяльнае становішча дэнатата, адносіны павагі да яго. У кантэкст намінацыя *Ганна Львоўна* трансліруе гэта першаснае значэнне, якое існуе ў рэальнай камунікацыі, але потым семантыка прырастае новымі інфармацыйнымі блокамі: імкненне гераіні да сацыяльнай павагі і прывілегіраванага становішча прывялі яе да трагічнага канца; а персанажы з імёнамі *Чаховіч Рыгор і Ганна Львоўна* становяцца несумяшчальнымі: *"Ў гэткім ціхім, глухім, старажытным горадзе, / У якім жыццё няспешна ішло, / Працякала палова жыцця Рыгора, / А ў жыцці і шчасце, і гора было"* [12, с. 98] – *"Ганне Львоўне хацелася шуму сталіцы, / Рысакоў, бульвараў, дасціпных людзей, / А не гэтай дзюркі, дзе можна ўтапіцца / Ад тугі, ад нуды, ад разбітых надзей"* [12, с. 99].

Функцыя тэкставай вяхі вызначаецца як здольнасць оніма да абазначэння адзінага персанажа, а таму складае аснову функцыянальнай валентнасці антрапанімнага поля анімічнай лексікі. Высновай з'яўляецца думка пра тое, што вяха ў адным завершаным тэксце можа быць толькі адна, і тым больш цікавымі робяцца выпадкі, калі вылучаецца адразу некалькі онімаў у гэтай функцыі. Так, у вершы

У. Караткевіча *“На паўстанках, засыпаных лісцем бярозавым…”* названую тэкставую ролю выконваюць адразу тры антрапонімы – ***Колас, Бетховен, Шаляпін.*** Усе асобы, якія называюцца гэтымі антрапонімамі, вядомыя, значныя, таму прэцэдэнтныя, і яны суадносяцца з рознымі абласцямі чалавечага існавання, але так ці інакш звязанымі з творчасцю моўнай, музычнай выканаўчай і кампазітарскай. Але ў кантэксце інфармацыя перыферыйнага характару адмыслова змяняецца аўтарам.

У. Караткевіч выкарыстаннем менавіта гэтых антрапонімаў пераносіць у свой кантэкст іх устойлівую перыферыйную семантыку і, змяніўшы хранатапічныя арыенціры, прыўносіць новую сему ва ўнутраную форму вядомых імён – “вера ў магчымасць з’яўлення на беларускай глебе новых непераўзыдзеных талентаў тыпу Коласа, Бетховена ці Шаляпіна”: *“… ў простай хаце, пускаючы горкія слёзы, / У калысцы будучы Колас ляжыць” – “… там, дзе ў прысаку хлопчыкі бульбу пякуць, – / Дваццаць першага веку галапузы Бетховен / Бацькаў кубак шпурляе, каб звон пачуць”– “… на задворках сядзібы, ля самай ракі, / Адсцябаны Шаляпін басам шалёным / Лямантуе з-пад матчынай жорсткай рукі”* [12, с. 41–42].

Такім чынам, антрапонім у функцыі тэкставай вяхі з’яўляецца лексічнай праекцыяй аб’екта рэальнасці ці прэзентуе вобраз прэцэдентнай асобы. На ўзроўні тэкставай арганізацыі гэты функцыянальны статус пацвярджаецца некалькімі спосабамі. Першым і найбольш прадуктыўным з’яўляецца вынясенне антрапоніма ў пазіцыю загалоўка. І калі загаловак адразу прыцягвае ўвагу як элемент адначасова тэкставай і надтэкставай прасторы, то аўтар часцей выкарыстоўвае іншыя структурныя і пазіцыйныя сродкі для пацвярджэння гэтага статусу – пазіцыя абсалютнага пачатку ці канца мастацкага тэксту.

## 3. Функцыя анамастычнага фону

Паэтычная мадэль свету, як ужо адзначалася раней, будуецца на праецыраванні рэалій рэчаіснасці ў сферы паэзіі. Тэкст традыцыйна скіраваны на рэальныя суб’ектна-аб’ектныя адносіны, сувязі паміж якімі могуць змяняцца. Калі дамініраванне суб’екта выражаецца праз функцыю тэкставай вяхі, то сфера аб’екта прадстаўлена антрапонімамі і кантэкстуальна эквівалетнамі адзінкамі, якія адказваюць за фарміраванне ў паэтычным тэксце анамастычнага фону.

Фонавая анамастычная намінацыя мае сувязі рознай ступені інтэнсіўнасці з іншымі структурнымі кампанентамі анамастычнай сістэмы. Перш за ўсё фонавыя онімы звязаны з онімамі, што выконваюць ролю вяхі: калі онім у функцыі вяхі прадстаўляе галоўны персанаж (суб’ект), то фонавыя онімы ствараюць дадатковую анамастычную прастору – прастору аб’ектаў. Традыцыйна асноўная роля ў арганізацыі анамастычнага фону адводзіцца тапонімам ці хранонімам. І гэта не выпадкова, бо элементы тапанімнага поля найбольш поўна і дасканала прадстаўляюць кантструкты

мадэлі тэкставай прасторы, якая ёсць «прасторава-часавы кантынуум з’яў, адрозны ад рэальнага прасторава-часавага кантынууму» [16, с. 223].

Асноўнымі сэнсавымі кампанентамі ідэальнай тэкставай прасторы з’яўляюцца цэнтр (кропка, дзе рух пачынаецца) і шлях (накірунак руху), а ідэя цэнтра звязваецца з урбанонімамі, ідэя руху – з гадонімамі. У. Караткевіч нават  складае асобную паэтанімную падсістэму верша “Вуліцы”, якая аб’ядноўвае аказіянальныя назвы выдуманых аўтарам вуліц.

У абсалютна моцную сэнсавую пазіцыю аўтар змяшчае онім *Тракт Неўміручасці*, які прымае на сябе ролю сэнсавай і функцыянальнай дамінанты. Ілюзія гаданімнай прасторы ствараецца онімамі двух сэнсавых тыпаў: аказіянальнымі гадонімамі са станоўчай канатацыяй − ***Вуліца Першай Радасці, Вуліца Абдуванчыкаў, Вуліца Мокрых Падтыннікаў, Вулка Звону з-за Весняй Дубровы, Вуліца Яйка Качынага, Вуліца Вось ты і Дома, Вуліца Душ Сагрэтых***; аказіянальнымі гадонімамі з адмоўнай канатацыяй − ***Вулка Год Праклятых, Вулка Здрады, Вулка Адчаю, Вулка Руін і Змарлых, Вуліца трыццать сёмага, Вуліца Ірада***. Аўтар змяняе асноўныя прынцыпы называння вуліц у рэальнасці (па суаднесенасці з аб’ектамі, уласцівасцямі аб’ектыўнага асяроддзя і г.д.) на прынцыпова новы – называнне па суаднесенасці са з’явамі, падзеямі суб’ектыўнага свету, і гэтым увасабляе ідэю асабістага шляху ў назвах вуліц. Бівалентнасць аб’ектыўнага свету выяўляецца і ў сэнсавым напаўненні створаных аўтарам гадонімаў — ад сумных падзей да радасных. У выніку выкарыстання аказіянальных гадонімаў разам з іх семантызацыяй у кантэкстце змяняецца і агульная сэнсавая скіраванасць тэксту: ад праекцыі рэальнай гаданімнай сістэмы, якая азначаецца ў загалоўку, аўтар накіроўвае чытача да ідэі полівалентнасці жыццёвага шляху чалавека ў асабістай і грамадскай гісторыі краіны.

Антрапонімы таксама даволі часта складаюць анамастычны фон. Антрапанімны фон мае некалькі характарыстык. Па-першае, ён можа быць аднакампанентным ці шматкампанентным; па-другое, ён можа аб’ядноўваць адзінкі па падабенству дэнататаў называння па якіх-небудзь істотных характарыстыках, запазычаных аўтарам для стварэння ў тэкставай прасторы больш-менш падобных на  рэальныя вобразаў асоб; па-трэцяе, фон з антрапанімных адзінак можа складацца з семантызаваных онімаў, якія падчас нават звязаны з сімвалічнай намінацыяй.

Аднакампанентны антрапанімны фон для паэзіі У. Караткевіча – з’ява даволі рэдкая: часцей за ўсё аўтар дадае да антрапоніма нейкія іншыя анімічныя адзінкі, такім чынам пашыраючы фон семантычна рознанакіраванымі онімамі. У ролі аднакампанентнага фону выступаюць часцей прэцэдэнтныя онімы. Напрыклад, антрапонім ***Скарына*** выконвае функцыю антрапанімнага фону ў вершы “Багдановічу”. Як і заўсёды ў паэтычнай прасторы, семантычна дасканала онім існуе перш за ўсё дзякуючы прагматычнаму камненту антрапоніма, дзе асноўная роля належыць інфармацыі пра аднаго з наўбольш вядомых беларускіх асветнікаў эпохі

Адраджэння, пра выключнага для свайго часу пісьменніка, філосафа, палітолага, пра асобу, якая і да нашых часоў застаецца адным з сімвалаў Беларусі. Менавіта спасылку на названыя кампаненты семантыкі ўзнаўляе У.Караткевіч у кантэксце: *"Ты прыйшоў / І гарачым словам / Рунь узняў на роднай зямлі / Ты сказаў нам: "Унукі Скарыны, / Дзе ваш гонар, моц і краса?"* [12, с. 227].

Прыклад шматкампанентнага антрапанімнага фону знаходзім у вершы "Фантазія". У якасці фонавых канструктаў аўтар выкарыстоўвае шэраг прэцэдэнтных онімаў – *Людвіг Бетховен, Лермантаў, Дантэ, Петрарка, Катул, Багдановіч, Джульета Гвічардзі, Лота, Лесбія.* Фон падзяляецца на два семантычных узроўні: першы аб'ядноўвае імёны паэтаў і музыканта паводле агульнай семы прагматычнага сектару семантыкі "адрынутасць, здрадніцтва ў каханні"; другі – імёны знакамітых жанчын-спакусніц, якія маглі дараваць каханне, але таксама не былі ў ім шчаслівымі. Усе асобы – члены віртуальнага "клуба адрынутых", як яго называе У.Караткевіч: *"Знову блукаю па вуліцах сініх / Сэрца кудысьці мяне завяло / Шыльда над вокнамі: "Клуб адрынутых" / З вокнаў на снег – скупое святло"* [12, с. 166]. Такім чынам, фон шматкампаненты, але семантычна аднаскіраваны.

Фон складаецца і з меншай колькасці онімаў, але яны па семантыцы суадносяцца з рознымі тыпамі ўласных імён. Такая фонавая намінацыя таксама прыцягвае ўвагу, бо ўключае ў сябе шмат новых, раней невядомых асацыяцый. Напрыклад, у вершы "Нямыя дрэвы" мы знаходзім анамастычны фон, што складаюць антрапонім ***Яна*** і тапонімы ***Элада*** і ***Парфенон.*** Антрапонім называе вобраз, што належыць аб'ектнай сферы вобласці галоўнага персанажа, які, згодна з адным з законаў ("законам безыменнасці") паэзіі, не называецца, а толькі разумеецца. А тапонімы *Элада* і *Парфенон* уведзены ў кантэкст, каб, семантызаваныя, яны зрабіліся сімвалам вечнай і непераўзыдзенай прыгажосці, створанай рукамі чалавека: *"Кожны крок-гэта крык аб высокім і сонечным небе, / Што блішчыць, як Элады блакіт між калон Парфенона…"* [12, с. 168].

Такім чынам, функцыя анамастычнага фону вызначаецца як другая па значнасці (пасля функцыі вяхі) роля антрапонімаў у сэнсавай прасторы тэксту. Але і ў гэтай функцыянальнай рэалізацыі антрапонімы здольныя дэманстраваць гнуткасць і рухавасць сваёй унутранай формы.

## 4. Асобныя паэтанімныя падсістэмы

Больш складанае анамастычнае структурнае ўтварэнне мы назіраем у тэкстах, якія ў сваіх межах аб'ядноўваюць не адну, а некалькі анімічных адзінак. Такія онімы ў сэнсавым плане суадносяцца з рознымі дэнататамі і часта выконваюць розныя функцыі. Зразумела, што і набор, і характар анімічных функцый залежыць ад аўтарскай задумы.

Два і больш онімы аўтарскага тэксту – гэта асаблівае сістэмнае стварэнне. Яно групуецца вакол адной ці некалькіх сэнсавых і страфічных дамінант. Анамастыкон асобнага тэксту мае асаблівую структуру са сваім ядром, каляядзернай прасторай і перыферыяй, уключаючы сістэмныя адносіны паміж кампанентамі.

Стройная сістэма онімаў асобнага тэксту, якая мае вызначаны аўтарам сэнсавы, выяўленчы, эстэтычны і функцыянальны патэнцыял, можа быць вызначана як ***асобная паэтанімная падсістэма***. Такое тэрміналагічнае азначэнне вылучаецца ў першую чаргу суадносна з агульнай сістэмай анімічных адзінак паэтычнай творчасці таго ці іншага аўтара.

У якасці дамінанты асобнай паэтанімнай падсістэмы (АПП) ужываюцца пераважна онімы, што займаюць у агульнай анамастычнай сістэме ядзернае ці каляядзернае становішча, – антрапонімы і антрапонімападобныя разрады (міфонімы, заонімы і інш.). Магчымы і верагодны таксама тапонімы і касмонімы – дамінанты: і тапонімы, і касмонімы займаюць ядзерна-перыферыйнае становішча, набліжэнне ці, наадварот, аддаленне ад яго залежыць ад экстралінгвістычных фактараў, сярод якіх – велічыня аб’екта, што называецца ўласным іменем, яго агульнавядомасць, яго гістарычная культурная і сацыяльная значнасць і г.д. Вопіс тыпаў дамінант патрэбны перш за ўсё дзеля таго, каб вызначыць найбольш частотныя тыпы АПП:

– асобная паэтанімная падсістэма з антрапанімнай дамінантай;

– асобная паэтанімная падсістэма з тапанімнай дамінантай.

Больш падрабязна разгледзім асаблівасці ўладкавання АПП з дамінантай-антрапонімам ці падобнай на антрапонім анімічнай адзінкай.

Так, АПП з дамінантай-антрапонімам з’яўляецца сістэма ўласных імён паэмы У.Караткевіча “Бацькава сэрца”. У якасці тэкставай вяхі і адначасова дамінанты падсістэмы вылучаецца антрапонім ***Ян***. Гэты антрапонім называе галоўны персанаж, з унутранай формай якога суадносіцца і семантыка загалоўка паэмы – “Бацькава сэрца”: тэма, што звязана з цяжкасцю і невымоўнасцю болю, які захапіў сэрца бацькі, што страціў свайго сына ў выніку выпадковасці, абумоўленай цяжкімі абставінамі рэчаіснасці ў ваенныя часы, у выніку таго, што вымушаны быў ахвяраваць яго жыццём дзеля выратавання іншых людзей, жыццё якіх залежала ад яго дзеянняў па выратаванні, яго адказнасці за іх.

Антрапонімы – цэнтр тэксту, яго вяха выводзіцца аўтарам у трох структурна суадносных варыянтах – ***Ян, Карповіч і Карповіч Ян.*** Трэба адзначыць, што практыка называння асоб паводле мадэлей “прозвішча” ці “прозвішча + асабовае імя” даволі шырока прадстаўлена ў беларускай нацыянальнай традыцыі намінацыі рэальных суб’ектаў і, следам за імі, нерэальных, выдуманых суб’ектаў і аб’ектаў прасторы мастацкага тэксту. З’яўленне менавіта двухкампанентнага варыянта ў тэкставых умовах невыпадкова: так аўтар узнаўляе ідэю сувязі героя з родам, продкамі, з іх вызначальным уздзеяннем на жыццё чалавека (менавіта таму на першым

месцы ў мадэлі – прозвішча, а не ўласнае імя, якое вылучае суб’ект як асноўную адзінку існавання), а таксама з роляй нашчадка ў працэсе працягвання роду: *“Елянецкая выспа з уздыхам сказала: / “Я цябе памятаю, Карповіч Ян, / Я схаваю вас, як продкаў хавала, / Ад палону, ад ганьбы, ад смерці, ад ран”* [12, с. 60]. Тэма трагічнасці ад страты дзіцяці ва ўнутранай форме тэксту падтрымліваецца яшчэ і сэнсавым акцэнтам на тым, што род Карповічаў перарываецца, страчваецца.

Анамастычны фон АПП паэмы “Бацькава сэрца” складаецца онімамі розных семантычных тыпаў: антрапонімамі *Сабіна, Курт*, тапонімамі *Елянецкая выспа, Гейнц, Орша, Кобрын*, касмонімам *Венера*. Асабліва хацелася б адзначыць напоўненасць унутранай формы касмоніма *Венера*. Для беларускай паэтычнай традыцыі гэты онім вызначальны і прэцэдэнтны (калі улічваць асобныя кампаненты семантыкі, пераважна змест яе пэрыферыйнай часткі). Ён перш за ўсё звязваецца з кантэкстам М.Багдановіча з яго “Рамансa” (*“Зорка Венера ўзышла над зямлёю…)*. Паэт ідэю непадзельнасці чалавека і прыроды, вечнай сувязі іх увасабляе ў вобразе красы вячэрняй зоркі Венеры. Яна робіцца сімвалам кахання і шчасця закаханых людзей, якія захавалі здольнасць адгукацца на прыгажосць. Алюзіяй гэтых радкоў выступае кантэкст з паэмы У.Караткевіча: *“Не ўзыходзь, Венера, над ціхімі рэкамі, / Над спакойнай цемрай балот начных / Будзь кахання зоркаю, як спрадвеку, / А не зоркай смерці для дзетак тваіх”* [12, с. 63]. Ва ўмовах новага кантэксту ўнутраная форма оніма *Венера* застаецца канстантнай і трансліруе свой інфармацыйны блок на новае лексічнае асяроддзе, якое афарбавана іншымі семантычнымі адценнямі.

Такім чынам, асобныя паэтанімныя падсістэмы з’яўляюцца даволі прадуктыўным аб’яднаннем уласных імён у межах завершанага тэксту. І гэта звязана з тым, што часта аўтару недастаткова толькі акрэсліць “агульнымі фарбамі” нейкі вобраз суб’екта ці аб’екта, а часцей за ўсё мы назіраем прыклады таго, як шматгранна і ўсебакова ўдасканальваецца аўтарам паэтанімная прастора таго ці іншага верша ці паэмы. Адметнасцю, напрыклад, не раз цытуемай намі паэзіі У.Караткевіча можна назваць даволі шырокае выкарыстанне асобных паэтанімных падсістэм з антрапанімнымі дамінантамі, і адзіна магчымая дамінанта для АПП з тапанімнай семантычнай воссю – Беларусь ці Белая Русь як варыянт.

## Асноўная літаратура


1. Валгина, Н.С. Теория текста / Н.С. Валгина. — Москва: Логос, 2004. — 280 с.
2. Введенская, Л.А. От собственных имен к нарицательным / Л.А. Введенская, Н.П. Колесников. — Москва: Просвещение, 1997. — 143 с.
3. Воронова, И.Б. Текстообразующая функция литературных имен собственных (на материале эпических произведений XIX – XX вв.): автореф.

дис. … канд. филол. наук: 10.02.01 / И.Б. Воронова; ВГУ. — Волгоград, 2000. — 24 с.
4. Горбаневский, М.В. Ономастика в художественной литературе / М.В. Горбаневский. — Москва: Изд-во Ун-та дружбы народов, 1988. — 87 с.
5. Деревяго, А.Н. Антропонимы в поэзии В. Брюсова: функциональный аспект / А.Н. Деревяго // Славянская ономастика: генезис, деривация, ареал. Методика ономастических исследований: материалы II Междунар. науч. конф., Гомель, 11–12 ноября, 2004 г. / Гомел. гос. ун-т; редкол.: Р.И. Козлова [и др.]. — Гомель, 2004. — С.57–65.
6. Деревяго, А.Н. Ономастическое пространство поэзии XX века: семантика онима, функциональный потенциал: автореф. дис. … канд. филол. наук: 10.02.02 / А.Н. Деревяго; Ин-т языкознан. им. Якуба Коласа НАН Беларуси. — Минск, 2005. — 23 с.
7. Деревяго, А.Н. Полевая модель топонимикона поэзии О. Мандельштама и И.Бродского / А.Н. Деревяго // Теоретические и прикладные проблемы русской филологии: научно-методический сб. / Славянск. гос. пед. ун-т; отв. ред. В.А. Глущенко. — Славянск, 2003. — Выпуск XI. — Ч.1. — С.156–165.
8. Деревяго, А.Н. Функция текстовой вехи как доминантная реализация имени собственного в художественном тексте / А.Н. Деревяго // Веснік Мазырскага дзярж. пед. ун-та. — 2005. — №1 (12). — С. 66–71.
9. Душа мая тужлівая…: вершы, паэмы: Беларуская паэзія XX стагоддзя / уклад. В.Шніпа. – Мінск: Маст. літ., 2005. – 303 с.
10. Калинкин, В.М. Теоретические основы поэтической ономастики: автореф. дис. … докт. филол. наук: 10.02.02; 10.02.15 / В.М. Калинкин; Киев. нац. ун-т им. Тараса Шевченко. – Киев, 2000. — 37 с.
11. Каменская, О.Л. Текст и коммуникация / О.Л. Каменская. — Москва: Высш. школа, 1990. — 151 с.
12. Караткевіч, У. Збор твораў: у 8 т. / У. Караткевіч. – Мінск: Маст. літ., 1987. – Т.1. Вершы, паэмы. – 431 с.
13. Карпенко, Ю.А. Имя собственное в художественной литературе / Ю.А. Карпенко // Филологические науки.– 1986.– №4.– С. 34-40.
14. Ковалев, Г.Ф. Писатель. Имя. Текст / Г.Ф. Ковалев. — Воронеж: ВГУ, 2004. — 340 с.
15. Михайлов, В.Н. Экспрессивные свойства и функции собственных имен в русской литературе / В.Н. Михайлов // Филологические науки. –1966. – №2. – С. 54–66.
16. Папина, А.Ф. Текст: его единицы и глобальные категории / А.Ф. Папина. — Москва: Едиториал УРСС, 2002. — 368 с.
17. Ратникова, И.Э. Имя собственное: от культурной семантики к языковой / И.Э. Ратникова. — Минск: БГУ, 2003. — 214 с.
18. Семянькова, Г.К. Каляядзерная прастора семантычнага поля "прозвішчы жыхароў Віцебшчыны"/ Г.К. Семянькова // Актуальные вопросы славянской ономастики: мат-лы Международной научной конф. /

ГГУ им. Ф.Скорины: отв. ред. Р.М. Козлова. − Гомель, 2006. − С. 223 – 231.
19. Сенкевич, В.И. Презентативная функция собственного имени / В.И. Сенкевич // От слова к тексту: мат-лы докл. Международной научной конференции, 13-14 ноября 2000 г. / Бел. гос. ун-т; ответств. редактор Н.П.Баранова. − Минск, 2000.– С.62 – 64.
20. Суперанская, А.В. Общая теория имени собственного / А.В. Суперанская. — Москва: Наука, 1973. — 283с.
21. Супрун, В.И. Ономастическое поле русского языка и его художественно-эстетический потенциал: дис. в виде науч. докл. … док-ра филол. наук: 10.02.01/ В.И. Супрун. — Волгоград, 2000. — 76 с.
22. Теория и методика ономастических исследований / В.Э. Сталтмане [и др.]; под общ. ред. А.В. Суперанской. — Москва: Наука, 1986. — 254 с.
23. Фонякова, О.И. Имя собственное в художественном тексте / О.И. Фонякова. — Ленинград: Изд-во Ленингр. ун-та, 1990. — 104 с.
24. Шур, В.В. Анамастычная лексіка ў мове беларускай мастацкай літаратуры: аўтарэф. дыс. … д-ра філал. навук: 10.02.01 / В.В.Шур; Бел. дзярж. ун-т. — Мінск, 2003. — 42 с.
25. Я хацеў вам сказаць…: вершы, паэмы: Беларуская паэзія ХХ стагоддзя / уклад. В. Шніпа. – Мінск: Маст. літ., 2008. – 302 с.
26. Янішчыц, Я.І. Пачынаецца ўсё з любві…: вершы, паэмы: Беларуская паэзія ХХ стагоддзя / Я.І. Янішчыц. – Мінск: Маст. літ., 2008. – 339 с.

**Дадатковая літаратура**

27. Аксенов, С.С. Семантический аспект теории имени собственного/ С.С. Аксенов. – Кривой Рог: Изд-во Криворож. педун-та, 1990. – 310с.
28. Анисимова, Е.А. Номинация лица как средство формирования смысла художественного произведения (на материале рассказов В.Маканина): автореф. дис. … канд. филол. наук: 10.02.02 / Е.А. Анисимова; Бел. гос. ун-т. — Гродно, 1997. — 24 с.
29. Бахтин, М. Вопросы литературы и эстетики / М. Бахтин — Москва: Художественная литература, 1975. — 504 с.
30. Горбаневский, М.В. Ономастика в художественной литературе / М.В. Горбаневский. — Москва: Изд-во Ун-та дружбы народов, 1988. — 87 с.
31. Григорьев, В.П. Поэтика слова / В.П. Григорьев. — Москва: Наука, 1979. — 343 с.
32. Жураўская, Л.В. Анамастыкон рамана У.Караткевіча “Каласы пад сярпом тваім” (комплексны аналіз антрапонімаў) / Л.В. Жураўская // Актуальные вопросы славянской ономастики: мат-лы Международной научной конф. / ГГУ им. Ф.Скорины: отв. ред. Р.М. Козлова. − Гомель, 2006. − С. 272 – 279.

33. Лингвистический энциклопедический словарь. — Москва: Сов. энцикл., 1990. — 682 с.
34. Литературный энциклопедический словарь / Т.В. Венедиктова [и др.]; под общ. ред. С.И. Кормилова. — Москва: Сов. энцикл., 1987. — 750с.
35. Лотман, Ю.М. О поэтах и поэзии: анализ поэтического текста. Статьи и исследования. Заметки. Рецензии. Выступления / Ю.М. Лотман. — Санкт-Петербург: Искусство, 2001. — 848 с.
36. Ляшчынская, В.А. Антрапанімнае поле Янкі Купалы і Сяргея Ясеніна: параўнальна-супастаўляльны аналіз / В.А. Ляшчынская // Актуальные вопросы славянской ономастики: мат-лы Международной научной конф. / ГГУ им. Ф.Скорины: отв. ред. Р.М. Козлова. − Гомель, 2006. − С. 295 − 303.
37. Мезенко, А.М. О концептуальной структуре антропонимии / А.М. Мезенко // Язык, слово, действительность: тезисы докл. Междунар. научн. конф.: 2 ч., Минск, 2000 г. / Бел. гос. ун-т. − Ч.1. — С. 19-20.
38. Мезенко, А.М. От онима к тексту: о так называемых особо значимых именах / А.М. Мезенко // Тезисы докл. Междунар. научн. конф.: 3 ч., Минск, 2002 г. / Бел. гос. пед. ун-т им. Максима Танка. — Ч.3. − С. 40 − 41.
39. Парамонова, А.Е. Ономастическое пространство романа Э.Ожешко "Над Нёманом" / А.Е. Парамонова // Актуальные вопросы славянской ономастики: мат-лы Международной научной конф. / ГГУ им. Ф.Скорины: отв. ред. Р.М. Козлова. − Гомель, 2006. − С. 307 − 315.
40. Подольская, Н.В. Словарь ономастической терминологии / Н.В. Подольская. – Москва: Наука, 1978. − 441с.
41. Рогалев, А.Ф. Имя и образ: художественные функции имен собственных в литературных произведениях и сказках / А.Ф. Рогалев. – Гомель:Барк, 2007. – 224 с.
42. Рогалев, А.Ф. Ономастика художественных произведений: пособие / А.Ф. Рогалев. − Гомель: Изд-во ГГУ им. Ф.Скорины, 2003. − 194с.
43. Солахаў, А.В. Анімізацыя апелятыўнай лексікі ў мове сучаснай беларускай паэзіі / А.В. Солахаў// Актуальные вопросы славянской ономастики: мат-лы Международной научной конф. / ГГУ им. Ф.Скорины: отв. ред. Р.М. Козлова. − Гомель, 2006. − С. 329 – 335.
44. Философский словарь [Электронный ресурс]: энциклопедия: по материалам изд-ва «Большая российская энциклопедия». — Электрон. дан. (700 Мб). — Москва: Медиа-Сет, 2002. — Электрон. опт. диск. — 1 диск.
45. Шведава, З.У. Жаночае імя ў паэзіі М.Багдановіча / З.У. Шведава // Актуальные вопросы славянской ономастики: мат-лы Международной научной конф. / ГГУ им. Ф.Скорины: отв. ред. Р.М. Козлова. − Гомель, 2006. − С. 353 – 357.

46. Шур, В.В. Уласныя імёны ў часе і прасторы / В.В. Шур. – Мінск: НІА, 2008. – 100 с.

## Трэніровачныя практыкаванні

***Практыкаванне 1.*** Вызначце семантыка-функцыянальны тып антрапоніма па яго характарыстыцы:

*1) адносіцца да ядра антрапанімнага субполя, частотны, называе галоўны персанаж, двухкампанентны, у рэальнасці выкарыстоўваецца ва ўмовах зносін са знаёмым чалавекам, да якога ставішся станоўча;*

*2) адносіцца да каляядзернай прасторы антрапанімнага субполя, не характарызуецца высокай частотнасцю, называе галоўны персанаж, аднакампанентны, у рэальснасці выкарыстоўваецца ва ўмовах зносін з асабліва блізкім чалавекам, да якога ставішся станоўча;*

*3) адносіцца да перыферыі антрапанімнага субполя, не частотны, называе другарадны персанаж, аднакампанентны, нетыповы для нацыянальнага іменніка;*

*4) адносіцца да каляядзернай прасторы антрапанімнага субполя, не частотны, называе пабочны персанаж, трохкампанентны, у рэальнасці выкарыстоўваецца ва ўмовах адносін з незнаёмымі ці малазнаёмымі людзьмі падчас афіцыйных зносін;*

*5) адносіцца да ядра антрапанімнага субполя, частотны, называе галоўны персанаж, аднакампанентны, у рэальнасці выкарыстоўваецца для намінацыі асобы, якая валодае шырокай вядомасцю.*

Для кожнага оніма, што вы вызначылі, прывядзіце свой прыклад.

***Практыкаванне 2.*** Вызначце асаблівасці структуры антрапанімнага поля па характарыстыках яго ўладкавання:

*а) антрапонімы пераважна называюць выдуманых асоб;*

*б) адзначаюцца славянскім паходжаннем;*

*в) імёны шырокавядомых асоб не адзначаюцца высокай частотнасцю;*

*г) найменні аднакампанентныя, складаюцца па мадэлі "ўласнае імя";*

*д) частка антрапонімаў мае ў марфемным складзе суфіксы суб'ектыўнай ацэнкі;*

*е) ёсць некалькі імён, створаных аўтарам па прыкладзе рэальных найменняў.*

***Практыкаванне 3.*** Вызначце “чацвёртае лішняе” ў кожным з радоў антрапонімаў:

*1) Адам, Густаў, Земляроб, Людвік;*

*2) Эмілія Плятэр, Тадэвуш, Васіль, Гражына;*

*3) Юзаф, Антоні, Фелікс, Якуб;*

*4) Гарэцкі, Тамаш Зан, Ігнат Дамейка, Ян Чачот;*

*5)Разалька, Алёна, Рузя, Юзя.*

На чым грунтуецца ваш выбар?

***Практыкаванне 4.*** Выберыце з пералічаных антрапонімаў тыя, што здольныя прадстаўляць ядро антрапанімнага поля, арыентаванага на беларускі нацыянальны імяннік.

*Пётр, Сымон, Пятрусь, Анежка, Усяслаў, Бальтазар, Тарас, Мікола, Сайма, Юры, Антоль, Ян, Мар’яна, Інга, Мар’я, Леконт, Міхал, Васіль, Гіацынт.*

Абгрунтуйце свой выбар.

***Практыкаванне 5.*** Прачытайце ўсе змешчаныя ядзерныя антрапонімы. Знайдзіце аснову іх сістэматызацыі. Аб’яднайце адзінкі ў суадносныя структурныя будовы.

*Калумб, Паўліна, Янка Купала, Карп, Чыкоўскі, Шаляпін, Ян, Босх, Геронім, Рыгор, Ганна, Зося, Скарына, Марыся, Іван, Марыя, Максім.*

***Практыкаванне 6.*** Адзначце тыя антрапонімы, што здольныя прадстаўляць перыферыю ўмоўнага антрапанімнага поля, калі вядома, што яно падначальваецца мэце стварэння антрапанімнай прасторы, пазбаўленай усялякай суб’ектыўнай ацэначнасці.

*Ганна, Міхась, Бетховен, Юрась, Ладысь, Міхал Філіпыч, Сымон, Рыгорка, Чаховіч, Рыгор Чаховіч, Марына Рыгораўна, Марына, Ганна Чаховіч, Сініцкі, Кастусь, Кастусь Сініцкі, Колас, Паўліна, Ганя, Алеся.*

***Практыкаванне 7.*** Выпраўце памылкі ў размеркаванні антрапонімаў унутры ўмоўнай мадэлі суадноснага поля, якое арыентуецца на славянскі імяннік, вылучаецца яскравай маскулінnай скіраванасцю (г. зн. пераважна называе асоб мужчынскага полу) і сацыяльнай ацэначнасцю, частотнасцю двухчленных найменняў:

| | | |
|---|---|---|
| ***Ядро*** | | *Паўлюк, Максім, Янка, Марыя, Пецька Сідараў, Янка, Міхал Мікалаевіч, Міцкевіч, Карповіч Ян, Ганна Львоўна Чаховіч, Вальтэр, Ксаверый Васілеўскі, Юзаф Кавалеўскі, Марына, Фелікс, Тамаш, Антоні Гарэцкі, Ян Сабалеўскі, Зося, Лавініцкі Юрась, Архімед, Ягайла, Людвіг Бетховен* |
| ***Каляядзерная прастора*** | | *Міндоўг, Тамаш Зан, Лаура, Юзаф Львовіч, Максім Гарэцкі, Ганна, Дамброўскі, Адольф Янушкевіч, Марыля, Алёначка, Рут* |
| ***Перыферыя*** | ***Блізкая*** | *Марыся, Вітольд, Марнасць, Паўліна, Стафан, Зося* |
| | ***Далёкая*** | *Слова, Эмілія, Фэля, Паэт, Ігнат Грынявіцкі, Зміцер* |

***Практыкаванне 8.*** Пра антрапанімнае поле вядома: “палевая структура мастацкага тэксту, вызначаецца дамініраваннем імён шырокавядомых асоб, тып намінацыі персанажаў – пераважна адначленны, мадэль “прозвішча”, арыентацыя на славянскую культурную прастору”.

Складзіце прыкладную мадэль азначанага ўмоўнага поля з адзінак:

*Сівіцкі Кастусь, Алёна, Якуб, Якуб Лучко, Міцкевіч, Максім Багдановіч, Чаховіц Рыгор, Рыгорка, Франц Шуберт, Шаляпін, дзед Цыпрук, Янка, Якуб Колас, Чайкоўскі, Бах, Купала, Францыск Скарына.*

***Практыкаванне 9.*** Размяркуйце антрапонімы з зыходнымі характарыстыкамі паміж названымі ўнутрыпалевымі структурамі.

| *Антрапонім* | *Характарыстыка ўмоўнага антрапанімнага поля* | *Ядро* | *Каляядзерная прастора* | *Перыферыя* |
|---|---|---|---|---|
| *Рут* | Перавага нацыянальнага беларускага рэпертуара імён, асноўная роля – за імёнамі | | | |
| *Грышка* | | | | |

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| *Ладысь* | выдуманых асоб, адначленнасць структурных мадэлей, дамініраванне іменаванняў з яскравай ацэначнасцю | | | |
| *Геронім Босх* | | | | |
| *Ігнась* | | | | |
| *Неферціці* | | | | |
| *Змятрок* | | | | |
| *Дантэ* | | | | |
| *Інга* | | | | |
| *Ганулякі* | | | | |

***Практыкаванне 10.*** Адзначце, да якой з унутрыполевых структур антрапанімікону паэзіі У. Караткевіча адносяцца онімы тыпу

*“Іваны без роду, без племені”, “Калумбы зямлі незнаёмай”, “Мікельанджэла, Вакары, Глебавы, Бембелі, Краўчанкі, Бандарэнкі, Кановы, Яхмесы”.*

Абгрунтуйце свой выбар.

***Практыкаванне 11.*** Супастаўце змест унутранай формы прыведзеных лексічных адзінак.

*Паўліна, Алёна, Кабыздох, Люд, Слова паэта, юр (адкрытае месца), Юрась, камень, Пётр, Рыгор, хмель, Хмель Хмялевіч, Ян.*

Ва ўнутранай форме якіх адзінак можна вылучыць паняцце?

Чаму?

***Практыкаванне 12.*** Устанавіце, якія найменні існуюць у рэальнасці ў якасці ўласных імён, а якія могуць існаваць толькі ва ўмоўнай прасторы называння (напрыклад, у тэксце).

*Васіль, Кастусь, Сымон, Мрыя, Праўда, Марыя, Слова, Усяслаў, Паэт, Прагнасць, Вера, Юзік, Венера, Архімед.*

Растлумачце свой выбар.

Ці існуе магчымасць таго, што імя ўмоўнай прасторы стане часткай традыцыйнага нацыянальнага іменніка?

***Практыкаванне 13.*** Вядома, што імёны, якія ўжываюцца часцей за іншыя, з цягам часу набываюць даволі шырокую сістэму асацыяцый, з імі

звязаных. Паспрабуйце акрэсліць свае ўласныя асацыяцыі, звязаныя з антрапонімамі:

*Ягайла, Анежка, Ганна, Паўлюк, Міцкевіч, Зоська, Янка, Лота, Марыся, Аляксандр, Людвіг Бетховен, Давід, Ванька, Гануля, Янук.*

Што часцей за ўсё спрыяла ўзнікненню тых ці іншых асацыяцый?

***Практыкаванне 14.*** Выявіце дэнататыўны кампанент семантыкі онімаў:

| | | |
|---|---|---|
| | *Жанна д'Арк, Мона Ліза, Паўліна, Хатшэпсут, Джульета Гвічардзі, Ганна, Марыя* | ? |
| | *Мар'енбург, Ліль, Берлін, Гародня, Орша, Вльня, Хірасіма, Кобрын, Мінск, Гейнц* | ? |
| | *Танк, Панчанка, Багдановіч, Лермантаў, Купала, Колас, Дантэ, Петрарка, Катул* | ? |

***Практыкаванне 15.*** Акрэсліце, якой энцыклапедычнай (ці прагматычнай) інфармацыяй валодаюць наступныя антрапонімы.

*Радзівіл, Паўлюк Багрым, Касцюшка, Шуберт, Бетховен, Шаляпін, Яхмес, Дантэ, Петрарка, Катул, Мікельанджэла, Вакар, Глебаў, Бембель, Краўчанка, Канова, Станіслаўскі, Хемінгуэй, Неферціці, Хатшэпсут, Жанна д'Арк, Мона Ліза, Міцкевіч, Эклезіяст, Кірыл, Мефодый.*

***Практыкаванне 16.*** Супастаўце антрапонім з характарыстыкай кампанентаў яго семантыкі.

| | | |
|---|---|---|
| *1* | *Паўлінка* | *Дэнатат – "суб'ект, жанчына не славянка", сігніфікат – "жывая істота, чалавек", прагмакампанент – "сталая жанчына, жонка і маці"* |
| *2* | *(Чытаць) Купалу* | *Дэнатат – "суб'ект, мужчына славянін", сігніфікат – "жывая істота, чалавек", прагмакампанент – "вядомы рускі спявак"* |
| *3* | *Сабіна* | *Дэнатат – "суб'ект, жанчына славянка", сігніфікат –* |

| | | |
|---|---|---|
| | | *“жывая істота, чалавек”, прагмакампанент – “юная, з’едлівая дзяўчынка- беларуска”* |
| 4 | *Курт* | *Дэнатат – “суб’ект, мужчына славянін”, сігніфікат – “жывая істота, чалавек”, прагмакампанент – “беларускі паэт і празаік”, ужываецца ў пераносным сэнсе* |
| 5 | *Шаляпін* | *Дэнатат – “суб’ект, мужчына не славянін”, сігніфікат – “жывая істота, чалавек”, прагмакампанент – “нямецкі салдат, вораг”* |

***Практыкаванне** 7*. У кожным радку знайдзіце чацвёртае лішняе:

*а) Слова, Муза, Пачуццё, Лёс;*

*б) Кастусь, Марына, Стась, Ян;*

*в) Янка, Юрасік, Кастусёк, Давід;*

*г) Ганна Львоўна, Чаховіч Рыгор, Мальдзіс, Паўліна Андрэеўна.*

Адзначце, чаму вы абралі тую ці іншую адзінку.

***Практыкаванне 8.*** Дадайце прапушчаныя кампаненты ўнутранай формы імён:

а) *Міцкевіч – “суб’ект славянін, жывая істота”;*

*б) Ягайла – “суб’ект, мужчына, жывая істота, чалавек”;*

*в) Цэзар – “суб’ект, мужчына, чалавек, рымскі імператар і палкаводзец, які нарадзіўся каля 100 г. да н.э, у 59-м г. стаў консулам, падпарадкаваў Рыму заальпійскую Галію, правёў рэформу календара, вядомага як Юльянскі, і быў забіты ў выніку замовы”;*

*г) Плутарх – “суб’ект, мужчына”.*

***Практыкаванне 9.*** Прачытайце ўрывак з паэмы У.Караткевіча “Слова пра чалавечнасць”.

*Паўтарае гісторыя жарт з Архімедам:*
*Горад родны палае, зямля дрыжыць,*
*Але ёсць папірус, ёсць вечныя веды*
*І накрэсленыя на пяску чарцяжы…*

На які жарт нам намякае аўтар?

У якім кампаненце ўнутранай формы антрапоніма *Архімед* змяшчаецца гэта інфармацыя?

***Практыкаванне 10.*** Вызначце, якая перыферыйная семантыка антрапоніма ўзнаўляецца ў наступным вершаваным кантэксце У.Караткевіча:

*Танкі з крыжамі ляцелі на лес празрысты.*
*Дым мяшаўся з зямлёю. Сцяліўся пажар.*
*Палала бярозка, танюткая, чыстая,*
*Без стогну,*
*Як Жанна Д'арк.*

Як называецца сродак стварэння вобразнасці, у складанні якога ўдзельнічае антрапонім?

***Практыкаванне 11.*** Устанавіце, якой семантыкай валодае ўласнае імя ў наступным кантэксце У. Караткевіча:

*Ўсё было ў тую ноч звычайным:*
*Над агнямі лёталі цені,*
*Пяткі "Янку" прывычна чаканілі,*
*Пахла мёдам мурожнае сена.*

Па якіх істотных семантычных прыкметах вы здолелі вызначыць семантыку оніма?

***Практыкаванне 12.*** Выявіце, якія сэнсавыя блокі складаюць перыферыйную семантыку анімічных адзінак паэтычных радкоў У.Караткевіча.

*Радок бяззбройны і бясспрэчны*
*Слабым – адзіна верны шчыт.*
*І не знікаць Паэтам вечна,*
*У вечнай Песні жывучы.*

*Калі пайду з юдолі гора,*
*Не скончыўшы найлепшы сказ,*
*То божы свет мяне паўторыць,*
*Як паўтараў ужо не раз…*

***Практыкаванне 13.*** Ахарактарызуйце семантыку анімічнай адзінкі ***Хмель Хмялевіч*** у кантэксце паэмыУ.Караткевіча "Віно дажджоў":

*… Закусі,каб нас мядзведзем Хмель Хмялевіч не задраў:*
*Вось кіпіць у масле рыба, вось кіёшкі, як ламы,*
*Качкі смажаныя мараць пра зялёны рай Дняпра,*

*Як калісьці будзем марыць аб Дняпры ў пекле мы…*

***Практыкаванне 14.*** Акрэсліце семантыку антрапонімаў ***Кірыл*** і ***Мефодый*** у наступным кантэксце У.Караткевіча:

*П'ецца ў дождж, дык пі, Георгій, пі, балгарскі ты лайдак,*
*Ні Кірыл і ні Мефодый гэтак, дурні, не жылі.*
*Што з таго, што гэтай песні літары далі яны, –*
*Мы далі для гэтай песні тое, чым звініць яна:*
*Азбуку любві да праўды, і агіды да хлусні,*
*Азбуку радзімы мілай, і кахання, і віна…*

На якой семантычнай дамінанце ўнутранай формы онімаў заснаваны агульны сэнс гэтага кантэксту?

***Практыкаванне 15.*** Вызначце семантыку змешчаных антрапонімаў з кантэксту У. Караткевіча па наступных параметрах:

– змест дэнататыўнага, сігніфікатыўнага і прагматычнага кампанентаў;

– тып антрапонімаў паводле семантычнай класіфікацыі;

– змены ва ўнутранай форме, выкліканыя ўжываннем онімаў у форме множнага ліку.

*Мікельанджэла,*
*Вакары,*
*Глебавы,*
*Бембелі,*
*Краўчанкі,*
*Бандарэнкі,*
*Кановы*
*І Яхмесы свету,*
*Плюньце на геніяльна-вакхічную храпу сваю…*

З якой мэтай аўтар ужывае ў даволі вузкім кантэксце такую колькасць антрапонімаў?

***Практыкаванне 16.*** Вызначце, якія з пералічаных якасцей складаюць азначэнне антрапоніма ў функцыі тэкставай вяхі:

*а) семантычная завершанасць;*
*б) узнаўляльнасць;*
*в) паўторы ў межах тэксту;*

*г) антрапонім суадносіцца з перыферыяй суадноснага поля;*

*д) прэцэдэнтнасць.*

Патлумачце, чаму засталіся невыбранымі тыя ці іншыя ўласцівасці, і для онімаў у якіх ролях яны больш характэрны.

***Практыкаванне 17.*** Дайце азначэнне прыведзеных якасцей анімічнай функцыі. Вызначце, для якой тэкставай ролі антрапонімаў яны ўласцівы.

1. *Адназначнасць − ...*
2. *Неабавязковасць − ...*
3. *Перыферыйнасць − ...*
4. *Тэкстаўтваральнасць − ...*
5. *Камбінацыйнасць − ...*

***Практыкаванне 18.*** Вызначце, якой тэкставай ролі антрапонімаў уласцівыя названыя якасці і азначэнні:

*а) часцей за ўсё ў адным кантэксце гэтую ролю выконвае не адзін, а адразу некалькі антрапонімаў;*

*б) антрапонімы ў гэтай ролі амаль што выключна прадстаўляюць каляядзерную прастору;*

*в) часта вызначаецца прадстаўніцтвам прэцэдэнтных антрапонімаў, якія ў гэтай функцыі ўжываюцца дзеля таго, каб падкрэсліць гістарычную значнасць семантычнага кантэксту;*

*г) антрапонімы ў гэтай функцыі менш ужывальныя, чым, напрыклад, тапонімы;*

*д) для онімаў у гэтай функцыі ўласціва больш цесная сувязь з дэнататам называння за кошт больш зніжанай асацыятыўнасці.*

***Практыкаванне 19.*** Паназірайце і адзначце, якія змены адбываюцца ў семантыцы прыведзеных антрапонімаў, якія выконваюць у тэксце функцыю вяхі:

*а) Юра − Юрась − Юрка;*

*б) Канстанцін – Косця – Кастусь – Кастусёк;*

*в) Васілёк − Васіль − Васіль Пятровіч − Пятровіч;*

*г) Максімка –Максім − Максім Багдановіч;*

*д) Каця − Кацярынка − Кацярына − Кацярына Іванаўна.*

***Практыкаванне 20.*** Вызначце, які ўмоўна сімвалічны сэнс вылучае прэцэдэнтны антрапонім у кантэксце У. Караткевіча:

*...І ваяйце жанчын*
*І яе,*
*Тарускую* ***Неферціці***
*З яснай дзіўнай усмешкай.*

***Практыкаванне 21.*** Устанавіце функцыю паэтонімаў у кантэксце У. Караткевіча:

*Сумесь* ***Бураціна*** *з* ***Аэлітай,***
*Зорка незгасальная ў акне,*
*Сумная, прыгожая, забытая,*
*У вечар ты прыходзіш да мяне.*
*Смешная і нібыта заспаная,*
*Пад пяшчотай маёй маўчыш,*
*А пасля аддана і рахмана*
*Засынаеш на маім плячы.*
*І малю я сонца, неба, корсту:*
*Хай яны палаюць над табой,*
*Над тваёй былою крыўдаю жорсткай,*
*Вечныя – пяшчота і любоў.*
*Хай не будуць да цябе суровыя,*
*На ласкавы пакладуць пясок,*
*Горы вечныя ўзнясуць ў галовах,*
*Ўспеняць мора добрае ля ног,*
*Нагадуюць цёплай ласкі хлебам,*
*Сцішаць успамінаў злых прыбой.*
*І тады я стану вечным небам,*
*Сінім вечным небам над табой.*

Якой семантыкай адзначаюцца анімічныя адзінкі тэксту?
Які сэнс мае ўжыванне ў даволі цесным кантэксце абедзвюх адзінак?

***Практыкаванне 22.*** Прачытайце паэтычны кантэкст А. Сыса. Вызначце тэкставую ролю антрапоніма Марыя ў кантэксце.

***МАРЫЯ***
*Вечнасць зрывае пялёсткі з ружы…*
*сее, нібы насенне,*

*па сухадолах людскія душы,*
*на чарназёмах каменні.*
*Сонца ўрастае ў чужое поле*
*і вырастае з чужога,*
*а калі ўзыдзе –*
*святлом, як соллю,*
*раны пячэ нябогу.*
*З болем сваім ён пад дрэва сядзе,*
*высыпле жвір з сандаляў,*
*столькі самоты ў яго паглядзе,*
*колькі блакіту ў далях…*
*Ён жа намацае лёс кавенькай,*
*выбрыдзе да жанчыны,*
*жыта змятае яна ў сявеньку*
*белым крылом гусіным.*
*– Светлая! – наймя ёй дасць нябога. –*
*Выгаі мае раны,*
*Светлая, мроя мая й трывога,*
*золачак мой крамяны.*
*Светлая вымавіць:*
*– Я – Марыя, –*
*з твару змахне змаршчынкі*
*і бедаку, як душу, раскрые*
*дзверы сваёй хацінкі.*
*Зёлак настоіць на першым снезе,*
*нанач яго напоіць,*
*скура, як з вужа, з нябогі злезе,*
*згіне з душы нябогасць.*
*– Любы мой, - скажа яму Марыя, –*
*шчасце тваё ў пакутах.*
*Дзверы адчыніць, бы свет, старыя,*
*пойдзе на холад люты,*
*пойдзе, да сніцца начамі будзе:*
*з крыжам яго нібыта*
*ходзіць на вёсках, па ўбогіх людзях,*
*Богам самім забытых.*

***Практыкаванне 23.*** Прачытайце паэтычны кантэкст А. Сыса.

*Ёсць ПЕСНЯ ПЕСНЯЎ*
*Вянок Багдановіча – ВЯНОК ВЯНКОЎ*
*так напісаў не я*
*так сказала жанчына*
*яна ўсё жыццё пляла вянкі*

*сонца адмярае Час*
*жвір адмярае Час*
*зерне адмярае Час*
*заўтра скажуць:*
*тут узвышаліся егіпецкія піраміды*
*а тут працякала Амазонка*
*заўтра скажуць:*
*гэтая цвіль раней была*
*блакітнымі танцоркамі Дэга*
*але жыло-жыве-выжыве Слова.*

Якую ролю выконваюць антрапонімы? Вызначце, з чаго складаецца іх унутраная форма .

Якім статусам у кантэксце адзначаны іншыя адзінкі першаснай і другаснай намінацыі?

Якім чынам агульны сэнс верша ўплывае амаль што поўная адсутнасць у ім знакаў прыпынку?

***Практыкаванне 24.*** Пабудуйце мадэль анамастычнай падсістэмы верша А. Сыса. Ахарактарызуйце тыя лексіка-функцыянальныя кампаненты, што яе складаюць.

***ДАНУТА БІЧЭЛЬ-ЗАГНЕТАВА***
*Бязродная песня паэтава,*
*што птах са сляпымі вачыма.*
*Данута Бічэль- Загнетава –*
*якая паэтка айчынная!*
*І родам і племенем гожая.*
*Як рэчка – змялелы брод,*
*хаваеш ад вока варожага*
*Айчыны сваёй радавод.*
*З мінулых крывавых стагоддзяў*
*ляціць за табой страла,*

*а час, усім злодзеям злодзей,*
*выскубвае пёры з крыла.*
*Ды пёры твае не радзеюць,*
*і словы ад сэрца твае,*
*як слёзы, як зоркі, ірдзеюць,*
*як кроплі расы на траве.*
*Слязою, расою і зоркай*
*да Бацькаўшчыны далучы,*
*ралёю і пожняй колкай*
*аблудных дзяцей лячы.*
*Вось коціцца кола з дубовых лісцяў*
*і кліча цябе ў Кушляны,*
*там здані паўстанняў яшчэ не звяліся,*
*там мова Мацея ў пашане.*
*Цвітуць на мурох старажытных зёлкі,*
*лячы імі люд тутэйшы.*
*Баляць Беларусі цярновыя зоркі,*
*паэтам – цярновыя вершы.*
*Вось коціцца кола з цярновых лісцяў,*
*каляных, суздром засохлых,*
*ты ўстала, ты ведаеш:*
*трэба выйсці*
*насустрач сваёй Галгофе.*

Якімі сродкамі пацвярджаецца статусная роля тэкставай вяхі?

***Практыкаванне 25.*** Прачытайце верш М. Купрэева “Паэт”, прысвечаны Міхасю Стральцову.

*Калі настае час свабоды кароткі –*
*жыццё апантана ўдыхае, таропка,*
*аж захлынаецца.*
*Дзівіцца лотаці на лугавіне,*
*у жменю збірае з травы па расіне –*
*чысцінёй умываецца.*
*Босы бяжыць ён па водах высновых,*
*па траве маладой – малады і новы.*
*Шукаюць яго ўжо, звіняць тэлефоны:*
*знік такі-та з такой установы.*
*А ён сам заявіўся, здаровы, вясёлы –*

*галава ў верасах, ногі ў зёлах.*
*Пакаралі паэта за ўцёкі*
*па родным Палессі–*
*губы там*
*расцвілі ў маладзенькай Алесі…*
*Шчаслівы,*
*карнікаў не дакарае –*
*“Вкушая вкусих мало мёду*
*и се аз умираю”…*

З якой мэтай у кантэксце ўжыты менавіта гэтыя онімы?
Вызначце тэкставую ролю ўжытых аўтарам анімічных адзінак.
Што складае ўнутраную форму антрапоніма ***Алеся***?

***Практыкаванне 26***. Уважліва прасачыце, якой семантыкай адзначаны антрапанімныя адзінкі наступнага кантэксту М. Купрэева.

*Жураўлі журлівыя мае –*
*праплыве новае расстанне.*
*Зноў над Шчарай*
*шчыры крык растане, –*
*ў гэтым свеце вечна не стае…*
*Няўжо я зноў калі вярнуся –*
*не птушкай –*
*хоць крылом яе*
*пад вокны Беларусі?..*
*… Ціхі вечар, помню, настае.*
*Бяроза шэпча ў хату праз акно.*
*Том Купалы, бульба на стале.*
*Нясе цётка Ганна малако…*

Якую ідэю дапамагаюць перадаць онімы?
Як звязаны паміж сабой усе онімы кантэксту?
Якую семантыка-тэкстаўтваральную ролю выконваюць?

***Практыкаванне 27***. Ахарактарызуйце анамастычны фон верша А. Сыса “Будзьма!”.

*Мы не будзем дзяліць мяжы,*
*і таму хай слупы памежныя*
*нас ахоўваюць, як крыжы*
*косці тленныя, душы грэшныя.*

*Мы не будзем дажджы дзяліць*
*і масты залатых вясёлак,*
*бо смяротнаму не пераж ыць*
*нават самы кароткі золак.*
*Мы не будзем дзяліць туман,*
*нам з яго па адным не выйсці.*
*Пясняр, Лірнік, Кабзар, Баян –*
*пупавіны не перагрызці.*
*Мы не будзем дзяліць палын,*
*і за долю, як за дзяўчыну,*
*нам не трэбы чужы калым*
*і жаніх з касымі вачыма.*
*Мы не будзем дзяліць любоў,*
*калі ж будзем, дык толькі гора,*
*яно здарыцца можа, бо*
*вакол нас і садом, і гамора.*

Якія лексічныя адзінкі ў кантэксце калісьці адносіліся да ліку онімаў?

Чаму, як вы лічыце, яны сталі апелятывамі?

***Практыкаванне 28.*** Прачытайце верш М. Купрэева “А мы ўсё пытаемся” і вызначце тэкставую ролю антрапоніма ***Гамер***.

*У сябе мы пытаемся і ў другіх,*
*ці ёсць на зямлі каханне.*
*І чаму кожны з нас*
*ў васемнаццаць гадоў веснавых*
*не думае,*
*ці ёсць на зямлі каханне?*
*Паэзія.*
*Ці патрэбна яна людзям? –*
*У сябе і ў другіх мы пытаемся.*
*Праз тысячагоддзі крочыць Гамер к людзям,*
*а мы ўсё чамусьці пытаемся.*

***Практыкаванне 29.*** Супастаўце семантыку і функцыю антрапоніма ***Скарына*** ў тэкставым асяроддзі паэзіі А. Александровіча і А. Дудара.

| *А. Александровіч* | *А. Дудар* |
|---|---|
| *Ветрык рве, як павуцінне,*<br>*Лугавую цішыню.*<br>*Старажытнае Наддзвінне*<br>*Я вітаю ўпершыню.*<br><br>*Мілагучная вяснянка*<br>*Акрыліла сэрца мне.*<br>*Як русалка, палачанка*<br>*Выплывае на чаўне.*<br><br>*Мне бы з ёю плыць у далі –*<br>*Ад вясны і да вясны…*<br>*Хвалі ціхія шапталі*<br>*Пра радзіму Скарыны.* | ***СКАРЫНА***<br>*Не люблю, калі з роднай краіны*<br>*птушкі рвуцца ў далёкі вырай…*<br>*Я успомніў Францішка Скарыну,*<br>*Што ў Полацку княжацкім вырас.*<br>*Ўжо няма такіх настрояў,*<br>*як былі калісь даўно, –*<br>*бо сягоння над новай Дзвіною*<br>*перакінуўся новы мост.*<br>*Што Дзвіна!.. Для яе ўсё роўна,*<br>*хто пяе над яе берагамі.*<br>*Не яна мужычую мову*<br>*аправіла ў гнуткі пергамент.*<br>*О, Францішак… Францішак Скарына,*<br>*што над гранкай друкарскай гнуўся!..*<br>*Ведай, праца твая пакарыла*<br>*новы свет для сівой Беларусі!*<br>*Бо сягоння спяваюць баяны,*<br>*бо ўжо разгарнуліся крыллі…*<br>*перамогі вяселлем п’яныя,*<br>*мы успомнім Францішка Скарыну,*<br>*што радзіўся калісь над Дзвіною,*<br>*вандраваў над яе берагамі;*<br>*што аправіў мужычую мову*<br>*ў неўміраючы гнуткі пергамент.* |

Як на ўнутраную форму антрапоніма ўплывае разнастайнасць структурных варыянтаў наймення?

***Практыкаванне 30.*** Складзіце характарыстыку анамастычнай падсістэмы верша Т. Кляшторнага *“Задыміўся імжою сыр-бор…”*

*Задыміўся імжою сыр-бор,*
*Дробны дожджык – туман заімжыўся…*
*Мне прысніўся квяцісты прастор,*
*Мне наш край беларускі прысніўся.*
*Бачу сон:*
*Дзе ў цемры вякоў*
*Смуткавалі рачныя затоны,*

*Зняты палкія душы крыжоў,*
*І няма ні жальбы, ні праклёнаў.*
*І вось тут прыдняпроўскую Русь*
*Прадавала панам Кацярына,*
*Прамяняў селянін-беларус*
*Сашнікі і саху на машыну.*
*У вячэрнюю цемру і стынь*
*Не палае лучына ў хаце,*
*Прамяняў беларус-селянін*
*Сінявую страху на палацы.*
*І пад новай жалезнай страхой,*
*Дзе спляліся світальныя цені,*
*Нарадзіўся Шэкспір і Талстой,*
*Заспяваў беларускі Ясенін…*
*……………………………….*
*Мы ідзём не плятні апяваць,*
*Мы складаем паэмы машынам…*
*О краіна – азёрная гладзь,*
*О мая дарагая краіна…*

## Пытанні і заданні для самакантролю

1. Што такое анамастычная прастора і якія яе вызначальныя характарыстыкі?

2. Чым якасна анамастычнае поле адрозніваецца ад анамастычнай прасторы?

3. Які сэнс мае паняцце *віртуальнасць* у адносінах да моўнай сістэмы?

4. У якіх узаемаадносінах знаходзяцца паняцці сістэмы і структуры, калі разглядаць антрапанімнае поле?

5. Якія кампаненты забяспечваюць устойлівасць палевай сістэмы? Ахарактарызуйце кожны з іх.

6. Якім чынам вызначаецца іерархія антрапанімных адзінак?

7. Як структурная арганізацыя рэальнасці ўплывае на суадносную з ёй будову мастацкага тэксту?

8. Што прадстаўляе сабой ядро, каляядзерная прастора і перыферыя антрапанімнага поля? З якіх адзінак яны могуць складацца?

9. Якое месца ва ўнутранай структуры мастацкага тэксту традыцыйна займаюць антрапонімы? З чым гэта звязана?

10. Якую пазіцыю займаюць адзінкі іншых семантычных тыпаў онімаў – тапонімы, міфонімы, заонімы, касмонімы і інш.?

11. Утварыце ад зыходных антрапонімаў варыянты імён згодна з рознымі тыпамі сацыяльна ацэначнай намінацыі:

| *Зыходны варыянт* | *Антрапонім з сацыяльна ацэначнай афарбаванасцю* |
|---|---|
| *Марыя* | *Марыля, Марыська, Марыйка …* |
| *Ігнат* | |
| *Якаў* | |
| *Сафія* | |
| *Зміцер* | |
| *Міхаіл* | |
| *Ян* | |
| *Ганна* | |
| *Стэфан* | |
| *Рыгор* | |
| *Адам* | |
| *Максім* | |
| *Алёна* | |
| *Сямён* | |
| *Ясь* | |

З якой (-імі) унутрыполевай (-ымі) структурай (-амі) яны будуць суадносіцца?

12. Ахарактарызуйце ядзерную структуру ўмоўнага антрапанімнага поля, што прадстаўлена наступнымі адзінкамі:

*Улас, Кастусь Каліноўскі, Настасся, Мар'яна, Сямён, Базыльчык, Улляна, Варлам, Мікалай, Леанід, Адам Храптовіч, Гаўрыла, Гарбук, Юрась,Тадэвуш, Кір'ян, Ян Чачот, Архімед, Алесь Адамовіч, Міцкевіч.*

13. Вызначце істотныя характарыстыкі каляядзернай прасторы, што складаецца з наступных адзінак:

*Максім, Валянціна Мікалаеўна, Пецька, Яцко Мікалаеў, Анатольеўна, Ян Гурын, Прымак, Юрка, Якуб, Рыгор Чаховіч, Андрэеўна, Марылька, Герман, Звеніслава, Анатоль Адаміч.*

14. Азначце, згодна з якімі прынцыпамі намінацыі і ўнутрыполевай арганізацыі ў вобласці перыферыі могуць апынуцца онімы тыпу:

*Мартынка, Крыся, Фэля, Бэлла, Земляроб, Антосю, Барыся, Змагар, Слова, Элеонора, Фартэнбрас, Юрэйка, Дабрачыннасць, Краса, Свіцязянка.*

15. Пабудуйце мадэль антрапанімнага поля паэзіі А.Міцкевіча, абапіраючыся на наступныя суадносныя паэтанімныя адзінкі:

*Марылька, Ясю, князь Туган*[1]*, Мяндоўг, Крыся, Свіцязянка, Ясь, Марыля, дзед Андрэй, Юзік, Юзь, Баляслаў (Смелы), Ганна, Марыя, князь Мешка, Альгерд*[2]*, Гіава, Мамай, Магамет, Лаура*[3] *, Трамбецкі*[4]*, Земляроб*[5]*, Верашчакі*[6]*, Ян, Людвік Дзюба*[7]*, Адам, Архімед, Ньютон, Фэля, Дабрачыннасць, Краса, Кейстут*[8]*, Літавор, Гражына, Рымвід, Вітаўт, Гедымін, Магол, Алкей*[9]*, Гірэй, Навум, Скіргел*[10]*, Тэўтоны, Казлоў*[11]*, Конрад Валенрод (Конрад / Валенрод), Ордэн, Гальбан, Марыя, Фіны, Альф, Альдона, Самсон, Лешак, Мешак, Чарнецкі*[12]*, Касцюшка, Эмілія Плятэр*[13]*, Ян Чачот.*

16. Антрапонімы традыцыйна вылучаюцца ў якасці асноўнага і найбольш прадстаўнічага аб’яднання ўласных імён. На чым заснаваны такі статус?

17. Як суадносяцца онімы і апелятывы ў складзе кампанентаў унутранай формы?

18. Вядома, што тэкставыя онімы называюцца “паэтонімамі”. Як суадносіцца гэты тэрмін з тым, што паэтонімы – гэта ўласныя імёны, якія ўжываюца не толькі ў паэтычным тэксце?

19. Якія істотныя якасці тэксту ў большай ступені ўплываюць на семантыку ўласных імён, што існуюць ва ўмовах тэкставай прасторы?

20. Вядомы рускі літаратуразнаўца М.Бахцін пісаў пра тэкст, што для яго вельмі важная першасная адраснасць, і адзначаў, што адрасат можа быць ці непасрэдным удзельнікам дыялогу, ці дыферэнцыраваным калектывам спецыялістаў у якой-небудзь галіне дзейнасці; ён можа быць адначасова і неазначаным, неканкрэтызаваным. Як гэта выснова адбіваецца на складзе і семантычнай скіраванасці тэкставых онімаў?

---

[1] Выдуманы антрапонім

[2] Вялікі князь Літоўскі.

[3] Для называння каханай паэта Марыі Верашчака

[4] Station Станіслаў Трамбецкі – польскі паэт

[5] Пра графа Адама Храптовіча, які ў сваім маёнтку Шчорсы выкарыстоўваў больш эфектыўныя метады гаспадарання.

[6] Шляхецкі род, прадстаўнікі якога неаднойчы выбіраліся дэпутатамі ў сейм Рэчы Паспалітай.

[7] Таварыш Я.Чачота і А.Міцкевіча ў Навагрудку.

[8] Брат Альгерда, вядомы ваеннымі дзеяннямі супраць крыжаносцаў.

[9] Старажытнагрэчаскі паэт-лірык.

[10] Сын Альгерда.

[11] Казлоў Іван Іванавіч – рускі паэт, перакладчык.

[12] Стэфан Чарнецкі – военачальнік Рэчы Паспалітай, што памёр у час баявога паходу ў вясковай хаце.

[13] Беларуская паэтэса і фальклярыстка, гераіня Лістападаўскага паўстання, якая, пераапрануўшыся ў юнака, узначаліла паўстанцкі атрад.

21. Што ўяўляюць сабой *фонавыя веды*? Якія існуюць варыянты суадносін фонавых ведаў аўтара і чытача і як яны адбіваюцца на працэсе ўспрымання тэкставай семантыкі?

22. Якія ўзроўні інфармацыі аб'ядноўваюць антрапонімы ва ўнутранай форме? Які узровень больш значны для семантыкі паэтонімаў?

23. Якія кампаненты вылучаюцца ў семантыцы літаратурных антрапонімаў?

24. Як называецца працэсс набыцця новых семантычных кампанентаў паэтонімамі? Што аказвае найбольшае ўздзеянне на яго?

25. Што такое "*літаратурная фонавая інфармацыя*" і з якіх кампанентаў яна складаецца?

26. Вызначце, у чым адрозненні паміж семантыкай антрапоніма, які называе лірычны вобраз, выдуманы аўтарам, і прэцэдэнтным антрапонімам (*Янка – Янка Купала, Паўлюк – Паўлюк Багрым* і інш.).

27. Адзначце, у чым прынцыповае адрозненне ўласных найменняў тыпу *Паўліна – Паўлінка*, *Ян – Янка.*

28. Акрэсліце, з якіх кампанентаў складаецца семантыка антрапонімаў *князь Ўсяслаў* і *Ягайла*.

29. Вызначце, якую кантэкстуальную семантыку набываюць онімы *князь Ўсяслаў і Ягайла* ў вершаваных радках У. Караткевіча:

*А ў краіне так цяжка*
*(Асіны ад ганьбы палаюць),*
*І над ёй фанабэрыцца*
*П'яны, разбэшчаны гун.*
*Як пра князю Ўсяславе −*
*Дзень вялікі, а луста малая.*
*Як пры князю Ягайле −*
*На кожную спіну бізун.*

30. Устанавіце, элементамі якога сродка стварэння мастацкай вобразнасці з'яўляюцца антрапонімы *Будны* і *Цяпінскі* ў кантэксце У. Караткевіча:

*Вы, гордыя сваёй грудзінай белай,*
*Надушаныя з ног да галавы,*
*Мае ж дзяды тады пісаць умелі,*
*Калі фарсілі ў воўчых шкурах вы!*
*Калі ў замках вы жылі па-свінску,*
*Палілі на агні жанчын старых –*
*У нас тварылі Будны і Цяпінскі,*
*Паэты, дойліды і разьбяры.*

Якая фонавая інфармацыя ўзнаўляецца аўтарам?

З якіх інфармацыйных блокаў складаецца ўнутраная форма антрапонімаў?

31. Што мы разумеем пад тэрмінамі “функцыя”, “анімічная функцыя”, “тэкстаўтваральная функцыя”?

32. З якіх кампанентаў складаецца віртуальная мадэль агульнай паэтанімнай сістэмы і як яна звязана з сэнсавай прасторай тэксту?

33. Якая тэкставая адзінка дамінуе і чаму?

34. Як рэалізуецца прагназуючая функцыя загалоўка? Які тып загалоўка ў першую чаргу звязаны з рэалізацыяй менавіта гэтай функцыі?

35. Чаму функцыя тэкставай вяхі з’яўляецца галоўнай і сістэмаўтвараючай у віртуальнай мадэлі функцый імён уласных у тэксце?

36. Якімі ўласцівасцямі павінен валодаць антрапонім, каб выконваць ролю тэкставай вяхі?

37. Якая функцыя антрапонімаў у тэксце нязначна саступае ролі тэкставай вяхі?

38.Якія тыпы антрапанімных фонаў вылучаюцца згодна з характарыстыкай семантычнай завершанасці і частотнасці?

39. У якіх выпадках магчыма сумяшчэнне адным і тым жа онімам некалькіх тэкставых функцый?

40.У чым феномен асобных паэтанімных падсістэм у паэзіі?

41. Паназірайце за вершаваным кантэкстам В. Гадулькі і прааналізуйце, якую функцыю ў тэксце выконвае антрапонім і як аўтар пацвярджае гэты статус.

*Ты ўцякла ў мае сны, а імя – засталося,*
*каб адрынуты – сэрцам не згас без пары я.*
*Сярод іншых пяшчотных імён шматгалосся –*
*водгук мары нязбытнай у слове: Марыя.*
*Так, ад мары ў ім штось – як інакш растлумачыць*
*дарагое імя, з пэўным зместам і сэнсам?*
*Мара ... марнасць ... І нават – мана !.. Гэта значыць:*
*Сумаваць па табе і кахаць – толькі сэрцам…*
*Ты ўцякла ў мае сны; ані ў думцы, ні ў слове*
*не ўваскрэснуць ні скаргі, ні крыўды старыя.*
*Вечна юная, быццам ты з вечнасцю ў змове,*
*як імя тваё з вечнасцю ў змове: Марыя.*

42. Параўнайце два кантэксты з паэтычных твораў А. Дудара.

I. *Беларусі паўстаўшай слава,*
*Беларусі – ў пояс паклоны.*

*Хай мінулае цемра заслала –*
*а змагання не забыць ніколі.*

*Эх, Кастусь… Балоты памераў,*
*а ў лясах,*
*як у бацькавай хаце…*
*II. Ты не плач, Наваградскае ўзгор’е,*
*не журыся тугой саматканай:*
*кінуў дзень залатыя кроплі*
*над заводам, над полем, над лугам…*
*Кастуся Каліноўскага покліч*
*сёння зноў –*
*ад Вяллі да Буга…*

Якой семантыкай адзначаны розныя мадэлі агульнага для кантэкстаў антрапоніма?

Патлумачце, ці з’яўляецца гэты онім прэцэдэнтным? Калі так, то чаму?

43. Вызначце, якую функцыю ў вершаваным тэксце “Падбярозавік” В. Стрыжака выконвае антрапонім ***Сяргей Ясенін***.

*Сэрца сумам засеяна,*
*Хмельнай радасці роздумам.*
*Ад Сяргей Ясеніна*
*Я хварэю бярозамі.*
*Уцякаю ад поснага,*
*Што мне бытам адведзена, –*
*Аж да вечара позняга*
*Да гаёў у адведзіны.*
*Папракнуць мяне волаты,*
*Пазайздросцяць мне хліпкія…*
*Я ж бярозай зняволены,*
*А не простымі ліпамі.*
*Засмяюцца разумнікі –*
*Задымлю папяросаю.*
*Ані кроплі не сумна мне,*
*Калі я – падбярозавік…*

44. Прааналізуйце прыведзены кантэкст з верша Я. Янішчыц “Марыя”. Якія семантычныя сувязі існуюць паміж антрапонімамі тэксту?

*І падкажа мне сцяжынку гром*
*І яго бурчання адгалоскі.*
*Я ўвайду ў забыты Богам дом*

*На краёчку апусцелай вёскі.*
*Колькі спеўных верасняў сплыло,*
*Колькі белых адшумела маяў…*
*Ў доме гэтым ціша і цяпло*
*І ўтульна – болей не бывае!*
*Ацішэю. Што там да размоў!*
*На краі самотнае пяшчоты*
*Не баіцца цётухна грамоў,*
*Як і не баіцца адзіноты.*
*Тэпае ад печы да стала,*
*На партрэты дзетак пазірае.*
*(Вось і ўсіх вачамі абняла!)*
*Час такі – што лепей не бывае.*
*Час такі – да хуткасцяў ахвоч,*
*Нават з мёдам – часта несалодкі.*
*Маліто́ўны погляд карых воч*
*Моны Лізы? Не, палескай цёткі!*
*Ах, дзянёчкі, дзетачкі, гады,* -
*Дзе ж яны, світальныя такія?*
*Два вядры, паўнюткія журбы.*
*Два стагоддзі: космас і Марыя.*

Якія семантычныя кампаненты прэцэдэнтнага імя аўтар запазычыў і зрабіў асновай для фарміравання семантыкі выкарыстанага наймення?

Ці суадносіцца семантыка імені *Марыя* ў кантэксце Я. Янішчыц, В. Гадулькі і А. Сыса?

45. Складзіце мадэль антрапанімнай падсістэмы верша Я. Янішчыц “У бабулі Паланеі”.

*Даль паднімуць, сон развеюць.*
*Разбірай, лугі, касцоў! –*
*У бабулі Паланеі*
*Пяць асілкаў-малайцоў.*
*І ў спякоту, і ў завею*
*Кліча вуліца хлапцоў –*
*У бабулі Паланеі*
*асілкаў-малайцоў.*
*Віктар, Косця, Пеця, Дзіма,*
*Самы меншанькі – Назар.*
*… На пажоўклы фотаздымак*
*Пакацілася сляза.*

*А чаму – пытаць не смею.*
*Для бабулі свет не міл –*
*У бабулі Паланеі*
*Пяць сыноў і пяць магіл.*

Да якога тыпу належыць вызначаная падсістэма?

Якія назіраюцца выпадкі сумяшчэння розных функцыянальных увасабленняў аднымі і тымі ж онімамі?

## ТЭСТ

1. Адзначце імёны па бацьку, у якіх пры перакладзе на беларускую мову адбудзецца з’ява якання.

*а) Еремеевич;*
*б) Ефимович;*
*в) Ермолаевич;*
*г) Евдокимович;*
*д) Ефремович.*

2. Адзначце імёны па бацьку, у якіх пры перакладзе на беларускую мову адбудзецца з’ява якання.

*а) Ермилович;*
*б) Ерофеевич;*
*в) Ермакович;*
*г) Епифанович;*
*д) Елизарович.*

3. Адзначце імёны па бацьку, у якіх пры перакладзе на беларускую мову адбудзецца з’ява якання.

*а) Македоньевич;*
*б) Дементьевич;*
*в) Емельянович;*
*г) Пименович;*
*д) Ренальдович.*

4. Адзначце імёны па бацьку, у якіх пры перакладзе на беларускую мову адбудзецца з’ява дзекання.

*а) Диогенович;*
*б) Леонидович;*
*в) Родионович;*
*г) Динарович;*
*д) Демидович.*

5. Адзначце імя па бацьку, утворанае ад імені Антон.

а) *Антанінавіч;*
*б) Антоніевіч;*
*в) Антоньевіч;*
*г) Анцімонавіч;*
*д) Антонавіч.*

6. Адзначце імя па бацьку, утворанае ад імені Андрыян

*а) Андронавіч;*
*б) Андронікавіч;*
*в) Андрыянавіч;*

*г) Андрэевіч;*
*д) Анваравіч.*

7.Адзначце няправільна ўтвораныя імёны па бацьку.
*а) Ігнасьевіч;*
*б) Зміцеравіч;*
*в) Змітрокавіч;*
*г) Зоцікавіч;*
*д) Маевіч.*

8. Ў пішацца ў імёнах па бацьку:
*а) Я…графавіч;*
*б) Ва…жынцавіч;*
*в) Я…лампавіч;*
*г) Я…стахавіч;*
*д) Я…рэм.*

9. Пры перакладзе імён па бацьку на беларускую мову націск на першы склад падае:
*а) Закирович;*
*б) Зосимович;*
*в) Малеевич;*
*г) Здиславович;*
*д) Олафович.*

10. Суаднясіце імёны і імёны па бацьку:

| | |
|---|---|
| ***а) Арыян*** | ***1. Ар'евіч*** |
| ***б) Арэф*** | ***2. Арыстархавіч*** |
| ***в) Арый*** | ***3. Арыянавіч*** |
| ***г) Арафат*** | ***4. Арэфавіч*** |
| | ***5. Арафатавіч*** |

11. Суаднясіце імёны і імёны па бацьку:

| | |
|---|---|
| ***а) Анфіл*** | ***1. Анфімаўна*** |
| ***б) Анфім*** | ***2. Анфілаўна*** |
| ***в) Анфір*** | ***3. Анфілохаўна*** |
| ***г) Анфілох*** | ***4. Анфіраўна*** |
| | ***5. Ануфрыеўна*** |

12. Суаднясіце імёны і імёны па бацьку:

| | |
|---|---|
| ***а) Бярнадзій*** | ***1. Бернардынавіч*** |
| ***б) Бярнард*** | ***2. Бернатавіч*** |
| ***в) Бернардын*** | ***3. Бярнадзьевіч*** |
| ***г) Бернат*** | ***4. Бярнардавіч*** |
| | ***5. Бертольдавіч*** |

13. Суаднясіце імёны па бацьку і імёны:

***а) Валентавіч*** — ***1. Валянцін***
***б) Валенцьевіч*** — ***2. Валент***
***в) Валянцінавіч*** — ***3. Валенцій***
***г) Валенціёнавіч*** — ***4. Валенціён***
***5.Валіевіч***

14. Суаднясіце імёны і імёны па бацьку:

***а) Аркадзь*** — ***1. Аркадзьеўна***
***б) Генадзь*** — ***2. Аркадзеўна***
***в) Генадзій*** — ***3. Генадзеўна***
***г) Аркадзій*** — ***4. Генадзіеўна***
***5. Геньеўна***

15. Суаднясіце імёны і імёны па бацьку:

***а) Кір'як*** — ***1. Кір'якаўна***
***б) Кірэй*** — ***2. Кірыкаўна***
***в) Кірык*** — ***3. Кірэеўна***
***г) Кір*** — ***4. Кіраўна***
***5. Кірылаўна***

16. Па мадэлі **ІЖ + ІМ** утвораны

*а) Мар'я Балтушкова;*
*б) Галіна Зарэцкая;*
*в) Наталля Рэвутова;*
*г) Аксана Сліж;*
*д) Ганна Пятровіч.*

17. Па мадэлі **ІЖ + ІМ** утвораны

*а) Анастасья Баляслававічова;*
*б) Галіна Падляшская;*
*в) Юшка Маданова;*
*г) Люцыя Кушнер;*
*д) Марына Вакуліха.*

18. Суаднясіце мадэлі і мужчынскія найменні

***а) МІ+-овичь+-овичь(а)*** — ***1. Витька Астапавичъ Казлёнак***
***б) МІ+-овичь+-ев*** — ***2. Иван Павлавич Симкович***
***в) МІ+-овичь+-ин*** — ***3. Пашка Ивановичъ Берчин***
***г) МІ+ -овичь+-онак*** — ***4. Богданецъ Яцковичъ Иртищевъ***
***5. Никита Илинич Пасечка***

19. Суаднясіце мадэлі і жаночыя найменні

***а) ІЖ + ІМ*** — ***1. Вольга Прытыцкая***

***б) ІЖ + НМ*** ***2. Ганна Піваварава***
***в) ІЖ + Ап*** ***3. Марына Пятрова***
***г) ІЖ + ІБ*** ***4. Ганна-Марыя***
***5. Аксінья Скаварада***

20. Суаднясіце мадэлі і жаночыя найменні

***а) ІЖ + ГІБ*** ***1. Галина Ивановна Дмитровна***
***б) ІЖ + ІБ +НМ*** ***2. Гелена Петровна Марковича;***
***в) ІЖ + ГІМ*** ***3. Ирина Петрова Лужковская***
***г) ІЖ + ІМ + НМ*** ***4. Марина Петровна Щербицкая***
***5. Ольга Зарецкая Михайлова***

21. Якім тэрмінам прынята называць выдзеленыя фінальныя элементы ў прозвішчах *Бык-аў, Арлоў-скі, Барыс-ёнак*?

*а) суфіксы;*
*б) канчаткі;*
*в) суфіксоіды;*
*г) карані;*
*д) прозвішчаўтваральныя фарманты.*

22. Якія з пералічаных прозвішчаў з’яўляюцца першаснымі?

*а) Маісеенка;*
*б) Сарока;*
*в) Бурачок;*
*г) Пархімовіч;*
*д) Максім.*

23. У аснове якіх прозвішчаў ляжаць уласныя асабовыя імёны або іх формы?

*а) Курыла;*
*б) Сянчура;*
*в) Алёхна;*
*г) Гуменнік;*
*д) Прымакоў.*

24. Якія фінальныя часткі сустракаюцца толькі ў прозвішчах усходніх славян?

*а) –ук;*
*б) –аў;*
*в) –ін;*
*г) –енка;*

*д) –скі.*

25. Па якіх прыметах з вялікай доляй верагоднасці можна сцвярджаць, што носьбіт прозвішча – карэнны беларус?

*а) прозвішча заканчваецца на -енка/-энка/-анка;*
*б) прозвішча з’яўляецца першасным, а не другасным;*
*в) прозвішча заканчваецца на –онак/-ёнак;*
*г) прозвішча ўтворана ад уласнага асабовага імені;*
*д) прозвішча заканчваецца на –эня/-еня.*

26. У якіх сказах дапушчаны фактычныя памылкі?

*а) У беларускай антрапаніміі лексемы, якія называюць адмоўныя рысы характару, выкарыстоўваюцца ў прозвішчаўтварэнні часцей, чым тыя, што абазначаюць станоўчыя якасці.*

*б) Далёкія продкі сучасных носьбітаў прозвішчаў Цароў, Князёў* ***абавязкова*** *належалі да царскай ці княжацкай сям’і.*

*в) Апелятывы, што ў аснове прозвішчаў Суднікаў, Жарнасекаў, Катляроў, Калеснічэнка, Ігольнікаў, абазначаюць чалавека па родзе дзейнасці.*

*г) Язычніцкае імя Воўк выражала толькі адмоўную ацэнку носьбіта.*

*д) Ядро прозвішчаў на -енка знаходзіцца на поўдні Міншчыны.*

27. Якія прозвішчы ўтрымліваюць фанетычныя рысы польскай мовы?

*а) Загурскі;*
*б) Шыдлёнак;*
*в) Грудзіс;*
*г) Сцепанян;*
*д) Венжык.*

28. Хто з даследчыкаў упершыню прапанаваў падзел прозвішчаў на першасныя і другасныя?

*а) М.В. Бірыла;*
*б) А.В. Супяранская;*
*в) У.А. Ніканаў;*
*г) Г.К. Усціновіч.*

29. Як скланяюцца прозвішчы тыпу *Харужы, Харошанькі*?

*а) як match разнаскланяльныя назоўнікі;*
*б) як прыметнікі;*
*в) як назоўнікі 2-га скланення;*
*г) не скланяюцца ўвогуле.*

30. У антрапаніміі якіх славянскіх народаў першасныя прозвішчы займаюць значнае месца?

*а) рускія;*
*б) балгары;*
*в) беларусы;*
*г) палякі;*
*д) украінцы.*

31. Якія прозвішчы маюць у сваім складзе неславянскія фарманты?

*а) Эрдман;*
*б) Скараход;*
*в) Давідсон;*
*г) Недасека;*
*д) Кандынашвілі.*

32. У якіх прозвішчах можна вылучыць па дзве прозвішчаўтваральныя ступені?

*а) Халадзілаў;*
*б) Барысенкаў;*
*в) Чарнышоў;*
*г) Фаміноў;*
*д) Лавачкін.*

33. У якіх прозвішчах выдзелены фармант мае патранімічнае значэнне?

*а) Скамарох-**аў;***
*б) Бычкоў-**скі;***
*в) Быхав-**ец;***
*г) Андрушч-**ак;***
*д) Даніл-**юк.***

34. Хто з усходнеславянскіх даследчыкаў з’яўляецца аўтарам полевага падыходу да апісання анамастычнай прасторы?

*а) В.І. Супрун;*
*б) М.В. Бірыла;*
*в) А.В. Супяранская;*
*г) У.А. Ніканаў;*
*д) У.А. Івашка.*

35. У аснове якіх прозвішчаў аберагальныя язычніцкія імёны?

*а) Найдуноў;*
*б) Траянаў;*
*в) Нянашаў;*
*г) Чарнышоў;*

*д) Бажэнаў.*

36. У якіх прыкладах пры ўтварэнні прозвішча ад тапоніма назіраецца поўнае або частковае накладанне марфем?

*а) Слуцкі;*
*б) Полацкі;*
*в) Смаленскі;*
*г) Друцкі;*
*д) Крымскі.*

37. Назавіце факультатыўныя (неабавязковыя) для кожнага чалавека антрапанімныя адзінкі

*а) прозвішча;*
*б) мянушка;*
*в) асабовае імя;*
*г) псеўданім;*
*д) імя па бацьку.*

38. Якая антрапанімная адзінка мае значэнне ‘неафіцыйнае найменне чалавека, дадзенае па яго знешніх ці ўнутраных асаблівасцях, паводзінах, характары заняткаў, пасадзе, прозвішчы і інш.’?

*а) прозвішча;*
*б) мянушка;*
*в) асабовае імя;*
*г) псеўданім;*
*д) імя па бацьку.*

39. Якія функцыі выконвалі мянушкі ў старажытнасці?

*а) намінатыўна-ідэнтыфікацыйную;*
*б) прафілактычную;*
*в) пажадальную;*
*г) эмацыянальна-экспрэсіўнай характарыстыкі.*

40. Хто аўтар “Слоўніка беларускіх псеўданімаў і крыптанімаў (XVI–XX стст.)”?

*а) В.В. Шур;*
*б) М.В. Бірыла;*
*в) Ю.А. Гурская;*
*г) Г.К.Усціновіч;*
*д) Я. У. Саламевіч.*

41. Паэтонім – гэта

*а) онім, што ўжываецца ў паэтычным тэксце;*
*б) антрапонім, які ўжываецца ў паэзіі;*

*в) онім, выдуманы паэтам;*
*г) уласнае імя мастацкага тэксту.*

42. Антрапонімы мастацкага тэксту з'яўляюцца:
*а) асобным тыпам лексічных адзінак;*
*б) праекцыяй нацыянальнага іменніка ў мастацкім тэксце;*
*в) часткай агульнай лексічнай сістэмы мовы;*
*г) адасобленай моўнай сістэмай.*

43. Узаемаадносіны антрапонімаў і мастацкага тэксту можна акрэсліць як
*а) аднаскіраваны ўплыў законаў будовы тэксту на знешнюю структуру антрапонімаў;*
*б) уплыў тэкставай семантыкі на ўнутраную форму антрапонімаў;*
*в) уплыў антрапонімаў на агульны сэнс тэксту;*
*г) двухнакіраваныя ўзаемаабумоўленыя зносіны антрапонімаў і тэксту.*

44. Сутнасць тэкставых антрапонімаў абумоўлена тым, што:
*а) аб'екты, якія называюць паэтонімы, ніколі не існавалі ў рэчаіснасці;*
*б) сэнсавая прастора тэксту адзначаецца шырокай асацыятыўнасцю*
*в) антрапонімы называюць чалавека;*
*г) дэнататы ўласных імён успрымаюцца чытачом максімальна суб'ектыўна.*

45. Энцыклапедычны ўзровень інфармацыі, што ўтрымліваецца ва ўнутранай структуры ўласнага імені, змяшчае:
*а) указанне на паняцце;*
*б) звесткі пра дэнатат іменавання;*
*в) указвае на сацыяльную сферу існавання носьбіта імені;*
*г) змяшчае звесткі пра паходжанне носьбіта імені.*

46. У семантыцы антрапоніма вылучаюцца:
*а) ядро і перыферыя;*
*б) асноўнае значэнне і асацыяцыі;*
*в) каляядзерная парстора і перыферыя;*

*г) дэнататыўны, сігніфікатыўны і прагматычны кампаненты.*

47. Толькі ва ўмовах мастацкага тэксту могуць існаваць наступныя анамастычныя адзінкі:

*а) Васіль;*
*б) Ясь;*
*в) Хмель Хмялевіч;*
*г) Муза.*

48. Прагмакампанент семантыкі антрапоніма ***Архімед*** складаецца з наступных элементаў:

*а) беларускі вучоны;*
*б) грэчаскі пісьменнік;*
*в) старажытнагрэчаскі матэматык і фізік;*
*г) аўтар шматлікіх вынаходак (архімедаў вінт, метад вызначэння складу сплаваў праз ўзважванне ў вадзе, ваенныя кідальныя машыны і інш., арганізатар інжынернай абароны Сіракуз супраць рымлян.*

49. Унутраная форма з кампанентамі "суб'ект, мужчына, славянін, жывая істота, чалавек, вядомы беларускі паэт" вылучае антрапонімы:

*а) Дунін-Марцінкевіч;*
*б) Яўгенія Янішчыц;*
*в) Лермантаў;*
*г) Багдановіч.*

50. З антрапонімаў ***Караткевіч, Міхась, У. Дубоўка, Агінскі*** ўнутранай формай адрозніваецца ад іншых онім:

*а) Караткевіч;*
*б) Міхась;*
*в) У.Дубоўка;*
*г) Агінскі.*

51. У сферы афіцыйных зносін паміж суб'ектамі ўжываюцца ўсе антрапонімы рада:

*а) Ганна Паўлаўна, Мікіта Іванавіч, Нілыч;*
*б) Алесь Адамовіч, Ян Чаховіч, Адам Міцкевіч;*
*в) Купала, Мальдзіс, Яшка;*
*г) Адам, Максім, Янка.*

52. У сітуацыі камунікацыя паміж людзьмі, якія добра ведаюць і станоўча ўспрымаюць адзін аднаго, пераважна ўжываюцца імёны тыпу:

- *а) Юрась, Зоська;*
- *б) Якаў, Іван;*
- *в) Ванька, Ясь;*
- *г) Марыля, Гануля.*

53. Узроставыя характарыстыкі дэнатата можна вылучыць ва ўнутранай форме антрапонімаў:

- *а) Мікіта Мікалаевіч;*
- *б) Мікітка;*
- *в) Марына Чаховіч;*
- *г) Ігнат Дамейка.*

54. Нацыянальны беларускі рэпертуар імён – гэта:

- *а) усе імёны, што ўжываюцца беларусамі;*
- *б) усе імёны, што ўжываюцца на тэрыторыі Беларусі;*
- *в) найбольш папулярныя імёны;*
- *г) традыцыйныя беларускія імёны.*

55. У традыцыйную сістэму нацыянальнага іменніка ўваходзяць адзінкі:

- *а) Іван, Кастусь, Мікола;*
- *б) Алесь, Янка, Сымон;*
- *в) Альберт, Максім, Святаслаў;*
- *г) Аліна, Альбіна, Ганна.*

56. Пад тэрмінам ***тэкставая функцыя*** мы разумеем:

- *а) залежнасць лексічных адзінак адна ад другой;*
- *б) ролю онімаў ва ўтварэнні страфічнай структуры тэксту;*
- *в) удзел онімаў у арганізацыі знешняй (страфічнай) і ўнутранай (сэнсавай) формы тэксту;*
- *г) рэалізацыю онімічнай семантыкі ў тэкставай прасторы.*

57. Тэкставымі функцыямі антрапонімаў з’яўляюцца:

- *а) намінатыўная функцыя;*
- *б) апелятыўная функцыя;*
- *в) функцыя загалоўка;*
- *г) функцыя анамастычнага фону.*

58. Першасная функцыя антрапонімаў ў тэксце – гэта

а) *функцыя анамастычнага фону;*
б) *функцыя загалоўка;*
в) *функцыя тэкставай вяхі;*
г) *функцыя знака сімвалічнай намінацыі.*

59. Асноўнымі семантычнымі тыпамі загалоўкаў з'яўляюцца наступныя:

а) *загалоўкі многакампанентныя;*
б) *загалоўкі метафарычнага характару;*
в) *загалоўкі з прамым сэнсавым планам;*
г) *загалоўкі невербалізаваныя.*

60. Загаловак ***Мая Адысея*** (А.Сыс) належыць да наступнага тыпу загалоўкаў:

а) *загалоўкі з прамым сэнсавым планам;*
б) *загалоўкі абагульнена сімвалічнага характару;*
в) *загалоўкі метафарычнага характару;*
г) *загалоўкі – сказы.*

61. Усе загалоўкі рада адносяцца да загаловачнага тыпу з прамым сэнсавым планам:

а) *Жывапіс побач, Навальнічнай ноччу, Світанне ў парку імя Янкі Купалы;*
б) *Апошні госць, Першае верасня, Зімовы эцюд;*
в) *Русалчына кветка, Дзічка, Госць;*
г) *Кастусь Каліноўскі, Музыка, Саламея.*

62. Функцыю тэкставай вяхі здольна выконваць уласнае імя з наступнымі характарыстыкамі:

а) *семантычная каштоўнасць;*
б) *абазначэнне галоўнага героя;*
в) *знаходжанне на перыферыі антрапанімнага поля;*
г) *здольнасць да сэнсавай трасфармацыі.*

63. Статус персанажа, што прадстаўляе онім–вяха, вызначаецца па накірунках:

а) *палавыя характарыстыкі;*

*б) арэальныя характарыстыкі;*
*в) моўныя характарыстыкі;*
*г) адзнакі сацыяльнага статусу.*

64. На ўзроўні тэкставай арганізацыі статус тэкставай вяхі пацвярджаецца:
*а) вынясеннем антрапоніма ў пазіцыю загалоўка;*
*б) паўторам оніма;*
*в) занятай пазіцыяй абсалютнага пачатку ці канца тэксту;*
*г) антрапанімнымі заменамі.*

65. Для тэкставай вяхі ***Скарына*** могуць быць уласцівы наступныя якасці:
*а) найменне асобы мужчынскага полу;*
*б) прэцэдэнтны антрапонім;*
*в) найменне асобы, якую мы добра ведаем і добра да яе ставімся;*
*г) пераважнае вынясенне ў пазіцыю загалоўка.*

66. У функцыі анамастычнага фону часцей за ўсё ўжываюцца:
*а) асабовыя імёны;*
*б) тапонімы;*
*в) прозвішчы;*
*г) мянушкі.*

67. Антрапанімны фон бывае наступных тыпаў:
*а) аднакампанентны і полікампанентны;*
*б) семантызаваны;*
*в) выразны і невыразны;*
*г) адзначаны сімвалічным сэнсавым адценнем.*

68. Асобная паэтанімная падсістэма – гэта:
*а) кола ўласных імён;*
*б) сістэма онімаў завершанага тэксту;*
*в) аб’яднанне онімаў вакол дамінанты;*
*г) уласныя імёны паэтычнага тэксту.*

69. У якасці дамінанты асобнай паэтанімнай падсістэмы могуць ужывацца:
*а) фалеронімы;*

*б) прагматонімы;*
*в) антрапонімы;*
*г) тапонімы.*

70. Больш ужывальнымі ў паэзіі з’яўляюцца асобныя паэтанімныя падсістэмы з

*а) касманімнай дамінантай;*
*б) заанімнай дамінантай;*
*в) міфанімнай дамінантай;*
*г) антрапанімнай дамінантай.*

## ПРЫКЛАДНАЯ ТЭМАТЫКА РЭФЕРАТАЎ

1. Асаблівасці ўласных асабовых імён у розныя гістарычныя перыяды.
2. Сацыялінгвістычныя і псіхалінгвістычныя фактары ў сітуацыі выбару імені пры называнні.
3. Формы і варыянты асабовых імён.
4. З гісторыі ўзнікнення і фарміравання прозвішчаў.
5. Асаблівасці ўсходнеславянскіх антрапонімаў з адмоўем *не-*.
6. Прозвішчы як люстэрка сувязей беларусаў з іншымі народамі.
7. Імёны па бацьку: спецыфіка, прычыны і час узнікнення, асаблівасці ўтварэння і ўжывання.
8. Мянушкі людзей як спецыфічны від антрапанімных адзінак.
9. Асаблівасці псеўданімаў.
10. Спецыфіка анамастычнай намінацыі.
11. Імя і грамадства.
12. Класіфікацыі імён уласных.
13. Спецыфіка семантыкі ўласных імён.
14. Анамастычнае поле беларускай мовы.
15. Анімізацыя, апелятывацыя, трансанімізацыя як спосабы ўтварэння новых слоў.
16. Аманімія, полісемія, сінанімія, антанімія ў анамастыцы.
17. Запазычанае імя ў мове, якая яго прымае.
18. Імёны ў розных соцыумах і ў розных моўных падсістэмах.
19. Сінхранія і дыяхранія ў анамастыцы.
20. Беларуская анамастычная лексікаграфія.
21. Гісторыя вывучэння анамастыкі Беларусі.
22. Уклад М.В. Бірылы ў навуку аб уласных імёнах.
23. Антрапанімічная спадчына Г.К.Усціновіч.
24. Імёны і імяніны.
25. Імёны-кампазіты.
26. Гісторыя жаночых імён на Беларусі.
27. Уплыў моды на выбар імені.
28. Штучныя імёны савецкай эпохі.
29. Імёны, якія выконваюць засцерагальную функцыю.
30. Спецыфіка іменніка стараверaў.
31. Асаблівасці называння каляндарнымі імёнамі.
32. Тыпалогія псеўданімаў.
33. Імёны-мянушкі сваёй вёскі.

34. Дынаміка іменніка сваёй вёскі.
35. Імяннік свайго раёна ў сацыялінгвістычным аспекце.
36. Крытэрыі выбару імені нованароджанаму.
37. Фактары, што ўплываюць на чалавека ў сітуацыі выбару імені.
38. Традыцыі надання імені ў славян у язычніцкі і хрысціянскі перыяды.
39. Тыпы двухімённасці ў славян.
40. Таямніцы імён і абрадаў.
41. Антрапаніміка як раздзел анамастыкі.
42. Славянскі іменаслоў X–XVII стст.
43. Метады і прыёмы даследавання антрапанімнага матэрыялу.
44. Сутнасць новых тэорый пра ўплыў імені на характар і лёс чалавека.
45. Антрапанімныя формулы.
46. Паходжанне імён.
47. Антрапанімія на старонках беларускай перыёдыкі.
48. Антрапанімнае поле беларускай мовы.
49. Слоўнікі беларускіх асабовых імён.
50. Сельскі і гарадскі антрапанімікон: падабенства і адрозненні.

## АДКАЗЫ ДА ТЭСТАЎ

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| **1.** в, д | **15.** а1, б3, в2, г4 | **29.** б | **43.** г | **57.** в, г |
| **2**. а, в | **16.** а, в | **30.** в, г, д | **44.** а, б, г | **58.** б |
| **3.** б, в | **17.** а, в, д | **31.** а, в, д | **45.** в, г | **59.** б, в |
| **4.** в, д | **18.** а2, б4, в3, г1 | **32.** б, г | **46**. а, г | **60.** в |
| **5.** д | **19.** а2, б1, в5, г3 | **33.** а, г, д | **47.** в, г | **61.** а, б |
| **6.** в | **20.** а1, б4, в2, г3 | **34.** а | **48.** в, г | **62.** а, б, г |
| **7.** а, в | **21.** д | **35. а**, в, г | **49.** г | **63.** а, б, г |
| **8.** а, в, г | **22.** б, в, д | **36. а**, б, в, г | **50.** б | **64.** а, в |
| **9.** б, г | **23.** а, б, в | **37.** б, г | **51.** б | **65.** а, б, г |
| **10**. а3, б4, в1, г5 | **24.** а, г | **38.** б | **52.** а | **66.** б |
| **11.** а2, б1, в4, г3 | **25.** б, в, д | **39.** а, б, в | **53.** а, б | **67.** а, б, г |
| **12.** а3, б4, в1, г2 | **26.** б, г, д | **40.** д | **54.** а, г | **68.** б, в |
| **13.** а2, б3, в1, г4 | **27.** а, б, д | **41.** а, г | **55.** а, б | **69.** в, г |
| **14.** а2, б3, в4, г1 | **28.** а | **42.** а, б | **56.** в | **70.** г |

# ЛІТАРАТУРА ПА БЕЛАРУСКАЙ АНТРАПАНІМІЦЫ

1. Абрамович, С.А. Еврейские фамилии прозвищного характера / С.А. Абрамович // От слова к тексту: материалы докл. междунар. науч. конф., Минск, 13 – 14 ноября 2000 г.: В 3 ч. Ч. 1 / Отв. редактор Н. П. Баранова. – Минск: МГЛУ, 2000. – С. 62–64.

2. Анамастычны слоўнік твораў Якуба Коласа / Склад. Г. У. Арашонкава і інш.; Пад рэд. М. В. Бірылы. – Мінск: Навука і тэхніка, 1990. – 638 с.

3. Антропонимика.– Москва, 1970. – 278 с.

4. Барыс, Сымон. Беларускія імёны: Дапам.для маладых бацькоў / Сымон Барыс. – Мінск: Тэхналогія, 2001. – 16 с.

5. Басава, Г.І. Літаратурныя антрапонімы як элемент “анамастычнай прасторы твора” / Г.І. Басава // Беларуская мова ў другой палове ХХ ст.: матэрыялы Міжнар.навук.канф. (22–24 кастр. 1997 г.) / Беларус.дзярж.ун-т. – Мінск, 1998. – С. 225–228.

6. Басава, Г. “Ні сюды Мікіта, ні туды Мікіта”: Уласнае імя як носьбіт нацыянальнага кампанента значэння слова / Г. Басава // Роднае слова. – 2001. – № 10. – С. 40–41.

7. Беларуская анамастыка: зб. арт. – Мінск: Навука і тэхніка, 1977, 1981, 1985, 1993.

8. Белей, Л.Е. Словообразовательное варьирование личных имен в восточнославянских языках / Л.Е. Белей // Словообразование и номинативная деривация в славянских языках: тез. докл. III респ. конф. – Гродно: ГрГУ, 1989. – Ч.2. – С. 121–123.

9. Бірыла, М.В. Беларускія антрапанімічныя назвы ў іх адносінах да антрапанімічных назваў іншых славянскіх моў (рускай, украінскай, польскай) / М.В. Бірыла. – Мінск: Выд-ва Акадэміі навук БССР, 1963. — 58 с.

10. Бірыла, М.В. Беларуская антрапанімія 1: Уласныя імёны, імёны-мянушкі, імёны па бацьку, прозвішчы / М.В. Бірыла.— Мінск: Навука і тэхніка, 1966. — 328 с.

11. Бірыла, М.В. Беларуская антрапанімія 2: Прозвішчы, утвораныя ад апелятыўнай лексікі / М.В. Бірыла. –- Мінск: Навука і тэхніка, 1969. — 508 с.

12. Бірыла, М.В. Беларуская антрапанімія 3: Структура ўласных мужчынскіх імён / М.В. Бірыла. – Мінск: Навука і тэхніка, 1982. — 320 с.

13. Бірыла, М.В. Тыпалогія і геаграфія славянскіх прозвішчаў. Даклады Х Міжнароднага з’езда славістаў / М.В. Бірыла. – Мінск: Навука і тэхніка, 1988. — 63 с.

14. Бірыла, М.В. Усходнеславянскія антрапонімы з адмоўем не- тыпу Невер, Непосед, Недвига, Недомолва / М.В. Бірыла // Беларуская анамастыка. – Мінск: Навука і тэхніка, 1977. — С. 128–159.

15. Бірыла, М.В. Усходнеславянскія антрапонімы з адмоўем не- тыпу Неждан, Недбай, Небаба, Некрас, Неваш, Нетреба / М.В. Бірыла // Беларуская анамастыка. – Мінск: Навука і тэхніка, 1981. — Вып. 2. — С. 4–27.

16. Бірыла, М.В. Літоўскія элементы ў беларускай анамастыцы: Даклады VI Міжнароднага з'езда славістаў / М.В. Бірыла, А.П. Ванагас. – Мінск: Навука і тэхніка, 1968. — 100 с.

17. Бугай, Т.П. Спалучальнасць уласных імёнаў з дзеясловамі ў мастацкіх творах (на матэрыяле рамана Ф.М. Дастаеўскага «Браты Карамазавы») / Т.П. Бугай // Веснік БДУ. Сер. 4. – Мінск, 1995. – № 1. – С. 40-43.

18. Бут-Гусаім, С.Ф. Мянушка як сродак аб'ектывуючага адчужэння суб'екта ў беларускай мове / С.Ф. Бут-Гусаім // Славянские языки: системно-описательный и социокультурный аспекты исследования: материалы междунар.науч.-метод.конф., Брест, 17–18 ноября 2005 г. – Брест: БрГУ, 2006. – С. 3-6.

19. Бут-Гусаим, С. Польские элементы в антропонимии Брестчины / С.Бут-Гусаим // Беларуска-руска-польскае супастаўляльнае мовазнаўства, літаратуразнаўства, культуралогія: мат-лы V міжнар. навук. канф. / пад агульн. рэд. Л.М. Вардамацкага, А.М. Мезенкі. – Віцебск: Выд-ва ВДУ імя П.М. Машэрава, 2000. – С. 13 – 15.

20. Веселовский, С.Б. Ономастикон: Древнерусские имена, прозвища и фамилии / С.Б. Веселовский. – Москва: Наука, 1974. -- 382 с.

21. Гапоненка, І. Беларускі іменаслоў перыяду першага беларускага адраджэння: Каталіцкія і праваслаўныя імёны / І. Гапоненка // Роднае слова. – 2001. – № 10. – С. 42–44.

22. Гілевіч, Н.І. Аб адным тыпе антрапонімаў / Н.І. Гілевіч // Беларуская мова. – 1980. – Вып. 8. – С. 35-41.

23. Гируцкий, А.А. Белорусские антропонимы и их дериваты в русскоязычной художественной литературе / А.А. Гируцкий // Словообразование и номинативная деривация в славянских языках: тез. докл. III республ. конф. – Гродно, 1989. – Ч. I. – С. 141--143.

24. Гируцкий, А.А. Тайна имени / А.А. Гируцкий. – Минск: Тэхналогія, 1996. – 128 с.

25. Грынавецкене, А.І. Прозвішчы і мянушкі ў курапольскай гаворцы беларускай мовы / А.І. Грынавецкене // Беларуская анамастыка. – Мінск: Навука і тэхніка, 1977.— С. 160–169.

26. Грынблат, М.Я. Анамастыка як крыніца вывучэння гісторыі і этнаграфіі беларускага народа (на матэрыялах беларускіх прозвішчаў) / М.Я. Грынблат // Матэрыялы да IV Міжнароднага з'езда славістаў. – Мінск: Навука і тэхніка, 1958. — С. 3--23.

27. Грынблат, М.Я. Беларуска-латышскія сувязі ў тапаніміі і антрапаніміі БССР / М.Я. Грынблат // Беларуская анамастыка. – Мінск: Навука і тэхніка, 1977. — С. 43--49.
28. Гурская, Ю.А. Белорусские двучленные имена собственные через призму языковой и концептуальной картины мира / Ю.А. Гурская // Весці БДПУ. Сер. 1. Педагогіка. Псіхалогія. Філалогія. – 2007. – № 4. – С. 71-74.
29. Гурская, Ю.А. Белорусские культурно-значимые имена собственные: типология, ареальное распространение / Ю.А. Гурская // Веснік Гродзенскага дзярж.ун-та імя Янкі Купалы. Сер. 1. Гісторыя. Філасофія. Паліталогія. Сацыялогія. – 2004. – № 3 (27). – С. 102-112.
30. Гурская, Ю.А. Имена собственные Минщины с древними антропоосновами (ареальный аспект) / Ю.А. Гурская // Веснік БДУ. Сер. 4. Філалогія. Журналістыка. Педагогіка. – 2002. – № 1. – С. 84-90.
31. Гурская, Ю.А. Имя собственное в белорусской наивной картине мира / Ю.А. Гурская // Известия Гомельского государственного университета им. Ф. Скорины. – 2007. – № 3 (42). – С. 22–26.
32. Гурская, Ю.А. История фамилии одного шляхетского рода Гродненщины в лингвокогнитивном аспекте: Эйсмонты / Ю.А. Гурская // Весці БДПУ. Сер. 1. Педагогіка. Псіхалогія. Філалогія. – 2007. – № 3. – С. 87–91.
33. Гурская, Ю.А. Канцэптуалізацыя імя ўласнага: вобраз Рагнеды ў розных тыпах тэксту / Ю. Гурская // Роднае слова. – 2005. – № 8. – С. 22–25.
34. Гурская, Ю.А. Ключавыя ўласныя імёны і ідыястыль / Ю.А. Гурская // Веснік Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Серыя 4. – 1993. -- № 2. – С. 41–44.
35. Гурская, Ю.А. Культурогенные возможности лингвистического знака: ключевые имена в русском и белорусском языках: автореф. дис. ... канд. филол.наук / Ю.А. Гурская: 10.02.01, 10.02.02 / Белорусский гос. ун-т. — Минск, 1995. — 22 с.
36. Гурская, Ю.А. Личное имя: номинация и коннотация / Ю.А. Гурская // Словаўтварэнне і намінатыўная дэрывацыя ў славянскіх мовах. Матэрыялы IV рэсп.навук.канф. (15-16 верасня 1992 г.) – Гродна, 1992. – С. 60–61.
37. Гурская, Ю.А. Профилирование как метод исследования имени собственного / Ю.А. Гурская // Весці БДПУ. Сер. 1. Педагогіка. Псіхалогія. Філалогія. – 2007. – № 1 (51). – С. 80–85.
38. Гурская, Ю.А. Словарь имён собственных в поэзии М.Богдановича: [ок. 200 слов] / Ю.А. Гурская. – Минск: Ротапринт БГПУ им. М. Танка, 1997. – 64 с.
39. Деревяго, А.Н. Имя как средство создания ономастического фона художественного произведения и опознавательный знак факультативного характера / А.Н. Деревяго // Славянская гидронимия в

ареальном, этимологическом, хронологическом, словообразовательном и семантических аспектах: Материалы докл. Междунар. науч. конф., 21-22 ноября 2003 г., Гомель. – Гомель: УО "ГГУ им. Ф. Скорины", 2002. – С. 67-75.

40. Деревяго, А.Н. Имя собственное в поэзии: роль в понимании поэтического текста / А.Н. Деревяго // Текст в лингвистической теории и методике преподавания филологических дисциплин: материалы II Междунар. науч. конф., 26-28 марта 2003 г., Мозырь: В 2 ч. Ч. 2. – Мозырь: УО "МГПУ", 2003. – Ч. 2 . – С. 57–59.

41. Деревяго, А.Н. Мифонимы как конструкты семантики поэтического текста / Анна Деревяго // VII Міжнар.навук.канф. «Беларуска-руска-польскае супастаўляльнае мовазнаўства, літаратуразнаўства, культуралогія»: зб.навук.арт. / пад агульн.рэд. Г.М. Мезенка. – Віцебск, 2006. – С. 311–313.

42. Деревяго, А.Н. Ономастикон поэзии В.Короткевича и Н.Гумилева / А.Н. Деревяго // Республиканская научная конференция студентов и аспирантов Беларуси «НИРС-2001»: Тез.докл.: В 2 ч. – Витебск, 2002. – Ч. 2. – С. 191–192.

43. Деревяго, А.Н. Потенциал имени собственного и художественный текст: основные подходы к изучению литературных онимов / А.Н. Деревяго // А.Н. Деревяго // Веснік ВДУ імя П. М. Машэрава. – 2007. – №3 (45). – С. 70–75.

44. Деревяго, А.Н. Функция текстовой вехи как доминантная реализация имени собственного в художественном тексте / А.Н. Деревяго // Веснік Мазырскага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта. – 2005. – №1 (12). – С.66–71.

45. Деревяго, А.Н. Частные поэтонимные подсистемы в поэзии / А.Н. Деревяго // Белорусско-русско-польское сопоставительное языкознание, литературоведение, культурология: Материалы VII научной конференции, май 2003 г., Витебск: В 2 ч. Ч. 2. – Витебск: УО "ВГУ им. П.М. Машерова", 2003. – С.17–21.

46. Івашка, У. Некаторыя актуальныя пытанні беларускай антрапанімікі / У.Івашка // Дыялекталогія і культура беларускай мовы: тэз. рэсп. навук.-практ. канф., 10-11 снеж. 1991 г. / рэдкал.: Э. Д. Блінава, І. Я. Яшкін. – Мінск, 1991. — 223 с.

47. Ивашко, В.А. Как выбирают имена / В.А. Ивашко / под ред. А.Е. Супруна. – 2-е изд., доп. -- Минск: Выш.шк., 1988. — 239 с.

48. Ивашко, В.А. Социолингвистический и психолингвистический анализ ситуации выбора имени при наречении: автореф. дис. ... канд. филол.наук / В.А. Ивашко: 10.02.19 / Белорусский гос. ун-т. — Минск, 1978. — 20 с.

49. Капытка, У.А. Ацэнка мовы і вымаўлення асобы ў мянушках Гомельшчыны / У.А. Капытка // Веснік БДУ. Сер. 4. – 1990. – № 2. – С. 34–36.

50. Клюсов, Г.Н. Белорусско-русские параллели в передаче личных имен / Г.Н. Клюсов // Русский язык: межвед.сб. – Минск, 1982. – Вып. 2. – С. 38–57.
51. Ковадло, Л.Я. Слово – тайна тысячелетий / Л.Я. Ковадло. – Минск: Тесей, 2004. – 304 с.
52. Копытко, В.А. О вариантности личных собственных имен Гомельщины / В.А. Копытко // Региональные особенности восточнославянских языков, литератур, фольклора и методы их изучения. – Гомель, 1985. – Ч. 1. – С. 106–107.
53. Копытко, В.А. Типология номинации (на примере одного класса антропонимов): автореф. дис. ... канд. филол.наук / В.А. Копытко: 10.02.19 / Белорусский ордена Трудового Красного Знамени государственный ун-т им. В.И.Ленина. – Минск, 1990. – 18 с.
54. Крыўко, М.Н. З антрапаніміі Дзісеншчыны (функцыянальны аспект) / М.Н. Крыўко // Беларуская анамастыка. – Мінск, 1992. – С. 5–25.
55. Кузьміч, Л.П. Семантычныя асаблівасці мужчынскіх асабовых намінацый у беларускім паэтычным фальклоры / Л.П. Кузьміч // Словообразование и номинативная деривация в славянских языках: тез. докл. III республ. конф. – Гродно, 1989.– Ч. 2. – С. 48–50.
56. Кураш, И.Я. Динамические изменения в именнике старообрядцев Витебщины как отражение социокультурных процессов / И.Я. Кураш // Славянские языки: системно-описательный и социокультурный аспекты исследования. Ч. 2. – Брест, 2005. – С. 21–25.
57. Кураш, И.Я. Особенности именной системы старообрядцев в свете религиозных традиций / И.Я. Кураш // XII (59) научная сессия преподавателей, научных сотрудников и аспирантов университета: сборник статей. – Витебск, 2007. – С. 186–189.
58. Кураш, И.Я. Старообрядческие фамилии с антропонимами в основе / И.Я. Кураш // Надзённыя праблемы лексалогіі і анамастыкі славянскіх моў: зб.навук.арт. – Мазыр: УА «МДПУ», 2006. – С. 171–173.
59. Кураш, И. Структурные типы фамилий старообрядцев / И. Кураш // VII Міжнар.навук.канф. «Беларуска-руска-польскае супастаўляльнае мовазнаўства, літаратуразнаўства, культуралогія»: зб.навук.арт. / пад агульн.рэд. Г.М. Мезенка. – Віцебск, 2006. – С. 327–330.
60. Кураш, И.Я. Фонетическая адаптация личных собственных имен старообрядцев / И.Я. Кураш // Веснік ВДУ. – 2005. -- № 4. – С. 75–79.
61. Кураш, И.Я. Характер влияния языкового окружения на именник старообрядцев // И.Я. Кураш // Теоретические и прикладные проблемы русской филологии. – Славянск: СПГУ, 2005. – С. 147–153.

62. Лобань, Н. “Лёсу кірунак, долі выснова”: Уласнае імя ў мастацкім тэксце / Н. Лобань // Роднае слова. – 2001. – № 12. – С. 38–41.

63. Лобань, Н.П. Які Рыгорка, такая пра яго й гаворка: Мянушка як сродак выражэння ацэнкі і характарыстыкі літаратурнага персанажа / Н.П. Лобань // Роднае слова. – 1999. – № 7. – С. 61–67.

64. Лукашанец, А. Лакальная сістэма ўласных асабовых імён / А.Лукашанец // Studia Sławistyczne 1: Nazewnictwo na pograniczach etniczno-językowych. – Białystok, 1999. – S. 186 – 198.

65. Лукашанец, А. Родавыя (спадчынныя) найменні ў сістэме мясцовага анамастыкону / А.Лукашанец // Studia Sławistyczne 2: Nazwy osobowe na pograniczach kulturowych. – Białystok: Libra, 2000. – S. 89–97.

66. Лучыц-Федарэц, І.І. Аб напісанні чэшскіх і славацкіх уласных імён па-беларуску / І.І. Лучыц-Федарэц // Беларуская лінгвістыка. – 1985. – Вып. 27. – С. 55–62.

67. Ляшкевіч, В.М. Дахрысціянскія імёны Віцебшчыны XVI – XVIII стст. / В.М. Ляшкевіч // Беларуска-руска-польскае супастаўляльнае мовазнаўства, літаратуразнаўства, культуралогія: мат-лы VI Міжнар. навук. канф. / пад агульн. рэд. Л.М. Вардамацкага, А.М. Мезенкі. – Віцебск: Выд-ва ВДУ імя  П.М. Машэрава, 2003. – Ч. 2.  – С. 38 – 40.

68. Ляшкевіч, В.М. Імя-мянушка як крыніца экстралінгвістычнай інфармацыі / В.М. Ляшкевіч // Веснік Віцебскага дзяржаўнага універсітэта, 2004. – № 3 (33). – С. 92 – 96.

69. Ляшкевіч, В.М.  Імя па бацьку – прозвішча: да праблемы размежавання / В.М. Ляшкевіч // Славянский мир и славянские культуры в Европе и мире: место и значимость в развитии цивилизации и культур (история, уроки, опыт и современность): материалы междунар.научно-теоретич.конф. Ч. 2,  31  октября – 1 ноября 2002 г. / УО “Витебский госуниверситет им. П.М.Машерова”. – Витебск: Издательство  ВГУ им.  П.М.Машерова, 2002. – С. 126 – 128.

70. Ляшкевіч, В.М. Які Сава, такая і слава / В.М. Ляўкевіч // Беларуска-руска-польскае супастаўляльнае мовазнаўства, літаратуразнаўства, культуралогія: зб.навук.арт. VII Міжнар.навук.канф. – Віцебск, 2006. – С. 336–338.

71. Ляшчынская, В. Антрапанімічная лексіка ў паэзіі Янкі Купалы: Імёны рэальных гістарычных асоб / В.Ляшчынская // Роднае слова. – 2002. – № 10. – С. 24–26.

72. Ляшчынская, В.А. Слова ў паэзіі Янкі Купалы / В.А. Ляшчынская; Навук.рэд. А.І. Падлужны. – Мінск: Бел.навука, 2004. – 272 с.

73. Макаранка, З.І. Уласныя асабовыя імёны Брэсцкага раёна / З.І. Макаранка, І.А. Шумская // Беларуская анамастыка. – Мінск, 1985. – С. 26–32.

***перары'вістага выкарыста'ння*** – імя, актыўнасць выкарыстання якога змяняецца на розных храналагічных зрэзах.

***ра'завага выкарыста'ння*** – імя, якое не ўваходзяць ў склад пастаяннага антрапанімнага рэпертуару, ужываюцца аднойчы і не паўтараюцца зноў.

***рэдкае*** – імя, якое даюць людзям вельмі рэдка ў дадзены час, у пэўным моўным калектыве.

***старажытнаславя'нскае*** – імя, запазычанае са старажытнаславянскай мовы.

***традыцыйнае*** – імя, якое даюць чалавеку па традыцыі, часам у гонар якой-небудзь шаноўнай асобы, што насіла гэта імя, або ў гонар старэйшых членаў сям’і.

***уласнае*** – тое ж, што онім ((гл.).

***устойлівае*** – імя, якое характарызуецца канстантным прадстаўніцтвам у складзе антрапанімнага рэпертуара.

***хрэ'снае*** – імя, дадзенае пад час хрышчэння.

***царко'ўнае*** – імя, якое фіксуецца ў праваслаўных святцах.

***ча'стае (папуля'рнае)*** – імя, якое часцей за астатнія ўдзельнічае ў працэсе іменавання.

***штучнае*** – імя, створанае шляхам поўнага ці частковага скарачэння некалькіх слоў з наступным аб’яднаннем іх частак у адно цэлае.

***язычніцкае*** – некананічнае імя, звязанае з перыядам першабытных рэлігійных вераванняў і культаў у розных народаў, якое працягвала існаваць і пасля ўвядзення сусветных рэлігій, побач з кананічнымі імёнамі (*Ждан, Люб, Крывец*).

**Імя-мяну'шка** – асабовае некалендарнае імя (гл.), якое ўзнікла ў мінулым найчасцей ад мянушкі; выконвала функцыю дадатковага імені не толькі ў маўленні, але і ў афіцыйных пісьмовых помніках.

**Імяда'ўца –** той, хто надае імя.

**Імянні'к** – гл. Антрапанімікон 2.

***ідэальны*** – імяннік, які складаецца аўтарам для называння выдуманых асоб і вобразаў па прыкладзе і на аснове рэальна існуючага іменніка.

**Імяннік беларусаў** – сукупнасць уласных імён, якія складаюць больш-менш канстантны па складзе рэпертуар называння беларусаў.

**Каляя'дзерная структу'ра** – адна са структур палевай арганізацыі анамастычнага поля, што знаходзіцца непасрэдна каля ядзернай структуры.

**Крыптані'м** (таемнае імя) – зашыфраванае любое ўласнае імя, якое хаваюць. Напрыклад, горад Арол пад час вайны ў ваенных зводках хаваўся за н.п.Н.

**Матро'нім** – найменне чалавека, утворанае ад імені ці мянушкі маці. Напрыклад, *Галінін, Барысішын*.

**Матыва'цыя іменава'ння –** выкарыстанне пэўных матываў пры іменаванні.

**Маты'ў вы'бару і'мені –** тое, што  падахвочвае, прымушае выбіраць імя.

**Мяну'шка** – дадатковае неафіцыйнае імя, дадзенае чалавеку іншымі людзьмі ў адпаведнасці з яго характэрнай рысай, жыццёвымі абставінамі, па якой-небудзь аналогіі, паходжанні і іншых матывах.

***адпро'звішчная*** – від антрапоніма (гл.). Мянушка, утвораная ад прозвішча.

***адыме'нная*** – від антрапоніма (гл.). Мянушка, утвораная ад асабовага імені.

***групава'я*** – від групавога антрапоніма (гл.). Мянушка, дадзеная групе людзей, сям'і, роду, паселішчу, этнічнай групе.

***індывідуа'льная*** – від антрапоніма (гл.). Мянушка, дадзеная аднаму чалавеку.

***простая*** – від антрапоніма (гл.). Аднаслоўная мянушка, якая мае адзін корань.

***радавáя*** – від групавой мянушкі. Мянушка, замацаваная за прадстаўнікамі рода, якая перадаецца з пакалення ў пакаленне.

***састаўная*** – від антрапоніма (гл.). Мянушка, якая складаецца з двух і больш слоў. Пр.: *Кашмар Іванаўна, Дурны Глаз.*

***складаная*** – від антрапоніма (гл.). Аднаслоўная мянушка, якая мае два і больш карані. Пр.: *Мазгалом, Шлёп-Нага, Браты-Пілоты*

***сямейная*** – від групавога антрапоніма (гл.). Мянушка, замацаваная за прадстаўнікамі сям'і.

**Мянушка-абрэвіятура** – від антрапоніма (гл.). Мянушка, утвораная шляхам абрэвіяцыі. Пр.: *ЕВА* (Елкіна Вера Аляксандраўна).

**Мянушка-адэльфонім** – від антрапоніма (гл.). Мянушка брата па імёні, мянушцы брата ці сястры або найменне сястры па імені, мянушцы брата (іншай сястры).

**Мянушка-андронім** – від антрапоніма (гл.). Мянушка, дадзеная жонцы па імені, мянушцы або прозвішчы мужа.

**Мянушка-гінонім** – від антрапоніма (гл.). Мянушка, утвораная ад імні, прозвішча або мянушкі жонкі.

**Мянушка-матронім** – від антрапоніма (гл.). Мянушка, дадзеная ад імені ці мянушкі маці.

**Мянушка-патронім** – від антрапоніма (гл.). Мянушка, утвораная ад імені ці мянушкі бацькі або продкаў па мужчынскай лініі.

**Но'сьбіт і'мені –** чалавек ці аб'ект, якому належыць тое ці іншае імя.

**О'нім –** тое, што і ўласнае імя; слова, словазлучэнне або сказ, якія служаць для вылучэння называнага ім аб'екта сярод іншых аб'ектаў; яго індывідуалізацыі і ідэнтыфікацыі; у тым ліку антрапонім, тапонім, заонім, фітонім і інш.

**Патро'нім (патрані'мнае імя)** – від антрапоніма. Найменне чалавека, утворанае ад імені ці мянушкі бацькі або продкаў па бацькоўскай лініі. Напрыклад, *Андрэеў сын*.

**Паэто'нім,** ці **тэ'кставы о'нім** – уласнае імя, што ўжываецца і набывае свае асаблівыя прыкметы ў межах мастацкага тэксту.

**Паэты'чная мадэ'ль све'ту** – мадэль свету, якая складаецца ў мысленні аўтара і чытача падчас успрымання мастацкіх тэкстаў, дзе паэтычная карціна свету ўвасабляецца ў сістэме вобразаў, ідэй, тэм.

**Паэты'чная сістэ'ма** – сістэма паэтычных тэкстаў, а таксама паэтычнае светабачанне аўтара, якое ўвасабляецца ў тэкстах.

**Перыферы'йная структу'ра** – адно са структурных збудаванняў анімічнай сістэмы, якое абагульняе аддаленыя ў адносінах да ядра адзінкі.

**Прагматы'чны кампане'нт сема'нтыкі** – кампанент семантыкі, які складаецца са шматлікіх суб’ектыўных адценняў значэння, з асацыяцый, што ўзнікаюць на аснове аб’ектыўнай інфармацыі пра дэнатат іменавання.

**Прэцэдэ'нтнае імя'** - імя, шырока вядомае суадносна з пэўным вядомым тэкстам ці камунікатыўнай сітуацыяй.

**Про'звішча** – спадчыннае афіцыйнае найменне, якое паказвае на прыналежнасць чалавека да пэўнай сям’і. Напрыклад, *Лужанін, Старадубаў*.

***адапеляты'ўнае*** – прозвішча, якое мае ў якасці зыходнай асновы апелятыў (*Бегуноў*, *Старавойтаў*, *Шапко*).

***ад’екты'ўнае*** – прозвішча, якое па форме супадае з прыметнікам. Напрыклад, *Гладкі, Харошанькі, Чорны, Шчаслівы*.

***адтапані'мнае*** – прозвішча, якое мае ў якасці зыходнай асновы тапонім (*Браслаўскі*, *Баркоўскі*).

***адыме'ннае*** – прозвішча, якое мае ў якасці зыходнай асновы асабовае імя (*Багданаў*, *Гаўрышэнка*).

***дру'гаснае*** – прозвішча, утворанае шляхам далучэння прозвішчаўтваральных фармантаў да імён ці іх форм, мянушак або тапонімаў. Напрыклад, *Маісеенка, Васючэнка, Рыбакоў, Жылінскі*.

***пе'ршаснае*** – прозвішча, утворанае ад уласнага асабовага імёні або мянушкі без далучэння прозвішчаўтваральных фармантаў. Напрыклад, *Максім*, *Крук, Качан.*

***субстанты'ўнае*** – прозвішча, якое па форме супадае з назоўнікам-апелятывам (*Ціхоня, Гарбель, Валасач*) або ўласным асабовым іменем ці яго формай (*Ісай, Пілат, Валодзька, Пронька*).

**Прозвішчны тып**

***агульнаславя'нскі*** **–** тып прозвішчаў, характэрных для ўсіх славянскіх моў. Напрыклад, тып на *-оў/-еў/-аў, -ін/-ын*, тып на *-скі/-цкі*.

***унутрымо'ўны*** – тып прозвішчаў, характэрных для адной мовы. Напрыклад, для беларускай мовы ўласцівы тып на *-онак/-ёнак,* тып на *-еня/-эня*.

***усходнеславя'нскі*** **–** тып прозвішчаў, характэрных для моў усходніх славян. Напрыклад, тып на *-енка/-энка/-анка,* тып на *-ук/-юк, -чук*.

**Псеўдаандро'нім** – мужчынскае імя, выкарыстанае ў якасці псеўданіма жанчынай (напрыклад, *Мацей Крапіўка, Гаўрыла, Гаўрыла з Полацка* – Алаіза Пашкевіч, *Адам Шкіляр* – Ванда Лявіцкая).

**Псеўдагіні'м** – жаночае імя, выкарыстанае ў якасці псеўданіма мужчынам (напрыклад, *Ганна Аршыца* – Уладзімір Дубоўка, *Алеся Гаротная* – Аляксандр Шлюбскі).

**Псеўдані'м –** від антрапоніма (гл.).

***абагульня'льны –*** сапраўднае імя і прозвішча аўтара заменены ўказаннем на яго нацыянальнасць (напр.: *Беларус* – П. Дземідовіч); тэрытарыяльную прыналежнасць (напр.: *Сімяон Полацкі* – С. Пятроўскі-Сітніяновіч); сацыяльнае становішча (напр.: *Бэйгар* – З. Жылуновіч); партыйнасць (напр.: *Беларус-Камуніст* – З. Жылуновіч); спецыяльнасць, пасаду, работу (напр.: *Старый педагог* – Я. Карскі); факты біяграфіі, асаблівасці творчасці і стылю (напр.: *Алесь Гарун, Сумны* – А. Прушынскі).

***ула'сна псеўдані'м*** (сапраўдны псеўданім), або **фіктонім** – форма, якая стварае поўнае ўражанне імя і прозвішча аўтара. Напрыклад, *Янка Купала, Марка Бяздольны* (І. Луцэвіч), *Якуб Колас, Тамаш Булава, Тарас Гушча* (К. Міцкевіч).

**Семанты'чнае по'ле** – іерархічная структура мноства лексічных адзінак, аб'яднаных агульным (інварыянтным) значэннем, якія адлюстроўваюць у мове пэўную паняційную сферу.

**Семанты'чная структу'ра ўла'снага і'мені** – структура семнтыкі ўласнага імені, якая складаецца з дэнататыўнага, сігніфікатыўнага і прагматычнага кампанентаў.

**Сігніфікаты'ўны кампане'нт сема'нтыкі і'мені** – кампанент семантыкі, які суадносіцца з сігніфікатам, з тым паняццем, якое апасродкавана ўвасабляецца ў анімічнай адзінцы.

**Стэрэаты'пы называ'ння** – схематычныя, стандартызаваныя вобразы або ўяўленні пра сацыяльную з'яву называння. Адлюстроўваюць звычныя адносіны чалавека да надання імені, якія склаліся пад уздзеяннем сацыяльных умоў і папярэдняга вопыту.

**Сэ'нсавыя і страфі'чныя даміна'нты** – лексічныя (анімічныя) адзінкі, якія выконваюць вызначальную ролю ў сэнсавай і страфічнай арганізацыі тэксту.

**Сярэ'дні каэфіцые'нт аднайме'ннасці** – колькасная велічыня, якая характарызуе антрапанімікон і атрымліваецца ад дзялення колькасці нованароджаных на колькасць імён.

**Трады'цыі іменава'ння** – элементы сацыяльнай і культурнай спадчыны аддаваць перавагу тым ці іншым адзінкам ці структурным мадэлям пры іменаванні, якія перадаюцаа з пакалення ў пакаленне і захоўваюцца ў пэўных сацыяльных групах на працгу доўгага часу.

**Трансаніміза'цыя** – пераход оніма аднаго разрада ў другі. Напрыклад, астронім *Венера* → асабовае імя *Венера*, прозвішча *Кіраў* → пасёлак *Кіраў*.

**Тэ'кставая архітэкто'ніка** – знешні бок арганізацыі тэксту.

**Ула'снае імя**'– тое ж, што онім (гл.).

**Фармант**

***антрапанімічны*** – афіксальны элемент антрапоніма, у тым ліку антрапанімны суфікс, флексія (Мар-*уся*).

***матранімічны*** – афіксальны элемент матроніма (Дун-*ін*, Наталь-*ін*).

***патранімічны*** – афіксальны элемент патроніма (Мікіт-*аў,* Алекся-*ёнак,* Федар-*эц*).

***прозвішчаўтваральны*** – фінальны элемент прозвішча, які далучаўся да асновы асабовага імені, мянушкі ці тапоніма і служыў для ўтварэння прозвішча. Напрыклад, Сідар-*энка* < Сідар, Шапавал-*аў* < Шапавал, Вярхоў-*скі* < Вярхоўе.

**Фікто'нім –** уласна псеўданім (гл.).

**Фо'навыя анамасты'чныя наміна'цыі** – уласныя імёны, якія не суадносяцца з вобласцю называння галоўнага персанажа ці вобраза.

**Фо'рмула іменава'ння (фо'рмула наміна'цыі)** – вызначаны парадак прытрымлівання розных відаў антрапонімаў і апелятываў у афіцыйным называнні чалавека дадзенай нацыянальнасці, саслоўя, веравызнання ў азначаную эпоху.

**Фу'нкцыя загало'ўка** – рэалізацыя лексічнай адзінкі ў якасці першага элемента тэкставай прасторы, які адзначаецца прагназуючым характарам у адносінах да асноўнага масіву тэксту.

**Фу'нкцыя тэ'кставай вяхі' –** асноўная рэалізацыя анімічнай адзінкі ў сэнсава-страфічнай арганізацыі тэксту, якая звязана з вобласцю іменавання галоўнага персанажа ці вобраза.

**Фу'нкцыя тэкстаўтварэ'ння** – удзел моўнай адзінкі ў фарміраванні знешняй і ўнутранай форм тэксту.

**Энцыклапеды'чны ўзро'вень інфарма'цыі** – узровень інфармацыі, які змяшчае рознаскіраваныя звесткі пра дэнатат іменавання.

**Я'дзерная структу'ра** – асноўная структура палявой арганізацыі ўласных імён, якая складаецца з найбольш статусных адзінак сэнсавай прасторы тэксту.

**Nomina personalia** – апелятыў, які абазначае асобу па нейкай прымеце або родзе дзейнасці (*шапавал, заіка, ціхоня*).

**Nomina impersonalia** – апелятыў, які першапачаткова не адносіўся да асобы. Магчымасць характарызаваць чалавека атрымаў пасля таго, як набыў пераноснае значэнне і стаў онімам (*качарга, хмель, крот*).